

# 12

**СНЕЖАНЬ**

МІНСК, 1972

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС*



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе *



Вокладка **П. Лысенкі.**

Шмуцтытулы **П. Драчова** (стар. 3) **і Ю. Іванова** (стар. 81).

Галоўны рэдактар **Генадзь БУРАЎКІН.**

Рэдакцыйная калегія: **Вячаслаў АДАМЧЫК, Генадзь АНЦІПАЎ, Алесь АСІПЕНКА, Мікола АЎРАМЧЫК, Васіль БЫКАЎ, Арсен ВАНІЦКІ, Леанід ДАЙНЕКА** (адказны сакратар), **Васіль ЗУЁНАК** (нам. галоўнага рэдактара), **Анатоль КУДРАВЕЦ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Пімен ПАНЧАНКА, Алесь САВІЦКІ, Уладзімір ЮРЭВІЧ.**

# ПАЭЗІЯ

- **Пятрусь БРОЎКА**
- **Павел КАВАЛЁЎ**
- **Алег ШАСЦІНСКІ**
- **Антон БЯЛЕВІЧ**
- **Васіль БЯЛОЎ**
- **Еўдакія ЛОСЬ**
- **Мікола СЫНГАЕЎСКІ**
- **Барыс САЧАНКА**
- **Туманбай МАЛДАГАЛІЕЎ**
- **Віялета ПАЛЬЧЫНСКАЙТЭ**
- **Уладзімір САНГІ**
- **Юры АДРЫЯНАЎ**



- **Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**
- **Віктар ЯРАЦ**
- **Лідзія АРАБЕЙ**
- **Арамаіс СААКЯН**
- **Святлана БАСУМАТРАВА**
- **Уладзімір ЦЫБІН**
- **Амар СУЛТАНАЎ**
- **Анатол КОДРУ**
- **Уладзімір КАЯНТА**
- **Юрка ГОЛУБ**
- **Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
- **Грыгорый СКАВАРАДА**

# ПРОЗА





*пятрусь броўка*

*

ПАЭЗІЯ

*

## Адна нам зорка...

Мы першымі
На свеце цэлым
Сабраліся, каб разам жыць,
Адна душа, адно ў нас цела,
Адзіны шлях для ўсіх ляжыць.

А ён прывабны
І прыгожы,
Няхай нялёгкі іншы раз,
Зярняты дум, зярняты збожжа
Агульныя заўсёды ў нас.

Ці то між гор,
Ці стэпаў голых,
Ці то паміж ялін, бяроз,
Калі вясёла — ўсім вясёла,
Калі бяда — балюча скрозь.

Адна нам зорка
Ясна свеціць,
Яна вядзе і ўдаль заве,
Калі ёсць шчасце на планеце,
Яно для ўсіх між нас жыве!



ПРОЗА



*павел кавалёў*

# СЛЕД ДА АКНА

АПАВЯДАННЕ

Мал. В. Шматава

На вуліцы Кампазітараў у Ташкенце будаўнікі ўзводзілі чарговы дом. Гэта быў адзін з першых жылых кварталаў, якія пачалі вырастаць у горадзе амаль адразу пасля землятрасення. З усіх куткоў краіны па закліку братэрства прыехалі добраахвотныя будаўнічыя брыгады, каб дапамагчы як хутчэй ліквідаваць вынікі страшных разбурэнняў, быць у цяжкую часіну разам з тымі, што пацярпелі ад злой стыхіі.

Пасля кладкі сцен ставілі вокны і дзверы — гатовую сталярку, пахучую і сыраватую яшчэ, толькі што прывезеную. Адзін з будаўнікоў, прымайстраваўшы на месца першую аконную раму, пяшчотна прыклаў да яе гладкай паверхні далоні абедзвюх рук і, нібы сам-насам, загаварыў да яе, як да жывой істоты:

— Ведаеш... Які пах! Пахне смалою, тым самым сасновым, беларускім лесам... Відаць, адтуль? А? Скажы мне? — і ён агледзеўся, шукаючы ад некага, невядомага, адказу на сваё так раптоўна ўзнікшае запытанне. Паблізу, аднак, нікога не было. І будаўніку, старому майстру, не высвятляць зараз захацелася, адкуль прывезлі ў Ташкент гэтую гатовую сталярку, а расказаць, успомніць даўнюю, ваенных часоў гісторыю.

...Лютавала зіма, снежная, з моцнымі, сівернымі маразамі. Тыдзень ці болей не адпускала. Ну проста дыхаць было немагчыма, такая была халадэча. І горш за ўсіх гэтую халадэчу пераносілі ваеннапалонныя — былыя жыхары Поўдня, краёў гарачага сонца і трывалай цеплыні. Іх

якраз у такі халодны, марозны дзень гітлераўцы вырашылі перагнаць з аднаго лагера ў другі, перагнаць далей, бо савецкія войскі вялі наступленне і з кожным днём набліжаліся.

Паднялі ўсіх недзе адразу ж пасля так званага абеда — скарынкі чэрствага хлеба і конаўкі вару. Чалавек за сотню, відаць, было ў групе. Пастроілі ўсіх па чатыры ў рад. З абодвух бакоў калоны — узброеныя аўтаматамі канваіры.

На месцы не доўга стаялі. Як толькі падышоў галоўны (відаць было па вопратцы, ён быў у кажуху і валёнках) і падаўся наперад, рушылі. Куды вялі палонных, якой дарогай — ніхто з іх не ведаў. А самую дарогу, якая яна ёсць, уведалі адразу. Пратаптанай яна была не шырэй як на паўтара метра. Таму большасці палонных, ды і канваірам, адразу давялося ісці цаліком, мясіць снежныя наносы. Снег глыбокі, як гліна, ліпкі, і нагамі як ступіш у яго, дык выцягваць іх цяжка, нібы з твані.

Так ішлі з гадзіну ці нават болей без перадыху. Той-сёй пачынаў адставаць. Канваіры такіх штурхалі ў спіну прыкладамі, а то і дуламі аўтаматаў. Самі палонныя падхаплівалі знямоглых таварышаў пад рукі і дапамагалі ім ісці далей. Часам канваіры не зважалі на гэта, а як толькі гляне назад галоўны, давалі прыкладамі ў спіну і памагатым.

Праз нейкую паўгадзіну хады многія з палонных і ад цяжкасці снежнай дарогі і, перш за ўсё, вядома, ад змарнеласці, пачалі валіцца з ног. На гэта было балюча глядзець. Той, хто зваліўся ў снежную кашу, ужо не мог устаць, як яго ні білі прыкладамі і нагамі, заставаўся ляжаць назаўсёды. Гітлераўцы ў такога выпускалі аўтаматную чаргу і ішлі далей.

Яшчэ прайшлі якіх пяць ці сем кіламетраў. Дарога не лепшала і не горшала, толькі рабілася ўсё цяжэй. Цяжкой яна стала і для яго, Арама Папахчана. Ён напружваў усе свае сілы, каб утрымацца на нагах, не здаць, а змагацца, ваяваць да апошняга ўздыху за сваё жыццё. А тут, на павароце да ўзлеску, збоч ад якога віднелася некалькі вясковых пабудоў, паваліўся. І не тое, што паваліўся, а неяк раптоўна тыцнуўся носам у снежную гурбу і... страціў прытомнасць.

Што было пасля гэтага, Арам Папахчан не ведае. А было звычайнае — яго білі кувалдамі-ботамі ў бакі, у спіну, у галаву. Ён не варушыўся. Тады адзін з канваіраў абыякава, нават не цэлячыся, стрэліў з аўтамата яму ў спіну і падаўся далей.

А ён, Арам Папахчан, застаўся жыць.

Раны ў назе і ў баку пачуліся ўжо ноччу, на самым дасвецці. Гэта прыйшла свядомасць — і яму ўсё-ўсё ўспомнілася. На нейкую хвіліну мільганула шчаслівая радасная ўсмешка, што ачнуўся, што жывы. А як толькі паварушыўся, дык у вачах ажно бліскаўкі замільгацелі, а цела ўсё паказалася скаваным, цяжкім, нібы калода.

Арам Папахчан, аднак, не здаваўся. Ён абапёрся на рукі і ўзняў галаву. Паглядзеў ва ўсе бакі раз, другі. Свет здаваўся суцэльнаю сцяною мроку. Папахчан глядзеў праніклiва, бо паявілася яшчэ не ўсвядомленая надзея. Так, надзея! Раптам мільгануў не зыркі, ледзьве-ледзьве бачны агеньчык.

Арам на нейкі момант ажно вочы зажмурыў, працёр адубелай рукою твар, паварушыў галавою і зноў угледзеўся ў той бок, дзе ледзь мільгаў агеньчык. Так, агеньчык быў, ледзьве-ледзьве бачны. Арам Папахчан падумаў, што агеньчык, відаць, недзе вельмі далёка. Але ж дзе агеньчык, там жытло. Толькі трывожыла, што яно вельмі далёка і чыё яно, жытло тое, сваіх ці чужых людзей, сяброў ці ворагаў?





Напружваючы сілы, скаваны лютым холадам, Арам зрабіў першае памкненне наперад. Нават не заўважыў сам, пасунуўся ён ці не. Але, здаецца, з месца крануўся. А мо толькі памкнуўся ў думках. Але агеньчык клікаў, надаў Араму сілы.

Раз, другі, напружыўшы ўсе сілы, Арам падаўся ў снезе наперад. Працавалі рукі. У іх, здаецца, была ўся сіла, бо ног ён не чуў. Перавальваўся з локця на локаць. Снег здаваўся халаднейшы, чым там, дзе ляжаў. Зірнуў назад, і ў вачах пацямнела ад чорнае плямы на снезе. Гэта, Арам зразумеў, была ягоная кроў. Ягоная кроў і халодны снег. Але скуль кроў ішла, Арам не мог сам вызначыць, балела ўсё: і ногі, і грудзі, і галава. Толькі рукі, здаецца, былі жывыя, ды вочы ўсё болей і болей аглядалі наваколле. Вунь той малады падлесак-сасьнячок, ад якога яны рабілі паварот. А вунь і той агеньчык, што ўбачыўся...

У вачах зноў замільгала. Гэта ж у той бок, у тым напрамку павялі гітлераўцы ўсю калону, усіх ваеннапалонных. Дык жа што рабіць? Даганяць сваю немінучасць, сваю смерць? О, каб жа ты знаў, куды

цяпер падацца, дзе цяпер твой паратунак і ці ёсць ён наогул, ці ёсць да яго, Арама Папахчана, літасцівасць лёсу, ці ззяе яшчэ яго зорка ці даўно патухла ўжо яе святло?

Але думаць зараз — няма калі. Трэба варушыцца, як можна толькі пасоўвацца ў гэтым глыбокім снезе наперад. А агеньчык відны быў, ён паказваўся Араму зноў, як толькі той паднімаў галаву. Але зарыўся агеньчык у тым самым баку, дзе і паказаўся, бачны быў з левага пляча, значыць, пасоўвацца трэба, беручы крышачку лявей. Ён нават пачаў адчуваць сваю змярцвелую, раненую нагу.

Гэта была радасць! Радасць, што ты жывы, радасць, што рухаешся па снезе, рухаешся на якісьці светлячок, дзе ёсць жыццё, а можа і выратаванне. Агонь жа родзіць надзею. Яны ідуць па жыцці разам, перабіраў у памяці Папахчан словы армянскай народнай мудрасці. Падумалася і пра тое, што агеньчык, што ледзьве бачны быў наперадзе, чамусьці не набліжаўся і не рабіўся большым, ярчэйшым. О, хоць бы ён не патух. Гэта ж можа здарыцца вось-вось, у любую хвіліну. Значыць, трэба рухацца, рухацца як хутчэй. Рухацца ў адным кірунку.

І Арам Папахчан, як мог, спяшаў. Ды так, ажно яму стала горача, узмакрэў лоб, але кожнае дакрананне галавою да снегу, здаецца, надавала і новыя сілы і новыя надзеі. Цяпер, калі дзейнічалі рукі і адна нага, калі пачулася, што ён дыхае, бачыць, думае, асэнсоўвае ўсё, адкуль браліся сілы, адкуль ішло пракладванне глыбокага следу ў снезе.

А агеньчык не рабіўся ярчэйшым. Клікаць клікаў, але не набліжаўся. Спачатку надаў сілы, а што далей — пачаў адбіраць іх. І як ні намагаўся Арам Папахчан, а прасоўванне ішло марудна, рабілася цяжэйшым і цяжэйшым. Усё пачынала балець, ныць, тузаць. Гэта пачулася найперш у баку, дзе такі быў пякучы боль, што Арам пачынаў сціскаць зубы, каб не страціць прытомнасць.

Колькі часу ішло змаганне за кожны метр набліжэння да агеньчыка, Арам не ведаў. Здавалася, што пракладвае ў снезе свой след ён усё сваё хоць і нядоўгае жыццё, пракладвае доўга-доўга.

...На золаку цётка Адарка пайшла ў лес нечага назбіраць, каб напаліць у печы. Ішла цаліком, снегам, які там-сям быў вышэй за халявы валёнак. Ля першай снежнай горкі прыпынілася, тыцнула ў яе нагою і, патрапіўшы ў першую з разгалістых галін, якія былі складзены ў кучу пасля мінулагодніх лесараспрацовак, учапілася ў яе рукамі, пацягнула да сябе. Галіна падалася і папаўзла па горцы разам з гурбачкай спрасаванага снегу. Адну, другую, трэцюю галіны выцягвала з-пад снегу Адарка і складвала ў грудок адну да адной. Калі сабралася ношка, Адарка прасунула з-пад нізу наверх адзін канец вяроўкі, другі трымала ў руцэ і, стаўшы нагою на грудок, вяроўку сцягнула, так-сяк змацаваўшы хмызы ў адзін ахапак.

Цягнула яна да хаты не азіраючыся, але ля самай лазні, што стаяла ўнізе, воддаль ад хаты, прыпынілася перадыхнуць. Глянула на заснежанае поле, і вочы затрымаліся на нейкай цьмянай кропцы. Кропка тая варушылася. То зробіць нейкае памкненне наперад, то зноў заміра. Чалавек, не іначай чалавек. Можа свой, вясковы, а можа... Адарка кінула канцы вяроўкі, за якія цягнула ахапак, і, падумаўшы пра мужа, які пайшоў на вайну першымі яе днямі, кінулася наперад.

...Тым часам у каторы ўжо раз Арам страціў прытомнасць, мо таму, што на досвітку, падпаўзаючы да вёскі, убачыў акно і слабенькі агеньчык у ім. Вочы адкрыў ён ужо ў хаце, у цяпле. Каля яго ўвіхаліся дзве жанчыны, твары іх ледзь былі відны з-за цёплых хустак. Гэта



Адарка і Тацяна, сёстры, што жылі па суседству, прыцягнулі яго ледзь жывога ў хату, прыцягнулі на сабе. Адарка ж яшчэ і за хмызняком нарыхтаваным не схадзіла, бо кінула ахапак, як толькі ўбачыла жывую кропку на снезе.

— Жывы? — спытала яна, калі Арам узняў на яе вочы.

Ён ледзь-ледзь пахітаў галавою. Значыць, жывы.

— Дай яму піць што цёплае,— сказала Адарка да сястры, а сама наважыла пайсці за палівам.

— А ты? — зірнула на яе Тацяна.

— Пайду па ношу, печ жа трэба падтапіць,— адказала Адарка і затрымалася каля дзвярэй.

Тацяна падышла да яе, Арам не чуў іх гаворкі, і сказала:

— Калі ўжо хаваць чалавека, дык надзейна... Працягні хмызняк па ўсёй яго дарозе, каб і след быў снегам замецены. А то ж ты кажаш, крывавы след...

Адарка пагадзілася.

— Зраблю ўсё...

І ціха падалася за дзверы.

Тацяна ж рабіла сваё. На прымусе ўжо добра нагрэлася малако. Арам Папахчан ляжаў на ложку ля самых уваходных дзвярэй і азіраўся, цямячы, што з ім і дзе ён. Тацяна з місачкі наліла малака ў металічную бляшанку. Нават прыгубіла, ці не вельмі гарачае, і падышла да ложка.

— Давай-ка галаў падымі,— падчапіла рукою Арама пад шыю,— ды выпі.

Арам піў і глядзеў на жанчыну. Малако было такое смачнае, што ўсё жыццё гэты смак ён будзе помніць. А як выпіў, апусціў галаву на падушку, сказаў:

— Панімаеш, харашо...— і правёў рукамі па грудзях.— Спасіба...

— З ваеннапалонных? — ва ўпор спытала Тацяна, не зважаючы на Арамаву падзяку.

— Пераганялі нас...

— Што, у Кліну былі?

— Так точна...

— Азербайджанец ці армянін ты? — выпытвала настойлівым тонам Тацяна.

— Армянін. Арам, панімаеш, усё на «а»...— адказаў ужо ахвотна Папахчан.

— Значыць, Аўрам?

— Папахчан.

— А прозвішча Папахчан?

Арам азірнуўся вакол і спытаў:

— Немцы, здэсь немцы?

Тацяна, што мела ўжо нейкі ваенны вопыт і асцярогу размаўляць у суровы і трудны час нашэсця, Арамава запытанне зразумела як трэба. І вырашыла яна гаварыць яму праўду, так, як ёсць.

— Сёння няма ў нас немчуры, а наведваюцца сюды часта...

— О, лепш памерці, панімаеш...— вымаўляў з цяжкасцю словы Арам.

— Усё разумею, Аўрам, але смерць і радзіны не выбіраюць гадзіны, не трэба пра гэта... Жыць трэба, ваяваць...— Тацяна сказала гэта зусім спакойна, неяк нават звычайна. І Папахчану стала ад іх лепей, лягчэй. Ён у сваіх, у сваіх савецкіх людзей, і яны так проста не аддадуць яго ў крыўду...

Адарка і Тацяна Стральчэні сагрэлі Арама Папахчана, раны яго

абмылі і перавязку зрабілі, схавалі, а праз два-тры месяцы на ногі паставілі.

Цуд адбыўся з Арамам. З таго свету чалавек вярнуўся. След у снезе да акна праклаў...

Вясною ачунялага Арама Тацяна адвяла ў лес. І хоць нага ў калене не згіналася, Папахчан стаў партызанам. Ваяваў ён за двух. Пасля некалькіх баявых аперацый групу падрыўнікоў узначаліў, а яшчэ праз колькі часу і баявы ордэн атрымаў...

А як прыйшлі ў Беларусь савецкія войскі, вызвалілі зямлю нашу, партызаны ўліліся ўсім атрадам у дзеючыя рады воінаў. Толькі хворыя ды інваліды дамоў падаліся. Паехаў у Арменію і Арам Папахчан.

...Будаўнічыя брыгады, што прыехалі дапамагчы Ташкенту як хутчэй аднавіць разбурэнні, размяшчаліся ў палатках, якія паўсталі на плошчах і пустэчах, у скверах і садах. Ці прыехалі беларусы ці толькі сталярку пасылаюць, дзе палаткі іх будаўнічай брыгады, Арам Папахчан не знаў. А знаць во як зараз яму захацелася, захацелася як хутчэй пабыць разам з імі, пабачыцца, пагаварыць. Вось што нарабіла гэтая сасновая сталярка, гэты пах жывіцы...





*алег шасцінскі*



ПАЭЗІЯ



## Мой Кастрычнік

А які ён, Кастрычнік?
Я не жыў той суровай парой.
Рэпарцёры тых дзён усхвалёваны,—
я не веру газетным заметкам;
відавочцы сягоння ссівелі —
я іх сведчанні помню па школе.
Дык які ён, Кастрычнік?

На зямлі я пражыў недарма
трыццаць восем сваіх.
На вяселлях скакаў —
прагіналіся звонка масніцы;
я сыходзіўся грудзі на грудзі —
знаў, як з ворагам біцца...
Калі свята — дык свята,
журба — дык журба,
бой — дык бой!..

Я Кастрычніку лепшае ў сэрцы аддам.

Я аддам яму шчасце.
Шчасце я паспытаў хлапчуком:
калі ў голад прарвалі блакаду,—
радыё на світанні сказала
(ах, зусім яно не сказала —
заспявала птушкай між бэзу!..),
што прыбавілі хлебны паёк —
невялікую чорную скібку...

Аддаю я Кастрычніку
шчасце.

Я аддам яму гордасць.

На Шыпцы, сівой і арлінай,
дзе каменне стагоддзяў адсвечвае рускай крывёю,
дзе ў сваіх палатняных салдацкіх кашулях
хлопцы з Волгі і Дона
адбівалі атакі аскер да апошняй гранаты,
а пасля ў іх кідалі целы таварышаў
мёртвых...
Я на Шыпцы, сівой і арлінай,
шчымлівую гордасць
адчуў ад таго,
што я рускі.

Аддаю я Кастрычніку
гордасць.

Я аддам яму ласку.

Быў ласкавы я толькі да маці,
помню —
з ёй расставаўся, абяцаў ёй пісаць,
да грудзей яе цёплых хінуўся.
Маці я ўжо ніколі не ўбачу,
і сівее бяроза над ціхай магілай яе.

Аддаю я Кастрычніку
ласку.

Я Кастрычніку лепшае ў сэрцы аддам,
так мы з ім парадніміся,
і я смела скажу:
Мой Кастрычнік!

Пераклад Генадзя БУРАЎКІНА.



***антон бялевіч***



## паэзія



■

Беларусь мая!
Твае каліны,
Арабіны, ясені ў гаю —
Шолахам і песняй жураўлінай
Заплылі ў мой лёс,
Душу маю.

Хоць няма ў нас рэчак грамавітых,
Вадаспадаў пенных, скальных гор,
А даўно ты стала знакамітай
У сям'і пятнаццаці сясцёр
Не палескай багнай і лазою,
Не сівой журботнасцю ў лясах —
Вымыта пякучаю слязою
Незгасальная твая краса.

Брала ты яе ў світальнай зоркі,
Брала ў сонца яснага яе.
Улавіў душой вялікі Горкі
Галасы сярдэчныя твае;

Улавіў, сказаў:
— Узгадавала
У горы беларуская зямля
Двух паэтаў: Коласа, Купалу.
Песняры!
Люблю іх шчыра я...

З доляю Расіі знітавала
Долю сваю родная мая
Беларусь. Яна Дзяржавай стала,
У яе свой Сцяг, краса свая!

Нашы душы шчыра абняліся,
Песні, галасы пераплялісл,
Як карэнні з роднаю зямлёй.
Салаўіным гаем узняліся
Песняры ў рэспубліцы маёй.

А іх песні новыя, як зоркі,
У вянку дзяржаўнае красы.
О, каб мог пачуць вялікі Горкі
Іх праменных сэрцаў галасы!

Вусы б ён разгладзіў, яснавокі,
Ён сказаў бы шчыра, ад душы:
— Узляцеў, як сокал,
Край высока,
Узляцеў з яловае глушы...

# ПРОЗА

*В глаза, будто память о детстве,*
*Зеленые глянут места,*
*Добру откроется сердце,*
*И совесть будет чиста.*

Аляксандр ЯШЫН.



**васіль бялоў**

# БАБРЫНЫ ПРЫГОРАК

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **Л. Шукалюкава**

Дарога была сухая, пясчаная і таму цёплая. Але часам спадала ў лагчынкі, рабілася вільготна-мяккай і таму студзіла ногі. Яна неўпрыкметку ўвайшла ў лес. І падумалася, што гэтак вось прыходзіць адвячоркам у сваю хату жанчына — гаспадыня, якую клічуць у нас бальшухай.

Ліпеньскі цёплы лес спакваля шарэў і рыхтаваўся спачываць. Адна за адной моўклі непаседлівыя лясныя птушкі, набухалі цемрывам, заміралі елкі. Тужэла смала, і яе водар змешваўся з водарам сухой расы, што яшчэ не апала на зямлю.

Наўкол стаяў уцешлівы дрымотны лес. Ён засынаў, ціхманячы, загойваючы сваім спакоем нашы ўстрывожаныя душы; ён быў з намі добры, шчыры, не назаляў, і мы яго разумелі, ад яго павявала радзімаю і спакоем — гэтак вее спакоем ад тваёй старое і мудрае маці...

Ах, цішыня, як цешыць і ўціхамірвае яна часам, і як добра тады жыць. А гэта якраз і была тая шчаслівая цішыня. Хоць недзе і абзываліся навакольныя вёскі чалавечымі зыкамі, але яны толькі адцянялі лясную, тутэйшую цішыню. Цішыню і сутнасць нашага настрою. А сутнасць нашага настрою была ў тым, што наўкола нас і ў нас саміх жыў уцешлівы, добры, дрымотны лес, і жыла ліпеньская ноч, і скрозь была наша радзіма...

Звычайна высокія паняцці губляюць ад таго, што іх выказваюць сцёртымі словамі. І тады нам або сорамна карыстацца такімі словамі, або хочацца знайсці нешта свяжэйшае, што не гэтак часта трапляе на язык ці пад пяро. І звычайна ад такога намеру нічога не застаецца. Таму што высокім паняццям не да слоўнай таўкатні, яны жывуць без нашага ведама, зноў і зноў поўнячы першародным сэнсам тыя словы, што іх выказваюць. Так, мабыць, пнуцца толькі ілжэсвятыні, вымагаючы, каб іх штораз ахрышчвалі нанава. Я думаў пра гэта, слухаючы, як недзе стаіўся і паскрыпвае драч. І раптам адчуў яшчэ не бачны Бабрыны прыгорак. Адчуў магутны ток ракі, якую яшчэ не было чуваць, яе блізкасць і рух, хоць аніўто яшчэ не выяўляла таго руху: ні шорхат вады, што абмывае камяні і гліну ў беразе, ні вільготны пах рыбы і травы. Не, ні гэтага шорхату, ні гэтага паху, які звычайна жыве каля сапраўднай ракі, яшчэ не было,— я пачуў іх значна пазней,— але я ўжо ведаў, што Бабрыны прыгорак тут, побач. Хоць ніколі не быў у гэтых мясцах.

Хвалюючыся, я пералез цераз жардзяны плот, які адгароджвае лясныя выпасы, і зноў убачыў, як дарога, не хочучы быць дакучлівай, пайшла кудысьці направа. Ледзь прыкметная сцежка адлучылася і знікла, а ў сцішаным вячэрнім мораку, у гэтым лесе, што рыхтаваўся заснуць, я ўбачыў хатку. Хатку з белым ганкам на Бабрыным прыгорку. Яна стаяла на нешырокай палянцы пад шатамі аціхлых соснаў. Трава наўкол бярвенчатых сцен хаты стракацела белымі кветкамі сунічніку. Яны, гэтыя ягады майго дзяцінства, асабліва густа, белай паласой, цвілі за хаткаю: я стаяў на адным месцы, баючыся пераступіць нагамі, каб не растаптаць якую зорачку з гэтай белай паласы. Млечны Шлях далёкага вясковага дзяцінства... Адразу недзе паміж ключыцамі зарадзілася і засела ў горле гарачая пяшчота да гэтых зорачак. Я прысеў на кукішкі, сціснаючы зубы, пала́шчыў рукою цёплыя завіткі травы. І тут жа з жорсткім пакепваннем злавіў сябе на сентыментальнасці. Нечага саромеючыся, скаўтнуў шчымлівы камячок у горле, спахапіўся. А чаго, уласна, было спахоплівацца? На секунду ўзнікла брыдкае пачуццё агіды да самога сябе, і я ў некалькі зацяжак прыкончыў горкую цыгарэту. Але хатка на Бабрыным прыгорку была маркотная і светлая. Яна лёгка, з не змушанай і не прыкметнай для мяне ўладнасцю вярнула мяне ў мінулы настрой, што быў навеяны гармоніяй раздольнага соннага лесу. І я зноў доўга глядзеў на сунічны россып. Здавалася, што калі кіну недакурак, то зняважу гэтую чыстую некранутую траву, і я запхнуў яго ў запалкавы карабок. Мабыць, агонь добра не патушыў, бо запалкі раптам успыхнулі, і пах гарэлай салітры прымусіў мяне адчуць, якое лёгкае, непрыкметнае і чыстае паветра тут, на Бабрыным прыгорку.

Я выйшаў да высокага, амаль абрывістага берагу, на якім стаяла хатка. Далёка ўнізе праз сасновыя лапы, праз кусты ракіт, бярозавую і рабінавую лістоту відаць была не вельмі шырокая, светлая нават уначы рака. Яна падбягала да прыгорка здалёк, штурхала яго сваімі нешумлівымі моцнымі струмяня́мі і заварочвала направа, быццам пацвельваючыся з Бабрыным прыгоркам. Той, супрацьлеглы бераг, быў таксама не нізкі, успучаны бугрынамі, але прыгорак усё роўна панаваў над ім. Там, каля вады, бялелі пясчаныя косы, а далей кучаравілася лісцвяная зеляніна ўпярэмешку з цёмным хвойнікам і ельнікам. Лявей была разлеглая, скрэмзаная звілістай старыцай і акаймаваная ліставым нерухомым лесам паплавіна. Драч якраз, мусіць, і жыў на гэтым поплаве. Зараз ён зноў раз-пораз драў суконкі, як кажуць у народзе. Нізкая лугавіна была спакойнай — светлая, табуніла ў сваіх выемках белыя туманчыкі, і яны спачатку стушоўвалі, потым ціха сціралі сінечу красак і жаўтлявасць някошанага лугу.

Хатка таямніча і рахмана пазірала на ўсё гэта з вышыні прыгорка, а за ёю ціха спаў цёплы ельнік.

* * *

Ты быў святочны і не паспяваў спраўляцца з усё новымі сваімі пачуццямі. Яшчэ не ахалодвалі адны, як ужо ўзнікалі іншыя, яшчэ больш зварушлівыя, на іх накладваліся новыя, і гэтак вось амаль што да раніцы. Але я неяк цьмяна памятаю гэтую першую ноч на Бабрыным прыгорку. Пад прыступкай ганку мы знайшлі ключ, адамкнулі дзверы і зайшлі ў твой светлы начны прытулак. Галінкі зелянелі амаль удотык да шыб, і побач, амаль пад намі, высвятлівала, імкнулася ўдалеч бяссонная рака.

— Вечар добры, мая родная зямля!

Ты не ведаў, што я пачуў гэтыя словы, паціху сказаныя табою, але калі б і ведаў, што пачуў, мне ўсё роўна не было б сорамна. Я ўдзячны табе, што мая прысутнасць у час вашай сустрэчы з роднай зямлёй не выдавала фамільярнай. Гэта ж такая натуральнасць — здароўкацца з родным куткам. Але я ведаю, што гаварыць пра гэтую натуральнасць ужо, мабыць, ненатуральна.

Бо зноў жа і словы, і гамонка пра ўсё гэта — меншыя велічыні, калі параўноўваць іх з прадметам гаворкі, а пошласць так і падцікоўвае за кожным радком. Такая бедная наша мова, калі спрабуеш гаварыць пра запаветнае, інтымнае. У радыётэхніцы ёсць такі тэрмін: палоса пропуску. Нейкае прыстасаванне абмяжоўвае, абсякае ў радыёпрыёмніку паласу чутных частот, звужвае дыяпазон. Так і ўсякая размова пра святое для чалавека, што не вымяраецца ніякімі адзінкамі, абсякае, звужвае тое, пра што гаворым, пра што не можам не гаварыць...

Мы склалі рыштунак: стрэльбу, бінокль, паляўнічыя і рыбацкія прыпасы. Тоня — жонка твайго пляменніка, якая прынесла хлеб, цукар і малако, запаліла нам ліхтар, і ад яго чырвонага святла стала таямніча і ўтульна, і не захацелася больш нікуды выходзіць. Неўзабаве Тоня пайшла дадому, у вёску, а ты прынёс з сянец дроў і запаліў у печы. І ад агню ў хатцы на Бабрыным прыгорку нібы з'явілася свая душа.

Мусіць, страта радзімы пачынаецца заўсёды з таго, што стыне печ. Я помню, як доля прымусіла маю маці паехаць з вёскі ў горад і як адразу страшна стала думаць, што недзе назаўсёды астыла родная печ, як пакутаваў я ад гэтага цяжкага вобраза-сімвала.

Попел выядае вочы, халодны попел роднай-раднюсенькай печы. Той печы, на якой пачыналася ўсё жыццё... Час вымарожвае нас з родных мясцін, а мы зноў і зноў вяртаемся да тых вытокаў, як бы ні бралі грэх на душу, асвойтваючыся ў іншых краях. Таму што жыць без гэтай малой радзімы — усё роўна, што вудзіць рыбу вудачкай без кручка ці смаліць па качках халастымі зарадамі. Бо толькі тады чалавек шчаслівы, калі ў яго ёсць радзіма. А пакуль ёсць Бабрыны, радзіма існуе...

Нам няма чаго саромецца пісаць гэтае слова з малой літары: бо якраз тут, на Бабрыным, і пачынаецца для нас вялікая Радзіма, пра якую гавораць ужо ўсе. Так, чалавек шчаслівы, пакуль у яго ёсць Радзіма...

Як дыхае гарачынёю печ! Камары нудотным сваім звонам напамінаюць, што мы начуем у лесе. Абодва мы любім цяпло, і ты штохвіліны паджыўляеш агонь, а за вокнамі плыве летняя ноч, плыве час.





Зараз ён для мяне, як і свая рака, якая ніколі не спыняецца. Незваротнасць нашых хвілін падобная на незваротнасць рачных струменяў, вада, гэтак, як і час, ніколі не вернецца назад.

* * *

Раніцою я праспаў узыход сонейка. Цябе не было, і я ўзяў бінокль і проста з ганку доўга разглядваў яшчэ дымную раку, пакуль не прыкмеціў за адной вярбою твой паплавок і вудзільна. Паплавок увесь час зносіла плынь, ты вудзіў рыбу прыкладна за паўкіламетра ад мяне. Раніца доўга не канчалася, вецер з поўдня толькі яшчэ ачуваўся ў сасновых лапах. Падсыхала раса, і ў лесе, на сонцы, трымцела вясёлкава-залатая імгла,— мройлівая, мімалётная, як дзіцячы сон, залатая імгла. Радасна і заўзята спявалі наўкол птушкі. Зусім побач некалькі разоў усчыняў сваё цяцёхканне салавей. Але быццам пужаўся, што спявае весялей за іншых, і тут жа, засаромеўшыся, змаўкаў. Адразу за хатаю раскоціста, на шмат кален, прачышчаў горла дрозд-рабінавік, усюды ў хмызах, нібы дзяўчаткі-задзіры, цвінькалі сінічкі, са свістам праносіліся над вадою імклівыя зуйкі. І недзе далёка, але ясна і чыста кукавала зязюля. Яе голас быў самотны і светлы, а рытм кукавання нагадваў удары сэрца. Нездарма ў народзе называлі гэты голас сірочым, удовіным. Быць удавою, лічаць вясковыя жанчыны, тое, што і сіратою.

Бабрыны прыгорак спяваў на ўсе галасы. У бездані неба патаналі і ўсё ніяк не маглі ўтапіцца сасновыя шаты. Зрэдзь і, здавалася, нерухома віселі воблачкі, а сасновыя шапкі і ўсе лясныя вяршаліны плаўна, ціхутка і разгоніста імкнуліся да сустрэчы з імі. А знізу, на цёплай, быццам млява-распаранай зямлі, усё варушылася, цвіло, расло, спяшалася жыць.

Адхіляючыся назад, хапаючыся за галіны рабін, я з'ехаў да ракі па крутым схіле, засыпаным шыгуллем, каб памыцца. Было відаць, як мурашкі вузкай, суцэльнай ручаінкай цераз увесь схіл узгорка цяклі да вады і гэтай жа дарогай узбягалі назад. Тут, пад самымі вокнамі хаткі на Бабрыным прыгорку, быў, мусіць, мурашчын вадапой. Яны, гэтыя малюпасенькія працаўнічкі, мітусіліся, перакульваліся, зноў падхопліваліся бегчы, і ўсё да ракі; іншыя гэтак жа сумятліва ад вады ўгору. Мне стала шкода гэтую жывую матэрыю, раздробненую на мільёны аднолькавых жвавых камячкоў, якіх прымушаў рухацца аднолькавы інстынкт, жывых камячкоў, якія нічым не адрозніваюцца адзін ад аднаго. Зноў, як учора на сентыментальнасці, я падлавіў сябе, што занадта філасофствую. Сцягнуўшы кашулю і доўга, як забыўшыся і нібы наглядаючы збоку за самім сабою, цёр шчоткаю зубы. Паста аддавала нафтаю, штучнасцю. Я накрапаў пастаю на некалькі мурашак і сачыў за імі, а тыя, нават не заўважыўшы нічога, беглі далей. У гэты час цёхнуў той самы салавей. Я адразу забыўся пра мурашак, збегаў па вудачкі, разматаў лескі...

І вось мы тырчым на высокім, ціхім, зялёным беразе, дзе проста з пяску прабіваюцца буйныя, сакаўныя сцяблінымшчаўя. Час ад часу я сцінаю сцяблінку і, ашмаргнуўшы лісце, з хрупаннем жую: кіслае, сакавітае шчаўе не горш за пасту асвяжае ў роце, і язык пасля такой закусі адразу нібы ўкладваецца на сваё месца. Мы вудзім, а гэта значыць, што мы ўжо нібы і не мы, мы растварыліся, параўнаваліся з вечнаю прыродаю, адбылося якраз тое зліццё з ракою, кустамі, з небам, ветрам і птушкамі, калі перастаеш адчуваць самога сябе. Свет зноў стаў цэласным і гарманічным, як у раннім дзяцінстве, калі ад думкі пра канчатак яшчэ ні разу не шэрхла марозам скура на спіне. Рака струменіць свае светлыя, тугія пасмы, імклівыя зуйкі нібы пранізваюць прастору паміж берагамі. Недзе ў лесе, у яго чароўна-далёкім пошуме звоніць каровін званок, а мы з нажыўкамі ў рукавіцы нястомна ходзім ад затокі да затокі. Шукаем, намацваем мясціну, дзе добра бярэцца рыба, і каля кожнага новага куста абнаўляецца наша вера ва ўдачу. І кожны куст ашуквае нас, і мы ўголас прыкідваем, шукаем прычыну, чаму нам не шанцуе. Праўда, на юшку ў нас ужо збярэцца. Але табе хочацца злавіць харыуса. Я ніколі не бачыў гэтую высакародную рыбу-далікатэс, і ты хочаш злавіць харыуса, хоць той харыус ні разу нават не панюхаў кручка, і ты цягнеш мяне глядзець гняздо зуйка. Птушачка з трывожным свістам мільгнула з куста.

Мы моўчкі разглядаем тры безабаронныя маленькія яечкі. Побач імкнецца кудысьці твая родная рака, над намі шуміць ад ветру, зялёнее Бабрыны прыгорак. Яго драбнюткі жыхар — зуёк — трывожна свішча, а мы гледзімо на гняздо, і нам хочацца хутчэй падацца адсюль, каб зуёк не пакутаваў, не перажываў.

Дома, вытрасаючы з палатнянай рукавіцы рэшткі нажыўкі ў цабэрак з зямлёю, ты гаворыш, што дажджавыя чарвякі жывуць у няволі па некалькі месяцаў, толькі трэба зрэдзь крапіць зямлю малаком, прыцярушваць спітым чаем. Потым, забыўшыся на чарвякоў, валачэш мяне да сянец — паглядзець дзятлаву работу.

— А ведаеш, якое ў дзятла прафесійнае захворванне?

Я не ведаў, што прафесійнае захворванне ў дзятла — зрушэнне мазгоў... З захапленнем васьмікласніка ты паказваеш мне вочка, якое прадзёўб у дашчанай сцяне дзяцел. Гляджу і дзіву даюся, колькі ж тут трэба было цюкаць, каб зрабіць у сцяне гэтую дзірку, якая трэба ўпартасць! Але цікавей за ўсё тое, што дзятлава дзірка прароблена за дзесяць сантыметраў ад акенца, выпілаванага цеслямі. Замест таго, каб сунуць галаў у гэтае акенца і цікнуць, што ж там у сярэдзіне, дзяцел дзёўб сваё, толькі сваё акенца. І я ўсё яшчэ не магу да канца аддацца Бабрынаму прыгорку, не магу без сваіх бязглуздых аналогій. Убачыў работу дзятла і адразу падумаў пра ўпартасць і ганарлівасць маладзейшых пакаленняў, якія не вераць на слова бацькам і дзядам. Вопыт продкаў не задавальняе ганарыстых юнцоў, і яны кожны раз адкрываюць нанава ўжо адкрытыя ісціны, дзяўбуць свае ўласныя дзіркі. І толькі ў вельмі нямногіх з іх астаецца сіла, каб прадзяўбці наступную, яшчэ не чапаную сценку, а сценак безліч, і жыццё кароткае, нібы цвіценне шыпшыны на Бабрыным прыгорку.

Выстаяць, не сагнуцца я вучуся ў цябе. Пакуль ёсць ты, мне лягчэй жыць. А ты? У каго вучышся ты, хто ці што ў цябе служыць апорай? Я ведаю: быць сумленным — гэта тая раскоша, якую можа дазволіць сабе толькі моцны чалавек, але ж гэтая сіла з нічога не бярэцца, ёй трэба чымсьці сілкавацца. Мне лягчэй, я зараджаюся ад твайго жывога прыкладу, ад прыкладу людзей твайго тыпу. У цябе ж няма такой апоры ў знешнім асяроддзі. І я ведаю, як цяжка табе жыць. Мой комплекс сялянскай непаўнацэннасці ўвесь час скоўваў мяне, і я часам здаваўся табе няшчырым. І ў тваіх вачах нярэдка мільгаў трывожны недавер. Але што я мог зрабіць і што ўвогуле трэба рабіць у такіх выпадках? Кляцьба ў вернасці нібы сама па сабе дапускае існаванне здрады... Прыкрасць, якую выклікаў твой недавер, я тушыў у тваіх жа лясах, і зноўку ўсё ішло сваёй хадою. Гэта быў мой шчаслівы тыдзень, хоць я і зразумеў гэта значна пазней. Бо шчасце часта аказваецца зусім не там, дзе яго чакаеш. Яно з'яўляецца, і мы не заўважаем яго, і толькі пасля зразумееш, што гэта ж і было-такі шчасце.

Яно складвалася для мяне з лясной волі, стомленасці ад звычайнай хадзьбы, з аржаной скібкі, са смаловага паху і гупання шышак на родную зямлю. Тонкі свіст рабчыка, чырвань вокан хаты на змярканні, полымя агню, што рассоўвае цемру. Сасновая лапа на акне ў слоіку, белыя кветкі суніц. Але я зараз думаю пра тое, што чалавеку трэба, мусіць, спазнаць усе ўцехі цывілізацыі, перш чым падысці да такога разумення шчасця. Не, людзям патрэбна і гэта, і тое. І свіст рабчыка не зразумець, пакуль не нагоняць аскому тэлефонныя званкі і піск марзянкі, што перапоўніла эфір, не зразумець духмянай смолі лапы ў слоіку, пакуль не абрыдзее купляць сталічныя бяскроўныя мімозы. Не ўведаеш звабнасці бадзяння па лясных сцежках, пакуль удоваль не налётаешся на звінючых ТУ з іх абавязковымі ледзянцамі...

* * *

Там, на Бабрыным, я аднаго разу зусім страціў адчуванне часу. Памятаю, што час нібы спыніўся і знік. І ўсё, што пражыў я, пачынаючы з першых успамінаў, што здавалася строга акрэсленым, згубіла паслядоўнасць, усё сканцэнтравалася і зллося ў адным пункце. Не існавала і будучыні, было толькі адно сёння, тое што ўжо ёсць, і я адчуваў сябе дзіўна-шчаслівым. Няма часу. Няма вечнасці — ні той, якая ззаду, ні той, што наперадзе, ёсць толькі тое, што ёсць, ёсць нулявыя каардынаты часу. Дзівоснае, невытлумачальнае адчуванне. Я ўзіраўся ва ўсё навакольнае нейкім унутраным зрокам, мне здавалася, што я чую колеры і памеры, а гукі і пахі бачу, хоць майго «я» таксама не было, яно таксама знікла.

Рабчык свістаў за тваёю хатаю, то журботліва нылі камары, пахла сонечнай хвояй, то бачыліся праз вокны нерухомыя ў мяккім сутонні вечара галінкі дрэў, і не зразумець было, якая пара сутак.

Я адыходзіўся далёка ў лес, ведаючы, што замінаю табе працаваць і што дружба не патрабуе абавязковай прысутнасці. Я часам пакутаваў ад тваёй залішняй клапатлівасці, мне хацелася нейтральнасці, сяброўскай абыякавасці. Бо сапраўдных сяброў ніколі не частуюць за сталом. Але ў табе жыла супярэчнасць: нават і скардзячыся, што залішне многа гасцей, часам дакучлівых, ты заўсёды радаваўся іх прыезду, тым прыездам, калі госці гавораць пра юшку, а самі прыхоўваюць за гэтым самае звычайнае жаданне выпіць і лішні раз напомніць табе, хто ёсць хто. Аднойчы пасля такога наезду, калі ў мяне яшчэ не развеяўся туман у галаве, а ў баку балюча смактала, я слухаў цябе з пятага на дзесятае. І раптам мяне скаланула: такое гора, такі смутак прабіўся ў тваім голасе. Ты гаварыў пра сына, які нядаўна загінуў, і плакаў, а ў мяне сэрца сціскалася ад таго, што слёзы твае не былі слязьмі, пасля якіх лягчэе, і што тут нічым не дапаможаш, нічога не вернеш: гэтае гора было няўцешнае, неабдымнае. І ў хатцы на Бабрыным прыгорку ўсю ноч жылі пакуты. Раніцою я прайшоў далёка па рачным беразе і лёг пад старою сасною, на адхоне, доўга глядзеў у шызае, бляклае пад полудзень неба. Чамусьці сонца не магло мяне сагрэць. Я ўстаў, назбіраў сухога ламачча і расклаў агонь. Ён таксама не грэў, а толькі апякаў, я глядзеў на сівы попел і думаў пра сэнс усяго, незразумелы, няўлоўны сэнс. Тады я зноў адчуў час. Агонь аціхаў, і час плыў у адзін бок, і нішто не магло запыніць яго плынь: ні голас зязюлі, ні голас сэрца, якое распараджаецца ўсім незразумелым. Дзесьці на захадзе пагрозліва, далёка грукатаў гром, ён то набліжаўся, то прыціхаў, але паступова, паволі насоўваўся на Бабрыны прыгорак. Навальніца грукатала ўсё бліжэй, і зямля паглынала яе картавыя, глухія, поўныя незадавальнення гукі, а я ўсё таропіў позірк у чырванаваты, бляклы пры святле сонца агонь. Мяне душыў за горла адчай, горнасць, рэўнасць да нежывой, вечнай прыроды, пачуццё жалю да людзей і да самога сябе, і я не ведаў, што рабіць. Ужо схавалася трывожна-бухматае сонца, вецер мацнеў з кожнай секундай. Я паволі пайшоў ад навальніцы, адолеў кусты, зусім малады ельнік і выйшаў у сухі, карэлы хвойнік. У гэтым рэдкім хвойніку не было ні лісціка, ні травінкі: адзін ягель хрупаў пад нагамі. Цяпер нават лес быў чужы, бяздушны, усюды шырока і пыхліва гаспадарыла навальніца. Але яе грукат, яе несусветная істэрыка здаваліся бязглуздымі, абсурднымі: на якое ліха ўсё гэта! Нашто і для чаго? Бо нават і тыя памруць, хто яшчэ не нарадзіўся, каго няма на свеце...



У хаце я ўбачыў, што ты сядзіш усё за тым жа яловым сталом, а ты азірнуўся і спытаўся, ці вымак я. Я памятаю твой позірк, у ім было нешта такое, чаго я не мог зразумець і што заўсёды напамінала мне, як аднасна, павярхоўна ўспрымаю я рэчаіснасць. І нейк так сардэчна прагучаў твой голас... І ў голасе, і ў позірку была нібы ціхая паблажлівасць да маіх філасофскіх практыкаванняў, быццам ты зведаў іх, перахварэў імі задоўга да мяне і зараз пакідаў іх мне для забавы, а сам ведаў ужо штосьці іншае, больш галоўнае, што яшчэ не прыйшло да мяне.

Але старое ўспрыняцце жыцця вярталася да мяне марудна. Я злаваў на сябе з-за таго, што яно вярталася, выйшаў на ганак і сеў на прыступках. Паўсюдна, нібы зверху і знізу, з усіх бакоў лескатаў гром. У лесе гаспадарыла дажджавая завіруха. Раптам пасыпаў град, дыхнула ледзь не зімовым холадам. Градзіны секлі па даху, падскокваючы, шапацелі, і нізка слаўся гром.

Навальніца пакрысе аціхала над нашым прытулкам. Яна адышлася далей, рассеялася, хоць яшчэ дождж доўга крапіў Бабрыны прыгорак. У хаце панавала цеплыня і спакой, водблiскі маланак успыхвалі за вокнамі, пахла пасвяжэлай зелянінаю. Недзе яшчэ вуркатаў гром, але ўсё цішэй і цішэй, і «Спідола» паціху іграла чыюсьці цудоўную музыку. Было чуваць, як са страхі падаюць апошнія кроплі, і музыка, якая нагадвала гэты капеж, гучала ў хаце. Здаецца, гэта была адна з шапэнаўскіх мазурак. Тая самая, у якой чуецца спакойная радасць жыцця, светлая паслянавальнічная стомленасць і гарманічнае, шчаслівае сузіранне свету. І ад таго, што ў хаце струменілася гэтая светлая, чароўная музыка, што ў тваім голасе была падтрымка, і дружба, і мужнасць, хацелася зноў нешта рабіць у гэтым свеце — для людзей і для часу.

* * *

Калі мы пакідалі Бабрыны, я чуў, як каля хаты смутна шумелі сосны. Паблісквала рака. Маўчала зязюля. На тваім акне так і засталіся сінія лясныя кветкі і томік Талстога.

Зараз Бабрыны прыгорак спіць пад халодным снегам. Мусіць, там у гэты час ясная марозная цішыня. Гняце раку лёд, і кветкі ў слоіку даўно ссохлі, а ў непагадзь у выстуджанай печы свішча вецер. Хатка чакае вясны, але ніколі для яе не будзе той вясны, якую так жадаем для яе мы. Лепш позна, чым ніколі, і я кажу табе — дзякуй. Дзякуй за дружбу і старадаўні, самотны, апошні наш вясковы прытулак.

Пераклад **Паўла МІСЬКО.**



***еўдакія лось***





паэзія

## У Галодным стэпе

Спазнілася вясна ў Галодным стэпе...
Яшчэ бавоўна не дала усходаў,
яшчэ люцэрна паху не набрала,
не расцвілі ў саўгасе пляцы ружаў
і у сям'і сакратара райкома
да чарнаты яшчэ не загарэла
на сонейку дзевятае дзіця...

Галодны стэп паказвае дарогі,
як стрэлы — латакі, рэзервуары
і Сыр-Дар'ю імклівую пад мостам,
і, покуль вока бачыць на раўніне,—
у квецені сады, сады, сады...

Галодны стэп... Хаця маўчаў, баяўся
сюды ляцець маўклівы ленінградзец,
што перажыў галодную блакаду:
а ці не ўзяць, здаецца, меркаваў,
з сабой якую лусту аржаную
на ўсякую, маўляў, неспадзяванку!..

Галодны стэп... Дыміцца ў піяле
кок-чай нязводны, а ў глыбокіх місках
шурпа з агню, а там — шашлык на
шпагах,
а на падносе пад мясной навалай —
краса сталоў галоднастэпных — плоў!

Пра лусту ўспамінае ленінградзец,
калі на стол прыносяць стос ляпёшак —
румяных, пышных сонцавых дзяцей!
Калі, як ядры, яблыкі кладуцца,
а іх яскрава ў вазах акружаюць
урук, міндаль, фісташкі, вінаград!..

Гамоніць працавітае застолле,
янтарныя тут не пустуюць чаркі,
за добрым словам у кішэнь не лезуць
дастойныя гаспадары стала.

Адзін матыль заблытаўся знячэўку:
ляцеўшы на святло, ён сеў на твар
белагаловай госці з Беларусі
і тым жанок чарнявых насмяшыў...

А госця з Беларусі меркавала:
нікольні не спазнілася вясна,
вясна пераўтварэння ў гэтым стэпе!
У самы час яна прыйшла сюды.
На крылах самалёта прыляцела,
прымчалася на гружаным саставе,
прыехала на трактары з прывітам
ад мінскіх трактарабудаўнікоў!

Бяскрайні стэп, гарачым поўны пылам,
пасыпаны парошай саляною,
скарыўся і скараецца штодзень.
А як інакш, калі ў адным саўгасе
аж трыццаць восем працавітых нацый
стараюцца адна перад адной!
Яны вясну і лета набліжаюць,
і спорную ў пладах груваcткіх восень,
і звонкую бяседу за сталом!



*мікола сынгаеўскі*

*

паэзія

*

## Камуністы

На грудзях ім зоркі выразалі,
Іх дратамі вострымі вязалі,
Засыпалі іх жывых зямлёй
Разам з іхняй марай агнявой,
Несмяротных, да сцяны стаўлялі,
Каб у вочы смерці пaглядалі.
А яны, сабраўшы гарт і сілы,
Літасці ў зладзеяў не прасілі.
І тады шалела катаў зграя:
Камуніст не памірае!

Іх душылі у мяшках тыфозных,
Спальвалі у топках паравозных.
У Асвенціме, Дахау, Маабіце
Іх крышылі ў попел на граніце.
Сэрцы замуроўвалі ў каменне,
Ад жывой крыві чакалі тлення.
Ды саміх забойцаў смерць касіла:
Камуністы — чалавецтва сіла!

Адгуло. Як гром, адгаманіла.
Аздабляць зямлю нам шчодра-міла.
Несці слова светлае па свеце,
Пра дабро казаць з маленства дзецям,
Каб былі стараннымі на дзіва,
Каб у іх, як у бацькоў, радзіла.
Каб умелі дзеці, як бацькі,
На далоні ўзважваць каласкі.
Хай зямля цвіце і маладзее:
Камуністы — мара і надзея!

У працоўнай справе, у дзярзанні
Сэрца стала сонцам на світанні.
Хай да сініх зор, да чыстых водаў
На сустрэчу сходзяцца народы.
Маладыя, светлыя, бадзёрыя,
Хай растуць да сонца ясназорыя
Нашы планы, нашы Днепрагэсы,
Хлеб надзённы і у космас рэйсы.
Не пагаснуць ясныя світанні...
Камуністы — творчы дух яднання!

Вольны люд свабоднае краіны —
Новы лад сцвярджае штохвілінна.
І на крэмні узрастае колас,
І зямля садамі апранаецца.
То — народа запаветны голас —
І найзапаветнае збываецца.
Твораць час — здзяйсненнямі багаты —
Камуністы ленінскага гарту!

Пераклад Івана КАЛЕСНІКА.



ПРОЗА



*барыс сачанка*

З НОВАЙ КНІГІ

Мал. І. Крэйдзіка

## АКОПЫ

Сам не разумею, чаму я, калі б ні прыехаў у гэтую знаёмую мне змалку палескую вёску, вазьму дый прайдуся да тых акопаў, што каля шашы ў самай гушчы старога бору. Што цягне мяне туды, да тых акопаў, чаму карціць зноў і зноў пабыць там? Думаю пра гэта я часта ў цішы гарадской кватэры, думаю і тады, як блукаю па маладым калючым хвойніку, што раскашаваўся, вырас на месцы колішняга бою.

Аднойчы, кіруючыся ў бор, я сустрэў невядомую дзяўчыну.

— Вы таксама да акопаў? — спыталася яна, калі мы параўняліся.

— Ага, да акопаў,— сказаў я, трохі збянтэжаны.

— У вас кагось тут забілі?

— Не,— адмоўна хітнуў я галавою.

— А ў мяне... У мяне бацьку...

— Тут? — паказаў я вачыма на акопы.

— Не ведаю... Можа і тут... Мне і году тады не было, я толькі-толькі нарадзілася... А ў вас?.. Няўжо ў вас ніхто не загінуў? Ну не тут, дык так дзе?..

Я паціснуў плячыма.

— Не, здаецца, ніхто,— ціха сказаў я, нарэшце.

Дзяўчына здзівілася.

— Упершыню сустракаю чалавека, у каго ніхто не загінуў на вайне. Шанцуе ж!..

Дзяўчына пайшла, а я зрабіў крок, другі, трэці... І запаволіў раптам хаду, спыніўся. Як жа, як жа гэта я?.. Хіба ж у мяне?.. У мяне ж таксама

загінулі... Родны матчын брат Юзік... Бацькава дваюрадная сястра Надзя... Марыська... Піліпок... Як жа, як жа я мог сказаць такое, быццам у мяне ніхто, ніхто не загінуў на вайне?!.

Я павярнуўся, хацеў дагнаць дзяўчыну, крыкнуць: «Няма, няма ў нас, у Беларусі, такіх, у каго б ніхто не загінуў на вайне! І ў мяне таксама загінулі. Матчын брат на фронце. Бацькава сястра ў канцлагеры. Марыська і Піліпок, з якімі я гуляў, сябраваў у маленстве,— у бамбёжку...» Ды дзяўчына была ўжо далёка — на дарозе толькі бялела яе лёгкае паркалёвае плацце...

...Засыпаюцца, западаюць гліцай, зарастаюць лесам, травою акопы...

Але ўсё яшчэ не зажываюць, не гояцца тыя раны, што пакінула ў сэрцах людзей вайна...

## ВОЧЫ

Зерне і вочы — вось што займала найбольш, як цяпер я згадваю, мяне змалку. Цэлымі днямі я мог глядзець на арэх, гарошыну альбо на іншае якое-небудзь зярнятка, дзівячыся той неверагоднай сіле, што закладзена ў ім. Варта яму толькі кранунцца зямлі — і адбываецца цуд: зерне ажывае, пускае карэнні, прарастае. Само памірае, каб даць жыццё другім зярняткам. Тых, другіх, чакае той жа лёс — паспеўшы, яны таксама змушаны будуць загінуць. Загінуць і нарадзіць новыя зярняты. І так бясконца, так вечна — адно памірае, другое нараджаецца. З маленечкага, малюпасенькага зярняткі, якое іншы раз і разгледзець як след няможна, вырастае куст, а то і высознае тоўстае — у некалькі абхватаў — дрэва...

Яшчэ цікавей уяўляць, думаць пра вочы. Дзеля чаго яны дадзены ўсяму жывому? Каб бачыць свет, яго колеры, барвы, бачыць, што навокал. Але ж вочы не толькі бачаць, вочы і гавораць. Гавораць без слоў, што ў каго ў думках, на сэрцы, душы... Шмат самых розных вачэй сустракаў я на сваім не такім яшчэ і доўгім вяку. Блакітных, як квет лёну, чорных, бы вугаль, карых — ну рыхтык згусткі мёду, зялёных, што жабурынне ў сажалках; лупатых, на выкаце, і схаваных глыбока-глыбока ў вачаніцах; круглых, як шары, і вачэй-шчылінак; вялікіх, па яблыку, і маленечкіх, тхарыных; шчырых, даверлівых і прыжмураных, хітрых; нахабных і сарамлівых; злосных і добрых; гнеўных і вясёлых; сумных і ўсмешлівых; цікаўных, задумлівых і пустых, безуважных да ўсіх і ўсяго... Але з тых вачэй, што давялося мне бачыць, запомніліся, урэзаліся на ўсё жыццё мне толькі вось якія вочы...

...было гэта на самым пачатку маёй свядомасці. Я тады цяжка хварэў. Дзень і ноч мяне мучыла вялізная, з мужчынскі кулак, скула, што немаведама чаго ўскочыла ля вуха на шыі. Ад болю я не мог ні есці, ні спаць, не мог нават плакаць. Я ляжаў, уставіўшыся вачыма ў столь, і толькі стагнаў, знямогла варушыў засмяглымі губамі. Маці не адыходзіла ад мяне ні на хвіліну, чым ні ратавала, чаго ні прыкладвала да маёй шыі: печаную цыбулю, ліսткі трыпутніка, нейкую купленую ў аптэцы мазь. Але скула і не думала прарываць. Яна расла і расла, большала і большала. Я траціў прытомнасць, праўцом выпростваў рукі і ногі, словам, канаў... І тады, як пасля расказвала маці, нехта параіў ёй наварыць густой непасоленай ячневай кашы, заправіць яе крута маслам і прыкласці да скулы. «Гэта апошняе,— сказалі ёй.— Альбо скула прарве, альбо...» Ратунку іншага не было, і маці наварыла кашы, прыклала яе да скулы... І мне стала лягчэй. Я гэта адчуў адразу ж. Расплюшчыў павекі... І ўбачыў матчыны вочы. Колькі адчаю, надзеі і ласкі было ў іх!..

Шмат разоў бачыў я потым матчыны вочы. І ў радасці, і ў няшчасці, і ў горы, і ў журбе, і ў іншых самых нечаканых абставінах і настроі. Але такіх вачэй, як тады, ніколі ўжо не выпадала бачыць...

...у той чэрвеньскі ранак я прачнуўся ад страшнага, адчайдушнага крыку:

— Не-е-мцы!

Што было са мною далей, я і па сёння не магу ўцяміць. Саскочыўшы з палка, на якім я спаў разам са сваімі братамі, я схапіў бацькаву ватоўку, што вісела на цвіку ля парога, і стрымгалоў кінуўся за хлеў, у алешнік — ён зелянеў за лужком адразу ж за нашымі гародамі. Але і там, у змрочнай навісі голля, я не спыніўся, а пашыўся ў гушчар, у калючыя зараслі. Забрыў па самую шыю ў ваду і прастояў даволі доўга, аж пакуль не зайшліся ад холаду, анямелі ногі і не пачало калаціць мяне, як у ліхаманцы. Паказалася сонца. Яго зыркія, ласкавыя промні прабіліся праз зялёную сетку лісця ў гушчэчу, і я, адчуваючы, што за мною ніхто не гоніцца, ніхто мяне не шукае, вылез з вады, сеў на купіну. Потым, счакаўшы яшчэ трохі, і зусім выпаўз з алешніку на лужок, паглядзеў на вёску. З комінаў то тут, то там падымаўся ўгору, клубіўся дым — гаспадыні палілі ў печах, гатавалі снеданне. Адразу ж заныла, засмактала пад лыжачкай — я ўспомніў, што, уцякаючы, не захапіў з сабой нават кавалка хлеба, каб перакусіць. Гаўкалі сабакі, мычэлі каровы — вёска, здавалася, жыла сваім звычайным будзённым жыццём. «А можа і немцаў у вёсцы няма? — падумаў я.— Можа выдумаў хто, што яны едуць? А хоць і ў вёсцы немцы, то чаму мне іх баяцца? Што я зрабіў ім? Я — дзіця, чаго наогул я ўцякаў? Ад бацькі, маці, братоў...» Мне зрабілася шкода ўсіх сваіх, самога сябе. «А што калі немцы забяруць бацьку, маці, братоў, пагоняць іх куды-небудзь? Ці застрэляць? Што я тады адзін буду рабіць, як жыцьму?..»

І я, забыўшыся на ўсё, падняўся на ногі, паволі патрухаў да свайго гарода. Зраблю крок, другі, спынюся, паслухаю, ці не чуваць чужых, не звыклых для вёскі галасоў, і зноў іду...

У гэты самы час, як пасля мне расказала маці, у нашым двары адбывалася вось што. Немец, якому было загадана сачыць за гародамі, каб ніхто не ўцякаў з вёскі і ніхто не браўся ў вёску (каго згледзіш — страляй!), убачыў мяне. Паклікаў маю маці, спытаў, ці ўсе яе дзеці дома.

— Ага, ага, усе,— схлусіла маці.

Немец пакруціў галавою і вывеў маці за хлеў. Паказаў пальцам у канец гародаў, на мяне.

— Кіндэр,— сказаў ён.

— Не, гэта не дзіця. Гэта пень. Дуб стаяў, то маланкай яго спаліла,— узялася пераконваць немца маці. (Сама ж, як прызнавалася неаднойчы, калацілася, трымцела, бы асінавы ліст.)

— Найн... Кіндэр...— цвердзіў сваё немец.

Ён ускінуў аўтамат, пачаў цэліцца ў мяне. І бадай-што стрэліў бы, але маці раптам упала на калені, загаласіла:

— Гэта кіндар... Сымонка мой...
Немец разгубіўся, паглядзеў на маці.
— Я павінен страляць. Разумееш? — гаварылі яго вочы.— Калі я гэта не зраблю, могуць мяне самога застрэліць. Разумееш?
Ён апусціў галаву, патаптаўся на месцы. І не стрэліў — выйшаў з двара. Каб, мусіць, на ўсякі выпадак сказаць пасля, што ён выходзіў і таму нікога ў гародзе не бачыў...
Між тым я, нічога не ведаючы, узбіўся на сцежачку-разорку, што праставала да нашага хлява, і пакіраваўся па ёй. Ля паркану я ўбачыў маці. Яна схапіла мяне на рукі, панесла бягом дадому. Уссадзіла на печ, падала сухую адзежу. Я зняў з сябе мокрыя кашулю, штаны. І тады нечакана адчыніліся дзверы, і ў нашу хату зайшоў немец. Невысокі, бялявы. Той, што стаяў на гародзе і цэліўся ў мяне.
— Кіндэр... Я, я, кіндэр,— заўсміхаўся ён і палез да мяне на печ.
Я, як цяпер згадваю, у тую хвіліну не бачыў нічога, толькі вочы немца. Вялікія, радасныя і разам з тым нейкія надта ж сумныя. Вочы чалавека, які зрабіў нешта добрае, не тое, што яму загадана было зрабіць...

... дарогі ў Нямеччыне наўсцяж абсаджаны з абодвух бакоў скрозь садовымі дрэвамі — грушамі, яблынямі, слівамі, чарэшнямі. Але нас, прывезеных на чужыну з глухога Палесся, найбольш узрадавала якраз не гэта, а тое, што нават тады, калі садавіна са́ма даспявала, яе ніхто не вартаваў: колькі хочаш, столькі і латашы...
Паёк, што даваў нам пан, быў не вельмі каб. Таму мы, асабліва дзеці, налягалі на грушы, яблыкі, слівы (чарэшань на дрэвах ужо не было), елі іх адпуза. Прычым, елі па-нашаму, па-вясковаму. Сарвеш яблык, пакаштуеш. Кісляціна, аж язык у жывот цягне. Кінеш яго, сарвеш другі. Другі саладзейшы, але цвёрды — не ўкусіць. І яго са злосцю шпурнеш. Рвеш новы, шукаеш таго, які быў бы да спадобы...
Мінула некалькі дзён, і нашаму раю нечакана прыйшоў канец. Аднаго ранку ля барака, дзе нас пасялілі, спынілася абцягнутая брызентам машына. З яе выгрузілі нейкія брускі, лісты фанеры. І як бач, проста на нашых вачах, пад старою разгалістаю яблыняю змайстравалі будку. У ёй, гэтай будцы, пасяліўся стары, але яшчэ даволі порсткі немец — вартаўнік. Ад цямна да цямна не прысядаў ён — праганяў нас ад садовых дрэў, запускаў палкаю, лаяўся, крычаў... Пакідаў будку ён хіба толькі ўвечары, на змярку. Але ледзь днела, быў зноў каля нашага барака...
Каб правучыць вартаўніка, мы, дзеці, на цямочку забраліся праз акно ў фанерную будку, перавярнулі там усё — крэсла, столік, раскладушку — дагары нагамі, а ў дадатак яшчэ зрабілі на падлозе тое, пра што і гаварыць брыдка...
Вартаўнік вярнуўся на сваю службу, як заўсёды, раніцою. Адамкнуў будку і... адразу ж, не заходзячы нават у яе, замкнуў. Сеў на веласіпед і памчаўся ў горад. Мы, дзеці, назіралі за вартаўніком. І не маглі стрымаць рогату: такі і мы дапяклі яму...
З горада вартаўнік вярнуўся не адзін, а з паліцэйскім — здаравенным чырванатварым, што печаны бурак, бамбізам. Паліцэйскі ляніва прайшоўся па бараках, потым пачаў выклікаць усіх нас, дзяцей, па адным у панскую кантору. Ён хацеў выведаць, хто пагаспадарыў у вартаўніковай будцы. Якраз на ферме далі абед, і наш бацька быў дома. І калі прыйшлі па мяне, каб весці ў панскую кантору, бацька так паглядзеў мне ў вочы, што...





...той позірк помню я і цяпер. Што было ў ім — злосць, крыўда, боль, хваляванне, боязь, каб я не прызнаўся і не выдаў нікога з таварышаў? Гэтага я не магу пэўна сказаць і дасюль. Хутчэй за ўсё, у бацькавых вачах было тады ўсё гэта разам...

У панскай канторы я ні ў чым не прызнаўся паліцэйскаму, хоць той і частаваў мяне цукеркамі, гаварыў мякенька, лагодненька. На ўсе пытанні паліцэйскага я адказваў коратка: «Не ведаю». «Я не быў там». «Я нічога не бачыў, не чуў». Нават калі паліцэйскі грукнуў па стале кулаком і гаркнуў так, што ў мяне аж зазвінела ў вачах, я ўсё адно паўтараў тое самае: «Не ведаю». «Я не быў там». «Я нічога не бачыў, не чуў».

Той бацькаў позірк і цяпер у маіх вачах. І што дзіўна — я бачу яго заўсёды асабліва яскрава тады, калі мне нешта пагражае і я губляюся, не ведаю — шчыра мне ва ўсім прызнавацца ці лепей памаўчаць, а то і не гаварыць праўду — зманіць...

...першую пасляваенную зіму наша сям'я вельмі галадала. На тое была прычына — з Нямеччыны мы вярнуліся ўсярэдзіне лета, пасеяць нічога не паспелі. Таго ж, што зарабляў у леспрамгасе бацька, на сям'ю ў сем душ, вядома, не хапала. І вось, калі насунуліся халады, нападаў снег, нехта параіў нам паспрабаваць лавіць зайцоў — іх у нашым лесе за вайну расплодзілася процьма.

— Як лавіць? Ды вельмі проста...

І нам расказалі, што трэба нарабіць з дроту петляў, расставіць іх на ноч на заечых сцежках. Зайцы, асабліва ў мароз, не сядзяць на месцы, а, каб сагрэцца, бегаюць, гойсаюць сюды-туды. Сцежкі ў іх звыклыя, і касавокія мала прыглядаюцца, што наперадзе. Да таго ж, яны амаль нічога не бачаць зблізку, перад носам, і самі ўскокваюць у сіло. Пятлю, якую трэба прывязаць да камля дрэва, тоўстай лазіны ці і да знарок убітага ў зямлю коліка, не цягнецца ўслед за зайцам, а заціскае яго...

Бацька наш недзе выпрасіў скрутак дроту, і мы за адзін вечар нарабілі з дзесятак петляў. І аднаго дня, калі ўзырыў добры мароз, мы расставілі іх поблізу хаты ў густым — не прадрацца — алешніку. Раніцою ж, як толькі развіднела, ледзь не ўсёю сям'ёй пабеглі глядзець петлі. І ў адной, той, што была ля балотца, убачылі — не малую сваю радасць! — зайца. Заяц быў вялікі і яшчэ жывы — ён раз-пораз тузаўся, рваўся, хацеў уцячы. Асабліва, калі мы з крыкам і рогатам наблізіліся да яго. Але пятля нікуды не пускала шарака — яна пераціснула яго якраз пасярэдзіне.

Мы вынялі зайца з пятлі, пусцілі на снег. Але заяц не кінуўся ад нас уцякаць. Ён наогул не мог бегаць — у яго, як потым мы разгледзелі, адмерзлі за ноч заднія ногі, увесь азадак. Заяц сядзеў на снезе і толькі палахліва, бездапаможна зіркаў пукатымі, поўнымі слёз вачыма на нас, дзяцей...

...Больш я ні разу не хадзіў раніцою на заечыя сцежкі глядзець петлі... Тыя ж поўныя слёз і адчаю пукатыя заечыя вочы і цяпер у мяне ў памяці...

...з жонкай і сынам мы прыехалі ў вёску да маёй маці адпачываць. Да нас у хату забегла суседка, Агапа.

— А-я-яй! — усплеснула яна рукамі.— У хаце госці, а я...

І праз хвіліну прынесла нашаму трохгадоваму сыну вялікі румяны яблык.



— А ведаеш,— сказаў я жонцы, калі выйшла з хаты суседка,— мая маці заўсёды хавала ад гэтай жанчыны малых дзяцей. Як толькі яна да нас, дык мы дзіця на вуліцу ці за комін, на печ...

— Чаму? — непаразумела паглядзела на мяне жонка.

— Ды як і сказаць табе... Можа чула калі, хвароба такая ёсць — прыстрэк. Паглядзіць чалавек на чалавека, нешта сабе падумае, так і нападае прыстрэк. З вачэй. Дык вось, ад вачэй гэтай суседкі мае меншыя браты заўсёды хварэлі... А яшчэ калі, крый божа, дасць штонебудзь у руку малому — і вечара не чакай, вязі адразу ж у бальніцу...

Жонка засмяялася.

— Якія прымхі, якія забабоны! І ты, ты верыш у гэта?

— Як і сказаць табе,— пацісну я плячыма.— І верыць быццам сорамна, і не верыць не магу. Гэта праўда. Бывала, як гляне суседка на дзіця — так і звяне яно. Гарачка падкінецца, рвота, панос... Сутак трое так ператрэ, так перамучыць, хоць на той свет дзіця вязі... І галоўнае, не скажаш нічога гэтай цётцы. Горнецца яна да дзяцей, любіць. І абдыме, і пацалуе, і гасцінца прынясе...

— Даруй, але ты лухту нейкую вярзеш,— зноў засмяялася жонка.

— Ды ты паслухай. Мая маці казала, што вочы такія нядобрыя ў суседкі да чужых дзяцей, бо сваіх яна не мае. Хоча — і не мае. Разумееш?..

Ні ў той дзень, ні назаўтра, ні пасля, колькі ні заходзіла да нас у хату суседка Агапа і чым ні частавала нашага трохгадовага сына, нічога з ім так і не здарылася, не нападаў на яго ніякі «прыстрэк».

— Глядзі ты,— дзівавалася мая маці.— Чаго ж так некалі хварэлі мае дзеці? Хіба пастарэла Агапа, вочы ў яе цяпер не тыя? А мо і тады яна ні ў чым не была вінавата, га?..

І, нарэшце, яшчэ адны вочы...

Неяк да нас у сталіцу прыехаў заапарк. Разам з жонкаю мы надумалі паказаць свайму сыну звяроў. Купілі загадзя білеты і ў нядзельны дзень накіраваліся на Камароўку, дзе звычайна асталёўваюцца ўсе заезджыя заапаркі. Доўга хадзілі мы сям'ёю ад клеткі да клеткі, разглядалі то клыкастых злых львоў, то паласатых, выгінастых тыграў, то скручаных у абаранак удаваў, кідалі пячэнне, цукеркі слану, малпам... І ўжо калі наважыліся пакідаць часовую агароджу заапарка, я раптам спыніўся, убачыўшы аблезлага, нейкага нядошлага ласяя... Не, не сам лось прымусіў мяне спыніцца — ласёў я бачыў у сваім лесе, на волі, і не такіх, а рослых, гордых, гладкіх, аж ільсніліся на іх поўсць. Прымусіў мяне спыніцца надпіс, што быў прымацаваны да клеткі. «Лось. Клічка Топ,— прачытаў я.— Узрост — 9 гадоў. Злоўлены на Палессі. (в. Бароўка.)»

І паўстала ў памяці...

...Мы з бацькам блукаем па лесе, шукаем ранніх вясновых грыбоў. Яшчэ не зусім цёпла, асабліва па начах, толькі-толькі прабіваецца, лезе з-пад сухога леташняга лісця трава. Мы выходзім на старыя дзялянкі, дзе, як нам здаецца, павінны нарасці ўжо смаржкі. І... Што гэта? Проста перад намі ляжыць пад невялікім кусцікам арэшніку цяля — грэецца, няйнакш, на сонцы...

— Тата, глянь! — як не крычу я.

Бацька глядзіць туды, куды я паказваю рукою, і губы яго паволі-паволі расплываюцца ва ўсмешцы.

— Гэта, мабыць, ласяня,— шэпча ён.— Цяля, толькі не свойскае...

— Няўжо?!

Нейкі час мы стаім, любуемся зводдалі ласянём — яно, відаць, пачула нас, падымае маленькую, прыгожанькую галоўку, насцярожваецца, устае на ногі...

— Тата, давай зловім яго! — прашу я бацьку.

— Навошта?

— Дадому занясём. Хай жыве ў нас.

Бацька паціскае плячыма, не зусім, мусіць, разумее маё жаданне, але злавіць *ласяня* не адмаўляецца.

Ціха, на насочках, мы крадземся да куста арэшніку. Бацька — з аднаго боку, я — з другога. Потым амаль адначасова накідваемся з распасцёртымі рукамі на ласяня. Яно не чакала, што яго будуць лавіць, разгубілася. І мы даволі лёгка апрасталі яго. Да таго ж, як неўзабаве мы пераканаліся, ласяня было зусім-зусім малое, яно толькі-толькі нарадзілася на свет, ані нічога не ўмела, ледзь трымалася на сваіх тонкіх кволых ножках...

Мы палажылі ласяня ў кашэль, занеслі яго дадому, у вёску...

...Ласяня ўсё лета пражыло ў нашай хаце. Прывыкла да ўсіх нас, прывыклі і мы да яго. Забаўляліся з ім, выпускалі на поплаў. Нават клічку далі яму — Топ, бо ласяня ніколі не ляжала, а ўсё тупала, тупала...

Нехта напісаў пра нашу сям'ю, пра тое, што ў нас жыве ласяня, у абласную газету. Газета надрукавала пра нас невялікую заметачку. І гэтага было даволі, каб праз нейкі тыдзень ля нашае хаты спынілася чырвоная, з прычапным фургонам, машына. З яе выйшлі два незнаёмыя дзядзькі, накіраваліся да нас у хату. Дзядзькі сказалі, што яны работнікі заапарка і прыехалі да нас, каб забраць ласяня. Хоць і не хацелася нам расставацца з ласянём, а ўсё ж давялося...

Тады, ды і пасля я не думаў, што хоць калі ўбачу, спаткаюся зноў з Топам... І вось...

...Прызнаюся цяпер шчыра: я не падышоў да той клеткі, у якой стаяў знаёмы мне змалку лось, Топ, бо ведаў — у мяне не хопіць смеласці паглядзець яму ў вочы...

...Вочы!.. Вочы!.. Дык дзеля ж чаго, навошта дадзены вы ўсяму жывому?!.

## МЛЫН І СЕЙБІТ

Цяпер нават не магу пэўна сказаць, куды я і з кім тады ехаў. Помню толькі: шырокае, да самага небакраю, поле, дарога, што шызым пыльным паскам то падымаецца на пагорак, то паволі спадае ў лагчыну. Па ёй, гэтай дарозе, трасецца, паўзе, нагружаная цяжкімі мяхамі збожжа, падвода, на якой сяджу я ці то са сваім бацькам, ці то з дзедам. Вось вынырнула, паказалася ўдалечы нешта дзіўнае — стаіць, махае, быццам вялізная птушка, крыламі — няйнакш, спрабуе падняцца ў паветра, паляцець. І не ляціць — стаіць і стаіць на месцы.

— Што гэта такое? — паказваю я рукою наперад.

— Гэта млын. Вятрак,— тлумачаць мне.— Ён меле на муку зерне. А з мукі, ты гэта ведаеш, пякуць смачныя, пульхныя блінцы, аладкі, хлеб...

Там жа, ля млына, яшчэ праз нейкі час я заўважаю босага, апранутага ва ўсё белае, палатнянае — штаны, доўгую, па калені, кашулю,— старога з сівою барадою, што даволі борзда ходзіць па полі і размашыста сее, рассявае рукою з ліповае сявенькі нейкае насенне...

З той ці не першай далёкай паездкі памяць мая больш нічога не захавала. Але той малюнак — я на мяшках на падводзе, сівенькі белы дзядок, што сее нешта на полі, млын-вятрак наперадзе — не-не, дый мільгане, паўстане ў вачах. І як заўсёды апячэ, скалане ўсяго мяне думка: «Чаму, чаму адно зерне павінна легчы ў зямлю, каб набрацца там сіл, прарасці, узгадаваць жменю, прыгаршчы новых зярнят, а другое, такое ж самае зерне, мусіць упасці на каменні млына і быць раздушаным, змолатым на муку? Што гэта — выпадковасць, якому зярняці куды трапіць — у цёплую, пульхную раллю ці на цвёрды, бязлітасны камень млына? А мо — не, не выпадковасць?..»

## ЗАЎТРА

— Ат, няхай... Зраблю гэта заўтра...

Так дні пры дні мы адкладваем і адкладваем многае, што можна было б пры жаданні зрабіць сёння, на заўтра, быццам заўтраў тых наперадзе ў нас — лічыць не злічыць.

Мінаюць дні, тыдні, месяцы, гады... І не зробленага збіраецца ўсё больш і больш, а заўтраў астаецца ўсё менш і менш. І калі наступае старасць, нямогласць, мы з жахам азіраемся назад, на пражытае, і бачым, колькі чаго маглі зрабіць, ды не зрабілі. Не зрабілі толькі таму, што адкладвалі на заўтра...





***туманбай малдагаліеў***

*

ПАЭЗІЯ

*

■

Па сцежках гор,
Дзе вышыня звініць,
Не ходзяць
Непадкованыя коні.
Тут многае
Ты зможаш ацаніць:
З вяршыняў
Свет відзён
Як на далоні.

Мы — дзеці гор.
Нас мужнасць узняла:
Мы зло пачварнае дашчэнту зваявалі.
Пагляд у нас
Вастрэй, чым у арла,
І сэрцы нашы —
Нібы з моцнай сталі.

Мы — дзеці гор.
Мы хлісткім не раўня,
Мы не баімся
Ні спякот, ні сцюжы.
І слава, што п'яніць, як вышыня,
Ужо даўно
Галовы нам не кружыць.

Дзяды ў нас гордыя, нібыта пікі гор,
І ясныя душой,
Нібыта ранне.
Нясуць яны
прамудра свой дазор,
Прадказваючы будучыні грані.

— Салам!—
Не забывай ім гаварыць,
Іх сталасць
Крок твой спешны абароніць...
...Па сцежках гор,
Дзе вышыня звініць,
Не ходзяць
Непадкованыя коні.

Пераклад **Васіля ЗУЁНКА.**





***віялета пальчынскайтэ***

*

ПАЭЗІЯ

*

## *Мой свет*

Пад сонцамі, пад жоўтымі шарамі
Пушынкай сілуэт зямлі здаецца.
Пад сонцамі, пад жоўтымі шарамі
Старой планеце весела жывецца.
У прорву зоркі падаюць трывожна,
Халоднай ноччу мне адной маркотна.
Маленькі камячок бездапаможны,—
Зямлю тулю я да шчакі пяшчотна.
Трывожны крык
не моўкне над планетай,
На дапамогу кліча, як з палону.
Здаецца мне, што будучыню свету —
Зямлі ўсёй лёс — трымаю на далоні.
Боль і святло яе ў руках адразу,
Жыву яе надзеямі, дара́мі...
За шар зямны адна я у адказе
Пад сонцамі, пад жоўтымі шарамі.
Бягуць гады няўмольна —
Не прыкмеціць!
І жыць пад сонцам пакаленням новым!
І гэтак жа няспынна у Сусвеце
Планета кружыцца — мой свет вясновы.

Пераклад **Юрася Свіркі.**

ПРОЗА



*уладзімір сангі*

# АСТАТНЯЯ ДАНІНА ЗВЫЧАЮ

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **Л. Марчанкі**

...Далей пісалася:

«Уночы няма ратунку ад мядзведзяў. Яны ходзяць па пасёлку, не баючыся нават сабак. Нартавыя кабялі рвуцца з ланцуга, ледзь не ломячы калкоў. Сучкі, якіх не трымаюць на прывязі, заходзячыся ад брэху, уюцца каля мядзведзяў, а тыя не спяшаючы раскідаюць хасы* і ласуюцца юколай».

Сёлета, як ні дзіўна, на Паўночным Сахаліне была засуха. Прыйшлася яна на тую пару, калі цвітуць ягады — самы корм для мядзведзяў. Па ўсёй вялікай сахалінскай тайзе не ўрадзілі ягады. І мядзведзі падаліся к узбярэжжу мора, дзе ім можна было паласавацца санлівай нерпай.

Пісьмо канчалася так: «У нашым пасёлку пайшла новая мода — паляваць на мядзведзяў. Маладзейшыя мужчыны і хлопцы павінны паказаць свой гонар — забіць мядзведзя. Дзяўчатам да спадобы толькі кавалеры-медзвяжатнікі. Дзіва!..» Калі Малун дачытаў да гэтага месца, перад вачыма паўстаў Закун: адкапыленыя тоўстыя губы, позірк зверху ўніз, пагардлівы, і галава — цялеп-цялеп,— нібы няспелая кедравая шышка на тонкай лапцы. Гэта звыклая манера Закуна, калі ён чаму-небудзь дае ацэнку.

Калісьці яны былі аднакласнікамі. Як ніхто Закун умеў спадцішка зіркнуць у шпаргалку, падглядзець у падручнік ці, наставіўшы адно вуха, учуць тое, што яму падказвалі. Яго сябры былі гэткія ж самыя гультаі. Яны памагалі адзін аднаму, калі пісалі кантрольныя. З сёмага класа Закун кінуў школу. «Ніўху трэба быць добрым паляўнічым, а навука — дарэмная трата часу. Я як-небудзь знайду сваё месца: зямля вялікая і сонца вялікае». І галава — цялеп-цялеп, як кедравая шышка. Адкуль у яго гэтая звычка?

Малун усяго паўмесяца назад як быў у Тул-во. Адразу з самалёта — на катэр. На плашчы яшчэ шарэў ленінградскі пыл, а ён узбуджана хадзіў па пясчанай касе Тул-во, дзе, здавалася, зусім нядаўна разам з дзецьмі і зграяй вісклівых сабак бегаў у кустах за бурундукамі.

Тады Малун доўга гаварыў са старым У-Тэрам-Абгарэлым Суком, які ўсё сумняваўся, ці пасылаць сына ў школу. Яго хлопец Сяргей застаўся ў трэцім класе на другі год. Сярожку ў школе называлі пераросткам.

І ці варта яму вучыцца далей? Бо паляўнічаму патрэбна цвёрдая рука і меткае вока. У сына У-Тэра ўсё гэта, як у кожнага ніўха, ёсць.

А рыбакі пыталіся рады, як жыць далей: у затоцы з году ў год менее рыбы. Трэба аб'яднацца з другімі калгасамі, займець флот і выйсці ў мора — другога выйсця няма. І Малун гаворыць пра гэта на праўленні калгаса.

Некалькі разоў ён збіраў людзей і расказваў пра тое, што робіцца ў краіне і за мяжой. Для старых ніўхаў, што не ведалі рускай мовы, не чыталі газет і не разумелі радыё, ён быў і газета і радыё. Малун помніў, якія шчырыя былі з ім людзі. І помніў яшчэ халодны позірк...

Закун не стаў паляўнічым. Ён працаваў загадчыкам магазіна. Не абы-якая фігура ў пасёлку. З ім вітаюцца за руку. У яго ўпэўнены, моцны голас. З яго жартаў, нават няўдалых, усе дружна рагочуць. У гутарцы астатняе слова за ім.

У дадатак да ўсяго Закун умеў скарыстаць і перавагу сваю, як прадстаўнік рода ахмалк-цесцяў — гэтага даўняга, што не звёўся яшчэ, звычаю.

Апранаўся ён, як здавалася яму, модна. Шырокі ў плячах пінжак, ялавыя боты і зялёны капялюш выклікалі ў людзей ухмылку. Калі прыехаў Малун, Закун з нейкай пыхаю сустракаў настаўніка...

Малуну было ніякавата перад другімі. І ён адчуваў непрыязнасць да Закуна. Грубая самаўпэўненасць, пыха — вось чым ён палохаў людзей. Яны былі для яго, як іклы для кабяля на сабачым вяселлі...

«І трэба ж. Выдумалі моду. Мядзведзь — гэта ж самы баязлівы і ціхі звер...» Малун на хвіліну задумаўся. Яшчэ зусім нядаўна ніўхі гаварылі пра мядзведзя толькі з пашанаю. «Мок — добры»,— вось як казалі на яго дарослыя пры дзецях, сцвярджаючы гэтым, што праз мядзведзя таемны і ўсемагутны гаворыць з людзьмі.

Калі Малун расказваў пра гэта сваім ленінградскім сябрам, тыя вытрашчыўшы вочы пыталіся:

— Ты адкуль узяўся? Ты ж першабытны.

Потым ужо сур'ёзна прасілі расказаць пра ніўхаў, пра іхнія звычаі і норавы.

Ленінград... Ленінград... Як скора прабеглі пяць гадоў! Першыя, нясмелыя крокі па нязвыкла цвёрдых асфальтаваных вуліцах горада... Лекцыі па старажытнаславянскай і рускай мовах... Тэарэтычныя асновы ніўхскай мовы... Спартыўныя лагеры і спаборніцтвы... Знямелае дзіва перад карцінамі ў Эрмітажы... Потым будзе прыпынак гулкага бегу часу: дыплом. Як вы хутка прайшлі, пяць гадоў!

І цяпер ён у родных Ноглíках.

...Ноглікі... Ёсць нешта таемнае ў гэтым слове. Яно — як кавалак айсберга.

* Хас—прыстасаванне вяліць рыбу.

Ноглікі... Ноглікі... Калісьці, некалькі гадоў назад, продак Малуна прайшоў Сахалін з захаду да ўсходу цераз Камышовы хрыбет. Ён выйшаў да вытоку безыменнай рэчкі, ссек таполю і выдзеўб з яе лодку. Доўга ён спускаўся па вялікай рацэ. Але вось дыхнула саланаватай вільгаццю. Значыць, да мора блізка. І тут стомлены падарожнік ўбачыў, што яго вынесла да высокага, лясістага берагу, прарэзанага спакойным пратокам. І звярнуў да вусця спакойнае рэчкі, прывязаў лодку да нахіленага вербалозу і, змучаны смагаю, нагнуўся да вады. І тут жа адскочыў: у чуткія ноздры тхнула невыносным пахам. І толькі цяпер ніўх убачыў, што па вадзе расплылася нейкая тлустасць. І назваў той першаадкрывальнік спакойную раку «Наглынngі»», што па-руску азначае «Пахучая рака».

...Ноглікі... Ноглікі... Тут Малун скончыў школу, тут пасадзіў першае ў сваім жыцці дрэўца.

Ад'язджаў Малун з маленькага занядбанага пасёлка. А вярнуўся і ледзьве пазнаў яго. Сустрэча ўзрадавала абодвух. Малун стаў адным з першых настаўнікаў свайго племені, а Ноглікі разрасліся, адсунуўшы тайгу на далёкія сопкі, і выцягнуліся да неба: з'явіліся цэлыя кварталы двухпавярховых дамоў. Кругом пасёлка падняліся эклiжы — нафтавыя помпы. Яны з абыякавым спакоем сустракаюць новага чалавека, нізка кланяючыся яму тупою жалезнаю галавою.

У некалькі карпусоў новыя будынкі інтэрната... Малун радаваўся, што ён вось ужо стаў настаўнікам і неўзабаве будзе вучыць дзяцей свайго племені.

Да новага навучальнага года засталося трохі менш месяца.

«Мядзведзя забіць лягчэй, чым сабаку: ён вялікі, у паўдома. У яго і з заплюшчанымі вачыма пацэліш. Прыязджай. Сходзім на паляванне. Цябе запрашае твой ахмалк. Я ўжо сказаў радні, што паслаў запрашэнне».

Самахвал, нахабнік, балбатун! Вядома, чаму ён так шчыранька просіць. Адчувае, хітрун, што гэтае запрашэнне радні — маска. Ён хоча перад усімі паказаць свой гонар. Ён заўсёды любіў пашану. І сабе ў ахвяру выбраў яго, Малуна, прадстаўніка рода зяцёў. Ах, гэты звычай. Ён перапаўзае цераз парогі вякоў і дзесяцігоддзяў. Ахмалк... Патрэбны ён Малуну!

І вось Малун зноў у Тул-во.

Цяпер Закун адразу на беразе, нават не даўшы Малуну выйсці з лодкі, крыкнуў, каб усе чулі:

— Вось і прыехаў да нас медзвяжатнік. Адвагі, мусіць, таксама набраўся ў інстытуце?

Малун сумеўся, не ведаў, што сказаць на гэта. Зазлаваў, але выгляду не падаваў.

...Шырокая чыгунная патэльня цяжка пракатваецца па кавалках чыстага свінцу: паляўнічыя робяць цяжкія кулі. Адбіваецца рэхам дробны стук.

— Нібы мелем косці,— сказаў Малун.

— Гэй! Не кажы так! — раптам устрывожыўся Закун.— Ты ж сабраўся на паляванне, а не на забаўку. Уйкра — грэх.— Але потым схапіўся і, апраўдваючыся, сказаў.— Такі паляўнічы звычай.

Малун падумаў сам сабе, што, каб памяняліся яны ролямі, Закун скарыстаў бы гэты выпадак дзеля бясконцых жартаў пры людзях.

...Дзьмуў Плані-ла — Аленевы вецер. Ён ішоў з акіяна, сыры і халодны. Нават у жніўні ад гэтага ветру можа зберагчы толькі ватоўка, абшытая брызентам. Стынуць і робяцца вялымі камары і мошкі.



Заедзь не дапякае аленяў, і яны вялікімі гуртамі бягуць шукаць лепшых ягельнікаў. Вось і далі імя таму ветру — Аленевы.

Закун, дрыжучы і скурчыўшыся, падняў капюшон. Між дзюнамі холадна блішчалі азёры. Асака на іх берагах звінела, нібы бляшаныя пласцінкі. Паляўнічыя прайшлі некалькі радоў дзюн і ўсунуліся ў дробныя зараснікі кедравага сланіку. Між кустоў значыліся сляды аленяў. Мядзведжых не было відаць. Можна было падумаць, што мядзведзі пайшлі з касы. Закун так і сказаў:

— Мядзведзі перабраліся ў тайгу.

— Не павінны,— сказаў Малун.— У тайзе няма ягад.

Навальвалася змора — ногі чулі тую дарогу праз сыпкі пясок і чэзлыя кусты.

— Мядзведзя забіць лёгка. Ён вялікі,— зноў пачаў Закун.— Б'е той, хто бліжэй будзе і каму лацвей. Лепш бі ты, а я буду дабіваць. Гэта таксама наш звычай.

«А шкуру забярэш ты? Таксама па звычаі»,— раззлаваўся Малун, але нічога не сказаў.

Прайшлі яшчэ кіламетры чатыры і скіравалі да заліва. Малун задумаўся пра сваё. Неўзабаве пачнецца навучальны год. «Сярожка павінен вучыцца! Пэўна, леташні настаўнік крыкамі і двойкамі адбіў у хлопчыка ахвоту да навукі. Я знайду падыход да Сярожкі і яго бацькі. Ён будзе вучыцца. Усе будуць вучыцца. Ніўхі цяпер зразумелі, што такое навука, асвета. Цяпер не тое, што было даўней, калі бацькі не пускалі дзяцей у школу, як надыходзіла пара асенняга палявання. Абгарэлыя сучкі — лічаныя. Жыццё — гэта дрэва. А дрэва расце вяршыняй. Старыя сукі астаюцца пад новымі, гніюць і ападаюць. І дрэва робіцца стройнае, выноснае».

Раптам Закун схапіў і моцна сціснуў руку Малуна: паляўнічыя ішлі па цёплых адбітках вялікіх лап.

Гэта было нязвыклае лета, лета без дажджу. Такога даўно не было на Сахаліне. Мядзведзі выйшлі з тайгі і бадзяліся каля сёлаў. Іх мучыў голад — яны былі злыя.

...Мядзведзіца была старая. Вялікая і дужая, яна доўга грызлася з другімі мядзведзямі, пакуль не заўладала вялікім урочышчам, багатым на ягады, мурашнікі і дзічыну. Грудкі спрэс зараслі доўгім, як дзераза, таежным брусьнічнікам, нізкія, мокрыя лагчыны каля рэчкі заглушыў маліннік і дурніцы. А восенню ў рэкі прыходзіць кета. Ранічкаю мядзведзіца ішла на рэчку і на водмелі лавіла рыбу. Яна спрытна падхоплівала чэпкімі кіпцюрамі вялікіх, пруткіх рыбін і кідала на бераг. А там яе дзецянята, маленькія і пушыстыя, пракусвалі рыбам галовы.

У познюю восень мядзведзіца са сваімі дзіцянятамі паднімалася ўверх па даліне ракі і клалася ў бярлогу каля падэшвы гары. Так было кожны год. Цяпер жа спадала лета, а сям'я мядзведзіцы яшчэ не назапасіла тлушчу, каб думаць пра бярлогу. Мядзведзіца раз'юшана шукала бурундукоў, раскідвала іхнія гнёзды і з'ядала ўсё, што яны назапасілі на зіму. Але разрыць бурундучыя норы было нялёгка, і мядзведзіца траціла апошнія свае сілы. Іншы раз ёй траплялася злавіць знямоглую ад голаду курапатку. Тады медзведзяняты грызліся за кожную пярынку.

Яна пакідала дзіцянят каля сукаватага дрэва, а сама ішла на паляванне. Аднойчы яна вярнулася стомленая і галодная і не знайшла старэйшае медзведзяня. Голад патурыў яго з кустоў, і ён, як ачмурэлы,

панёсся куды вочы глядзяць, спадзеючыся дзе-небудзь натрапіць на яду.

Маці з другім медзведзянём доўга ішла па следзе дурненькага пестуна. Але след у балоце згубіўся. Мядзведзіца некалькі дзён і начэй узапар раўла, клікала сына, але той не аб'явіўся. Ён можа натрапіў на харч і цяпер наядае тлушч... А можа... Трывога даймала мядзведзіцу.

Ужо лісце, трапятліва задрыжаўшы, зрывалася з галля і нехаця клалася на зямлю. Ужо расіў сумны асенні дождж, змярцвелая ціша агортвала зямлю, а мядзведзі ўсё шукалі сабе корму.

...Мядзведзіца доўга не рашалася ісці праз заліў на касу. Даўней яна прыходзіла туды. Там было ўсё ссыпана ягадамі. Але страшна ісці туды: там людзі. Калі мядзведзіца ўспомніла пра людзей, у яе зашчымела ад даўняга болю правая лапатка. Пазалетась сюды ударыў чалавек нечым гарачым. Рана доўга не гаілася. Боль напамінае пра сустрэчу на касе, палохае. Але яна добра помніць тыя ўрадлівыя на ягады мясціны. Час прыспешвае класціся ў бярлогу. Наперадзе — доўгая зіма. І трэба ж назапасіць тлушчу.

На касу! На касу! І мядзведзіца, цяжка звесіўшы галаву, нібы ўздумала з некім пабушавацца, рашуча выйшла на высокі бераг заліва.

— Нідзе ні ягадкі, а на касе, глядзі, колькі. Чаму так? — спытаўся Закун.— І тут жа не было дажджу.

— Зараз скажу. Калі ідзеш праз густы туман, уся адзежа прамакае. Ці не так?

— Ага, так,— паспешліва згадзіўся Закун.

— На касе ад марскога туману шмат вільгаці.

— Гм-м-м,— прамычаў Закун.

...На ягельніку след губляўся. Але змалку прывучаныя вочы шукаць звярыны след, знаходзілі яго і тут: не-не, а мядзведзь кіпцюрамі здзярэ лішайнік, там-сям на сучках пакіне пабурэлую поўсць.

След з грудкоў павёў на ўтравянелую лагчынку, што з краёў зарасла алешнікам. Праз яго мядзведзі вытапталі сцежку.

Абодва задыхаліся. Пачалі парыўна і рэзка азірацца. Пачынаўся гушчар, паляўнічыя ішлі прыгінаючыся. Ля сцежкі жухлая трава, як падстрыжаная. Гэта мядзведзі аб'елі яе. І знаць нават, дзе спалі — трава там выкачаная.

Ідучы паперадзе, Малун ледзьве не наступіў на свежы мядзведжы памёт, бурдовы ад брусніц. Кучка. Яшчэ кучка. Значыць, па сваёй патрэбе мядзведзі прыходзяць сюды заўсёды. Значыць, яны недзе тут і можа ўжо цікуюць за паляўнічымі. Ад гэтай думкі па спіне ў Закуна забегалі мурашкі.

Сцежка раздваілася.

— Падавайся ўлева,— ціха сказаў Малун.

Закун прайшоў крокі два і павярнуў за Малуном.

— Ты чаго?

— Ы-г-г,— Закун хацеў нешта сказаць, але задыхнуўся. Нейкая трывога ахапіла і Малуна. І трэба было ісці на гэтае дурное паляванне! Гэта ж не паляванне, а суцэльная мука, калі ты не ведаеш, што праз хвіліну цябе чакае. Але ж не варочацца дадому. Трэба ісці далей.

Канечне, ён мог бы вярнуцца дадому і без здабычы. Мядзведзь — гэта не веснавыя качкі, якіх можна ўпаляваць, колькі хочаш. Паляўнічыя, што ідуць на мядзведзя, часцей вяртаюцца без здабычы. І ніхто не кажа, што яны кепскія паляўнічыя. Вядома, можна вярнуцца і без здабычы. Але тут Малун закруціў галавою. Не! Трэба знайсці мядзведзя!



Нешта нібы гняло Малуна, і ён хацеў скінуць з сябе гэты цяжар. Усё цяжкае, злое, што недзе кіпела на сподзе душы, прынёс Закун, і Малуну здавалася, што менавіта сёння ён павінен скінуць з сябе ўсё гэтае цяжкае, што гняло яго. Штосьці большае, чым здабыча, чым мядзведзь, гнала яго наперад па свежым да жаху следзе.

Справа адкрылася ўсыпаная купінамі паляна. За ёю бліскала, трапяталася, адбіваючы нізкае сонца, вада — там была бухта. Злева цямнеў алешнік. За ім пачыналіся дзюны. Паляўнічыя ішлі па свежых адбітках вялікіх лап.

Мядзведзіца тужліва глядзела на сваё маленькае і пушыстае дзіцяня, трывожна прынюхвалася, падымаючыся з лежыва. Яна чула бяду і шукала ратунку. Ён быў адзін — уцякаць. Яшчэ змалку яна ведала: не вытыкайся на вочы ворагу, чакай колькі можна. Кідайся на яго знянацку. Яна ўжо даўно згледзела тых двух, што ішлі забіваць яе дзіця. Яна першаю кінулася б на іх, але асцерагалася: іх двое. І яны ідуць проста на яе. Не! Яна сыдзе з іхніх вачэй. Мядзведзіца паднялася і ціха пайшла ў абход...

— Ы-г-г-г,— раптам залекацеў Закун, нібы яго голага кінулі ў пралам. Дрыготкаю рукою паказаў сабе пад ногі. На чалавечых слядах выразна былі відаць мядзведжыя кіпцюры.

— Во — д'ябал, што жарэ паляўнічых! — нема закрычаў Закун, і твар у яго збялеў.

«Вось які ты»,— падумаў Малун. Ён чуў, што страху ў яго няма. А Закун быў ужо зусім як сам не свой.

Малун павярнуўся і пайшоў насустрач следу.

— Уцякайма, пакуль не позна. Гэта не мядзведзь. Гэта сам д'ябал,— спатыкаючыся, забег наперад Закун.

— Маўчы,— раптам не стрываў Малун. Ён першы раз павысіў голас на гэтага шаноўнага, паважнага прадстаўніка рода цесцяў. Мядзведзіца выскачыла нечакана і рэзка, як выбух. Малун толькі падумаў: «Колькі ж іх тут?» Выскачыла мядзведзіца, за ёю медзведзяня, потым вялікі мядзведзь. Але мядзведзя не было. Гэта выпрасталіся кусты сланіку, што прыгнуўся пад цяжарам мядзведзяў.

Мядзведзіца імчала галопам. Выдавала, што ўсё кругом дрыжыць ад тупату яе ног. Поруч клубком каціліся медзведзяня. Хавалася аж з галавою ў траве. Скарэй! Скарэй! Трэба ратаваць ад гэтых двух дзіця.

«Уцячэ»,— з крыўдаю падумаў Малун. І ён страціць нешта большае, чым дзень, які змарнаваў на гэтае нялёгкае паляванне. Увесь жа пасёлак ведае, што ён выйшаў на паляванне. За доўгія гады вучобы ў рускім горадзе ён не страціў паляўнічага спрыту...

А галоўнае — выбавіцца ад таго, што гняло...

Мядзведзіца перасекла ўжо купістую лагчынку. Малун прыцэліўся і націснуў на гашэтку. Мядзведзіца перакулілася цераз галаву. Куля прайшла недзе праз грудзі, але нізкавата.

Звер уміг вока падняўся на лапы, зароў і, разявіўшы пашчу, кінуўся на тых, што стаялі. Скарэй! Скарэй! З усяе моцы ўдарыць лапаю, зламаць хрыбет і рваць, рваць. Ён ужо ашалеў ад болю.



Закун заенчыў не сваім галасам: «Д'ябал! Д'ябал! Цур не мяне!» — і схаваўся за спіну Малуна. І ўчуў Малун: зваліўся з яго цяжар. Ён уздыхнуў лёгка, быццам сарваў з сябе ланцуг.

У Закуна разлік быў просты: пакуль мядзведзіца расправіцца з Малуном, ён уцячэ. Малун гэта зразумеў. «Трэба перазарадзіць ружжо»,— з гарачкі падумаў ён, але ўбачыў, як шпарка нясецца сюды звер,— не паспее.

У двухстволкі толькі адзін набой. Адзін стрэл павінен вырашыць, каго не стане. Малун разумеў, што яго ратуе толькі дакладны стрэл. І адразу смяртэльны. А чым звер бліжэй, тым больш трапна. Малун сабраў усе сілы і волю, каб у астатнюю хвілю не прамахнуцца. Чым бліжэй, тым дакладней. Нейкі міг ён нават дзіваваўся зверам: вялікая квадратная галава ўцягнута ў шырокія, крутыя плечы, лапы з доўгімі растапыранымі кіпцюрамі ён выкідае далёка наперад. Жоўтыя іклы. Жоўтая пена ў пашчы. І якая ўпэўненасць у гэтай раз'ятранай мядзведзіцы. Яна, здаецца, не бяжыць, а ляціць.

Галава варушыцца. Нялёгка ў яе пацэліць. Чым бліжэй, тым дакладней.

Скок. Яшчэ раз скок, і яна ўстане на заднія лапы, мільгне пярэдняя лапа, і ў ноздры пырскне смачны пах крыві.

Але тут поруч яна ўбачыла сваё дзіцяня. Куды!? Вораг вельмі страшны, каб дзіцяня было тут. Мядзведзіца раптоўна спынілася, павярнулася да дзіцяняці і дала яму аплявуху. У гэты міг Малун і стрэліў. Куля прайшла пад ключыцу. Мядзведзіца рухнула на зямлю. У астатні раз з нейкай журбою і смуткам глянуўшы на чалавека, што цвёрда стаяў перад ёю.

Малун машынальна перазарадзіў ружжо. Толькі цяпер ён адчуў знямогу. Хацелася паваліцца ў мох, заплюшчыць вочы і ляжаць доўга-доўга.

За спіной зашастала галлё. «Яшчэ!» — нейкі сполах працяў Малуна. Ён рэзка абярнуўся — з высокае лістоўніцы злазіў Закун.

Ён падыходзіў памалу, нібы ішоў на кару. На твары ў яго — вінаватасць і пакора.

Першае, што раптам прыйшло ў галаву — даць аплявуху. «Дзеля чаго?» — ужо спакойна падумаў Малун і, абярнуўшыся да Закуна спіною, стомлена сеў на выскаленую нежывую галаву звера.

Мядзведзіца аказалася вялікаю.

Гаспадаром здабычы павінен быць Закун, прадстаўнік рода ахмалк-цесцяў. Але Малун разрэзаў мядзведзіцу — гэта бачылі ўсе,— не спытаўшыся ў Закуна, раздаў людзям. Людзі дзякавалі яму. Казалі, што ён сапраўдны паляўнічы і сапраўдны ніўх: ён не забыўся пра свой звычай. Дзякавалі яму і невядома чаго шапталіся між сабою.

А шкура... На другі дзень яна вісела прыбітая да сцяны Закуновай хаты з паўднёвага боку. Такі ў ніўхаў звычай.

Мужчыны запрасілі Малуна на новае паляванне. Збіраліся пайсці назаўтра раніцою. Малун цалюткую ноч не спаў. Варочаўся з боку на бок, а вока так і не звёў. Толькі пачынаў драмаць, як на яго зноў ляцела раз'ятраная мядзведзіца: вялікая галава ўцягнута ў шырокія дужыя плечы, лапы з доўгімі растапыранымі кіпцюрамі, вось, зараз, здаецца, выдзеруць вочы... Жоўтыя іклы. Жоўтая пена...

Раненька, у прызначаны час, паляўнічыя зайшлі па Малуна. Але ён сказаў, што сёння павінен быць у школе.

У той жа дзень Малун пакінуў Гул-во.

Пераклад **Вячаслава АДАМЧЫКА.**





**юры адрыянаў**

*

паэзія

*

## *Верш пра ветразі*

Маладыя гарады Расіі —
Першаадкрывальнікі Зямлі!
Стаіцё вы ў сонцы і расінках,
Як стаяць на рэйдзе караблі.
Вы ўсе ў парываннях і пытаннях,
Лірыкаў і фізікаў тут шмат.
Будаўніцы тут на рыштаваннях,
Як на рэях чаек лёгкіх рад.
Тут, калі апоўдні уладарна,
Запануе пахкі дух баршчу,
Экскаватар дрэмле дыназаўрам
Сярод елак, як сярод хвашчу.
І дынамік, толькі рот раскрые,
Тут гаворыць ад імя Зямлі...
Маладыя гарады Расіі,
З юным экіпажам караблі!
Вось яны ўстаюць з тугой па далях,
Кліча іх блакітная смуга.
Іх калыша на зялёных хвалях
Наша неабдымная тайга.
Плаванне вялікае ў нязведанасць...
І паверхі, поўныя святла,
Уздымаюць крылы, нібы ветразь,
Зробленыя з неба і са шкла.

Пераклад **Анатоля Вярцінскага.**





**уладзімір някляеў**

*

паэзія

*

## *Нафтавікі*

Калі, нарэшце, корба
Прабіла тоўшчу глебы
І нафта чорнай кобрай
Рванулася у неба —
Было дванаццаць з чвэрцю.
Узляцела ўверх:
— Да-ста-лі--і!..

І ціш...
Пасля, як чэрці,
Ля шчыліны скакалі
Усе, а кінахронік,
Забыўшыся здымаць,
Крычаў: — Ну дай гармонік!
Хачу зайграць!..
А нафта ў неба біла,
Спадала ўніз дугой,
З'яднала і зрадніла
Людзей паміж сабой.

Біў прараб абцасам:
— Беларуска!
Жонка, смаж каўбасы
На закуску.
Зразумейце, чэрці вы,—
Гэта ж скарб!
Было дванаццаць з чвэрцю,
І мне сказаў прараб:
— Давай пішы з абзаца,
Ці як у вас там звычна:
Навечна слава працы!
БССР! І клічнік!

■

І зноў я дома. У старым бары
Дзяцінства рэха над ракой гукае,
Дзе млын сівы, як казачнік стары,
Каторае стагоддзе казкі бае.
Іду сцяжынай, дзе калісь хадзіў,
Над ручаём схіляюся напіцца.
Тут першы раз сусвет мяне здзівіў
Маленькай кропляй сонца на брусніцах,
І ў першы раз, пад гэтай вось сасной,
Я мовы роднай словы склаў у вершы
І анямеў ад цуда сам не свой,
І ў першы раз...
Ды тут усё — у першы:
І першы снег, і бусел на млыне,
І першае каханне для мяне...



*віктар ярац*

*

ПАЭЗІЯ

*

## Цвіце міндаль

Каторы год —
ніхто не знае —
зацвіў у Грузіі міндаль.
Ружова-белай стала даль,
нібыта выпаў снег над краем.

Цвіце міндаль,
цвітуць надзеі
маіх вяснова-новых мар,
і над пялёсткавай завеяй
аблок чароды, а не хмар.

А свет — задумлівы і строгі,
а свет — не міндалёвы цвет,
і ў ім даўно жывуць трывогі,
і разыходзяцца дарогі
людскіх і радасцей і бед...

*

Цвіце міндаль...
І ў квецені
Мне мроіцца, бы ў сне,
паўночны край замецены,
дзе нечы цёплы смех
мароз на вуснах студзіць,
кусаецца цішком
і самакруткі круціць
над трубамі з дымком;
дзе сок у дрэвах дрэмле
і рэкі пад ільдом,
дзе снежныя царэўны
спяць моцным зімнім сном...

І хоць той край далёка,
дзе снежыць сакавік,
мне чуецца штоміг:
вясны смялеюць крокі.







*лідзія арабей*

# ДА БАЦЬКІ

АПАВЯДАННЕ

Мал. **К. Ціхановіча**

Самалёт моцна загудзеў, лопасці яго вінта закруціліся і зрабіліся як празрыстыя. Так некалі на ўроку фізікі настаўніца раскручвала пафарбаваны ў шмат колераў дыск, і ён ад руху зліваўся ў адзін колер — белы. Вопыт паказваў, што ў адным колеры, белым, шмат фарбаў. «Мусіць, так не толькі ў фізіцы,— падумаў Гена,— глядзіш на што-небудзь, яно здаецца простае, белае, а калі спыніцца ды прыгледзецца...»

Думка прыйшла і адышла, бо самалёт ужо моцна разганяўся па ўзлётнай паласе, каціўся, аж падскокваў, як на дробных каменьчыках, потым адарваўся ад зямлі, падгроб пад сябе, схаваў вялізныя гумавыя колы — шасі.

Зямля валілася ўніз, меншалі дамы, даўжэлі, выцягваліся дарогі, вось ужо ўбаку застаўся горад, паплылі, быццам лёгкі дым, першыя аблокі — самалёт набіраў вышыню.

У салоне ўжо нехта разгарнуў газету — чытаў, нехта, адкінуўшы галаву на спінку крэсла, драмаў, і ў Гены з'явілася зайздрасць да гэтых людзей — якія яны спакойныя, кожны ведае, куды і чаго едзе, а куды сабраўся ён, чаго сеў у гэты самалёт?

Праўда, карцела з'ездзіць, даўно збіраўся, але ўсё думаў — некалі, як будзе час,— чаму ж ён ляціць сёння, цяпер? Можа, вінаваты той генерал, абвешаны ордэнамі і мядалямі, які выступаў учора па тэлебачанні? Генерал расказваў, як у вайну ён вадзіў самалёты з грузам да партызан, і тады Гена ўспомніў бацьку. І паду-

маў — а чаго адкладваць — некалі з'езджу? Заўтра субота, паслязаўтра нядзеля, два выхадныя, спраўлюся туды і назад.

Бацька... Калі думае пра бацьку, бачыць яго такога, як на фатаграфіі, але ў такога бацьку цяжка паверыць — там хлопчык з чырвоным гальштукам, з грыўкаю, якая падае з аднаго боку на лоб.

— Другой фатаграфіі ў яго не было, перад вайною збіраўся сфатаграфавацца, ды не сфатаграфаваўся, а ў вайну...— расказвала матка.

Гена хоча ўявіць свайго бацьку дарослага, сталага, але не можа, зноў бачыць фатаграфію — піянерскі гальштук, грыўка падае з аднаго боку на лоб. Бацька... Смешна, што ён, Гена, зусім дарослы ўжо, старэйшы, чым некалі быў ягоны бацька, сумуе па гэтым хлопчыку ў піянерскім гальштуку і цяпер вось едзе невядома куды, ляціць у самалёце, каб пахадзіць па тых вуліцах, па якіх хадзіў некалі бацька і хоць што-небудзь пра яго дазнацца. Матка расказвала, што ў тым гарадку, куды цяпер едзе Гена, жыў чалавек, які разам з бацькам сядзеў у нямецкай турме, значыцца, бачыў яго перад самай смерцю...

Цяпер самалёт плыў над аблокамі, якія белымі гурбамі ляжалі аж да гарызонта. Над вялікімі аблокамі плылі танчэйшыя, і здавалася, што гэта вецер гоніць мяцеліцу, белае покрыва раптам прарывалася, адкрываючы глыбокія калодзежы, на дне якіх віліся дарогі, ляжалі маленечкія, як на макеце, вёскі, і лес быў падобны на мох, таксама, як на макеце, што некалі бачыў Гена ў Палацы піянераў. Неба ярка сінела над белымі гурбамі, у акно біла сонца, і ў самалёце зрабілася цёпла і светла, ён ляцеў цяпер роўна, і роўна гулі маторы, а Гена думаў, што́ ён будзе рабіць у тым гарадку, дзе ён нарадзіўся і з якога маці вывезла яго больш як дваццаць гадоў таму назад.

У кішэні яго пінжака ляжала паперка з адрасам, Гена спісаў яго з ліста, што некалі, гадоў дзесяць таму назад, маці атрымала з таго горада ад сяброўкі. Мацеры нічога не сказаў,— ён чамусьці сароме́ўся гэтага свайго суму па бацьку і, здавалася, гэтым сваім сумам можа пакрыўдзіць матку. А дарэмна, відаць, не сказаў, матка будзе непакоіцца, думаць — дзе дзеўся, трэба было хоць выдумаць што-небудзь. Сапраўды, ён выкінуў фокус, паехаў у свет, як у капейку, ці жывая там матчына сяброўка, ці той самы ў яе адрас, а што, як не знойдзе ён тую Валю Ягадку, толькі дарэмна змарнуе час і грошы на дарогу? Але няхай, няхай страціць час, няхай страціць грошы, але будзе ведаць, што з'ездзіў, што пабываў...

Цяпер белая коўдра аблокаў ляжала нізка, а неба вакол як пабольшала, яно, здавалася, было наўкруг — і над самалётам, і пад ім, ярка-сіняе зверху, блакітнае пры гарызонце. Зямлі зусім не было відаць, толькі вялізны белы прасцяг, абведзены кругла, як цыркулем.

Гена адчуў, што вушы быдта заклала ватаю — няўжо пайшлі на зніжэнне? Глянуў на табло, там ужо гарэлі чырвоныя літары — «Не курыць, зашпіліць рамяні», па праходзе ішла сцюардэса ў сінім форменным гарнітурчыку, з падносам, на якім ляжала горбачка цукерак. Так скора прыляцелі? І агледзецца не паспеў.

Самалёт апускаўся ў гушчу аблокаў, ляцеў, як у клубах пары, потым аблокі пагусцелі яшчэ больш, пацямнелі, і ў самалёце зрабілася, як вечарам, на круглую шыбу вакна ўпала дробная кропля, яшчэ адна. Што гэта? Дождж? Кроплі за бортам ляцелі павольна, як у замаруджанай кіназдымцы, асядалі на шкло дробным пылам, потым пагусцелі, пацяклі раўчукамі. Яшчэ гэтага не хапала, дажджу, а ён не ўзяў з сабою плашча, выходзіў з дому — была пагода, паехаў у світары і ў пінжаку...



Ад таго горада, у якім рабіў пасадку самалёт, Гену трэба было ехаць яшчэ кіламетраў шэсцьдзесят, так што з самалёта ён пакіраваў на аўтобусную станцыю. Ехаў у гарадскім аўтобусе, здушаны з усіх бакоў мокрымі ад дажджу людзьмі з чамаданамі і клункамі.

Аўтобус ішоў праз гадзіну, і Гена, купіўшы білет, сядзеў на драўлянай лаўцы вакзала між цётак з кошыкамі, між нязголеных дзядзькоў у суконных світках, потым, з гурбою іншых пасажыраў, стаяў перад дзверцамі аўтобуса, чакаючы, пакуль шафёр праверыць усе білеты.

Яго месца аказалася каля акна, і ён сеў, і раптам заспяшаўся — скарэй ехаць, каб скарэй там далі адпраўленне, чаго калупаецца гэты шафёр, то залазіць у аўтобус, то зноў вылазіць.

Нарэшце, зрушылі. Як нядаўна ў самалёце, так цяпер у аўтобусе, пасажыры, супакоеныя яздою, сцішыліся, хто пазіраў у акно, хто драмаў, з другога боку на лаўцы сядзелі хлопец і дзяўчына,— ён абняў яе за плечы, яна схіліла да яго на грудзі галаву.

Праміналі чужыя, не знаёмыя Гену, прысады, за якімі ляжала шэрая раўніна, па дарозе траплялiся то адзінокі дамок, то пасёлак, на небе клубіліся цёмныя воблакі, але дождж, здаецца, перастаў. Не прыкмеціў, як пачало цямнець, змрок нібы абступаў дарогу, насоўваўся на яе з усіх бакоў, і вось загарэліся ўжо агні, бліснуў недзе далёка, за прысадамі, запаліўся святло ў акне адзінокай хаткі, што стаяла недалёка ад дарогі.

Цяпер аўтобус ехаў у цемнаце, высвечваючы сабе дарогу фарамі, шаша была разбітая, і ён калываўся, сунуўся павольна, прапускаючы наперад легкавыя машыны, таксі, часам аўтобус рабіў кароткія прыпынкі, з яго выходзіла два-тры пасажыры, і Гена дзівіўся — куды пойдуць гэтыя людзі, нідзе блізка не відаць ніякага жылля. І пра сябе падумаў — дзе я буду начаваць? Нязручна поначы ісці да чужых людзей... Гасцініца... Ці будзе там месца?

Месца ў гасцініцы не аказалася, дзяжурная, немаладая жанчына ў чорным халаце, сказала сонным голасам:

— Няма... заводскія занялі ўсё...

Ён некалькі хвілін стаяў, не ведаючы, што рабіць, памацаў у кішэні паперку з адрасам, глянуў на гадзіннік — адзінаццаць. Не, няёмка так позна ісці да незнаёмых. Сеў у вестыбюлі на чырвоную, зашмальцаваную на спінцы, канапку. Насупраць на сцяне вісела карціна ў багетавай раме — жоўтая збажына і зялёнае дрэва, пасярод вестыбюля — круглы стол з газетамі. Ён вырашыў, калі не прагоняць — праседзець ноч тут, на канапцы.

Адчыняліся і зачыняліся дзверы, у гасцініцу заходзілі пастаяльцы, бралі ў дзяжурнай ключы, ішлі да сваіх нумароў. У калідорах чуліся галасы, рыпела пад нагамі драўляная лесвіца, што вяла на другі паверх, у нейкім нумары моцна іграла радыё.

Нарэшце гукі адзін за адным пачалі адпадаць — перасталі бразгаць дзвярыма, сціхлі галасы, выключылі радыё, і Гена адчуў, што ў яго зліпаюцца вочы, надта хочацца спаць — апусціў галаву на цвёрды валік канапкі. Праз сон чуў, як падыходзіла да яго дзяжурная, як падклала пад галаву падушку, укрыла коўдраю без чахла. І яшчэ праз сон чуў, як зноў усчаўся, шумеў за дзвярыма гасцініцы дождж і недзе голасна мяўкала кошка.

Ён прачнуўся рана, як толькі пачалі хадзіць першыя пастаяльцы, падзякаваў дзяжурнай за падушку і коўдру, пакіраваўся на вуліцу.

Пасля дажджу пахаладнела, але дзень быў ясны, чыстае сіняе неба адбівалася ў вялізных лужынах. Па тратуары з выбітымі пліткамі Гена выйшаў на плошчу, пасярод якой быў скверык, за ім бялела вежа касцёла, абапал плошчы стаялі мураваныя дамы на адзін, на два паверхі, у некаторых былі зачынены аканіцы, замкнёныя на завалы дзверы. І раптам прыйшло адчуванне, што некалі недзе ён бачыў — і гэты скверык, і гэтую вежу касцёла, і гэтыя дзверы, замкнёныя на завалы — бачыў, як у сне... А можа памятае? Ён жа тут нарадзіўся, тут жыў да двух гадоў... Няўжо памятае? Адчуванне было і прыемнае, і тужлівае, быццам і нешта знайшоў, і нешта страціў.

У мужчыны, апранутага па-рабочаму, спытаў адрас і пакіраваўся туды, куды той паказаў. Выйшаў на ціхую, як вясковую, вуліцу, якая зноў нагадала нешта далёкае, невыразнае, як сон. Лічыў нумары, прыбітыя да вуглоў хат. А вось і патрэбны нумар дома. Моцна забілася сэрца — ці тут жыве Валя Ягадка і як яго сустрэне? Піхнуў пацямнелыя ад часу, набрынялыя дажджом, веснічкі, падняўся на высокі ганак.

Дзверы яму адчыніла пажылая кабета ў чорнай хустцы, завязанай вузлом назад, у квяцістай сукенцы, з-пад якой былі відаць запыленыя шаравары. Пасярод сенцаў ляжала рассыпаная на падлозе бульба, бульба стаяла і ў мяшку каля сцяны.

— Прабачце,— сказаў Гена,— ці тут жыве... Валя Ягадка?..

Кабета папраўіла на галаве хустку, шморгнула носам.

— А я... Гэта я Валя Ягадка...

Узрадаваўся, што знайшоў? Расчараваўся? Зусім не такою ўяўляў ён Валю Ягадку,— маці расказвала пра яе, як пра маладую, ды і прозвішча — Ягадка...

Выціраючы аб сукенку рукі, зноў папраўляючы хустку на галаве, жанчына пайшла з сенцаў у хату, запрашаючы за сабой і Гену, у хаце спынілася, азірнулася на госця з цікавасцю і чаканнем.

— Я... Разумееце,— пачаў тлумачыць Гена.— Я сын вашай падругі... Што ў вайну тут жылі... Ну, вы з ёю яшчэ перапісваліся...

— Падругі? Якой падругі?.. Ліны?..— не то здагадалася, не то спыталася яна ў Гены.

Гена кіўнуў галавою.

Кабета пляснула рукамі, сашчапіла іх пад барадою.

— А божачка... Дык ты Геначка? — у яе вачах бліснула сляза.— А дзіцятка ж ты маё, а божачка!..

Яна зноў шморгнула носам, церанула пад ім запыленай далоняй, глянула на свае шаравары, усміхнулася, як вінаватая.

— А я во якая... Бульбу перабірала, садзіць скора, дык... Ды ты садзіся, садзіся,— схапіла яна крэсла з чорным цыратавым сядзеннем і спінкаю, падставіла да Гены.

Ён сеў, а Валя Ягадка мітнулася ў сенцы, потым вярнулася назад, выбегла ў другі пакой, мітусілася і гаварыла, пыталася:

— Дык як жа ты тут?.. Надоўга прыехаў? А як жа там маці, мы з ёю перапісваліся, перапісваліся, ды потым перасталі, я ўжо і не помню, хто перастаў, можа і я не адпісала, дзеці ў мяне тады хварэлі, большанькі надта гнілы ўрадзіўся, цяпер то перарос хваробу, нічога, у інстытуце вучыцца, у Ленінградзе.

Валя Ягадка гаварыла і гаварыла, і праз некалькі хвілін Гена ведаў ужо амаль усё пра яе сям'ю — што старэйшы сын у Ленінградзе вучыцца, а меншы ў дзевятым класе, цяпер у школе, а муж на рабоце, на заводзе, майстрам там працуе. Гена падумаў, што гаспадар, мусіць,



працуе на тым заводзе, на які прыехалі ў камандзіроўку людзі і занялі ўсю гасцініцу. Сама гаспадыня раскруціла хустку, памыла рукі, села перад Генам, і ён убачыў, што ў Валі Ягадкі густыя каштанавыя валасы, сіваватыя на скронях, сінія вочы і ямачкі на поўных шчоках.

— Дык як жа там маці? — зноў спыталася яна.— Так і пражылі з ёю ўдваіх?.. Так і не выйшла замуж?..

— Не, не выйшла... Удваіх жывем,— адказаў Гена.

— Ты глядзі,— пакруціла галавою Валя Ягадка, і Гену здалося, што яна пашкадавала матку, ён чакаў, што яна пахваліць матку, скажа — во малайчына, сына берагла, не захацела прыводзіць вотчыма, а Валя Ягадка быццам не пахваліла матку, а толькі пашкадавала.— А такая ж дзяўчына была,— гаварыла яна,— надта ж была красівая, во вайна, каб ты згарэла,— пачала яна клясці вайну.— А божачка,— раптам падхапілася яна,— што ж гэта я расселася, ты ж з дарогі, есці, мусіць, хочаш.

Гена і праўда хацеў есці, але дзеля ветлівасці пачаў адмаўляцца:

— Ды не, дзякуй, я не хачу.

Але гаспадыня кінулася да шафкі, зноў выбегла ў сенцы.

На некалькі хвілін Гена застаўся ў пакоі адзін, агледзеўся. Кафляная грубка, канапка, шафка з посудам, тэлевізар «Сігнал», на падаконніку вазоны, падлога, некалі пафарбаваная, але аблезлая.

Гаспадыня вярнулася з сенцаў, пачала ставіць на стол — нарэзаную скрылёчкамі вяндліну, кілбасу, салёныя гуркі, марынаваныя памідоры, паставіла на стол і графінчык, наліла ў чаркі — Гену больш, сабе крышачку, на дно, прынесла вады ў белым фарфоравым кубку.

— Гэта спірт, так што глыні і запі вадою, пі, пі,— совала гаспадыня Гену ў руку чарку, бачачы, што сам ён не адважваецца.

Валя Ягадка таксама выпіла сваю кроплю, закусіла скрылёчкам кілбасы, сядзела, глядзела, як есць Гена.

— А ты зайшоў, я думаю — хто ж гэта такі, калі да сына, то чаму мяне пытае, а потым ты кажаш — падругі, я думаю — якой падругі, а потым як цюкнула мне — Ліна! Што ж ты думаеш, гэта ж мы з ёю больш як дваццаць гадоў не бачыліся, каб сустрэліся дзе на вуліцы, і не пазналі б адна адну, і цябе я не пазнала, а цяпер, здаецца, як жа гэта было не пазнаць, мне твая матка фатаграфію тваю прысылала, праўда, ты на ёй яшчэ малы, але падобны... І падобны ты на бацьку, так, адразу, можа і не надта, а як павернешся, як усміхнешся, дык выліты Алёша...

Гена паклаў відэлец, адсунуў талерку, сказаў прыцішана:

— А я ж... Я прыехаў сюды... Хацеў пра бацьку што дазнацца...

Валя Ягадка як спалохалася,— затрывожылася, папраўіла сукенку на прыполе.

— Дзетачка ж мая,— глянула Гену ў вочы,— а што ж ты цяпер дазнаешся? Больш як дваццаць гадоў... Што маці твая знае, тое і ўсе, а маці ж табе, мусіць, расказвала...

Маці, канечне, расказвала Гену, і пра тое, як прыносіў бацька дадому падпольныя газеты, партызанскія лістоўкі, як сам знікаў на дзень, на два, хадзіў на заданні, на сувязь да партызанаў, як раптам навалiліся на іх немцы з вобыскам і арыштавалі бацьку.

— Мама, канечне, расказвала,— адказаў Гена,— але чаму так... У яе нават дакумента няма ніякага... Нават пенсію на мяне палучала не за бацьку, а як маці-адзіночка.

Валя Ягадка развяла рукамі.

— Дык жа, дзетачка,— сумна сказала яна,— немцы ж дакументаў не выдавалі... Калі людзей замучвалі... А той чалавек, з якім меў

сувязь твой бацька, мусібыць, загінуў. Твая матка пайшла была па пенсію за твайго бацьку, дык ёй сказалі — дайце дакумент, што быў сувязны партызанскага атрада, а яна ж не ведала, з якім атрадам Алёша быў звязаны, Алёша ж пра гэта не расказваў, было няможна.

— Я разумею,— згадзіўся Гена.— Ды цяпер жа мне не трэба ніякая пенсія, я сам зарабляю, і маме цяпер нічога не трэба, я так проста... Я ведаць хачу пра яго... Больш хачу ведаць...

Валя Ягадка ўздыхнула, сядзела, схіліўшы на бок галаву, паклаўшы на прыпол цяжкія рукі, з-пад сукенкі недарэчна выпіналіся запыленыя шаравары, загаварыла, як успамінаючы.

— Што ж ведаць... Малады ён быў зусім, мусібыць, такі, як ты цяпер, а мо й маладзейшы... На мандаліне добра іграў, здаецца, і цяпер чую, як ён тою костачкаю па струнах перабірае. Мы, бывала, збяромся ў вас і ўсё гаворым, успамінаем, як да вайны жылі, а потым песні даваенныя пад мандаліну спяваем. Смерць кругом ходзіць, а мы песні спяваем. Ой, цяжкі быў час, не думалі, што і выжывем, а вось выжылі, толькі ён...

Гена ўважліва слухаў, што расказвала Валя Ягадка, яму хацелася, каб яна гаварыла яшчэ, яшчэ, але тая сціхла, і тады Гена наважыўся.

— Разумееце,— пачаў ён,— мне мама расказвала... Тут у вас... не ў самым мястэчку, а недзе на пасёлку жыў чалавек... Ён з бацькам у турме сядзеў, у адной камеры, але бацьку расстралялі, а той вярнуўся, таго нашы вызвалілі... Каб знайсці таго чалавека, мне мама расказвала, ён помніць бацьку, яму бацька яшчэ... Ну, праз яго маме паклон перасылаў, перад самым расстрэлам...

— Праўда? — Валя Ягадка быццам нешта ўспамінала.— Ага, ага,— заківала яна галавою,— твая матка і мне нешта расказвала... А як прозвішча таго чалавека?

— Не ведае мама прозвішча, ні прозвішча, ні адрасу, помніць толькі, што на пасёлку жыў.

— А на якім пасёлку, у нас тут тры пасёлкі, адзін там, дзе калгас, другі каля завода, а трэці за аўтастанцыяй,— закладала Валя Ягадка на руцэ пальцы.

— Не ведаю, на якім, мусіць, на тым, што бліжай, мама казала, што блізка,— адказаў Гена.

Валя Ягадка сядзела, думала.

— Прозвішча каб ведаць,— сказала яна,— без прозвішча цяжка знайсці, цяпер кругом столькі новых людзей, з тых, даваенных, мала і засталося. Ды ты еш, еш, што ж ты талерку адсунуў, можа яшчэ трошкі вып'еш? — узялася яна за графінчык.

— Не, дзякуй,— прыкрыў Гена далоняй сваю чарку,— і есці больш не хачу, дзякуй.

— Дык раскажы, як там матка,— ажывілася Валя Ягадка.— Кватэру маеце? Мінск цяпер, кажуць, прыгожы надта, я там і не бываю, закапалася ў сваёй хаце.

Гену здалося, што гаспадыня хоча адвесці яго ад той, нялёгкай гаворкі, але ён не хацеў адступацца, адказаўшы, што кватэру яны маюць, нядаўна далі, двухпакаёвую. Гена загаварыў зноў.

— А што, каб мне схадзіць на той пасёлак, вы раскажыце мне, дзе ён, а я схаджу, можа людзі ведаюць там чалавека, які пры немцах у турме сядзеў, пакажуць, дзе ён жыве...

— Што ж, можна схадзіць,— не зусім упэўнена адказала Валя Ягадка.— Каб толькі ведаць, які пасёлак... Мы вось як зробім,— зноў ажывілася яна,— ты тут пасядзі, пагуляй, я крышку прыбяруся, і мы з табою сходзім, пашукаем.





Гена ўзрадаваўся — удваіх, канечне, лепей, Валя Ягадка тут усіх ведае.

— Ага, давайце,— ахвотна згадзіўся ён.— Няхай бы той чалавек расказаў пра бацьку... Апошнія дні...

Гаспадыня вынесла ў сенцы талеркі, графінчык, нешта рабіла там, тупала, стукала посудам. Гена сядзеў адзін, устрывожаны, як перад вялікім, важным спатканнем, здавалася, ён скора пачуе, давédаецца незвычайнае, не можа быць, каб яны не знайшлі таго чалавека, што пры немцах у турме сядзеў, яны знойдуць яго і без прозвішча, і без адрасу.

Яны выбраліся, калі пераваліла ўжо за поўдзень. Валя Ягадка канчала перабіраць бульбу, гатавала абед. Гена той час чытаў свежыя газеты, якія прынесла паштарка — «Праўду» і мясцо́вую, «Чырвоны сцяг», потым гартаў альбом і пазнаваў на фотакартках маладую і прывабную, з ямачкамі на шчоках, Валю Ягадку, сярод картак незнаёмых яму людзей убачыў раптам і сваю — калі яшчэ малы быў, гадоў адзінаццаць,— у белай кашульцы, акуратна прычасаны, такая фатаграфія ляжала і ў іхнім альбоме. Перагарнуў на другі бок, там рукою мацеры было напісана: «Дарагой цёці Валі ад Геначкі — во якія мы ўжо вялікія. На ўспамін аб цяжкіх гадах, перажытых разам. Ліна».

У грудзях у Гены раптам нешта як пакацілася, падумалася пра маці з нейкім шкадаваннем,— не ведае, куды ён дзеўся, мусібыць, не спала ўсю ноч, гад ён добры, вось ён хто...

Валя Ягадка нарэшце скінула свае шаравары, апранула чыстую сукенку, зверху светлы плашчык, на галаву завязала празрыстую сінюю хусцінку, і Гена ўбачыў, што яна не такая старая, як здалася яму спачатку. Яна энергічна ішла побач з Генам, глядзела на яго знізу ўверх і гаварыла:

— Я цяпер усё ўспомніла, Геначка, мы ж з тваёю маткаю дружылі, яна мне ўсё расказвала, дык я ўспомніла, што гэта ж яна таму чалавеку, што з турмы вярнуўся, не паверыла, не паверыла, што твайго бацьку расстралялі. Ведаеш, як адразу пасля вайны было — людзям пахаронкі прысылалі, з пячаткаю, з нумарам магілы, а людзі ўсё роўна не верылі, і бывала, што тыя аб'яўляліся, прыходзілі жывыя. Так і твая матка не верыла, думала, а можа твайго бацьку немцы куды вывезлі, ці як што, таму і дакументаў адразу ніякіх не выпраўляла. А каб жывы быў твой бацька, то ён вярнуўся б, ён і з Амерыкі пеша прыйшоў бы, ён жа так тваю матку любіў і ведаў, што ты павінен знайсціся.

— Ага,— ківаў галавою Гена. І яму маці так расказвала, прызнавалася, чаму не распытала ў таго чалавека пра ўсё, як там было. Не верыла, не хацела верыць, а можа баялася пачуць такое, што не пакінула б надзеі?

Яны прамінулі касцёл, ішлі па асфальтавым тратуары ўніз, дзе мястэчковая вуліца пераходзіла ў шашу, бегла за горад. Справа прасціраўся парк, усярэдзіне якога бялеў сценамі мястэчковы дом культуры, злева ўзвышаўся комін завода.

Пасёлак быў адразу за заводам,— абапал незабрукаванай вуліцы, на якой блішчалі лужыны ад учарашняга дажджу, стаялі домікі, амаль аднолькавыя, з шклянымі верандамі, з чыстымі садкамі і агародамі.

— Гэтыя дамы пасляваенныя,— сказала Валя Ягадка,— я добра ведаю, што пасляваенныя, да вайны ў людзей не было за што ставіць такія дамы.

Гену не верылася, што гэтыя дамы пасляваенныя, здавалася, яны век тут стаялі, і яшчэ здавалася, што варта зайсці ў любы з іх — і ім раскажуць, дзе жыве чалавек, што пры немцах у турме сядзеў, не можа быць, каб такога не ведалі.

— Хіба вось гэты даваенны,— сказала Валя Ягадка, паказваючы на дом, складзены з тоўстых бярвенняў. Бярвенні пацямнелі ад часу, а веранда была новая, мусіць, дабудаваная не так даўно, пафарбаваная ў карычневы колер.

Яны пакіраваліся да старога дома, калі ўваходзілі ўжо ў брамку, дзверы веранды адчыніліся і з іх пачалі выходзіць людзі, шмат людзей, мужчыны, жанчыны, вясёлая і шумная гамана.

— Добры дзень! — гучна сказала ім Валя Ягадка.

— Добры дзень, добры дзень,— ахвотна адказвалі адзін за адным людзі.

— Што тут у вас, вяселле, ці што? — падладжваючыся пад вясёлы тон гасцей, спыталася яна.

— А што, вяселле,— адказала маладая жанчына ў зялёным паліто.

Твар у яе быў ружовы, светлыя вочы вільготна паблісквалі, было відаць, што жанчына толькі што ад бяседнага стала.

— Юрачка ў нас знайшоўся,— адказала другая, сухашчавая, у сінім плашчы.

— Дык хрысціны тут? — пыталася Валя Ягадка. Гена засаромеўся незнаёмых людзей, убачыў, што трапілі яны са сваімі роспытамі не ў час, але і адступаць цяпер, мусібыць, няёмка.

— Ну, якія цяпер хрысціны,— адказала жанчына ў зялёным паліто,— проста радзіны.

— Дык гэта добра,— па-свойску гаварыла з незнаёмымі людзьмі Валя Ягадка.— А як тут убачыць у вас гаспадара, ды каб самага старэйшага, што даўно тут жыве?

Вясёлыя, падпітыя людзі з цікавасцю пазіралі на Гену, на Валю Ягадку, іх усё болей выходзіла з веранды на двор, усе добра, па-святочнаму апранутыя.

— А тут гаспадар, во тут,— павяла іх да веранды жанчына ў зялёным паліто.

Выцершы ногі аб драцяную сетку, якая ляжала каля ганка, Гена і Валя Ягадка зайшлі на веранду.

Веранда была прасторная, двое дзвярэй вялі з яе ў хату на дзве палавіны, няйнакш, як у хаце жыло дзве сям'і, можа, бацька аддзяліў сына ці дачку. І на верандзе было нямала людзей, але ўжо, мусібыць, не госці, а гаспадары. Пасярод веранды стаяў пажылы мужчына, высокі, з сухім, крыху ссечаным маршчынамі тварам, з шэрымі ад сівізны валасамі, у шэрай кашулі з белым гузікам пад каўняром.

— Во гаспадар, самы старэйшы,— паказала на яго жанчына ў зялёным паліто.

І гаспадар, і ўсе, што былі на верандзе, з чаканнем і цікавасцю глядзелі на Гену і Валю Ягадку.

— А ці даўно вы тут жывяце? — спытала Валя Ягадка ў гаспадара.

— Я? — перапытаў гаспадар і быццам узрадаваўся, што ў яго спыталіся іменна пра гэта, пачаў гаварыць з ахвотаю і быццам з гонарам:

— Я самы першы тут паставіў дом, да мяне тут была пустка, кругом нікога не было, я самы першы.

— І ў вайну тут жылі? — спытала Валя Ягадка.

— І ў вайну жыў, я ж кажу, самы першы тут паставіў дом, нікога не было...

— То можа вы ведаеце,— пачала Валя Ягадка, і Генава сэрца застыла, чакаў — зараз пачуе, вось зараз,— можа ведаеце, тут недзе ў вайну чалавек жыў, ён пры немцах у турме сядзеў, нашы яго вызвалілі, ён дадому вярнуўся адразу, як нашы прыйшлі, нам гэтага чалавека знайсці трэба...

Гаспадар сціх, задумаўся, і людзі, што стаялі на верандзе, задумаліся, як успамінаючы.

— А як яго прозвішча? — спытаў малады хлопец са светлымі кучаравымі валасамі, ён сядзеў на нізенькім, мусіць, дзіцячым, зэдліку і курыў цыгарэту.

— Не ведаем мы прозвішча, у тым і бяда,— сказала Валя Ягадка.

— Я тут першы паставіў дом,— зноў сказаў гаспадар.— Не, не ведаю такога... Можа, не на гэтай вуліцы, можа ў тым баку, а тут я першы, да мяне нікога не было.— Здаецца, гаспадару найважней было, каб незнаёмыя людзі паверылі, што ён першы тут паставіў дом, быццам чакаў за гэта якой прэміі.

— Можа той, што ў Кутасовых жыў, іхні кватарант,— сказаў малады хлопец.

— А дзе жывуць тыя Кутасовы? — ухапіўся Гена за прозвішча, ён ужо зразумеў, што тут яны нічога не дазнаюцца.

— Што ты мелеш, Кутасовы, Кутасовы,— накінуўся на маладога хлопца, можа, сына, а можа і ўнука, гаспадар.— Не слухайце вы яго,— павярнуўся ён да Гены і Валі Ягадкі,— ён малады, што ён ведае, яго тады і на свеце не было, кватарант да Кутасовых пасля вайны ўжо стаў, і ні ў якай турме ён не сядзеў.

— Дык вы, значыцца, нічога не ведаеце і не чулі нічога, можа, не тут, можа, на другой вуліцы,— не адставала, дапытвалася Валя Ягадка.

— Не, не чуў,— пакруціў галавою гаспадар.— Зайдзіце да Туміловічаў, вунь на той бок, на тую вуліцу,— паказаў гаспадар на гонтавую страху паміж яшчэ голых, шэрых дрэў, якая была відаць праз зашклёную сцяну веранды.— А тут я першы паставіў дом, самы першы.

Яны падзякавалі гаспадару, папрасілі прабачэння за турботу, развіталіся і пакіраваліся да тых дамоў, да той вуліцы, дзе жылі невядомыя ім Туміловічы. Гена не траціў надзеі, хоць першы заход і расчараваў яго, не думаў ён, што людзі скажуць — нічога не ведаем...

Каля ганка хаты Туміловічаў гуляў хлопчык гадоў двух, у сініх тоўстых штоніках, у чырвоным шарсцяным жакецiку, з роўна падстрыжанаю белаю грыўкаю. Дзверы ў хату былі адчыненыя, і калі Гена з Валяй Ягадкай увайшлі ў двор, на парог выскачыла зусім маладая жанчына, падхапіла на рукі дзіця, быццам незнаёмыя людзі маглі зрабіць яму што-небудзь благое.

Гена і Валя Ягадка павіталіся з жанчынаю.

— Скажыце, калі ласка, а ці ёсць у вашай хаце хто-небудзь старэйшы за вас дваіх? — спыталася Валя Ягадка, са спагадлівай усмешкаю паглядаючы то на хлопчыка, у якога яшчэ па-дзіцячы тоўста адтапырваліся шчокі, то на яго зусім маладую маці.

Жанчына, мусіць, зразумела, што незнаёмым людзям прыемна глядзець і на яе, і на яе дзіця, усміхнулася, паказваючы белыя і чыстыя, таксама, як у дзіцяці, зубы, павярнулася ў дзвярах, кіруючыся ў хату, запрашаючы за сабой і незнаёмых.

— А ёсць,— на хаду адказвала яна,— і мама ёсць, і бабка...

Яны ўвайшлі ў пакой, падзелены дашчанаю перагародкаю, за перагародкаю былі відаць засланы белаю капаю ложак, швейная машына. Пры дзвярах, што вялі за гэту перагародку, на зэдліку сядзела пажылая жанчына ў ватовай камізэльцы, у хустцы. Каля стала, пакрытага цыратаю, другая жанчына, маладзейшая, перабірала ў белай місачцы фасолю.

— Во мама,— паказала тая, што прывяла іх, на маладзейшую,— а во бабка,— паказала яна на старэйшую, у камізэльцы і ў хустцы.

Гаворку зноў павяла Валя Ягадка, спытаўшыся, ці даўно яны тут жывуць.

— Мы тутака... Я то... А вось мама,— пачала маладзейшая, але старэйшая перабіла яе.

— У вайну мы не тутака жылі, у вёсцы, але блізка адсюль, кіламетры з два, а пасля самай вайны сюды перабраліся...

Гэта было не зусім тое, што трэба, лепш было б знайсці тых, якія тут у вайну жылі, але мо і гэтыя што чулі, недалёка ж адсюль жылі.

— Можа вы чулі? — Валя Ягадка зноў пачала пытацца пра чалавека, які пры немцах сядзеў у турме, а як прыйшлі нашы — вярнуўся дадому.

Усе тры жанчыны слухалі спагадліва, маладзейшая нават спынілася перабіраць фасолю.

— Не, не ведаю, не чула,— пакруціла галавою старэйшая, быдта шкадуючы, што не ведае, не чула.

— У нас тут у вайну лётчыкава жонка хавалася, то як прылётаў савецкі самалёт, усе казалі, што гэта лётчык жонку сваю шукае,— пачала расказваць маладзейшая жанчына.

— Я вам скажу,— зноў перабіла яе старэйшая,— мы тут у вайну не жылі, пасля вайны перабраліся, дык не чулі...

— Хадзі ж да мяне, хадзі,— выцягнула раптам маладзейшая, бабка хлопчыка, рукі да ўнука, які стаяў каля крэсла і трымаўся за матчын прыпол. Хлопчык ахвотна патупаў да бабы, і тая ўзяла яго, пасадзіла перад сабою на стол, адсунуўшы ўбок місачку з фасоляй.

— Мама, не садзіце яго на стол,— сказала дачка, відаць, перад чужымі людзьмі паказваючы сваю акуратнасць. Бабка зняла ўнука са стала, пасадзіла сабе на калені, але праз хвіліну малы зноў сядзеў на стале, а бабка трымала яго адною рукою за тоўстыя ножкі, а другою гладзіла белую, роўна падстрыжаную грыўку.

— Гэта, ведаеце,— пачала тлумачыць, як апраўдвацца, Валя Ягадка,— хлопец гэты,— паказала яна на Гену,— ягоны бацька сядзеў у турме з тым чалавекам, дык бацьку яго расстралялі, а той вярнуўся... Дык хацеў во сын... Каб расказаў пра бацьку...

Гена адчуў на сабе позіркі жанчын, усе тры глядзелі на яго са спачуваннем, і Гену зрабілася няёмка ад гэтых позіркаў.

— Пойдземце,— паклікаў ён Валю Ягадку.

— Ага,— згадзілася тая.

Гаспадары, здаецца, шкадавалі, што людзі пойдуць ад іх, так нічога і не дазнаўшыся, старэйшая жанчына пачала раіць:

— Вы схадзіце да Місялёў, Місялі і да вайны тут жылі, праўда, іхні бацька стары ўжо надта, сляпы зусім, але мо што чуў, мо што ведае...

— А дзе жывуць тыя Місялі? — спытала Валя Ягадка. Спытала без энтузіязму, відаць, пачала ўжо траціць веру, што дазнаюцца яны

што-небудзь, ды, мусіць, і часу ёй няма,— падумаў Гена,— скора прыйдуць муж з работы, сын са школы.

Маці хлопчыка вывела іх на ганак, паказала, як ісці, каб знайсці хату Місялёў.

На чыстым сінім небе ярка свяціла сонца, зелянела свежая трава, пупышкі блішчэлі на дрэвах — тоўстыя, набрынялыя, вецер прыносіў з поля пах ускапанай зямлі, лёталі, крычалі галкі, усцяж вуліцы ўтульна стаялі акуратныя дамы са шклянымі верандамі, наперадзе ўзвышаўся цагляны комін завода.

— Можа мы не на тым пасёлку шукаем,— сказала Валя Ягадка.— Каб хоць прозвішча ведаць...

Яны зайшлі ў хату Місялёў і яшчэ ў адну хату зайшлі, але і там нічога ім не расказалі.

Гену ўсё больш брала турбота, што ў матчынай сяброўкі свой клопат, а яна ходзіць з ім, нечаканым госцем. Вярнуцца ў мястэчка, заўтра яшчэ пашукаць, аднаму? Але што падумае матка — другую ноч не прыйдзе начаваць. Яму раптам вельмі захацелася дадому.

— Больш нікуды не пойдзем,— сказаў ён Валі Ягадцы.— Не ведаюць тут нічога...

Валя Ягадка засмуцілася.

— Я ж кажу, можа, не там шукаем... Можа, каб мама твая прыехала,— сказала яна.

— Я дадому паеду, дзякуй вам,— сказаў Гена.

— А Геначка,— затурбавалася Валя Ягадка,— чаго ж табе так спяшацца, пагуляй, калі яшчэ сюды прыедзеш, пагасцюй.

Яна глядзела на яго знізу ўверх, яе празрыстая хусцінка крыху з'ехала, валасы выбіліся з-пад яе, і на сонцы было відаць, як шмат у іх сівых.

— Не, паеду,— рашуча адказаў Гена.— Дзякуй вам за ўсё... Зараз пайду на станцыю.

— Ну, як знаеш,— сумна згадзілася Валя Ягадка.

Яны моўчкі пайшлі з пасёлка ў бок шашы, па якой, адсюль было відаць, праязджалі грузавыя машыны, легкавушкі, за шашою стаяў, прыбраны, як жоўтым пухам, стары парк, жоўты пух быццам вісеў над дрэвамі, быццам атуляў кожнае дрэва лёгкім жоўтым воблакам. З нейкага дому вырвалася, гучна палящела музыка, заспяваў моцны жаночы голас:

Любіце Расію, любіце Расію...

— Во вайна, каб ты згарэла,— сказала, мусіць, у адказ на нейкія свае думкі, Валя Ягадка,— пагінулі каторыя, не ведаеш, дзе іх і косцячкі тлеюць.

Гена нічога не адказаў, зразумеў, што гэта пра ягонага бацьку.

Думаў развітацца з матчынай сяброўкаю на шашы, але Валя Ягадка пайшла з ім на станцыю.

— Пасаджу цябе ў аўтобус,— сказала прыцішана.

Зноў пайшлі моўчкі, і Гену няёмка было, што вось турбуе жанчыну, лічы, цэлы дзень у яе адабраў, і нічога яны не дазналіся. Выходзіць, ён дарэмна сюды прыехаў? А можа... Можа і не? Сама ж Валя Ягадка помніць бацьку, бачыла яго, гаварыла з ім... Добра іграў на мандаліне... Гэта Гена ведае,— маці расказвала. Старая аблезлая мандаліна з медыятарам пад струнамі на грыфе і цяпер вісіць у іх у кватэры на сцяне. Спявалі даваенныя песні, успаміналі, як да вайны жылі... Цікава, як гэта ў іх было — вось гэта жанчына прыходзіла да ягонай мацеры, да ягонага бацькі... Цяпер бацькі няма на свеце, а тады яго, Гены, яшчэ не было... Так, як пакуль няма на свеце ягоных дзяцей, а яны ж, мусіць, будуць... І дзеці тых дзяцей... І вечна...



На станцыі Гену пашанцавала, яго аўтобус адыходзіў цераз пятнаццаць мінут, людзей было небагата, і ён свабодна купіў у касе білет, стаяў з Валяй Ягадкай каля невялічкага запыленага аўтобуса, у якім сядзелі ўжо людзі, чакалі адпраўлення.

— Трэба было пагуляць у нас,— гаварыла Валя Ягадка, са шкадаваннем гледзячы на Гену.— Ну, але як знаеш. Мацеры паклон перадай, няхай бы яна калі завітала... Скажы, няхай напіша, я цяпер вальнейшая, адпішу... Калі ж гэта ты дома будзеш? Сёння? Ты глядзі, а некалі адсюль да Мінска трэба было ехаць і ехаць.

Размахваючы пуцявым лістком, са станцыі да аўтобуса ўжо кіраваўся шафёр, і Гена ўзяўся за поручань, паставіў нагу на падножку, падаў Валі Ягадцы руку на развітанне. І Валя Ягадка падала яму руку, а потым абхапіла за шыю, пацалавала ў шчаку раз, другі раз. Гена пачуў пах яе валасоў, пах касынкі ці плашча,— так пахнуць не то трава, не то мыла.

Гена ўскочыў у аўтобус, сеў на сваё месца; стараючыся заглушыць няёмкасць і хваляванне, глядзеў праз акно, як махала яму рукою матчына сяброўка.

Аўтобус паехаў, і Гена азірнуўся: Валя Ягадка яшчэ ўсё стаяла — у светлым плашчы і сіняй хусцінцы, махала яму рукою.

Аўтобусная станцыя, збудаваная з белай цэглы, адзінокая на шашы, аддалялася, аддаляліся людзі і машыны, што заставаліся на ёй, і скора зусім зніклі за паваротКаю.

Гена ехаў тою самаю дарогаю, якою ўчора позна вечарам пад'язджаў да гэтага мястэчка, але сёння дарога не здавалася яму змрочнаю, як учора, наадварот, сёння за акном было светла, прастор залівала сонца і было відаць далёка, аж да гарызонта.

Потым яны ехалі цераз лес, дол у якім засцілалі жоўтыя і белыя вясновыя краскі, да дарогі падступалі празрыстыя на сонцы, абсыпаныя дробным лістам, бярозы.

Яны ехалі паўз ускапаныя тарфянікі, на якіх працавалі трактары, праміналі вясёлыя, залітыя сонцам, домікі з чыстымі, як пасля суботніка, агародамі, шафёр спыняўся і падбіраў школьнікаў, і ад іх у аўтобусе рабілася тлумна і весела.

І настрой у Гены раптам перамяніўся, зрабілася радасна, што ён з'ездзіў у бацькаў гарадок, хоць і не знайшоў таго чалавека. Можа ён яшчэ калі прыедзе, паходзіць па другіх пасёлках... Цяпер ён нават пашкадаваў, што заспяшаўся ад'язджаць, трэба было больш пахадзіць па тых вуліцах, якія здаліся знаёмыя, быццам некалі бачыў іх, як у сне.

І што скажа маці, калі дазнаецца, куды ён ездзіў? Што яна скажа?

Дарогу зноў абступілі бярозы.





**арамаіс саакян**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Людзі

Шматзорны свет!..
Ды людзі, а не зоры
Ішлі з усмешкай да тваёй калыскі.
І дапамогі, літасці, апоры
Заўжды ў людзей прасіў ты —
не ў вятрыскі.

Вячыстасць дрэў!..
Ды на тваім вяселлі
Суседзі выпівалі і спявалі...
Вышынь арліных захапляе веліч,
Ды ўзлёт твой людзі ўсюды акрылялі.

А смерць падступіць да твайго парога,
І смуткам будзе весні дзень азначан—
На іх плячах адправішся ў дарогу,
Не горы — людзі аб табе заплачуць.

Калі ж праз годы памяць загаворыць,
То ўславяць альбо ганьбаю асудзяць
Цябе не дрэвы, не крутыя горы,
Не зоркі і не вецер —
Толькі людзі...

Пераклад Васіля ЗУЁНКА.





**святлана басуматрава**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Знаёмы матыў

Абдымеш матулю, сястрычку цыбатую,
Адзвоняць апошнія чаркі і шклянкі,
І грымне гармонік за крайняю хатаю
Знаёмы матыў — «Развітанне славянкі».
Сяло наша ведае розныя маршы.
У войска ж праводзячы — граюць адзіны,
З якім яшчэ продкі далёкія нашы
Хадзілі у бой за свабоду радзімы.
...Застыне дзяўчына на ўзгорку бярозкаю,
Разыдуцца госці па хатах з гулянкі,
І доўга шчэ будзе кружыцца над вёскаю
Журботны матыў — «Развітанне
славянкі»;
Як мужнасць усіх, што калісь
адыходзілі,
Што йдуць і што будуць яшчэ
адыходзіць,
Як светлая вера усіх, што праводзілі,
Што зараз праводзяць і будуць
праводзіць.

Дзе б ты ні служыў, даляціць к табе
з ветрам
Рамонкавы пах запаветнай палянкі,
І срэбнай струной задрыжыць у паветры
Далёкі матыў — «Развітанне славянкі».
Радзіма мая ад Чыты і да Рыгі
Жыве непагаснаю марай аб міры —
І жоўтыя дзюны, і белыя крыгі
І вечназялёныя кедры Сібіры.
Нашчэнт хай араты варонкі знішчае.
Няхай лебядой зарастаюць зямлянкі.
Хай мір і спакой на зямлі абвяшчае
Адвечны матыў — «Развітанне славянкі».

■

Сярод палёў бяжыць мая дарога.
Валошкі ў жыце, яблыневы сад —
Усё глядзіць даверліва і строга,
Пытаецца: «Ці вернешся назад?»
Апошні раз спынюся — азірнуцца,
Туман, бы сум, лагчыну ахінуў...
Ці ж я магла б ніколі не вярнуцца
У край, дзе бацька мой навек заснуў,
Дзе маці у стракаценькай сукенцы
Немітусліва ходзіць па двары,
Вісіць партрэт дзіцячы мой на сценцы,
Стаіць мая калыска на гары?
Рачулка, лес... Гляджу — не надзіўлюся,
Мне б гучна крыкнуць—ціхенька шапчу:
—Мой краю любы, я яшчэ вярнуся,
Як з вырою бусліха, прылячу.







*уладзімір цыбін*

# ПАХ ДЫМУ

## АПАВЯДАННЕ

Мал. **В. Шрамякова**

Шэры пясок усё сыпаўся і сыпаўся з барханаў, і над імі ўжо ўзыходзіла шэрае, душнае сонца пустыні. Яно ўставала з-за далёкае саксауліны, якая цудам трымалася тут. І хоць сонца было яшчэ ранняе, слабае, але пясок пачынаў распальвацца і пячы вярблюду ў ногі. Вярблюд ведаў, што яму патрэбна дайсці да саксауліны, прылегчы ля яе і няспешна, смакуючы, аб'ядаць кару з гэтага напалову засохлага дрэўца.

Вярблюд быў стары і амаль сляпы, бо той, хто бачыў многа сонца, раней за іншых пачынае бачыць зямлю скрозь туман. Вось чаму ён выцягнуў шыю, спачатку доўга прыглядаўся, каб не падманула яго далечыня, у якой жывуць міражы. Потым ён прагна пачаў прынюхвацца, але ноздры яго ўлавілі толькі сухі, мёртвы пах пяску. А вярблюд добра памятаў, як павінен пахнуць саксаул,— крышку клейка і гаркава, часам ён пахне гарэлым, часам кіславата, як шчаўе.

А цяпер не было ніякіх пахаў. І гэты свет без пахаў рабіў яго бездапаможным. Але вярблюд памятаў інстынктам — трэба ісці, усё роўна куды, але ісці, таму што той, хто ідзе, гіне не так часта; і ён цяжка падняўся і пайшоў, нізка схіліўшы галаву, туды, дзе ля жаўтлява-чорнага бархана ляжала старая, магчыма, пазалеташняя саксауліна. Ногі ступалі няцвёрда, распаўзаліся ўбакі, і было чуваць, як пад імі плыў пясок, а вярблюду здавалася, што зямля стала рэчкаю і цячэ.

Акрамя гэтага балеў левы пярэдні

ступак — гэта зноў разверадзіўся стары шрам ад касы, на якую ён некалі наступіў. Вярблюд не памятаў, калі тое было. Мабыць, яшчэ тады, калі ён хадзіў у караване апошнім — маладыя да пары да часу ходзяць апошнімі, ды рана ці позна і яны становяцца на месца першых і вядуць караваны туды, у душныя афганскія пяскі, але дзе ёсць зялёная лістота, у мякаці якой многа вільгаці, дзе на траве ў перадзорны час ляжыць скупая саленаватая раса.

Але пра ваду вярблюд стараўся не думаць, нават баяўся ўспамінаць, ды і не ведаў, што прыгадваць: ці то калодзеж у Ак-тыш, у якім далёка, на самым дне зямлі, святлеецца гранітна-халодная вада, падобная на белыя каменьчыкі; ці то покліч сырдар'інскай вады, ад якой вільготна нават тут, у самым пекле, якое не церпіць нічога жывога; ці то пяшчоту расы на чымкенцкіх світальных яблынях.

Пра гэта нельга было думаць, таму што памяць заўсёды адбірае сілу. І вярблюд асцярожна пераставіў хворую нагу ўперад, і тут зашчымела так невыносна, што ён прыпаў на пярэднія ногі, а выцягнутая невясёлая пыса яго ткнулася ў пясок. Цяпер можна было ісці наперад толькі рыўкамі.

Вярблюд так і зрабіў. Ён на ўсю моц упёрся заднімі нагамі ў пясок — і рывок! Боль яшчэ мацней працяў нагу, і ён упаў. Цяпер трэба было пalізаць рану, каб халодны, як жалеза, боль пацяплеў, расцёкся па ўсёй назе... Але і ад гэтага не было палёгкі: поўсць на назе нават не намачылася, а засталася па-ранейшаму сухою і жорсткаю. Тады вярблюд зрабіў яшчэ некалькі рыўкоў і апынуўся перад саксаулінаю, даўным-даўно аб'едзенаю ветрам.

Ён паспрабаваў пракусіць яе, але ствол аказаўся жорсткі і нясмачны, як пясок, ад якога непрыемна хрумсціць у роце; тады вярблюд абыякава заплюшчыў вочы, каб не бачыць гэтае саксауліны, абсыпанай пяском і падобнай на пугаўё.

Так ён ляжаў доўга. І праз тоўстыя, густыя вейкі большым і большым бачыўся яму гэты свет, заліты бязлітаснаю чырванню, і замест заспакаення прыйшоў неспакой, што ўсё на гэтым свеце бясконцае, як і ягоны боль.

І тут ён убачыў каля свайго следу вялікі, жаўтлява-шэры цюльпан, нечым падобны на ягоны след.

«Ага, цюльпан,— падумаў вярблюд.— І такі вялікі. Відаць, апошні!» І вярблюд доўга праз вейкі прыглядаўся да цюльпана, супакойваў свой голад. Яму заўсёды падабалася глядзець на цюльпаны вясною, калі пустыня ўспамінала, што і яна некалі была зямлёю; яму падабаўся сонечны колер цюльпанаў, таму што ён не пёк, не сушыў, а быў вільготны і мяккі. Вярблюд любіў есці цюльпаны і не разумеў людзей, якія рвалі іх і нюхалі, а потым кідалі пад ногі. Гэтае і многае іншае пераконвала яго ў неразумнасці і неразумеласці людскіх учынкаў, таму што цюльпаны — самы лепшы ласунак, і іх трэба есці.

Калі ён расплюшчыў вочы, то і на самай справе ўбачыў цюльпан — ён рос у ямцы, і яго напалову замяло пяском. І вярблюд даверліва пацягнуўся па яго пысаю, схапіў губамі, але кветка не падалася, тады вярблюд з усяе сілы рвануў яе, у роце ў яго аказалася жаўтлявая, выгаралая на сонцы анучка сцяжка, якія людзі прывыклі пакідаць на магіле сваіх сяброў.

Гэта была магіла. Вярблюд падхапіўся з месца і кінуўся прэч, забыўшыся на боль, на тое, што трэба берагчы сілу.

Калі боль зноў даняў і трэба было легчы, вярблюд успомніў, што звычайна такія сцяжкі ён бачыў ля караванных шляхоў — дзе менш за ўсё пяску і ветру. І гэта была яго галоўная ўдача дня.



І ад страху перад адзінотаю пайшлі ўспаміны. Прыемней за ўсё было ўспамінаць, як перад апошнім развітаннем Макан ноччу выйшаў з палаткі і гучна паклікаў:

— Мамай!

Вярблюд пачуў сваё імя і падышоў да Макана.

— Гэта ты, Мамай? — спытаўся ён.

Вярблюд таркануўся пысаю ў вялікія, прапахлыя хлебам далоні Макана.

— Ціха, ціха, дурненькі! — сказаў Макан.— Чаго тулішся? На, вазьмі, частуйся!

І Макан працягнуў Мамаю кавалак свежае аладкі, Мамай паволі пачаў жаваць аладку, і Макан цярпліва і доўга гладзіў яго за вушамі і ўсміхаўся:

— Смачна!

І ад гэтага клопату і пяшчоты Мамай пачынаў успамінаць пра сваё сэрца, што яно добрае і адкрытае,— і з чым прыйдзеш да яго, на тое яно і адгукнецца.

Мамай не ведаў, што гэта Макан зайшоў да яго развітацца: раніцою археалагічная экспедыцыя здымалася, Макан павінен быў ісці разам з ёю... І ўсё роўна Мамай успамінае гэтае развітанне, бо так лягчэй разумець чалавечую трывогу і любоў.

А пачалася гэтая гісторыя яшчэ зімою ў абласным горадзе, адкуль павінна была выйсці ў Каракумы археалагічная экспедыцыя. Нехта тады і параіў:

— А ўсё-ткі без вярблюда не абысціся нам. Працаўнік з працаўнікоў! І яды яму амаль не трэба — на самаабслугоўванні.

— О! — падтрымаў гаворку Макан Ібрагімаў, які наняўся ў экспедыцыю рабочым.— Вярблюду сена не патрэбна. Вярблюд сам носіць, сам ходзіць, сам яду здабывае. Хто ваду падвозіць будзе? Вярблюд. Захацелася ўдалечыню паглядзець — узлез на вярблюда і глядзі!

Толя Волкаў, як начальнік усяе гаспадаркі, засумняваўся:

— Яно то так, вядома, але як нам яго да месца даставіць?

— Дайце гэта мне,— папрасіў Макан,— я верхам праз тры дні прыеду! Вярблюд адчувае месца стаянкі, а я пайду за машынамі. Я з вярблюдамі яшчэ з дзяцінства хадзіў. Мой бацька караваншчыкам быў да вайны.

— Ну, тады па руках! — весела засмяяўся Волкаў.

Скора куплены па згоднай цане вярблюд быў у археолагаў. Яго за невясёласць, крыху дзікаватыя нораў і аблезлыя бакі назвалі Мамаем — на страх пустыні і навакольным калючкам.

Удзень Мамай нёс вахту: вазіў ваду ад базы да месца раскопак, перацягваў палаткі з нізінак на больш прыдатныя мясціны, а астатнім часам аб'ядаў калючкі і драмаў ля палаткі Макана, думаў пра тое, што жыццё яго канчаецца нічым не адметным, і яно падобна на сляды ў пустыні, якія замятае адразу ж, і яму хацелася ўбачыць іншых вярблюдаў, каб паверыць у тое, што ён належыць да іхняга роду. Мамаю пачынала здавацца часам, што ён не вярблюд, а чалавек. Ён лавіў сябе часам на тым, што яму хочацца загаварыць, і, галоўнае, людское асяроддзе было зараз яго асяроддзем.

А калі падыходзіў да яго Макан ці Волкаў і ласкава паляпваў па спіне, Мамаю хацелася гэтак жа адплаціць ім ласкаю; і тады ён успамінаў, што ён вярблюд і не можа зрабіць гэтага.

Толькі Жорку Венчыкава Мамай чамусьці недалюбліваў.

— Не магу я зразумець гэту жывёліну,— гаварыў Венчыкаў,— не люблю яго санлівасць. І гэтую неахайнасць. А паглядзіце на яго ганарыстасць! Быццам не ён, а мы гарбатыя.

«Сам ты неахайны і пыхлівы! — падумаў Мамай.— Я хоць і стары, але пяском мыюся: пакачаюся — і зноў чысты». І Мамаю да болю хацелася сказаць усё гэта ўслых, і ад немагчымасці гэтага рабілася яшчэ больш самотна, і ён збіраў сліну і пляваўся.

— Чаму так кажаш? — абурыўся Макан.— Ён многа робіць, многа робіць, многа спіць. Мала есць — шэрсць вылазіць. Многа возіць — сам сябе паважае.

— Пра што там — чэсны вярблюд! — з павагаю абазваўся Волкаў.

І тады вярблюд зноў адчуваў сябе чалавекам і ляжаў ганарліва, з горда паднятаю галавою, як і людзі ў чайхане на свята.

Ноччу над Каракумамі высыпалі зоркі, і аднекуль здаля прабіваўся скрозь адвечную гарачыню ледзь улоўны водар вады.

З усходу цягнула вільготным паветрам, Мамай ведаў, што гэта пах Сырдар'і — шырокай, як пустыня, рэчкі. І тады хацелася стаяць там, на беразе, і глядзець на ваду, бачыць, якая яна жоўтая, быццам ранняя поўня, прынюхвацца, як пахне глінаю, чаротам, затокаю, і думаць, як многа яе — столькі, што, здаецца, хопіць на ўсю зямлю, а яшчэ дзівіцца з дробненькіх плывучых хваль, падобных да барханаў.

Так атрымалася, што асноўнаю работаю Макана стаў догляд вярблюда. І хоць у гэтым нічога крыўднага не было для Макана, яму хацелася ўдзельнічаць у раскопках старажытнага селішча, знаходзіць старажытныя рэчы і па іх разгадваць невядомае, дзіўнае жыццё.

— Нічога, нічога, пацярпі пакуль,— гаварыў Макану Волкаў.— Работа ў цябе патрэбная, а гэта я ўмею цаніць, разумееш? Я зраблю цябе майстрам...

І Макан верыў яму, бо вясёлыя людзі заўсёды мудрыя.

Прадвеснія дні, калі лягчэй за ўсё працуецца сярод пяскоў, кончыліся, і прыходзіў час, калі зацвітаюць цюльпаны,— кароткая і спякотная пара. Волкава выклікалі на нейкі навуковы сімпозіум. Астатняга з размовы Макан не зразумеў.

— Ну, Макан, бывай! — сказаў на развітанне Волкаў.— Бачыш, дарагі, жыццё наша такая штука — усё само тасуе. Ты вярблюда беражы. Разумны вярблюд Мамай і добры.

Так і паехаў Волкаў, а Мамаю здалося пасля гэтага, што ў жыцці яго не стала нечага вялікага і патрэбнага, ён засумаваў, прапала ахвота да работы.

Скора Венчыкаў сказаў, што пераводзіць Макана на раскопкі, а наконт вярблюда заўважыў:

— Гэты вярблюд аварыйны. З яго карысці мала, хай застаецца тут — сам сябе пракорміць.

— Як так!? — загарэўся Макан.— Вярблюд жывы? Вярблюд многа рабіў, га? Вярблюд добры!

— Вось што,— аж перамяніўся з твару Венчыкаў,— я тут начальнік! І я тут загадваю. Тут сур'ёзная навуковая работа, а не заапарк, ясна?

— Вушамі чую, таварыш начальнік, а сэрцам — не,— сумна азваўся Макан. Ён зразумеў, што з вярблюдам давядзецца разлучыцца.



Нават дрэнны чалавек не можа быць без сэрца. Нават калі пастукаешся ў жалезнае, яно адгукнецца. А ў Венчыкава не сэрца, а камячок шэрсці. Хоць і пастукаешся, адказу не пачуеш. Вось так думаў пра Венчыкава Макан, а яшчэ ён думаў: «Венчыкаў шукае старажытныя гарады і паселішчы, і яны, знойдзеныя, будуць для яго заўсёды мёртвымі. Як можа бачыць ён жыццё пустыні па нейкім кавалку пасудзіны, калі ён не любіць пустыні? Яна для яго толькі пясок. А вярблюд перастаў быць цяглаваю сілаю». І Макан яшчэ больш сумаваў, бо з Масквы было загадана спыніць раскопкі і пераехаць у раён, дзе, меркавалася, былі старажытныя аазісы.

Прыйшлі машыны, пагрузілі палаткі, прылады, і археалагічны гарадок рушыў за сотні кіламетраў ад гэтага месца ў пустыню.

— А вярблюд як? — запытаўся Макан.

— Я ж гаварыў! Хай застаецца, ён не патрэбны! — канчаткова адказаў Венчыкаў.— У нас няма для яго асобнай машыны.

— Па законах майго народа нельга пакідаць вярблюда. Ён жывы! У яго душа ёсць!

Ён разумеў, што бесталку даказваць сваю праваду гэтаму чалавеку з камячком шэрсці ў грудзях.

І тады ў Мамая, які хоць і не разумеў, што гаворка ідзе пра яго, сэрца зусім звяла, і ў ім назаўсёды засталася любоў да Макана. Раней была толькі прывычка і давер, а зараз — любоў, бо чалавек не толькі патрабаваў, але і абараняў яго, як слабейшага абараняе мацнейшы.

На старым месцы, дзе нядаўна былі палаткі, засталіся калы ды сякія-такія абломкі прылад і набытку.



Хлопцы пакінулі Мамаю вады, сухароў, цукру — яны таксама былі вінаватыя перад вярблюдам. Нехта ўздыхнуў і сказаў:

— А можа не прападзе ён, хлопцы? У вярблюда разумнае чуццё, я ведаю — ён павінен дайсці да горада.

— Трыста кіламетраў для вярблюда таксама нямала.

— Бывай, Мамай! — ціха сказаў Макан і адвярнуўся, бо не было сілы бачыць шчыры давер у вачах жывёліны.

Апошняя машына кранулася, і Мамай застаўся адзін. Ён не разумеў, што здарылася, патрухаў за машынаю. Тады Макан саскочыў з машыны, вярнуўся, пагладзіў старую разумную пысу вярблюда і сказаў:

— Нічога, Мамай, мы яшчэ ўбачымся. Я вярнуся яшчэ. Я знайду цябе абавязкова!

Мамай пяшчотна лізнуў Макану далоню ў знак таго, што ён любіць яго і верыць у справядлівасць яго любві.

Пясок паволі рухаўся ўслед за ветрам. За ноч ён крыху астываў. Часам удалечыні ішлі клубкі перакаці-поля. Мамай ведаў, што гнацца за перакаці-полем бесталку.

Мамай даўно пакінуў тое месца, дзе былі сцяжкі, і зараз ляжаў каля не паспеўшага яшчэ астыць апоўзня з бархана і прыслухоўваўся да пустыні, бясконцай і адзінокай, як і яго жыццё. Ён разумеў свой сум — гэта ад вечнай акамянеласці неба і роўнага шоргату пяску.

Паволі і цяжка, як і гэты пясок, цяклі яго няспешныя думкі, і яму здавалася, што і думкі знясіліліся, і што яны зараз рассыплюцца на дробныя пясчынкі, як і барханы пад ветрам.

«Гэты пясок таксама стары, як і я,— лянiва думаў Мамай.— Ён паўзе і паўзе некуды, як яшчарка, і не можа адпаўзціся».

І Мамаю стала страшна ад гэтай безнадзейнай працы пустыні. Ён ведаў, што гэтыя думкі яшчэ не раз вернуцца да яго і будуць мучыць болем сэрца.

Мамай разумеў, што зараз, пасля дзесяцісутачнага блукання па пустыні без вады і ежы, яму нікуды адсюль не выйсці. Цяпер яму засталося толькі адно — нюхаць пясок, спадзеючыся, што недзе ў ім засталася якая-небудзь калючка. Але пясок патыхваў попелам — так пахне толькі пасля вялікага пажару. Потым ён выцягнуў шыю і паглядзеў на месяц, які чуць прасвечваўся скрозь шэры, як і пясок, прыцемак неба. Месяц аддаляўся да небакраю, як і перакаці-поле, гэтакі сухі і выпалены. А самому на сябе вярблюд не ўмеў скардзіцца.

Да полудня сонца распалілася дабяла, і вярблюд падняўся на бархан, каб хоць крышку ажывіцца подыхам ветрыку. Ён больш ні пра што не думаў, у галаве яго застыла толькі адна думка пра ваду — белую, чыстую, жывую. Потым зноў найшло забыццё, скрозь якое яму бачылася бела-рыжая вярблюдзіца, яго маці. І Мамаю здавалася, што ён маленькае верблюдзяня і ссе салодка-прыемнае малако, а маці ліжа шурпатым языком галаву. Але гэта была не вярблюдзіца — гэта варушыўся жоўта-белы бархан.

Падвечар пясок падняўся і пайшоў несупынна, нібы сама зямля кранулася з месца і паплыла ў невядомасць.

Мамай устаў, бо ведаў, што калі не ўстане зараз, то потым яму ніколі не падняцца.



Ён пайшоў следам за пяском. Дробныя пясчынкі секлі яму ногі і спіну, і Мамай апусціў галаву, паволі ішоў ад бархана да бархана. Цяпер Мамай зноў забыўся, што ён вярблюд,— у ім прачнулася свядомая чалавечая ўпартасць. А над ім ішло пясчанае неба.

Раптам недзе далёка-далёка наперадзе з'явіліся шэра-запыленыя постаці. Мамай прыгледзеўся і пазнаў Макана і Волкава.

«Хутчэй, хутчэй!» — заспяшаўся ён.

Не спускаючы з вока людзей і правальваючыся ў пясок, ён пабег да іх. Але колькі ні бег, Макан і Волкаў не набліжаліся, а наадварот, аддаляліся ў шэрай каменнай імгле.

«Мабыць, не бачаць мяне, а то пайшлі б насустрач»,— цешыў сам сябе Мамай, пакуль зусім нестала сілы.

Калі Мамай ачуняў, ваколі нікога не было. Толькі змрок і ціша. Пясок спыніўся, крыху спала гарачыня.

Вярблюд доўга глядзеў у той бок, дзе зніклі яго сябры, пакуль не здагадаўся, што гэта быў міраж. У пустыні заўсёды так, калі чаго вельмі захочаш.

Мамай не памятаў, колькі часу ён спаў — толькі ноч ці некалькі сутак. А калі ачуняў, убачыў непадалёку арла. Арол сядзеў на пясчаным гурбяку і мёртвым поглядам цікаваў за вярблюдам.

«Чаго ён глядзіць на мяне, як на мёртвага?» — падумаў Мамай.

Арол убачыў, што вярблюд варухнуўся, адляцеў крыху далей і сеў.

Толькі тады вярблюд заўважыў, што ў арла перабіта крыло.

Так яны доўга прыглядаліся адзін да аднаго. Мамай упершыню ўбачыў так зблізку арлiныя вочы, у якіх нават зараз не было страху, а толькі невясёлы роздум пра сваю долю. Гэта былі вочы паляўнічага. Вочы падарожніка. Вочы, якія прывыклі бачыць далёка.

«Чаго ён так глядзіць на мяне? — падумаў Мамай.— А што, калі я падымуся і пайду?»

Мамай падняўся, паволі пайшоў да арла, тады арол бездапаможна махнуў крылом, пабег, правальваўся ў пясок, падхопліваўся.

Арол бег і не аглядваўся, і вярблюд ведаў, што арол бяжыць у той бок, дзе павінна кончыцца пустыня. Нават арлы баяцца пустыні.

«Чаго ён уцякае ад мяне?» — думаў вярблюд і ўспомніў, што ён, Мамай, глядзеў на арла, як звычайна глядзяць людзі — з цікаўнасцю і роздумам.

Арол уцякаў ад таго чалавечага, што засталося ў вярблюда, і было яшчэ ў ім нешта ад Венчыкава — жорсткае і бездапаможнае.

Так яны ішлі цэлы дзень, арол і вярблюд, потым арол знясілена ўпаў і з глухім бездапаможным клекатаннем чакаў вярблюда. Вярблюд падышоў да яго, паглядзеў журботна і задумліва, і гэта быў чалавечы позірк.

А потым рушыў далей.

Ён ужо ведаў, куды ісці, бо адчуў ледзь улоўны пах гаркавага палыновага дыму. Ступіўшы некалькі крокаў, вярблюд спыніўся: ці то яму было цяжка ісці, ці то ён хацеў пачакаць арла.

Арол падняўся і даверліва пайшоў за вярблюдам.

Так яны і ішлі на пах дыму — птушка і вярблюд, туды, у той бок, дзе была вада, дрэвы і людзі.

Пераклад **Алеся ЖУКА.**



**амар султанаў**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Заўсёды са мной

Вы, горы родныя, заўжды са мною,
Куды б мяне дарогі ні вялі.
І вось таму спакойны я душою —
Са мною вобраз роднае зямлі.

Я ўраз, нібы вясновы дзень, цяплею,
Як толькі ўспомню горныя снягі...
Мой родны край, як ты мне дарагі!
Няма нічога за цябе мілей мне...

...Душа мая, празрыстай ты была,
Нібы ў крыштальным ручаі ільдзінкі.
Не знаў тады ні горычы, ні зла.
Ад сонца ззялі у вачах іскрынкі.

Ды час, нібы рака ў гарах цячэ.
Гады набегі робяць, як заўсёды,
Яны рабуюць маладыя ўсходы,
І скроні мне ўжо сівізна сячэ.

Мая душа даўно ўжо не ільдзінка,
Яна ўжо не блішчыць і не звініць.
Прыбіла к берагу яе, яна прыціхла.
Цяпер я ўсё бялею, як ляднік.

...Не раз мае галіны ўжо трашчалі,
Бо не вярталіся, каго чакаў,
Мае сяброўкі клятвы парушалі,
Губляў я ніці самых важных спраў...

Ды што б ні здарылася,
А прызнацца трэба:
Куды б мяне дарогі ні вялі —
Са мною нашы горы, наша неба
І любы вобраз роднае зямлі.

Бо ад тугі журботнай чалавека,
Якога сцежкі ўдалеч завялі,
Пах дыму бацькаўшчыны —
Лепшы лекар,
Ды жменька роднай матчынай зямлі!

Пераклад Міколы АЎРАМЧЫКА.





**анатол кодру**

*

ПАЭЗІЯ

*

## Пралог да вялікага вытоку

Калодзеж, што струменіць з-пад зямлі,—
Ён чысты, як матчыны слёзы...
Не, гэта не слёзы, выплаканыя па сынах,
Гэта песня бясконца ліецца.

Не, ты п'еш не з вядра драўлянага —
П'еш ты з далоні матчынай
Поўднем гарачым,
Поўднем, што стаіць нерухома,

Як знак дарожны на ростані.
Ці запомніш ты гэты чысты струмень,
Што пахне каменем і клопатам вечным?
Агнём ледзяным, старадаўняй дойнай,
Што ўслаўляе радасці кожнага лета...

Над светам лунае вялікая песня!
І вобраз маці заўсёды і вечна з ёю:
Вядро з крыштальнай жывою вадой
Гойдае яна на далонях,

І вясёлка, як німб, атачае яе.
Бачыш? — зноў і зноў —
Бясконца ўзнімаюцца
Драўляныя вёдры з глыбіняў зямных:
Чэрпаюць, чэрпаюць і нясуць прахалоду
Ясе жыватворных песень.

...І спявае дыван дажджу
Ва ўзгалоўі барознаў,— і гэта
Голас маці, што песню ворыва славіць,
Славіць працу аратых—сыноў, што растуць пад дажджамі.

Праз лёгкія нашы мроі,
Як пража срабрыстая поўні па тонкіх галінках,
Бруіцца матчына калыханка,
І воблік яе — вечна новы і вечна нязменны.

Хто ты, матуля, і кім ты была,
Калі журавы вярталіся з выраю?
Хто ты, матуля, і кім ты была,
Калі неслі сыны твае сонца
На плячы,
Сыходзячы з гор у даліну?

Скажы,
Калі зоркаю ты была,
А калі — баразною?
Калі вінаграднікам шчодрым,
асеннім была ты
І калі — вачыма, дзе ўсе мы адбітак знайшлі?

...Вочы маці, вы падобны
Асенняму мроіву.
Вочы маці, вы ў далечы дальняй
Усё заўважаеце,
Вы знаеце ўсё пра сыноў
І вучыце іх з дакорам маўклівым...

Ёй прыносім мы сёння
Вянкі з каласоў:
Хай ценем вячэрнім ахінаюць ёй галаў,
Уплятаюцца золатам хай у сівыя яе валасы.
Чую:
Пальцы яе разліваюцца
Па чупрынах сыноў, быццам ліўні па свежых травах.

Гэта ўсё, што належыць свету, а таксама і мне:
Толькі маці —
Толькі песень і слёз
Перапоўненае вядро...

Пераклад Васіля ЗУЁНКА.







*уладзімір каянта*

# РОДНЫ ВЕЦЕР

## НАВЕЛА

Мал. В. Цярэшчанкі

Талвал, папраўляючы за спіной груваткі іміт [1], цяжка ўзыходзіў на круты пагорак, вяршыня якога залацілася ў раннім сонцы. Мяшок ціснуў на плечы. Па скуластым твары хлопца градам каціўся пот. Але ён не адчуваў стомы: водар апошніх кветак надаваў сілы, а ўперадзе — уперадзе быў ягоны дом!

Насустрач, з вяршынь срабрыстых хрыбтоў, павяваў лёгкі ветрык, здуваў надакучлівых камароў і мошак, заганяў іх у траву і кусты. Павевы ветру, лёгкага і ласкавага, нагадвалі Талвалу пахі роднай зямлі.

З вяршыні пагорка адкрывалася шырокае поле, скрозь у ягелі, а далей за ім была яшчэ адна сопка.

«Кіццеплан,— пазнаў яе Талвал.— Дом зусім побач!»

Ён скінуў з плячэй мяшок, выцер з твару пот і мякка апусціўся на зямлю. І цяпер, як ніколі, здалося Талвалу, што гэта не ён сярод красак і кусцікаў, а яны прыхінуліся да яго, шапталі пад ветрыкам свае вітанні, радаваліся за яго, першага карацкага доктара, віталі з вяртаннем дамоў.

Стаяў жнівень, любімая пара Талвала. У жніўні многа чыстых сонечных дзён, шмат яркіх красак, а галоўнае — паляванне!

Ён заплюшчыў вочы...

Вось яны з дзедам і бацькам гоняць да мора аленяў — там няма ка-

[1] Іміт (карацкае) — мяшок.

мароў, аваднёў ды іншай заедзі. А на беразе многа-многа ракавінак. У дзяцінстве Талвал любіў збіраць рознакаляровыя ракавінкі на ўпрыгожванне кухлянак маці. Збіраючы ракавінкі, Талвал любіў гуляць у дагонкі з марскімі хвалямі. Хутка бегаў Талвал, самае жвавае аленянятка даганяў маленькі пастушок.

А гэта...

Гэтага Талвал ніколі не забудзе, яно заўжды перад вачыма... Даўно, у сорак дзевятым, Талвал, сын знакамітага пастуха Дзількіні, іх вялікі сябар Адольф Вільгельмавіч Розе з праваднікам Ютты ішлі ў далёкае роднае стойбішча бацькі — там памірала маці хлопчыка.

Моцна прыспешваў праваднiка Талвал, але дарэмна: маці памерла ўдзень, пакінуўшы яму маленькую сястрычку. А яны з доктарам Розе патрапілі дамоў толькі ноччу. У стойбішчы было ўжо шмат людзей з суседніх юрт і зямлянак.

Маці ляжала ў пярэднім полагу. Ён быў апушчаны. Недзе сумна бубніла бабуля Кутна, пасылаючы свае праклёны злым духам. Іншыя жанчыны сядзелі цесным кругам і шылі керкер [1] са шкуры белага алення — такім павінен быць убор жанчыны, якая ідзе ў «верхнюю тундру». Мужчыны сядзелі каля ўваходу і рабілі новыя аргізы [2]. Жанчына, якая адыходзіць у «верхнюю тундру», павінна ехаць на новых аргізах — так завяшчалі продкі, так рабілася і тады.

Над агнём вісеў вялікі медны кацёл, у якім варыліся тлустыя кавалкі мяса. Каля катла завіхалася бабка Талвала Лікі. Талвал прыпомніў: кінуўшы ў кацёл вялікі кавалак алеціны, бабка паклікала яго да сябе і гучна, каб пачулі ўсе, сказала:

— Схадзі, сынку, да мора, прынясі прыгожых ракавінак. Твая маці любіла, калі ты іх дарыў ёй. Мы ўпрыгожым яе керкер тваімі ракавінкамі. Толькі хутчэй, сынку, твая мама чакае! — Бабка прыўзняла полаг, выпускаючы ўнука на двор.

Талвал выскачыў з юрты і стрымгалоў памчаўся да мора. Тады, як і цяпер, быў сонечны дзень. Тады, як і цяпер, дзьмуў лёгкі ветрык. Толькі тады вецер падганяў яго, паўтараючы словы бабкі: «Хутчэй, сынку, мама чакае!»

Ён бег на тое месца, дзе некалі з маці яны разам збіралі ракавінкі. Яму было горка, слёзы каціліся з вачэй. Ён глытаў іх разам з крыўдай і болем. А вось і бераг. Ён упаў на калені, пачаў поўзаць па гальцы. Каменні рэзалі яго калені і далоні, але ён не чуў гэтага болю. Вось ужо ракавінак поўная маленькая жменька. Ён здымае пелюк-шапку і высыпае іх туды.

Мора сваволіць. Хвалі так і дражняцца з хлопчыкам, клічуць пабегаць з імі наперагонкі. Але яму не да гэтага. Ён поўзае за адліўной хваляй і збірае ў шапку прыгожыя ракавінкі. Самыя прыгожыя! Цяпер толькі яны патрэбны яму. Вось і пелюк повен. Талвал, як спрытнае аленяня, мчыць да юрты. Каля юрты ўжо стаяць новыя аргізы.

— Спазніўся! — вырваўся яго роспачны крык, але хлопчыка супакоіла бабуля:

— Оккой! Екке-кун! Сынок!

Разам з бабуляй здзівіліся і жанчыны і ўзяліся нанізваць ракавінкі на жыльныя ніткі. І Талвал быў задаволены больш за ўсіх — ён жа выканаў самую апошнюю просьбу маці...

Керкер гатовы. Мужчыны і жанчыны селі ў круг і сталі, прыгаворваючы, гучна плакаць. Талвал спалохаўся, зашыўся ў самы куток по-

[1] Керкер (карацкае)—ніжняя футравая вопратка жанчыны накшталт камбінезона.
[2] Аргізы — сані, у якія запрагаюць аленяў.





лага, каб не чуць страшных галашэнняў. Старая Кутна біла ў бубен і цягнула сваю шаманскую песню. Праз некаторы час у полагу сціхылася, толькі старая Кутна ўсё яшчэ галасіла. А бабка Лікка пачала частаваць усіх тлустымі кавалкамі мяса. Елі ўсе многа, таму што добрай была тая, што адышла ў «верхнюю тундру».

Скончыўшы з ядой, бабуля і іншыя жанчыны пачалі збіраць нябожчыцу: адзелі на яе новы керкер і паклалі яе на новыя аргізы. Падвялі двух самых моцных і хуткіх ездавых аленяў. Два незнаёмыя пастухі ў гэты час майстравалі вароты каля юрты — праз іх паедзе тая, што адышла к «верхнім людзям». Затым да аленяў падышоў бацька і накінуў збрую:

— Яна згодна ехаць! — Ён выцяў харэем па галаўным аленю, і тыя адразу ж узялі бег і праляцелі ў вароты. Следам прайшлі ў вароты ўсе госці і родныя.

Бабуля прыцiснула Талвала да сябе:

— У «верхнюю тундру» адыходзіць твая маці, пойдзем праводзіць.— Яна ўзяла ўнука за руку і правяла ў вароты...

Цела маці палілі на вяршыні Кіццеплана. На высокай горцы з сухога кядроўніку ляжала яна ў беласнежным керкеры. Спачатку падышоў дзядуля і запрасіў двух пастухоў-гасцей, тых, што майстравалі вароты, даў ім вострыя нажы.

Пастухі спрытна ўзабраліся на кедравую горку і пачалі нешта хутка рэзаць. Талвал заплюшчыў вочы і ў страху прыціснуўся да бабкі.

— Калі яны не зробяць гэтага, то твая маці будзе незадаволена намі і ўстане...

Да горкі дроў зноў падышоў дзед Каянта і сказаў:

— Хто зможа распаліць з адной запалкі касцёр — атрымае лепшых аленяў нябожчыцы. Так пажадала яна...

Адзін з двух пастухоў паднёс запалку, і кядроўнік успыхнуў, затрашчаў і неўзабаве ператварыўся ў вялікі палаючы шар.

Талвал ачнуўся, калі дзядуля раскідваў па ветры попел, а два пастухі ставілі трыногу з жэрдак і начаплялі на яе маленькі мяшэчак з нерпічаў. У гэты мяшэчак бабуля паклала прыгожы фарфоравы кубак, грабеньчык, нож...

— Няхай тваёй маці будзе добра там, у «верхняй тундры», як было добра тут, на зямлі, у тундры бацькоў.

Затым усе моўчкі ішлі да юрты, праходзілі ў тыя ж самыя вароты. Каля ўваходу ў юрту стаяла Кутна з бубнам і шаманіла, адганяючы ад усіх «злых духаў». Дзве бабулі з суседняй юрты моцна білі ўсіх, хто ўваходзіў, вярбовымі палкамі. Бабуля растлумачыла:

— Мы былі ў «верхняй тундры», а цяпер спусціліся ўніз, нас ачышчаюць.

Каля ўваходу стаялі вялікія медныя тазы з цёплай вадой. Усе апалосквалі ў іх рукі і заходзілі ў юрту. У юрце пачыналася жалобная вячэра.

...Напамінак праляцеў, як сон. Талвал уздрыгнуў ад гэтага напамінку. Не, ніколі не будзе больш, каб карацкая жанчына памірала ад родаў. Ён доктар, ён будзе дапамагаць новаму жыццю. Ён будзе працаваць у Чырвонай яранзе, ездзіць па табунах і качэўях тундры, будзе лячыць сваіх землякоў...

Узваліўшы на плечы цяжкі іміт, Талвал хутка пакрочыў да сяла. А вось і Кіццеплан! Талвал, пакінуўшы на дарозе мяшок, збочыў да горкі і пабег да свяшчэннага месца. Тая ж трынога. А на ёй новенькі мяшэчак з рэчамі маці. «Бабка Лікка,— здагадаўся Талвал.— Такія ўзоры можа вышываць толькі яна».

Ён нарваў кветак агністага кіпрэю і паклаў іх каля трыногі на зямлю.

Пераклад Уладзіміра ПАЎЛАВА.





юрка голуб



ПАЭЗІЯ



## Камсамолу

Яму — прастор. Яму — разгон.
Не скваплівы на заробак,
Заходзіў весела ў вагон
Адлегласць браць на пробу.
Яснелі вочы — напавал!
Калі вітацца меўся,
Руку паціснe, як каваль,
Каб цепліласся месяц.
Радзіму змоладу бярог
З-пад зор асенніх родам.
Садзіў ёй дрэвы ля дарог,
Вадзіў наперад роты.
Шынелак шэрага сукна
Не раз крывёй барвовеў...
...Злятала зорка звысака
На помнік у дуброве.
На лёс нідзе не наракаў.
І з поля ці квартала
Сынкоў старэйшая рука,
Нібы раўню, вітала.

## У жніво

Цяля вільготнай пысай
Траву сабе дзяўбе.
Сядзіць цалюткі дзень
У канторы пісар.
Калгаснае праўленне
Пустое, як царква.
І тэлефоны два,
Што звоняць паралельна.
Так спешна камбайнёрам
У спелае жніво.
А з сілаю жывой
Гарачы ў жніўня нораў.
А ручаю адгул
У збранзавелых вольхах.
Над жнеярамі вольны
Аблокаў белы гул.
У цень ідзе палудзень,
Мурзаты, малады.
Не мець жа нам бяды —
Раслі б жыты і людзі...



***галіна каржанеўская***

*

ПАЭЗІЯ

*

■

Не маем права
драбнець душой
У гэткі вялікі час.
Не маем права.
Ў сабе самой
Шукаю адбітак вас —
Мае аднагодкі, мае сябры,
Тыя, хто паспытаў,
Як асвяжае усплеск зары
Перад гарачкай спраў;
Тыя, хто ведае
працы ўздым,
Стомы салёны смак.
Вашы гады
і мае гады
Клопат адзін прасяк:
Толькі б не выпаў
з жыцця ні дзень
І не растаў, як снег.
Інакш — апраўданне дзе
Вам
і мне?

■

Будуюць дарогу
пад ногі і колы,
Пад смелую хуткасць
і тупат вясёлы,
Пад пільнасць вачэй
і нястрыманасць
спеваў...
Будуюць дарогу
прамую, як дрэва.
Машына-памочніца
жменяй адзінай
З узгорку пясок выграбае
і гліну,
Пласт за пластом
агаляе на зрэзе:
Шэры, і жоўты,
і колеру медзі,
Гэткі, як спіны
у хлопцаў-рабочых.
Я ўжо у думках
дарогаю крочу,
Тою — блакітнай,
імклівай, як хваля,
Тою, што юныя рукі
праклалі...





Да 250-годдзя з дня нараджэння

Грыгорый СКАВАРАДА

# АФАРЫЗМЫ

● Хто думае пра навуку, той любіць яе, а хто яе любіць, той ніколі не перастае вучыцца, хоць знешне ён і здаецца бяздзейным.

● Празмернасць спараджае перасыць, перасыць — нудоту, а нудота — душэўную тугу, а хто на гэта хварэе, таго не назавеш здаровым.

● Што можа быць саладзейшым за тое, калі цябе любіць і прагне сустрэчы з табою добрая душа!

● Ты не можаш знайсці ніводнага друга, каб не прыдбаць разам з ім і двух-трох ворагаў.

● Не ўсё тое атрута, што непрыемнае на смак.

● Бяры вяршыню і будзеш мець сярэдзіну.

● З усіх страт страта часу найцяжэйшая.

● Неразумнаму ўласціва шкадаваць страчанае і не радавацца тым, што засталося.

● О, калі б мы ў ганебных справах былі такія ж сарамлівыя ды баязлівыя, як мы часта бываем баязлівыя ды памылкова сарамлівыя ў справах прыстойных!

● Вызначай смак не па шкарлупіне, а па асяродку.

● Мала таго, што будзе ззяць сонца, калі святло галавы твае затуманена.

● Недахопы сяброў мы павінны ўмець выпраўляць або цярпець тады, калі яны не сур'ёзныя.

● Няма нічога больш небяспечнага, чым хітры вораг, аднак няма нічога больш атрутнага, чым той, хто прыкідваецца другам.

● Збяры ў сабе свае думкі і там шукай сапраўднага шчасця. Капай у душы сваёй крыніцу для тое вады, якая аросіць і тваю сядзібу і суседскую.

● Для чалавека высакароднага няма нічога цяжэйшага за пышны банкет, асабліва калі першыя месцы на ім займаюць людзі пустыя.

● Як лекі не заўсёды прыемныя, так і праўда бывае суровая.

● У каго душа баліць, таму ўвесь свет плача.

● Як неразумна выпрошваць тое, чаго можаш дасягнуць сам!

● Калі я не змагу нічым паслужыць любай бацькаўшчыне, дык у кожным выпадку буду як мага старацца ніколі ні ў чым ёй не шкодзіць.

● Дэман супраць дэмана не сведчыць, воўк воўчага мяса не есць.

● Калі рыба злоўлена, на яе ўжо не трэба прынады.

● Не любіць сэрца, не бачачы красы.

● Ці можа чалавек, сляпы ў сваёй хаце, стаць відушчым на рынку!

● Хіба ж можа гаварыць пра белае той, каму не вядома, што такое чорнае!

● Што з таго, калі лісток знешне зялёны, але корань пазбаўлены жыццёвага соку!

● Веру, што больш ласкавасці мае ў сваіх салодзенькіх словах ліслівец, чым бацька, калі ён карае, і што фальшывая пазалота блішчыць прыгажэй за сапраўднае золата... Аднак прыгадай сабе прыказку: «Выхваляўся грыб прыгожай шапкаю, ды што з таго, калі пад ёю галавы няма».

● Не ўсё тое несапраўднае, што недасяжна для дзіцячага розуму.

● Цень яблыні не замінае.

● Матэматыка, медыцына, фізіка, механіка, музыка са сваімі сёстрамі — чым глыбей мы іх пазнаем, тым мацней паляць сэрца наша голад і прага.

● Хто добра загарэўся, той добра пачаў, а добра пачаць — гэта напалову завяршыць.

● У тых, хто нізкі душою, найпрыгажэйшае з напісанага і сказанага робіцца найгоршым.

● Не розум ад кніг, а кнігі ад розуму стварыліся.

● Няўжо ты не чуў, што сыны веку мудрэйшыя за сыноў дня!

З украінскай мовы пераклаў
**Янка БРЫЛЬ.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА







Генадзь АНЦІПАЎ,
сакратар ЦК ЛКСМБ

# СТВАРАЛЬНЫ ПОЧЫРК МАЛАДОСЦІ

Мы адзначаем гэты юбілей як свята яднання, дружбы, братэрства ўсіх нацый і народнасцяў нашай Радзімы, згуртаваных адзінай мэтай — будаўніцтвам камунізму. Пяцьдзесят гадоў пад мудрым кіраўніцтвам ленінскай партыі дружнай, маналітнай сям'ёй народы-браты будуюць, умацоўваюць і абараняюць сваю вялікую Радзіму — Савецкі Саюз.

Першая ў свеце шматнацыянальная дзяржава раўнапраўных і суверэнных нацый была створана мудрасцю партыі, геніем Леніна, рэвалюцыйным энтузіязмам вызваленых народаў. І на ўсіх этапах вялікага шляху барацьбы за пабудову і ўмацаванне нашай краіны побач з камуністамі заўсёды былі іх надзейныя памочнікі — камсамольцы.

Мы ніколі не забудзем першых камсамольцаў, іх справы і мары. Рэвалюцыя сажнёвымі крокамі ішла па краіне. І тыя, каго яшчэ ўчора вадзіла маладосць у шабельны паход, узяліся за рыдлёўкі, падручнікі. «Наш паравоз — удаль ляці», — гэтыя словы сталі крылатым дэвізам юнакоў і дзяўчат, што ехалі ўзводзіць новыя фабрыкі і заводы, пракладваць дарогі.

Больш як 18 тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат працавалі на будаўніцтве Сталінградскага трактарнага завода, Днепрагэса, у шахтах Данбаса, узнімалі да сонца горад юнацтва — Камсамольск-на-Амуры, узводзілі першую ў нашай рэспубліцы дзяржаўную электрастанцыю — БелДРЭС.

Гэта былі пераможныя вехі на шляху еднасці і братэрства народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы.

Усяго за адзін год была пушчана першая чарга Магілёўскай фабрыкі штучнага валакна. Узоры рэвалюцыйнай працы побач са старэйшымі таварышамі, камуністамі, паказвала моладзь. Гэты час нарадзіў цудоўнае сузор'е камсамольцаў-герояў, ударнікаў працы. Імёнамі першых стаханаўцаў Беларусі Дзмітрыя Сямёнава, Лізы Маляўскай, Міхаіла Пазнякова, Соф'і Рачок ганарыцца не толькі беларускі камсамол, але і ўся наша краіна.

У гады калектывізацыі самымі актыўнымі прапагандыстамі, арганізатарамі калгасаў былі камсамольцы. Яны змагаліся з кулацкімі бандамі, смела ламалі старыя звычкі. Сярод першых трыццацітысячнікаў, якіх партыя паслала ў вёску ўзначальваць калгасы, было шмат выхаванцаў камсамола. Вось характэрны дакумент таго часу: «Мы, камсамольцы Луганскай ячэйкі Гомельскага раёна, у падарунак з'езду камсамола Беларусі стварылі калгас імя X з'езда ЛКСМБ. Мы абяцаем з'езду, што з яшчэ большай настойлівасцю і камсамольскім энтузіязмам будзем змагацца за большае ўцягненне працоўнага насельніцтва ў рады новых калгасаў, за поўнае выкананне планаў трэцяга года пяцігодкі». Палымяны патрыятызм, любоў да сваёй Радзімы — вось самая характэрная рыса камсамольцаў і моладзі тых часоў.

Пад кіраўніцтвам партыі юнацтва краіны Саветаў расло ідэйна перакананым, мужным, гатовым выканаць любое заданне Радзімы.

Нашэсце фашысцкай Германіі на Савецкі Саюз прыпыніла мірную стваральную працу савецкага народа.

Фашысцкія захопнікі з першых дзён вайны адчулі моц і непарушнасць нашай дружбы, трываласць нашага ладу. Усе — і старыя і малыя, усе народы нашай каіны ўзняліся на абарону заваёў сацыялізму. Яркую старонку ўпісалі беларускія камсамольцы ў агульны летапіс гераічнай барацьбы. Беларусь стала рэспублікай-партызанкай. Больш 100 тысяч камсамольцаў змагалася на франтах, амаль столькі ж — у партызанскіх атрадах і ў падполлі. Імёны многіх з іх ведае зараз уся наша краіна. Гэта Мікалай Кедышка, Міхаіл Сільніцкі, Ефрасіння Зяньކова, Марат Казей, Зінаіда Тусналобава і іншыя.

Кожная пядзя беларускай зямлі — гэта памяць аб подзвігах і мужнасці. Назаўсёды ў баявы летапіс камсамола ўвойдуць справы юных партызанаў і падпольшчыкаў Мінска, Гомеля, Обалі, Асінторфа, Скідэля, Ліды і іншых гарадоў і вёсак рэспублікі.

На франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскіх атрадах і ў падполлі баявую праверку на трываласць і надзейнасць праходзіла сяброўства народаў розных нацыянальнасцяў. Рускія і беларусы, казахі і туркмены, латышы і ўкраінцы — усе народы нашай неабсяжнай краіны ішлі побач і перамаглі. Мы заўсёды будзем памятаць імёны тых, хто змагаўся з ворагам на беларускай зямлі: ленінградкі Героя Савецкага Саюза Зінаіды Партновай, сакратара Татарскага АК ВЛКСМ Івана Заікіна, асяціна Асмана Касаева, масквічкі Алены Колесавай і многіх іншых.

Скончылася вайна. Савецкі народ прыступіў да аднаўлення разбуранай гаспадаркі. 9.200 вёсак было спалена, загінуў кожны чацвёрты жыхар Беларусі. Эканоміка рэспублікі была адкінута на ўзровень 1913 года. У гэты цяжкі час уся Савецкая краіна працягнула руку братняй дапамогі нашай рэспубліцы. У вызваленую Беларусь ішлі эшалоны з прадуктамі, тэхнікай, будаўнічымі матэрыяламі. Штодзённа адчуваючы дапамогу ўсяго савецкага народа, беларусы залечвалі раны, нанесеныя вайной. І як заўсёды, у адным страі з камуністамі былі камсамольцы. У салдацкіх шынялях і гімнасцёрках яны ішлі на самыя цяжкія і адказныя ўчасткі будаўніцтва. Ім даводзілася зноў прывыкаць да рабочага інструменту, асвойваць новыя мірныя спецыяльнасці. І калі з руін і папялішчаў узнімаўся новы жылы дом, новы завод або новая школа — радасць іх была бязмежная.

«Хутчэй адновім сталіцу Беларусі — наш родны Мінск», «Зробім Гомель яшчэ прыгажэйшым, чым да вайны!» — гэтыя лозунгі былі заклікам, працоўным набатам. У гарадах і вёсках ствараліся камсамольска-маладзёжныя будаўнічыя брыгады, брыгады па зборы і рамонце сельскагаспадарчага інвентару, нарыхтоўцы і вывазцы лесу. Па камсамольскіх пуцёўках ехалі на новабудоўлі ўчарашнія франтавікі. Гэта яны ў 1946 годзе пачалі будаўніцтва новых індустрыяльных гігантаў рэспублікі — аўтамабільнага і трактарнага заводаў. А ўсяго за чатыры гады першай пасляваеннай пяцігодкі камсамол Беларусі накіраваў на новабудоўлі, фабрыкі, заводы і транспарт 80 тысяч юнакоў і дзяўчат. 16 тысяч маладых беларусаў паехала аднаўляць Сталінград, шахты Данбаса.

Не толькі ворагі, але і сябры здзіўляюцца: як змог беларускі народ за такі кароткі перыяд не толькі аднавіць разбураную вайной гаспадарку, але і зрабіць такі



Ларыса Ермаковіч працуе на Мінскім мотавелазаводзе і вучыцца завочна ў Мінскім палітэхнікуме.

Крочыць спартыўнае юнацтва.







Камсамольцы механічнага цэха Гомельскага завода вымяральнай апаратуры.

Харэаграфія — адзін з самых папулярных відаў самадзейнага мастацтва нашай моладзі.



рашучы, упэўнены крок наперад? Мы адказваем ім: у гэтым і ёсць сутнасць дружбы братніх народаў Савецкай дзяржавы. «Усё, што створана ў рэспубліцы, — сказаў на XXIV з'ездзе КПСС першы сакратар ЦК КПБ тав. Машэраў П. М., — увасабляе ў сабе сукупную працу, выпраменьвае жыватворную сілу і цяпло брацкага ўзаемаўзбагачальнага супрацоўніцтва ўсіх народаў нашай шматнацыянальнай Радзімы». Колькі магутных гігантаў прамысловасці вырасла ў рэспубліцы за пасляваенны перыяд, колькі нарадзілася новых гарадоў! Салігорск, Светлагорск, Жодзіна, Белаазёрск, Наваполацк... Іх называюць гарадамі дружбы і маладосці, бо па ўзросце сваім яны яшчэ вельмі юныя, будавала іх, жыве і працуе там моладзь дзесяткаў народаў нашай краіны.

Велічныя працоўныя здзяйсненні камсамольцаў і моладзі 50—60-х гадоў. 33 тысячы беларускіх юнакоў і дзяўчат па закліку партыі і камсамола адправіліся на цалінныя землі. Яны ведалі — цяжка будзе ў неабжытых мясцінах, але няўрымслівае юнацтва, камсамольскае сумленне клікала іх у дарогу.

Працаваць па-ўдарнаму — выдатная традыцыя нашай слаўнай камсамоліі. Свой запал і энергію яна прынесла на будоўлі Бярозаўскай ДРЭС, Полацкага нафтаперапрацоўчага завода, Салігорскіх калійных камбінатаў, Светлагорскага завода штучнага валакна, хімічных заводаў у Гомелі і Гродна.

На ўдарных камсамольскіх будоўлях, як у сапраўдным горніле, загартоўваецца характар маладых, выхоўваюцца рысы гаспадара, чалавека, які адказвае за плён сваёй працы.

Моладзь заўсёды ў пошуку, у творчай, стваральнай працы. «Цяжка нават уявіць сабе такі ўчастак гаспадарчага і культурнага будаўніцтва, — гаварыў на XXIV з'ездзе КПСС Л. І. Брэжнеў, — дзе не знаходзілі б прымянення энергія, творчасць і няўрымслівасць камсамольцаў».

Высокая ацэнка партыі натхняе моладзь на новыя працоўныя поспехі. Многія камсамольскія арганізацыі рэспублікі сталі ініцыятарамі новых пачынаў: «Пяцігодку — за чатыры гады», «Ніводнага адстаючага побач», «Ад тэхмінімума да тэхмаксімума». Намаганні юнакоў і дзяўчат накіраваны на развіццё навукова-тэхнічнага прагрэсу, павелічэнне фонду эканоміі, барацьбу за павышэнне прадукцыйнасці працы, якасці выпускаемай прадукцыі.

Шмат цікавых спраў на рахунку камсамольскіх арганізацый Мінскага трактарнага завода, Гродзенскага хімкамбіната імя Прытыцкага, Гомельскага швейнага аб'яднання «Камінтэрн», Брэсцкага электрамеханічнага завода. Добра зарэкамендавалі сябе ў апошнія гады студэнцкія будаўнічыя атрады. Толькі на тэрыторыі Беларусі іх рукамі ўзведзены дзесяткі школ, бальніц, дамоў культуры на сяле. Беларускія студэнцкія будатрады ўзводзілі пасёлкі і народнагаспадарчыя аб'екты ў Сібіры, на Далёкім Усходзе, Крайняй Поўначы. Побач з імі працавалі рускія і ўзбекі, татары і ўкраінцы, армяне і літоўцы. І гэта яшчэ адно сведчанне дружбы савецкіх народаў.

Рашэнне галоўнай задачы пяцігодкі і павышэнне матэрыяльнага і культурнага ўзроўню жыцця народа знаходзіцца ў прамой залежнасці ад павышэння эфектыўнасці грамадскай вытворчасці. Выконваючы гэту задачу, маладыя рабочыя круцільна-матальнага цэха Гродзенскай баваўняна-прадзільнай фабрыкі вырашылі: «Пяцігодку — за чатыры гады!» Больш як пяць тысяч юнакоў і дзяўчат Брэсцкага электрамеханічнага завода сталі паслядоўнікамі маладога камуніста прадпрыемства Барыса Юзафовіча, які ўзяў абавязацельства асабістую пяцігодку завяршыць на год раней тэрміну, а заданні пяці дзён выконваць за чатыры. Яшчэ больш высокія абавязацельствы ў токара Мінскага трактарнага завода Мікалая Няверкі, які вырашыў выканаць пяцігодку за тры з паловай гады — да 50-годдзя прысваення камсамолу імя У. І. Леніна. Новыя павышаныя абавязацельствы ўзялі хімікі Наваполацка, шахцёры Салігорска, працаўнікі «Лаўсанбуда» і нафтавікі Рэчыцы, жодзінскія аўтамабілебудаўнікі, віцебскія ткачы.

Паўсюдна распрацоўваюцца канкрэтныя праграмы ўдзелу моладзі ў выкананні новага пяцігадовага плана, тэхнічнага пераўзбраення вытворчасці, павышэння прафесійнага майстэрства юнакоў і дзяўчат. Горача падтрымалі камсамольцы і моладзь рэспублікі пачын масквічоў і ленінградцаў «Пяцігодцы — ударную працу, майстэрства і пошук маладых!»

Усё больш і больш юнакоў і дзяўчат прымаюць удзел у рацыяналізацыі і вынаходніцтве. А гэта — прамыя шляхі павышэння прадукцыйнасці працы і якасці прадукцыі. Напрыклад, камсамольцы і моладзь цэха № 3 Віцебскага завода радыёдэталяў вырашылі за пяцігодку ўнесці ў камсамольскі фонд эканоміі 45 тысяч рублёў.

Не менш важныя і адказныя задачы вырашаюць камсамольцы і моладзь калгасаў і саўгасаў. Сельскія камсамольскія арганізацыі намецілі канкрэтныя планы па ўдзеле моладзі ў масавым сацыялістычным спаборніцтве «Жывёлагадоўля — ударная справа моладзі». Сотні лепшых сваіх прадстаўнікоў накіраваў і плануе накіраваць камсамол рэспублікі ў жывёлагадоўлю. Толькі ў Гродзенскай вобласці цяпер працуе 2 308 маладых жывёлаводаў.

Аб сваёй самаадданай працы і вучобе ёсць што расказаць і прадстаўнікам іншых атрадаў моладзі — настаўнікам і ўрачам, работнікам сферы абслугоўвання і студэнтам. Іх поспехі — гэта вынік карпатлівай работы камсамольскіх арганізацый па выхаванні юнакоў і дзяўчат на лепшых традыцыях савецкага народа, бацькоўскага клопату партыі аб падрастаючым пакаленні. Пытанні ідэйна-палітычнай загартоўкі моладзі ставяцца ў цэнтры ўвагі камсамольскіх арганізацый. Сёлета навучальны год у сетцы палітасветы пачаўся Ленінскім урокам «Мы — патрыёты-інтэрнацыяналісты».

У нашай рэспубліцы працягваецца працоўная вахта ў гонар саюзных рэспублік і гарадоў-герояў Масквы і Ленінграда. Камсамольцы і моладзь Беларусі абавязаліся павысіць прадукцыйнасць працы за пяцігоддзе ў паўтара раза і ў гонар свята народаў-братоў савецкай краіны штоквартальна адзін дзень працавалі на сэканомленых матэрыялах.

Маладыя мінскія трактарабудаўнікі выклікалі на спаборніцтва сваіх калег з Валгаграда і Харкава і абавязаліся выпусціць да юбілею СССР звыш плана па дзесяць трактараў для кожнай саюзнай рэспублікі. Спаборнічаюць маладыя рабочыя Віцебска і Пскоўскага завода радыёдэталяў, Гомельскага завода «Сельмаш» і Таганрогскага камбайнавага завода.

Цудоўным святам працы і сяброўства стаў для савецкай моладзі дзень Усесаюзнага камуністычнага суботніка. Асабліва ўрачыста прайшоў ён на мяжы трох рэспублік — РСФСР, Беларусі і Украіны. У гэты дзень юнакі і дзяўчаты Шчорскага, Добрушскага і Гараднянскага раёнаў пасадзілі сад Дружбы.

Спаборнічаюць паміж сабой, абменьваюцца вопытам, дапамагаюць адзін аднаму камсамольцы беларускага калгаса «Камунар», латвійскага калгаса «Дружба» і літоўскага саўгаса «Кімбарцішкі».

Але не толькі ў гэтым праяўляюцца сяброўскія сувязі юнакоў і дзяўчат братніх рэспублік. Маладзёжныя фестывалі, выступленні творчых калектываў, тэматычныя вечары, святы працы, інтэрнацыянальныя Ленінскія ўрокі — вось няпоўны пералік сумесных цудоўных спраў моладзі Беларусі і братніх рэспублік. Спраў, якія дапамагаюць лепш працаваць, умацоўваць сяброўства народаў і моцна любіць нашу Савецкую Радзіму.

Нашы сучаснікі — наследнікі подзвігаў старэйшых пакаленняў — жывуць у краіне, дзе дасягненні братніх рэспублік з'яўляюцца багаццем усіх яе народаў. У гэтым наша сапраўднае шчасце. Таму светлы юбілей Саюза ССР — радаснае свята ўсіх яго народаў. І моладзь нашай рэспублікі адзначае гэтае свята разам са сваімі сябрамі.

Цэнтральныя камітэты камсамола Беларусі і Літвы распрацавалі і паспяхова ажыццявілі сумесныя мерапрыемствы па дастойнай сустрэчы 50-годдзя СССР. Паспяхова прайшла тэлевізійная перадача, у якой удзельнічалі маладыя пераможцы ўборачнай пары Беларусі

і Украіны. Гомельскі абком камсамола сумесна з Чарнігаўскім і Бранскім абласнымі камітэтамі арганізаваў тэлевізійны турнір.

Не раз збіраліся разам на семінары і злёты юнакі і дзяўчаты Брэстчыны, а таксама Валынскай і Ровенскай абласцей Украінскай ССР. Вось і ў маі гэтага года яны разам з прадстаўнікамі РСФСР і Усходне-Казахстанскай вобласці ўдзельнічалі ў рабоце навуковай практычнай канферэнцыі «Камсамол і інтэрнацыянальнае выхаванне моладзі», якую правёў Брэсцкі абком камсамола.

Надоўга запомніцца камсамольцам Расіі, Латвіі і Беларусі Ленінскі ўрок «Мы дружбай ленінскай моцныя», які прайшоў у Верхнядзвінску. Пра тое, як усталёўвалася ў жыцці вялікае паняцце — дружба народаў СССР, — расказалі ім першыя арганізатары калгасаў і латышскія стралкі, героі Вялікай Айчыннай вайны і перадавікі пяцігодкі.

Дружба бацькоў нараджае моцную дружбу сыноў. Нямала подзвігаў на беларускай зямлі здзейснілі ў суровую часіну вайны партызаны камсамольска-маладзёжнага атрада «Іскра», які дзейнічаў у Мінскай вобласці. Поплеч змагаліся ў гэтым атрадзе азербайджанцы і беларусы, рускія і украінцы, таджыкі і ўзбекі, татары і адыгейцы — прадстаўнікі 28 нацыянальнасцяў нашай Радзімы.

Навучэнцы Мінскага ГПТУ-25 вырашылі адшукаць тых, хто змагаўся ў атрадзе, стварыць яго баявы летапіс. Камітэт камсамола аб'явіў аперацыю «Дружба». Дзень за днём удзельнікі аперацыі вывучалі баявы шлях атрада, устанаўлівалі імёны яго байцоў. У гэтай рабоце яны былі не адны. Вялікую дапамогу аказалі ім навучэнцы прафесійна-тэхнічных вучылішчаў Казахстана, Украіны, Латвіі, Эстоніі, Літвы і Кабардзіна-Балкарыі — яны таксама сталі актыўнымі ўдзельнікамі аперацыі «Дружба».

І вось у Мінску адбыўся інтэрнацыянальны Ленінскі ўрок «Саюз непарушны». Юнакі і дзяўчаты розных нацыянальнасцяў зрабілі справаздачу аб тым, што зроблена імі ў ходзе аперацыі, абмяняліся вопытам сваёй работы, сустрэліся з тымі, хто ў гады цяжкіх выпрабаванняў закладваў фундамент дружбы народаў СССР. І сімвалам дружбы будзе стаяць у Мінску па вуліцы Шчарбакова жылы дом, у сцены якога заклалі цагліны наследнікі славы сваіх бацькоў — юныя эстонцы і латышы, рускія і беларусы, казахі і літоўцы.

У заводскіх цэхах, калгасах і саўгасах нараджаюцца новыя камсамольскія пачыны, выкліканыя ўсенароднай падрыхтоўкай да 50-годдзя ўтварэння СССР. Шмат зроблена, але многае трэба будзе яшчэ зрабіць. Баявой справай камсамола Беларусі ў бліжэйшыя пяць гадоў будзе ўдзел ва ўзвядзенні Магілёўскага камбіната сінтэтычнага валакна, Лукомльскай ДРЭС, Мазырскага нафтаперапрацоўчага і Гомельскага хімічнага заводаў, меліярацыі беларускага Палесся. Пасланцы нашай рэспублікі будуць працаваць на будаўніцтве Лебядзінскага горнаабагачальнага камбіната, Волжскага і Камскага аўтамабільных заводаў, Чалябінскага трактарнага і Эльбанскага механічнага заводаў, марскога порту ў раёне Находкі.

У сваёй яркай прамове на XV з'ездзе прафсаюзаў Леанід Ільіч Брэжнеў, гаворачы аб тым, што ў гэтым годзе савецкі народ будзе адзначаць знамянальную дату — 50-годдзе ўтварэння Саюза ССР, сказаў: «Партыя заклікае рабочы клас, калгаснае сялянства, інтэлігенцыю, усіх савецкіх працоўных азнаменаваць юбілей гэтай вялікай гістарычнай падзеі новым уздымам сацыялістычнага спаборніцтва, новымі працоўнымі перамогамі».

Камсамольцы і моладзь Беларусі сустракаюць светлае свята дружбы савецкіх народаў пад лозунгам барацьбы за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XXIV з'езда КПСС, за пасляховае выкананне плана другога года пяцігодкі. Слаўны юбілей з'явіцца яшчэ адной яркай маніфестацыяй непарушнага адзінства, братэрства, згуртаванасці сацыялістычных нацый і народнасцяў вакол Камуністычнай партыі і яе ленінскага Цэнтральнага Камітэта, іх вернасці ідэалам камунізму-ленінізму.





# МАГУТНЫ ПОСТУП ЗУБРА

### I. ЗУБР ГЕАГРАФІЧНЫ

**Сімволіка, здавалася б, — справа паэтаў. Уладзімір Караткевіч, паэт і раманіст, першы заўважыў, што карта Беларусі сваімі абрысамі нагадвае зубра. І тады мастак Яўген Кулік намаляваў гэтую карту.**

**І ўсё ж паэтаў сімвал мае пад сабою традыцыйны грунт. На старых гербах побач з коннікам у латах і з мечам у правай руцэ горда красаваўся пушчанскі цар — зубр. Коннік і зубр сцвярджалі перад ворагамі нашу сілу.**

**Зубр і сёння для нас — сімвал. Беларусь Савецкую, Беларусь індустрыяльную пазнаюць па гэтым знаку ў нашай краіне і за мяжой. За 50 год існавання СССР дзякуючы братняй падтрымцы ўсіх народаў савецкай краіны беларускі зубр набраў такой сілы, такой несакрушальнай моцы, якой ён не меў ніколі. Савецкую Беларусь, члена Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, ведаюць і паважаюць ва ўсім свеце.**

### II. ЗУБР СТАЛЁВЫ

**З Белавежскай пушчы, сваёй бацькаўшчыны, зубры паступова рассяляюцца па ўсёй Савецкай краіне. Яны жывуць ужо на Каўказе, у Падмаскоўі, на рацэ Ака і нават у Сібіры.**

**Пабрацім нашага лясного цара, аўтамабіль Мінскага ардэнаноснага завода нясе над сваім радыятарам храміраваную эмблему зубра. Постаць лясного волата і постаць «МАЗа» дзіўна падобныя. Гул рухавіка, зробленага на Яраслаўскім заводзе, нагадвае басавіты рык пушчанскага прыгажуна. Яны абодва імклівыя і магутныя, абодва ўслаўляюць сваю радзіму Беларусь: адзін — яе адвечную прыроду, другі — працавітыя рукі людзей. Але зубр сталёвы распаўсюдзіўся непараўнальна шырэй за свайго старажытнага пабраціма. Няма ў СССР ніводнай значнай будоўлі, ніводнай аўтастрады, дзе б вы ні спаткалі самазвалы з эмблемай «МАЗ». Гэта — лепшая аўтамабільная марка нашай краіны.**

**«МАЗ» стварыла дружба. Беларускія аўтамабілебудаўнікі вучыліся і пераймалі самае лепшае, самае перадавое на заводзе імя Ліхачова ў Маскве, у Яраслаўлі і Горкім. Сотні прадпрыемстваў краіны пастаўляюць МАЗу вузлы і дэталі. Дзяржаўны Знак якасці прысвоены сталёваму зубру.**

**Напярэдадні юбілею Саюза ССР з варотаў Мінскага аўтазавода выехалі два новенькія аўтамабілі, на якіх зіхацела эмблема «КамАЗ». Трохвосныя сямітонкі накіраваліся на міжведамасныя выпрабаванні.**

**Два гады канструктары Мінскага аўтазавода працавалі над праектным заданнем. Яны вынайшлі новыя прынцыпы самазвальнай сістэмы — пнеўмаэлектрычныя. Вадзіцелю «КамАЗа» не трэба націскаць на рычагі, каб разгрузіць кузаў — дастаткова ўключыць тумблер. Новы савецкі грузавік, малодшы брат «МАЗа», будзе лепшы за свайго старэйшага брата.**

**Але ж і «МАЗ» не стаіць на месцы. Праходзіць выпрабаванні новы самазвал «МАЗ-Э-503А» — юбілейны сюрпрыз мінскіх аўтамабілебудаўнікоў.**

**Хутка ўступіць у строй аўтазавод на Каме. 150 тысяч грузавікоў будзе сыходзіць штогод з канвеера гэтага найвялікшага аўтазавода ў Еўропе. І мазаўцам прыемна ўсведамляць, што іх праца была закладзена ў фундамент будучага гіганта.**



Брыгада Акіма Айнабекава ўзводзіць трубы на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе. У брыгадзе працуюць беларусы, рускія, украінцы.



Гэтую трубу ўзводзіць брыгада Акіма Айнабекава.



Леанід Саладзяннікаў.

Віктар Станчык зрабіў першую беларускую шыну.



Расце магутнасць Беларускага шыннага завода.





Камсамолка Валянціна Захарава, слесар-зборшчыца Мінскага трактарнага завода, прымала ўдзел у зборцы мільённага трактара «Беларусь».

«МАЗ» і «КамАЗ» на пляцоўцы эксперыментальнага цэха Мінскага аўтазавода.






У дзіцячым садзе калгаса «Новы быт» Мінскага раёна. Дзеці старэйшай групы на занятках па маляванні.

Гэта яны, апаратчыцы штапельных агрэгатаў Магілёўскага камбіната сінтэтычнага валакна Марыя Мардачова, Зінаіда Манёнак і Тамара Сідарэнка, здзівілі англійскіх спецыялістаў сваім спрытам і ўменнем, калі давялося асвойваць абсталяванне.





Адзін з лепшых бярозаўскіх гутнікаў Георгі Лінкевіч. Ён робіць шкляных зуброў.



Мастакі шклозавода «Нёман» Людміла Мягкова, Валянціна Дзівінская і Сільва Раудвеэ.

Ідзе капралактам... Цэнтральны пульт кіравання на хімічным камбінаце імя С. Прытыцкага ў Гродна.



Браты Барыс і Мікалай Закіравы. Іх бацькаўшчына—Башкірыя. А працуюць яны на Гродзенскім хімкамбінаце: Мікалай—майстрам, Барыс—слесарам па рамонце аўтаматыкі.



## III. ЗУБР, ЯКОГА ЗРАБІЎ ЛЕАНІД САЛАДЗЯННІКАЎ

Ведама як людзі сустракаюць Новы год: за сталом, пад зіхатлівай ёлкай. Па традыцыі, усім вядомай і ўсім прыемнай. А Віктар Станчык, 23-гадовы камсамолец, што прыдумаў! Якраз у навагоднюю ноч ён варыў першую беларускую шыну. Калі яе выцягнулі з прэса, усе, хто быў на змене, збегліся зірнуць на першага вулканізатаршчыка і на аўтапакрышку, якая, ледзь паспела «зварыцца», стала музейным экспанатам.

Шыну аглядалі і мацалі з усіх бакоў. Яна была зусім звычайная, падобная на тысячы іншых шын. А людзі радасна смяяліся, паціскалі адзін аднаму рукі і віншавалі Станчыка, як імянінніка. Бо гэта была свая, наша першая шына, і на яе цёплым яшчэ борце красаваўся зубр.

Сімволіка—справа паэтаў. Але эмблему Беларускага шыннага завода, таварны знак новай шыны зрабіў слесар-інструментальшчык 8-га разраду Леанід Андрэевіч Саладзяннікаў. Ён жыў на Урале, калі даведаўся, што ў Бабруйску пачалі будаваць шынны завод. Чалавек ужо не малады, ён не задумваючыся рушыў на захад, у Беларусь, дзе калісьці быў на вайсковай службе. І вось менавіта яму, слесару-віртуозу, давялося ўпрыгожыць беларускую шыну белавежскім зубрам.

Прайшоў год. Завод разбудаваўся на сто гектараў. Падняўся ў полі мікраён імя 50-годдзя ВЛКСМ. Але шыны выпускае пакуль што толькі доследны ўчастак. І Віктар Станчык, і Леанід Саладзяннікаў, як і ўвесь малады калектыў маладога завода, у навагоднюю ноч 1973 года адзначаць першы юбілей.

## IV. ЗУБР ШКЛЯНЫ

На сярэдзіне дарогі паміж двума старажытнымі беларускімі гарадамі Навагрудкам і Лідай, на беразе Нёмана раскінуўся рабочы пасёлак Бярозаўка.

У Бярозаўцы чырвонае полымя восені шугае па вяршалінах бяроз і клёнаў. І густымі ўсплескамі б'е ў шыбы высокіх карпусоў полымя гуты.

Па круглым памосце ходзіць гутнік. Доўгай трубкай дастае з печы кроплю полымя. Раздзьмувае кроплю ў шарык, пакручвае і пагойдвае, выцягвае і песціць яе, астуджвае і награе, прыварвае да кроплі новыя кропелькі. І вось згасае полымя, толькі цёмным жарам свеціцца на канцы трубкі шкляная фігурка зубра.

У сувенірнай краме ён стане побач з крышталёвымі вазамі і келіхамі. Альбо трапіць на замежную выстаўку, каб паспрачацца прыгажосцю і вытанчанасцю з лепшымі ўзорамі багемскага і саксонскага шкла.

Шклозавод «Нёман»—бярозаўская гута—багаты на традыцыі. Ужо шмат пакаленняў гутнікаў змянілася на заводзе. Мільёны шкляных вырабаў разышліся па свеце. І крышталёвым звонам гучаць усё новыя і новыя імёны мастакоў, чыя слава звязана са словам «Нёман».

Уладзімір Мурахвер і Людміла Мяткова вучыліся на мастакоў у Ленінградзе. Сільва Раудвеэ скончыла Талінскі мастацкі інстытут. Рускі Уладзімір Жохаў і ўкраінка Валянціна Дзівінская атрымалі мастацкую адукацыю таксама ў Ленінградзе. Усе яны цяпер працуюць у Бярозаўцы, завуцца нёманцамі, як і ўсе дзве з паловаю тысячы гутнікаў.

Штогод ва Усесаюзным інстытуце шкла аглядаюць і зацвярджаюць новыя ўзоры гутнага мастацтва. Творы нёманцаў заўжды атрымліваюць выдатныя ацэнкі.

Парыж, Манрэаль, Плоўдзіў, Заграб—назвы гэтых гарадоў на дыпломах, прысуджаных нёманскім мастакам. Сільва Раудвеэ двойчы выстаўляла свае творы ў родным Таліне. Славутыя вітражы літоўскіх мастакоў адлівалі на шклозаводзе «Нёман». Застылыя ў шкле агні бярозаўскай гуты зіхацелі ў залах маскоўскага Манежа і ленінградскага Эрмітажа.

Кожны мастак—індывідуальнасць. Але кожны нёманскі мастак сплаўляе сваю індывідуальнасць з талентам вялікага творчага калектыву гуты. Вось чаму нёманскае шкло заўсёды мае свой высакародны, тонкі каларыт.

## V. І ЛЕЎ БРЫТАНСКІ СХІЛЯЕ ПЕРАД ЗУБРАМ ГАЛАВУ

Мноства тавараў, якія вырабляюцца на беларускіх прадпрыемствах, ідзе на экспарт.

Звышсамазвалы «БелАЗ».

Аршанскае льняное палатно і аршанскія звышдакладныя станкі.

Салігорскія калійныя ўгнаенні.

Мінскія гадзіннікі і электронна-вылічальныя машыны.



Рэчыцкая нафта.

Трактары «Беларусь»...

Нашы поспехі тлумачацца тым, што кожную новую справу мы пачынаем з размахам, з разлікам на будучыню. Калі завод—дык гігант, калі канструкцыя—то самая перспектыўная.

Цяжкія жодзінскія самазвалы раз'ехаліся па ўсім зямным шары так хутка таму, што ўпершыню ў сусветнай практыцы іх стварэннем займаецца спецыялізаваны завод, наладжана іх канвеерная вытворчасць. І аршанскае льняное палатно так ахвотна купляецца за мяжой, бо здавён Беларусь славілася льном, а цяпер гэлыя вобласці займаюцца ільнаводствам. І трактары «Беларусь» робяцца не на якім-небудзь заводзіку, а на самым буйным трактарным заводзе ў краіне, і зроблена тых трактараў ужо мільён.

Нашы новабудоўлі—Гродзенскі хімічны камбінат імя С. Прытыцкага, Наваполацкі хімкамбінат, Магілёўскі камбінат сінтэтычнага валакна, Беларускі шынны завод—абсталёўваюцца з улікам перадавых дасягненняў айчыннай і сусветнай тэхнікі.

Поспех нашага будаўніцтва ў тым, што ўся краіна клапоціцца пра нас, усе рэспублікі нам дапамагаюць. 2800 дэталяў для трактара «Беларусь» выпрацоўваюцца на прадпрыемствах іншых рэспублік. Рабочыя дваццаці нацыянальнасцяў будуюць Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. Пад канец дзевятай пяцігодкі ён пачне працаваць на сваёй, палескай нафце, і на той, што цячэ па трубаправодзе «Дружба» з Башкірыі.

А вось сустрэчная плынь: полацкі нітрон, магілёўскі штапель ідуць на ткацкія прадпрыемствы ўсёй краіны. Мінскія аўтаматычныя лініі апрацоўваюць дэталі на заводзе імя Ліхачова. Камбінат «Беларуськалій» дае краіне палову ўсіх калійных угнаенняў.

І так—усюды. Вытворчыя адносіны, пабудаваныя на інтэрнацыянальным братэрстве і ўзаемадапамозе, сталі для нас нормай. І таму любая справа нам па плячы. Відаць, не ўлічылі гэтага англійскія спецыялісты, калі, назіраючы за мантажом свайго абсталявання на Магілёўскім камбінаце сінтэтычнага валакна, дзівіліся, што нашы рабочыя асвоілі першую чаргу вытворчасці ў тры разы хутчэй, чым патрабуецца па нарматывах англійскай фірмы.

## VI. АПАФЕОЗ ЗУБРА

Можна з розных бакоў асэнсоўваць дасягненні беларускага народа за гады савецкай улады. Параўнанняў будзе шмат ва ўсіх сферах жыцця.

Сфера эканамічная. Красамоўней за ўсякія словы тут будзе вось гэтая лічба: валавая прадукцыя прамысловасці 1971 года пераўзышла ўзровень 1913 года ў сто дваццаць разоў.

У БССР развіліся машынабудаванне, лёгкая прамысловасць, з'явілася хімічная і электронная прамысловасць, нечакана для ўсіх узнікла горнарудная справа. Цяпер Беларусь можа вырабляць усё неабходнае для жыцця сучаснага чалавека.

Сельская гаспадарка. Збіраем зерня ў два разы больш, чым у 1913 годзе, хоць сялян было тады значна больш. А мяса, малака, яек маем больш амаль у чатыры разы.

Сфера сацыялагічная. Да рэвалюцыі на Беларусі было сорак тысяч рабочых. Цяпер—2,3 мільёна.

Сфера геаграфічная. Толькі за пасляваенныя гады на карце БССР узнікла пяцьдзесят новых гарадоў і гарадскіх пасёлкаў.

Культура. У Беларусі працуе 12 тэатраў. Тыраж беларускіх кніг у 1971 годзе—26 мільёнаў. Перад рэвалюцыяй беларускія сяляне ехалі ў Сібір на заробкі. Каб не зблытаць свой вагон з іншымі, прыклейвалі на яго сцяну кавалачак хлебнага мякішу. Сёння ў рэспубліцы працуе 28 вышэйшых і 129 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Па колькасці студэнтаў вышэйшай школы на кожныя дзесяць тысяч жыхароў Беларусь апярэдзіла Англію, ФРГ, Францыю, Італію, Швецыю. У нас рыхтуюць спецыялістаў амаль усіх профіляў: ад фізікаў-ядзернікаў да мастацтвазнаўцаў.

Дабрабыт. Раней па вопратцы вызначалі сацыяльную прыналежнасць. А цяпер паспрабуйце сказаць, хто лепш апрануты: рабочы, студэнт ці інжынер?! І ў каго лепшая марка тэлевізара: у дырэктара сярэдняй школы ці калгаснага механізатара?! А калгас «Новы быт» Мінскага раёна мае дзіцячы сад, якім не кожны горад пахваліцца.

Бадай, хопіць лічбаў. Бег зубра такі шпаркі, такі магутны, што лічбы хутка старэюць. Яшчэ ўсё наперадзе ў нашай рэспубліцы, і нам разам з ёю ісці ды ісці.

Валянцін ЖДАНОВІЧ.



Народнаму паэту Беларусі, лаўрэату Ленінскай прэміі Петрусю Броўку за выдатныя заслугі ў развіцці савецкай літаратуры і плённую грамадскую дзейнасць прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы.

«Маладосць» віншуе Пятра Усцінавіча з высокім, ганаровым званнем і жадае яму добрага здароўя і маладой нястомнасці ў працы.

Фота Валянціна ЖДАНОВІЧА.



За савецкі час на Беларусі ўзнікла пяцьдзесят новых гарадоў і гарадскіх пасёлкаў.

Напярэдадні 50-годдзя СССР Мінскі трактарны завод выпусціў мільённы трактар «Беларусь».





Новая Бярозаўская гута.



Вясёлым гоманам поўняцца прасторы нашае зямлі.

# НЕЗАБЫЎНАЕ

**Перамога Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі прынесла доўгачаканую свабоду ўсім народам былой царскай імперыі. Савецкай рэспублікай стала і Беларусь. Гэтая падзея абвешчана ў Маніфесце ад першага студзеня 1919 года, у якім, прынамсі, гаварылася: «З сённяшняга дня Беларуская Савецкая рэспубліка становіцца рэспублікай працоўнага народа: рабочых, сялянскай беднаты і чырвонаармейцаў Беларусі».**

**У гады грамадзянскай вайны беларускі народ сумесна з іншымі народамі нашай краіны мужна змагаўся супраць контррэвалюцыі і знешняй інтэрвенцыі. Пасля заканчэння вайны разам з усімі ўзяўся ён за аднаўленне разбуранай гаспадаркі. І зноў відавочнай стала неабходнасць аб'яднаць намаганні ўсіх рэспублік. За цесны саюз выказаліся працоўныя РСФСР, Украіны, Закаўказзя і Беларусі.**

**У нашай рэспубліцы пад кіраўніцтвам мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый у лістападзе-снежні 1922 года праходзілі валасныя і павятовыя з'езды Саветаў, на якіх абмяркоўваліся пытанні ўтварэння СССР. Накіроўваючы сваіх дэлегатаў на чацвёрты Усебеларускі з'езд Саветаў, працоўныя наказвалі ім галасаваць за ўтварэнне адзінага Саюза Савецкіх Рэспублік.**

**Матэрыялы IV Усебеларускага з'езда Саветаў, якія мы публікуем, сведчаць пра аднадушнае імкненне беларусаў да аб'яднання ў адзіным Саюзе з народамі-братамі.**

**Публікацыю падрыхтавалі:**

**Галіна ДЗЕШКАВЕЦ, старшы навуковы супрацоўнік Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР.**

**Мікалай КОРЗУН, дырэктар Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР.**

### СА ЗВАРОТУ IV З'ЕЗДА САВЕТАЎ БССР «ДА ЎСІХ ПРАЦОЎНЫХ БЕЛАРУСІ».

**14 снежня 1922 г.**

Рабочыя, сяляне, чырвонаармейцы.

У чацвёрты раз збіраецца Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў.

Усяго 4 гады прайшло з часу арганізацыі Сацыялістычнай Савецкай рэспублікі Беларусі. 4 гады цяжкай упартай барацьбы за ўладу працоўных, супраць капіталістаў і памешчыкаў.

Савецкая Беларусь у цесным адзінстве з працоўнымі ўсіх астатніх савецкіх рэспублік моцна стаяла на працягу гэтых 4 гадоў на варце заваёў рэвалюцыі, імкнучыся ўсімі мерамі ўмацаваць саюз рабочых і сялян.

Большая частка гэтага часу прайшла ў непасрэднай барацьбе з узброенай буржуазіяй. Польскія памешчыкі, пры падтрымцы замежных капіталістаў, неаднаразова імкнуліся адабраць у рабочых і сялян рэвалюцыйныя заваёвы — адабраць зямлю ў сялян, вярнуць фабрыкі фабрыкантам.

Падтрыманыя рабочымі і сялянамі братніх Савецкіх рэспублік, падтрыманыя слаўнай Чырвонай Арміяй, рабочыя і сяляне Беларусі ліквідавалі ўсе спробы сусветнай буржуазіі вярнуць нас пад ярмо капіталу.

Усяго толькі адзін год працоўныя Беларусі мелі магчымасць займацца мірнай працай. І цяпер ужо можна адзначыць буйныя дасягненні і ў галіне прамысловасці, і ў галіне сельскай гаспадаркі, якая адраджаецца.





Цяжкі далейшы шлях рэвалюцыі. Нашы ворагі не прымірыліся і не могуць прымірыцца з існаваннем Савецкай федэрацыі. Бяссільныя, яны толькі часова адмовіліся ад барацьбы з намі.

...Няхай кожны рабочы, кожны селянін памятае, што нашы суседзі трымаюць напагатове свае арміі і што наша Чырвоная Армія таксама павінна быць гатовай.

Савецкая Беларусь ва ўсёй сваёй рабоце заўсёды ішла плячо да пляча з усімі савецкімі братнімі рэспублікамі. Разам змагаліся на франтах. Разам адбудоўвалі нашу разбураную гаспадарку.

З'езд, без усякага сумнення, улічыць міжнародную абстаноўку, якая склалася, а таксама цвёрдае рашэнне рабочых і сялян усіх савецкіх рэспублік прадоўжыць агульную барацьбу і сваімі рашэннямі яшчэ больш замацуе вузы братэрства, якія звязваюць працоўных усіх савецкіх рэспублік.

Побач з гэтым пытанні мірнага будаўніцтва, у такой ступені займаўшыя валасныя і павятовыя з'езды Саветаў, бясспрэчна, будуць стаяць у цэнтры ўвагі і Усебеларускага з'езда.

З'езд удзеліць дастаткова ўвагі пытанню аб аднаўленні сельскай гаспадаркі і прамысловасці, пытанням асветы і фінансавання, памятаючы, што без правільнага вырашэння гэтых пытанняў немагчыма нармальнае існаванне рэспублікі.

Абмяркоўваючы і вырашаючы гэтыя пытанні, з'езд будзе пастаянна памятаць, што ў першую чаргу неабходна засцерагчы інтарэсы гарадскога пралетарыяту і вясковай беднаты.

Адзначаючы рэдкую згуртаванасць усіх працоўных, праяўленую ў перыяд перавыбараў Саветаў, з'езд выказвае цвёрдую ўпэўненасць, што сваёй работай ён яшчэ больш згуртуе, яшчэ больш умацуе саюз рабочага і селяніна.

Няхай жыве і мацнее саюз рабочых і сялян Беларусі.

Няхай жыве і мацнее цесны саюз рабочых і сялян усіх савецкіх рэспублік.

Няхай мацнее і шырыцца сусветная сацыяльная рэвалюцыя, якая вызваляе рабочых і сялян усяго свету ад прыгнёту міжнароднага капіталу.[1]

### ЗВАРОТ IV УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА САВЕТАЎ ДА БРАТНІХ РЭСПУБЛІК

«Усебеларускі з'езд Саветаў у дзень пачатку сваёй работы шле братняе прывітанне рабочым і сялянам усіх братніх саюзных рэспублік.

Савецкія рэспублікі, нягледзячы на сваё права самастойных выступленняў, ніколі не выступалі разрозненымі перад тварам сусветнага капіталу. Міжнародная буржуазія заўсёды сустракала адзіны фронт працоўных усіх саюзных рэспублік пры ўсякай спробе нападу на заваёвы Савецкай улады. Усе спробы сусветнай буржуазіі раз'яднаць працоўных савецкіх рэспублік заўсёды прыводзілі да яшчэ большай згуртаванасці рэвалюцыйных сіл працоўных. Умовы працоўных мас савецкіх рэспублік з міжнародным капіталам, якія ўсё ўскладняюцца, патрабуюць максімальнага згуртавання сіл рэвалюцыйнага пралетарыяту і сялянства ўсіх саюзных рэспублік.

З'езд упэўнены, што ў выніку працы з'ездаў саюзных рэспублік адзінства рэвалюцыйнай волі працоўных мас братніх рэспублік яшчэ больш умацуецца і арганізацыйна будзе замацавана» [2].

### НА IV УСЕБЕЛАРУСКІМ З'ЕЗДЗЕ САВЕТАЎ

**Выступленне тав. НАСЕВІЧА Іосіфа Мікалаевіча, селяніна**

(ад слуцкай дэлегацыі)

СЯЛЯНЕ БЕЛАРУСІ ЗА САЮЗ

Таварышы дэлегаты, я ёсць дэлегат ад Слуцкага павета, ад сялян, якія мне даручылі ад іх імя падзякаваць, што мы, грамадзяне, маем магчымасць будаваць сваё гаспадаркі, пасылаць сваіх дзяцей у школы і абараняць нашу зямлю ад паноў, толькі дзякуючы таму моцнаму і цеснаму саюзу з іншымі савецкімі рэспублікамі. І дзеля таго, каб Беларусь мела магчымасць далей жыць і шырыцца і не баяцца сваіх ворагаў— капіталістаў і яснавяльможных паноў з Захаду, трэба зрабіць цесны і неразрыўны саюз усіх савецкіх рэспублік. Я лічу, што інтарэсы сялян і працаўнікоў горада ва ўсіх рэспубліках тыя самыя. Вось дзеля гэтага сяляне павінны галасаваць за Саюз Рэспублік.

Няхай жыве Саюз Савецкіх Рэспублік! [3]

**Выступленне тав. САПРЫКІ І. І., старшыні валвыканкома** (ад барысаўскай дэлегацыі)

ЧАМУ ПАТРЭБНЫ САЮЗ?

У барацьбе за свабоду працоўныя не толькі вызвалялі сябе ад улады капіталу, але яны пры гэтым мелі яшчэ на ўвазе будаваць новае жыццё на новых асновах. Так узнікла наша рэспубліка Беларусь.

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 6, воп. 1, спр. 82, л. 273.
[2] Газета «Звезда», № 297, 16 снежня 1922 г.
[3] Газета «Звезда», № 301, 21 снежня 1922 г.

Калі б мы ўявілі сабе сваю Беларускую рэспубліку адарванай, аддзеленай ад іншых, то нам было б цяжка абараняць сваю граніцу і нам даводзілася б пастаянна трымаць на граніцы ўсё сваё насельніцтва мужчынскага полу, самае моцнае і самае здаровае. Гэтыя абставіны прымушаюць нас трымаць саюз з іншымі рэспублікамі. Заходне-еўрапейская буржуазія сочыць за жыццём савецкіх рэспублік. Яна хацела б, каб гэтыя рэспублікі раскалоліся, тады яна паглынула б кожную з гэтых рэспублік у паасобку, як акула глытае дробную рыбу. Уся наша сіла ў адзінстве. Мы павінны памятаць, што пралетарыі ўсіх краін павінны аб'яднацца [1].

**Выступленне тав. ПЯТРОЎСКАГА І. І., старшыні савета працоўнай арцелі «Сейбіт»**
(ад ігуменскай дэлегацыі)

Мне хочацца напомніць адну казку са старых буржуазных хрэстаматый. Бацька, паміраючы, прасіў сваіх сыноў, каб яны жылі разам. Для прыкладу ён узяў венік, развязаў яго і даў пераламаць па дубчыку, і сыны з гэтым лёгка справіліся, між тым як цэлы венік яны зламаць не маглі. Так і ў нас: калі мы будзем імкнуцца да асобнага сепаратызму, то нас лёгка зломіць буржуазная сіла. Калі ж мы будзем імкнуцца да згуртаванасці, то ніякая сіла нас не зломіць. Буржуазія аб'ядноўвае свае чорныя сотні, імкнецца сесці на нашу шыю, і нам больш за ўсё трэба памятаць пра гэта і аднадушна прыняць прапанову аб цяснейшым саюзе з усімі савецкімі рэспублікамі [2].

**Выступленне тав. КАРАЛЯ, селяніна**
(ад бабруйскай дэлегацыі)

Таварышы дэлегаты. На нас нападалі немцы, і белапалякі, і рознага роду банды. Ад усіх іх мы моцна цярпелі і пакутавалі. Але калі наблізілася да нас Чырвоная Армія, я сам арганізаваў атрад і ўступіў у барацьбу з белагвардзейцамі, мы разам адагналі іх да Баранавічаў. У аб'яднанні ўся наша сіла. Таму няхай жыве ўся Чырвоная Армія і няхай жыве саюз Рэспублік, як адзіная сіла [3].

**Заключнае слова тав. ЧАРВЯКОВА А. Р. на IV Усебеларускім з'ездзе Саветаў**

...Усе выступаўшыя тут таварышы — рабочыя і сяляне,— усе ў адзін голас гаварылі пра тое, што настаў момант, які ўладарна дыктуе нам аб'яднанне і згуртаванне нашых радоў. У выніку гэтага мы тут ставім пытанне аб Саюзе Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік, які ўмацуе нашы рады для далейшай барацьбы. Я, таварышы, для таго, каб аформіць дачыненне нашага з'езда да гэтага пытання, прапаную прыняць ад імя 4-га Усебеларускага з'езда дэкларацыю.

Дэкларацыя прымаецца аднагалосна [4].

**Дэкларацыя IV з'езда Саветаў БССР па дакладзе аб Саюзе Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік**

**18 снежня 1922 г.**

Савецкая Беларусь, толькі нядаўна вызваленая з-пад ярма міжнароднага капіталу аб'яднанымі намаганнямі рабочых і сялян Беларусі пры самай актыўнай падтрымцы працоўных усіх астатніх братніх савецкіх рэспублік, у сваёй паўсядзённай рабоце, палітычным і гаспадарчым будаўніцтве пастаянна памятала пра адзінства задач і метадаў барацьбы, якія звязвалі працоўных усіх братніх рэспублік.

Рабочыя і сяляне Беларусі разам з рабочымі і сялянамі астатніх савецкіх рэспублік пастаянна і неаслабна імкнуліся да ажыццяўлення адной мэты — стварэння і канчатковага ўмацавання ўлады Саветаў, для барацьбы за камунізм.

У гэтай барацьбе працоўныя ўсіх братніх рэспублік сустракалі адзіны фронт сусветнай буржуазіі. Сусветны капітал з дастаткова яснасцю ўлічваў супольнасць палітычнай і гаспадарчай арганізацыі асобных савецкіх рэспублік, не робячы таму ніякіх адрозненняў паміж імі, імкнучыся звергнуць Савецкую ўладу, у незалежнасці ад таго, пад якім нацыянальным флагам гэты лад ажыццяўляўся.

Толькі аб'яднанымі намаганнямі працоўных усіх савецкіх рэспублік удалося адстаяць і ўмацаваць Савецкую ўладу рабочых і сялян.

Гэты саюз замацаваны крывёй дзесяткаў тысяч рабочых і сялян, ураджэнцаў Беларусі, РСФСР, Украіны, закаўказскіх рэспублік на франтах Заходнім, Усходнім і Паўднёвым.

---

[1] Газета «Звезда», № 301, 21 снежня 1922 г.
[2] Там жа.
[3] Там жа.
[4] Там жа.





Сусветны капітал пераканаўся ў немагчымасці ўзброеным шляхам звергнуць уладу працоўных. Але гэтым барацьба супраць Савецкай улады не спыняецца. Яна будзе працягвацца яшчэ з большай настойлівасцю і ўпартасцю, чым да гэтага часу. Але, у адрозненне ад папярэдняга перыяду, сусветны капітал імкнецца звергнуць уладу Саветаў абходным шляхам, шляхам аблытвання нас рознага роду дагаворамі і авалоданнем нашай буйнай прамысловасцю.

У сваёй барацьбе супраць улады Саветаў сусветная буржуазія не супраць выкарыстаць і моманты нацыянальныя, і самастойнае існаванне асобных рэспублік. Сусветная буржуазія думае шляхам цэлага шэрагу дыпламатычных махінацый раз'яднаць сілы рабочых і сялян савецкіх рэспублік і разбіць кожную рэспубліку ў паасобку, выкарыстоўваючы нацыянальны шавінізм дробнабуржуазных колаў насельніцтва асобных рэспублік.

Неабходнасць арганізацыі максімальнага супрацьдзеяння імкненню сусветнага капіталу эканамічна нас закабаліць ставіць як першачарговую задачу больш цеснае палітычнае і эканамічнае збліжэнне, аб'яднанне палітычнай, гаспадарчай і эканамічнай дзейнасці асобных савецкіх рэспублік, стварэнне адзінага рабоча-сялянскага фронту ўсіх савецкіх рэспублік супраць адзінага фронту сусветнага капіталу.

IV Усебеларускі з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў лічыць, што прапанова Усеўкраінскага з'езда Саветаў аб неадкладным афармленні ўжо фактычна існуючага саюза савецкіх рэспублік, аб'ядноўваючы супраць адзінага фронту сусветнага капіталу сілы рабочых і сялян усіх савецкіх рэспублік на асновах узаемнай роўнасці, цеснай палітычнай і гаспадарчай сувязі, у той жа час забяспечваючы самастойнае нацыянальна-культурнае будаўніцтва і ствараючы неабходныя гарантыі для праяўлення гаспадарчай ініцыятывы кожнага з членаў, адпавядае жыццёвым інтарэсам савецкай рэспублікі і таму павінна атрымаць хутчэйшае ажыццяўленне на маючым адбыцца з'ездзе ўсіх савецкіх рэспублік.

IV з'езд Саветаў Беларусі, выказваючы сваю глыбокую ўпэўненасць, што з'езд РСФСР сумесна з прадстаўнікамі Украіны, Беларусі і закаўказскіх рэспублік створыць адзіны моцна згуртаваны саюз працоўных усіх братніх рэспублік, даручае сваёй дэлегацыі, якая выбіраецца для ўдзелу на Усерасійскім з'ездзе Саветаў, даць у час работы з'езда ўрачыстае абяцанне і ажыццявіць фармальныя акты, якія замацоўваюць братні саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік [1].

**Заява прадстаўніка Беларусі старшыні ЦВК БССР тав. А. Р. ЧАРВЯКОВА на X Усерасійскім з'ездзе Саветаў**

**26 снежня 1922 г.**

...Савецкая Беларусь доўгай і вузкай паласой размешчана на граніцы буржуазнага свету. Усе ўдары, якія наносіць Савецкай уладзе буржуазны свет, у першую чаргу падаюць на Савецкую Беларусь. Таму зразумела, што ў нас на граніцы з буржуазным светам больш выразным становіцца пытанне аб неабходнасці перагрупоўкі нашых сіл для таго, каб зрабіць шэрагі рабочых і сялян усіх савецкіх рэспублік больш згуртаванымі, больш моцнымі для агульнай барацьбы і агульнай перамогі.

Праводзячы работу па аднаўленні сваёй гаспадаркі разам з усімі савецкімі рэспублікамі, Савецкая Беларусь у цяперашні час, сутыкаючыся з буржуазным светам непасрэдна і ўступаючы з ім у сувязь, асабліва востра адчувае, што калі тая фармальная раз'яднанасць, якая ў нас яшчэ да гэтага часу існуе, будзе працягвацца, то справа аднаўлення нашай гаспадаркі будзе затрымлівацца. Ёй пагражае прыпыненне. Зразумела, што нам патрэбна арганізацыя, пры якой быў бы адзіны вярхоўны штаб, адзінае кіраўніцтва на гаспадарчым фронце.

Тое аб'яднанне, якое мы прапануем вам, не падобна да аб'яднання ў двукоссі, якое робіць буржуазны свет у сферы свайго ўплыву на малыя народы. Мы ведаем цану абяцанням буржуазнага свету, мы на сваіх плячах, дзякуючы здрадніцкай рабоце «сацыялістычных» элементаў, адчулі абяцанні буржуазных урадаў. Мы памятаем першыя крокі беларускай рады, якая абвясціла незалежнасць сёння, а назаўтра, пад уплывам нямецкага камандавання, якое знаходзілася тады ў Мінску, паслала прывітальную тэлеграму германскаму імператару Вільгельму з прапановай сваіх паслуг па заняволенні рабочых і сялян Беларусі. Мы памятаем абяцанні правадыра польскай «дэмакратычнай» рэспублікі Пілсудскага, калі, акупіруючы Беларусь, ён заявіў, што з гэтага часу ён жадае ўступіць у саюз з беларускім працоўным народам, а назаўтра пачаў палітыку заняволення працоўных, даў волю памешчыкам, каб аднавіць самую цяжкую форму прыгоннага права, якую калі-небудзь перажывала Беларусь. Мы памятаем усе гэтыя абяцанні, і таму рабочыя і сяляне Беларусі ясна разумеюць розніцу, якая існуе паміж доб-

---

[1] ЦДАКР БССР, ф. 6, воп. 1, спр. 82, л. 288.

раахвотнай прапановай, якую мы робім вялікай свабоднай Савецкай Расіі, і той прапановай, якую нам рабілі буржуазныя дзяржавы, прапануючы сваю «дружбу».

Працоўныя Беларусі будуць ганарыцца тым, што яны з'яўляюцца адным з першых атрадаў, якія ўступілі ў нанова ствараемы Саюз Сацыялістычных Савецкіх Рэспублік. Яны ганарацца тым, што заклалі адну з першых цаглін у гэтым новым будынку, які завяршае пяцігадовую барацьбу працоўных. На аснове гэтага саюзу можна смела будаваць і весці далейшую барацьбу ў імя ажыццяўлення задач, для дасягнення якіх мы ўзнялі чырвоны сцяг і вядзём барацьбу супраць буржуазнага свету» [1].

### З дэкларацыі аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік

...Воля народаў савецкіх рэспублік, якія сабраліся нядаўна на з'езды сваіх Саветаў і аднадушна прынялі рашэнне аб утварэнні Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, служыць надзейнай зарукай таму, што Саюз гэты з'яўляецца добраахвотным аб'яднаннем раўнапраўных народаў, што за кожнай рэспублікай забяспечана права свабоднага выхаду з Саюза, што доступ у Саюз адкрыт усім сацыялістычным савецкім рэспублікам, як існуючым, так і тым, што маюць узнікнуць у будучым, што новая саюзная дзяржава з'явіцца дастойным увянчаннем закладзеных яшчэ ў кастрычніку 1917 года асноў мірнай супольнасці і братняга супрацоўніцтва народаў, што яна паслужыць верным аплотам супраць сусветнага капіталізму і новым рашучым крокам па шляху аб'яднання працоўных усіх краін у Сусветную Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку [2].

---

[1] Газета «Правда», № 294, 27 снежня 1922 г.
[2] Газета «Правда», № 298, 31 снежня 1922 г.



# КРЫЛЫ ЕДНАСЦІ І БРАТЭРСТВА

Ёсць падзеі, якія пакідаюць глыбокі след у жыцці чалавецтва. Такой падзеяй з'яўляецца ўтварэнне СССР, 50-годдзе якога 30 снежня 1972 года будзе адзначаць савецкі народ.

Утварэнне Савецкага Саюза, як адзначаецца ў Пастанове ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік», стала адным з вырашаючых фактараў, якія забяспечылі спрыяльныя ўмовы для перабудовы грамадства на сацыялістычных асновах, уздыму эканомікі і культуры ўсіх савецкіх рэспублік, умацавання абароннай магутнасці і міжнародных пазіцый шматнацыянальнай дзяржавы працоўных.

Утварэнне Саюза ССР з'явілася вынікам вялікай работы Камуністычнай партыі на чале з У. І. Леніным. Менавіта Леніну належыць найвялікшая заслуга ў стварэнні савецкай шматнацыянальнай дзяржавы. Творча развіваючы ідэі К. Маркса і Ф. Энгельса, ён стварыў стройнае вучэнне аб нацыянальным пытанні, распрацаваў навуковыя прынцыпы нацыянальнай палітыкі партыі на новым гістарычным этапе развіцця грамадства. Марксізм-ленінізм раскрыў месца і ролю нацыянальнага пытання ў рэвалюцыйным пераўтварэнні свету, паказаў яго непарыўную сувязь з інтарэсамі класавай барацьбы пралетарыяту, інтарэсамі сацыялізму. Ужо ў Праграме РСДРП адзначалася «права на самавызваленне за ўсімі нацыямі, увахо-дзячымі ў склад дзяржавы». Але гэта права на самавызначэнне партыя лічыла рэальным толькі пры здзяйсненні сацыялістычнай рэвалюцыі. Нацыянальнае пытанне, такім чынам, цесна звязвалася з устанаўленнем дыктатуры пралетарыяту, з класавай барацьбой.

Партыя Леніна разглядала пытанне аб праве нацый на самавызначэнне як шлях, які вёў не да раздзялення і раздраблення нацый, а як шлях да цеснага і трывалага добраахвотнага саюза раўнапраўных народаў. Незадоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі У. І. Ленін пісаў: «Мы патрабуем свабоды самавызначэння, г. зн. незалежнасці, г. зн. свабоды аддзялення прыгнечаных нацый не таму, што мы марым аб гаспадарчым раздрабленні або аб ідэале дробных дзяржаў, а наадварот таму, што мы хочам буйных дзяржаў і збліжэння, нават зліцця нацый, але на сапраўды дэмакратычнай, сапраўды інтэрнацыяналісцкай базе, **немагчымай** без свабоды аддзялення».

У тэорыі і на практыцы была даказана жыццёвая неабходнасць яднання ўсіх пралетарыяў, не зважаючы на іх нацыянальнасць, расу, веравызнанне.

Перамога Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі адкрыла новую эру ў гісторыі чалавецтва, карэнным чынам змяніла сацыяльна-эканамічныя ўзаемаадносіны народаў нашай краіны. Скінуўшы на сметнік гісторыі памешчыкаў і капіталістаў, яраых носьбітаў нацыянальнага прыгнёту, нянавісці, варожасці паміж нацыямі, Кастрычніцкая рэвалюцыя ўстанавіла дыктатуру пралетарыяту і ўладу Саветаў. Саветы, дзякуючы іх блізкасці і даступнасці для ўсіх пластоў працоўных мас, далі магчымасць аб'яднаць вакол рабочага класа мільёны сялян, усіх працоўных розных нацыянальнасцяў. У асобе Савецкай улады як формы дыктатуры пралетарыяту Кастрычніцкая рэвалюцыя ўтварыла новую аснову, той фундамент, на якім стала магчымым ліквідаваць рэшткі феадалізму і ў нацыянальным пытанні, устанавіць нацыянальную роўнасць і супрацоўніцтва паміж нацыямі нашай краіны.

Узяўшы ўладу ў свае рукі, Савецкі рабоча-сялянскі ўрад 2 лістапада 1917 года прыняў і абнародаваў «Дэкларацыю правоў народаў Расіі», якая абвясціла роўнасць і суверэннасць народаў Расіі, іх права на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і стварэння самастойнай дзяржавы, адмену ўсіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілей і абмежаванняў, свабоднае развіццё



**Першы герб Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.**

усіх нацыянальных меншасцяў і этнаграфічных груп.

Дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы 25 снежня 1917 года была ўтворана Украінская ССР, 1 студзеня 1919 года—Беларуская ССР, 28 красавіка 1920 года—Азербайджанская ССР, 29 лістапада 1920 года—Армянская ССР, 25 лютага 1921 года—Грузінская ССР. Гэта быў важны крок на шляху ўтварэння Саюза ССР.

У «Праекце праграмы РКП(б)» у 1919 годзе Ленін пісаў, што ў нацыянальным пытанні палітыка пралетарыяту, які заваяваў дзяржаўную ўладу, заключаецца ў «няўхільным фактычным правядзенні ў жыццё збліжэння і зліцця рабочых і сялян усіх нацый, у іх рэвалюцыйнай барацьбе за звяржэнне буржуазіі». Аднак дасягнуць такога збліжэння і зліцця ўсіх нацый Расіі ў кароткі тэрмін было немагчыма. З часу перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі для гэтага спатрэбілася пяць гадоў. Справа ў тым, што да гэтага пытання неабходны быў асаблівa асцярожны і ўважлівы падыход, патрэбен быў час, як гаварыў У. І. Ленін, каб даць магчымасць зжыць той недавер, які напластаваўся «вякамі гнёту памешчыкаў і капіталістаў, прыватнай уласнасці і варожасці з-за яе падзелаў і перадзелаў».

У гады ваеннай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны ўзаемаадносіны паміж маладымі савецкімі рэспублікамі здзяйсняліся ў форме ваенна-палітычнага саюза, афармленага дэкрэтам УЦВК РСФСР ад 1 чэрвеня 1919 года «Аб аб'яднанні Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік: Расіі, Украіны, Латвіі, Літвы, Беларусі для барацьбы з сусветным імперыялізмам».

Як вядома, у першыя гады Савецкай улады на Украіне, у Беларусі, Прыбалтыцы, Паволжы, Сярэдняй Азіі, на Каўказе працоўныя стварылі свае нацыянальныя вайсковыя часці, якія затым уліліся ў склад шматнацыянальнай Чырвонай Арміі. Па няпоўных дадзеных, у пачатку 1919 года ў нацыянальных часцях і падраздзяленнях налічвалася каля 150 тысяч украінцаў, больш як 20 тысяч беларусаў, звыш 12 тысяч латышоў, каля 50 тысяч мусульман, больш 17 тысяч чувашоў, 3—4 тысячы эстонцаў і г. д.

Змагаючыся на розных франтах грамадзянскай вайны супраць ворагаў краіны Саветаў, воіны нацыянальных вайсковых часцей разумелі, што яны адначасова змагаюцца за свабоду і незалежнасць сваіх народаў. У сумеснай барацьбе супраць унутранай буржуазіі і замежных захопнікаў атрымоўвала далейшае развіццё дружба і ўзаемадапамога рабочых і сялян усіх нацыянальнасцяў нашай краіны.

Савецкая Беларусь, як і іншыя нацыянальныя рэспублікі, з першых дзён свайго самастойнага дзяржаўнага існавання, атрыманага ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі і ажыццяўлення нацыянальнай палітыкі партыі, імкнулася да федэратыўнага аб'яднання савецкіх рэспублік. Яна вяла паслядоўную лінію на ўмацаванне брацкага супрацоўніцтва з вялікім рускім народам, з Расійскай Федэрацыяй, якая з'явілася своеасаблівым прававобразам СССР. Аб гэтым гаварылася ў «Прывітанні II з'езда Саветаў БССР Расійскай і Украінскай Савецкім сацыялістычным рэспублікам».

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны ваенна-палітычны саюз нацыянальных рэспублік ужо не адпавядаў новаму гістарычнаму становішчу, звязанаму з мірнай стваральнай працай, і таму быў дапоўнен эканамічным супрацоўніцтвам. Па ініцыятыве ЦК КП Украіны ў канцы 1920 года быў распрацаваны Саюзны рабоча-сялянскі дагавор паміж РСФСР і УССР. 29 снежня 1920 года VIII Усерасійскі з'езд Саветаў зацвердзіў заключаны ўрадамі Украіны і РСФСР Саюзны дагавор. У. І. Ленін надаваў вялікае значэнне заключэнню падобнага дагавору і з Беларускай ССР. 30 снежня 1920 года нарком замежных спраў Г. В. Чычэрын напісаў пісьмо ў Палітбюро ЦК РКП(б). У ім ён паведамляў, што старшыня Саўнаркома Беларусі А. Р. Чарвякоў указваў на надзвычай ненармальнае становішча ў сувязі з неўрэгуляваннем дзяржаўных адносін Савецкай Беларусі і Расійскай Федэрацыі, што ўскладняла супрацоўніцтва дзвюх рэспублік. Г. В. Чычэрын прапанаваў заключыць дагавор з БССР на тых жа ўмовах, што і з Украінскай ССР.

На гэтым лісце наркома замежных спраў Уладзімір Ільіч Ленін у адрас наркамфіна РСФСР, сакратара ЦК РКП(б) М. М. Красцінскага напісаў: «Чарвякову даручыць **тэрмінова** выпрацоўку праекта **дэталёвага** пісьма ЦК РКП аб Беларусі і **дэкрэта** СНК аб тым жа».

У выніку перагавораў 16 студзеня 1921 года паміж Савецкай Беларуссю і Расійскай Федэрацыяй быў заключан Саюзны дагавор. Згодна з дагаворамі паміж РСФСР і УССР, РСФСР і БССР прызнавалася незалежнасць і суверэннасць кожнага з дагаворных бакоў. Для лепшага ажыццяўлення ваенна-гаспадарчага саюза савецкіх рэспублік аб'ядноўваўся рад наркаматаў: ваенных і марскіх спраў, Вышэйшага савета народнай гаспадаркі, знешняга гандлю, фінансаў, працы, шляхоў зносін, пошт і тэлеграфу.

Саюзны дагавор і эканамічнае пагадненне ўрад РСФСР заключыў з Харэзмскай і Бухарскай Народнымі Савецкімі Рэспублікамі. Ваенна-эканамічныя дагаворы былі падпісаны РСФСР таксама з Азербайджанскай ССР, Армянскай ССР і Грузінскай ССР.

Дзякуючы дагаворным адносінам пашырыліся эканамічныя і культурныя ўзаемаадносіны паміж усімі савецкімі рэспублікамі, узрасла дапамога вялікага рускага народа беларускаму і іншым народам краіны. Ва ўмовах цяжкага эканамічнага становішча ўсёй дзяржавы ўрад Расійскай Федэрацыі выдзеліў Беларусі для сяўбы ў 1921 годзе 7 тысяч тон насення збожжавых, а ў канцы гэтага ж года Прэзідыум ВСНГ РСФСР адпусціў Саўнаргасу БССР на дагаворных пачатках 20 мільярдаў рублёў (у грашовых знаках 1921 года).

Вялікую дапамогу нашай рэспубліцы аказваў і братні ўкраінскі народ. У 1921—22 гаспадарчым годзе Украіна адгрузіла Беларусі звыш 5 тысяч тон солі, 488 тон збожжа, падоўжаныя пілы для лесапільных рам, тры вагоны вогнетрывалай цэглы, каля 17 тон цукру, на 1,1 мільёна рублёў сельскагаспадарчых машын і іншых тавараў.

У сваю чаргу працоўныя Беларусі у 1921—22 гаспадарчым годзе накіравалі Украінскай ССР каля 45 тысяч скур, больш 49 тон кардону. Гомельская губерня паставіла каля 9 тысяч скрынак запалак па тысячы карабкоў у кожнай. На шахты Данбаса і пайднёвым чыгункам было дастаўлена



**А. Р. Чарвякоў—першы старшыня ЦВК БССР.**

100 тысяч кубаметраў лесаматэрыялаў, 75 тысяч шпал.

Па меры развіцця мірнага будаўніцтва дружба і ўзаемадапамога народаў нашай краіны яшчэ больш мацнела і развівалася. І калі хто-небудзь аказваўся ў бядзе, іншыя народы прыходзілі на дапамогу. Гэта асабліва яскрава праявілася тады, калі засуха ахапіла Паволжа, Прыўралле, поўдзень Украіны.

Працоўныя нашай рэспублікі накіравалі галадаючым 6 468 тон збожжа і 22,5 мільярда рублёў. Украінская ССР адправіла братняму рускаму народу звыш 540 тысяч тон збожжа, дала прытулак больш 200 тысячам чалавек дарослага насельніцтва і 50 тысячам дзяцей з галадаючага Паволжа.

Або другі прыклад. У сувязі з цяжкім становішчам, выкліканым недахопам хлеба, наркампрод БССР 6 чэрвеня 1921 года звярнуўся да наркампрода Украіны з тэлеграмай: «Наркампродбел зараз пазбаўлен усякай магчымасці для задавальнення самых неабходных патрэб галадаючага рабочага насельніцтва краю, аж да самых ударных браніраваных груп яго. На аснове гэтага просім адпусціць нам 30 вагонаў збожжа».

У адказ на гэту просьбу ўкраінскі народ, які сам знаходзіўся ў крытычным становішчы, ужо 23 чэрвеня

1921 года накіраваў у Беларусь звыш 488 тон збожжа.

Нават гэтыя нешматлікія прыклады пераканаўча паказваюць братнюю ўзаемадапамогу рабочых і сялян савецкіх рэспублік. Гэтыя новыя рысы ўзаемасувязяў народаў нашай краіны, народжаныя сацыялістычнай рэвалюцыяй, уласцівы самой прыродзе Савецкай улады, дыктатуры пралетарыяту.

Маладыя савецкія рэспублікі не толькі аказвалі эканамічную ўзаемадапамогу адна адной, абменьваліся матэрыяльнымі багаццямі, але і сумесна, адзіным фронтам выступалі на міжнароднай арэне, адстойваючы заваёвы Кастрычніцкай рэвалюцыі.

18 сакавіка 1921 года Рыжскі мірны дагавор з Польшчай падпісала адзіная дыпламатычная дэлегацыя РСФСР і УССР, якая прадстаўляла таксама інтарэсы Беларускай ССР па даручэнні яе ўрада. 22 лютага 1922 года ўпаўнаважаныя прадстаўнікі РСФСР, Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Бухары, Грузіі, Далёкаўсходняй рэспублікі, Украіны і Харэзма падпісалі ў Маскве пратакол аб перадачы РСФСР іх прадстаўніцтваў на Генуэзскай канферэнцыі. Дэлегацыі РСФСР даручалася прадстаўляць і абараняць інтарэсы ўсіх рэспублік і заключаць ад іх імя акты, асобныя міжнародныя дагаворы і пагадненні з дзяржавамі, як прадстаўленымі на канферэнцыі, так і не прадстаўленымі.

Утварэнне адзінага дыпламатычнага супрацоўніцтва савецкіх рэспублік з'явілася новым крокам на шляху добраахвотнага аб'яднання народаў краіны ў адзіную шматнацыянальную дзяржаву.

Сістэма дагаворных узаемаадносін савецкіх рэспублік была неабходным этапам на шляху ўтварэння адзінага саюза рэспублік. Аднак у ёй быў шэраг недахопаў. Адсутнічалі агульныя планавыя і гаспадарчыя органы, не было агульнафедэратыўнага бюджэту. У дагаворах не быў прадугледжан парадак узаемаадносін паміж неаб'яднанымі наркаматамі РСФСР і наркаматамі нацыянальных рэспублік і г. д.

Інтарэсы пабудовы сацыялізму ў нашай краіне настойліва патрабавалі больш трывалага і дзейснага саюза савецкіх рэспублік. Утварэнне адзінай дзяржавы адпавядала інтарэсам працоўных усіх нацый. «Цяга працоўных савецкіх рэспублік да аб'яднання ў адной дзяржаве,—гаворыцца ў Пастанове ЦК КПСС «Аб падрыхтоўцы да 50-годдзя ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных рэспублік»,—мацнела ў жорсткіх сутычках з сіламі знешняй і ўнутранай контррэвалюцыі. Ваенна-палітычны саюз, які склаўся ў ходзе грамадзянскай вайны, самая цесная каардынацыя знешнепалітычнай дзейнасці, сумесныя намаганні па аднаўленні народнай гаспадаркі, эканамічным развіцці і ўмацаванні абараназдольнасці, натуральна, садзейнічалі пераходу да аб'яднання раўнапраўных народаў у адну сацыялістычную сям'ю».

Такім чынам, увесь ход гістарычнага развіцця нашай краіны патрабаваў аб'яднання ў адзіную савецкую дзяржаву ўсіх нацыянальных рэспублік. Для гэтага меліся сацыяльна-эканамічныя і палітычныя аб'ектыўныя і суб'ектыўныя перадумовы. У. І. Ленін прадбачыў гэтыя перадумовы, навукова абгрунтаваў іх і ў сувязі з гэтым вызначыў палітыку партыі па нацыянальным пытанні: ад прынцыпу самавызначэння нацый да ўтварэння адзінай шматнацыянальнай дзяржавы. На думку Леніна, «толькі такая палітыка ўмацоўвае і аб'ядноўвае ўсе нацыі Расіі ў адну вялікую магутную сям'ю...».

У. І. Ленін заўсёды падкрэсліваў, што адзіная дзяржава павінна будавацца на аснове добраахвотнага саюза ўсіх нацый, «такога саюза, які не дапускаў бы ніякага насілля адной нацыі над другой—такога саюза, які быў бы заснаваны на паўнейшым даверы, на ясным усведамленні братняга адзінства, на зусім добраахвотнай згодзе».

Ідэя добраахвотнага ўтварэння Саюза ўсіх рэспублік, прапанаваная У. І. Леніным і Камуністычнай партыяй, хутка была падтрымана народнымі масамі. Рабочыя і сяляне, служачыя ў сваіх выступленнях на мітынгах, сходах, канферэнцыях выказваліся за адзіную савецкую дзяржаву.

Улічваючы гэта, нарада ў ЦК РКП(б) у жніўні 1922 года абмеркавала пытанне пра ўзаемаадносіны савецкіх рэспублік і стварыла спецыяльную камісію ЦК РКП(б) у складзе І. В. Сталіна, В. У. Куйбышава, Г. К. Арджанікідзе і прадстаўнікоў нацыянальных рэспублік. У. І. Ленін з-за хваробы не змог прыняць у ёй удзел.

Падрыхтаваны камісіяй праект аб'яднання рэспублік, вядомы ў гісторыі як «план аўтанамізацыі», меў істотны недахоп, які заключаўся ў тым, што праект прадугледжваў уступленне незалежных рэспублік УССР, БССР і іншых у склад Расійскай Федэрацыі на правах аўтаномных рэспублік. У канчатковым выніку гэта магло стварыць спрыяльную глебу для праяў вялікадзяржаўнага шавінізму і мясцовага нацыяналізму.

У. І. Ленін, азнаёміўшыся з праектам камісіі, у вядомым пісьме ад 26 верасня 1922 года членам Палітбюро ЦК РКП(б) зноў звярнуўся да







М. І. Калінін на парадзе часцей Мінскага гарнізона. Чэрвень 1919 года.

ідэі добраахвотнага аб'яднання незалежных рэспублік, у тым ліку і Расійскай Фадэрацыі, у Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік з захаваннем раўнапраўя кожнай з іх і свабоды выхаду з Саюза. «...Мы прызнаём сябе раўнапраўнымі з Украінскай ССР і іншымі і разам і нароўні з імі ўваходзім у новы саюз, новую федэрацыю «Саюза Савецкіх Рэспублік Еўропы і Азіі», — падкрэсліваў У. І. Ленін.

6 кастрычніка 1922 года Пленум ЦК РКП(б) прыняў новы праект рэзалюцыі аб аб'яднанні савецкіх рэспублік, у аснову якога былі пакладзены ленінскія палажэнні.

Ленінскі план утварэння раўнапраўнага і добраахвотнага Саюза ССР знайшоў гарачую падтрымку ва ўсіх савецкіх рэспубліках. 13 снежня 1922 года VII Усеўкраінскі з'езд Саветаў і I з'езд Саветаў ЗСФСР, 18 снежня 1922 г. IV з'езд Саветаў БССР і 26 снежня 1922 года X Усерасійскі з'езд Саветаў аднадушна прынялі пастанову аб утварэнні Савецкага Саюза.

I з'езд Саветаў СССР, які адкрыўся 30 снежня 1922 года ў Маскве, у асноўным зацвердзіў Дэкларацыю і Дагавор аб утварэнні Саюза ССР. На аснове раўнапраўя і добраахвотнасці, захоўвання суверэнных правоў саюзных рэспублік з'езд аб'яднаў РСФСР, УССР, БССР і ЗСФСР у адзіны шматнацыянальны Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

I з'езд Саветаў СССР выбраў Цэнтральны Выканаўчы Камітэт СССР, а першая сесія ЦВК Саюза выбрала Прэзідыум ЦВК і чатырох старшынь ЦВК саюзных рэспублік—М. І. Калініна, Р. І. Пятроўскага, А. Р. Чарвякова, Н. Н. Нарыманава—старшынямі ЦВК СССР.

Так канкрэтна ажыццяўляўся план стварэння шматнацыянальнай савецкай дзяржавы, выпрацаваны У. І. Леніным на аснове вывучэння міжнацыянальных адносін народаў нашай Радзімы.

Утварэнне СССР мела вялікае значэнне для лёсу ўсіх народаў нашай краіны. Для Беларусі яно набывала асаблівае значэнне: дало магчымасць узбуйніць БССР шляхам этнічнага аб'яднання ўсяго беларускага народа ў рамках сацыялістычнай дзяржавы.

У пачатку 20-х гадоў Савецкая Беларусь у сілу ваенна-палітычных абставін складалася ўсяго толькі з 6 паветаў былой Мінскай губерні. Некаторыя раёны з беларускім насельніцтвам знаходзіліся ў складзе Віцебскай, Гомельскай, Смаленскай губерняў РСФСР.

Зыходзячы з савецкай нацыянальнай палітыкі, ЦК РКП(б) у маі 1923 года выказаўся за расшырэнне граніц Беларусі. З'езды Саветаў Віцебскай, Смаленскай і Гомельскай губерняў, якія адбыліся ў снежні 1922 года, прынялі рашэнне аб далучэнні да БССР тых тэрыторый, дзе пераважала беларускае насельніцтва. У 1925 годзе была ўрэгулявана граніца паміж дзвюма братнімі рэспублі-

камі: БССР і УССР. А ў канцы 1926 года з Беларуссю ўз'ядналіся Рэчыцкі і Гомельскі паветы. Тэрыторыя рэспублікі пасля першага і другога ўзбуйнення павялічылася больш чым у два разы, а колькасць насельніцтва—у тры разы.

Узбуйненне Беларускай ССР, якое сведчыла пра ажыццяўленне нацыянальнай палітыкі партыі, мела вялікае значэнне для эканамічнага, палітычнага і культурнага развіцця рэспублікі. У той жа час Савецкая ўлада яшчэ раз даказала ўсяму свету, як трэба вырашаць самыя складаныя пытанні дзяржаўнага будаўніцтва.

Утварэнне СССР адкрывала ўсім саюзным рэспублікам шырокія магчымасці для ўзаемных эканамічных адносін, накіраваных на ліквідацыю матэрыяльнай і духоўнай адсталасці, наследаванай ад царскага самаўладдзя. Ні Беларусь, ні іншыя нацыянальныя рэспублікі ніколі не змаглі б сваімі намаганнямі ў невялікі гістарычны тэрмін вырашыць гэтую грандыёзную задачу. Адзіная шматнацыянальная сацыялістычная дзяржава дала магчымасць арганізаваць агульнасаюзнае планаванне, стварыць адзіную сістэму бюджэту, матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, падрыхтоўкі кадраў, садзейнічала ўмацаванню абараназдольнасці краіны. Канцэнтрацыя матэрыяльных і фінансавых рэсурсаў дала магчымасць больш рацыянальна і эфектыўна пераразмяркоўваць іх у інтарэсах як асобных саюзных рэспублік, так і ўсяго СССР для пабудовы сацыялістычнага грамадства.

Характэрная для СССР сістэма адзіных партыйных і дзяржаўных органаў (ЦК РКП(б), ЦВК і СНК СССР), утварэнне агульнадзяржаўнага планавага органа (Дзяржплана СССР) для РСФСР, БССР і іншых саюзных рэспублік з'явілася важным фактарам умацавання і развіцця ўзаемасувязяў паміж народамі. Яна дазволіла накіроўваць адносіны паміж імі па адзіным рэчышчы—эканамічным, палітычным, ідэйным, а па-другое, выбраць найбольш эфектыўныя напрамкі, формы, сродкі ўзаемасувязяў народаў СССР. Гэта стала магчымым дзякуючы таму, што Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік заснаваны на адзінстве і супрацоўніцтве ўсіх нацый, на агульнасці сацыяльна-эканамічнага ладу, палітычнай арганізацыі, агульнасці мэты—пабудовы камунізму, марксісцка-ленінскай ідэалогіі. Таму ЦК РКП(б), ЦВК і СНК СССР былі ў роўнай меры зацікаўлены ва ўсебаковым развіцці ўсіх нацыянальных рэспублік.

Выходзячы з гэтага XII з'езд РКП(б) паставіў задачу пераадолець спадчыну мінулага, якая заключалася ў «фактычнай, гэта значыць, гаспадарчай і культурнай, няроўнасці нацыянальнасцяў Саюза Рэспублік». Партыя падкрэслівала, што пераадолець гэтую няроўнасць у кароткі тэрмін немагчыма—гэта працяглы працэс.

Аналіз паставак тавараў прамысловай вытворчасці сведчыць аб тым, што саюзныя рэспублікі атрымоўвалі ад Беларускай ССР прадукцыю тых галін прамысловасці—дрэваапрацоўчай, папяровай, запалкавай, шкляной,—якія лепш за ўсё былі развіты ў рэспубліцы. У той жа час савецкія рэспублікі, перш за ўсё РСФСР і УССР, пастаўлялі БССР прадукцыю вытворчасці такіх галін прамысловасці—каменнавугальнай, металургічнай, хімічнай, цукровай, сельскагаспадарчай і г. д.,—якія больш за ўсё былі ў іх развіты і ў якіх вострую патрэбу адчувала эканоміка Беларусі. Накіроўваючы тавары гэтых галін прамысловасці, рускія і ўкраінскія рабочыя аказалі вялікую дапамогу развіццю сельскагаспадарчага машынабудавання, электрастанцый, паспяховаму аднаўленню народнай гаспадаркі Савецкай Беларусі.

Дзякуючы сумесным намаганням ўсіх народаў СССР, паспяховаму ажыццяўленню нацыянальнай палітыкі партыі народная гаспадарка краіны на канец 1925 года ў асноўным была аднаўлена. Камуністычная партыя ўзяла курс на індустрыялізацыю дзяржавы, на стварэнне базы для забеспячэння фактычнай роўнасці паміж народамі Савецкага Саюза. Напомнім, што ў спадчыну ад царскага самаўладдзя нам дасталася шматнацыянальная дзяржава, «турма народаў», па яскравым выразе У. І. Леніна, больш ста нацый і народнасцяў якой былі на розных ступенях эканамічнага і культурнага развіцця. У эканоміцы былі прадстаўлены практычна ўсе сацыяльна-эканамічныя ўклады, уключаючы патрыярхальна-родавы і высокаразвіты манапалістычны капіталізм. Калі ўкраінцы, беларусы, латышы і іншыя народы ўжо склаліся ў буржуазныя нацыі, то ўзбекі, казахі, туркмены гэты працэс толькі перажывалі. А ў комі, буратаў, якутаў і іншых народаў пераважалі патрыярхальна-родавыя адносіны. Паспяховае развіццё кожнага народа патрабавала адзіных сумесных дзеянняў.

У сувязі з гэтым X з'езд КП(б) Беларусі ў прынятай рэзалюцыі падкрэсліваў, што паспяховае правядзенне індустрыялізацыі БССР магчыма толькі пры далейшым трывалым эканамічным супрацоўніцтве Беларускай ССР з усімі саюзнымі рэспублікамі і развіцці яе народнай гаспадаркі на





Я. М. Свярдлоў з групай дэлегатаў I-га з'езда Саветаў Беларусі.



базе індустрыяльнай магутнасці ўсяго Савецкага Саюза. Толькі супольнымі намаганнямі ўсіх народаў краіны на аснове індустрыялізацыі, калектывізацыі і культурнай рэвалюцыі магчыма было пабудаваць развітае сацыялістычнае грамадства, атрымаць фактычную роўнасць і ў нацыянальным пытанні.

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад паслядоўна праводзілі сваю нацыянальную палітыку, накіраваную на ўздым эканомікі і культуры як асобных саюзных рэспублік, так і ўсяго СССР, на развіццё дружбы, брацкага супрацоўніцтва і сяброўскай узаемадапамогі. Урад Савецкага Саюза толькі ў 1925—26, 1927—28 гаспадарчых гадах асігнаваў Беларускай ССР з саюзнага бюджэту каля 20 мільёнаў рублёў на будаўніцтва новых прадпрыемстваў і рэканструкцыю старых.

Прамысловыя цэнтры Расійскай Федэрацыі і Украінскай ССР забяспечвалі заводы і фабрыкі рэспублікі розным абсталяваннем, станкамі, каменным вугалем, металам, коксам, нафтай. Рабочыя Масквы, Харкава, Ленінграда, Кіева, Днепрапятроўска і іншых прамысловых гарадоў краіны перадавалі свой вопыт працы рабочым Беларусі.

Камуністычная партыя заўсёды ўлічвала пры планаванні народнай гаспадаркі неабходнасць выраўноўвання ўзроўню эканамічнага развіцця ўсіх рэспублік СССР, у тым ліку і Беларускай ССР. Калі за першую пяцігодку выпуск прамысловай прадукцыі ў старых эканамічных раёнах павялічыўся ў два разы, то ў нацыянальных рэспубліках і абласцях—больш чым у 3,5 раза. Адным з важных фактараў хуткага ўздыму эканомікі Беларусі з'явіліся асігнаванні з саюзнага бюджэту для развіцця народнай гаспадаркі. За гады першай пяцігодкі яны склалі каля адной трэці сумы капіталаўкладанняў у прамысловасць рэспублікі. На гэтыя сродкі былі пабудаваны такія буйнейшыя прадпрыемствы, як Бабруйскі і Гомельскі дрэваапрацоўчыя заводы, Магілёўская фабрыка штучнага валакна, Крычаўскі цэментны завод і Гомельскі шклозавод.

Шахцёры Данбаса і металургі Крывога Рога, хлебаробы Расійскай Федэрацыі і Украінскай ССР, рабочыя Цэнтральнага эканамічнага раёна прыслалі працоўным Беларускай ССР




**Рэчыцкі камуністычны атрад адпраўляецца на фронт на барацьбу супраць Дзянікіна.**

рознае прамысловае абсталяванне і сыравіну для металаапрацоўчых, сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, харчовай, швейнай, трыкатажнай, папяровай прамысловасці.

Сацыялістычнае спаборніцтва яшчэ больш умацніла дружбу і супрацоўніцтва працоўных Беларусі з рабочымі і сялянамі саюзных рэспублік. У кастрычніку 1929 года днепрапятроўскія металісты звярнуліся да ўсіх рабочых краіны з заклікам да сацыялістычнага спаборніцтва. Заклік украінскіх рабочых знайшоў гарачы водгук і ў працоўных Беларусі. Дражджавікі Мінска пачалі спаборнічаць са сваімі калегамі па прафесіі з Масквы і Кіева, беларускія будаўнікі прынялі выклік на сацспаборніцтва ад масквічоў і ленінградцаў, спаборнічалі дрэваапрацоўшчыкі Мінска і Кіева, выдзімальшчыкі Керчы і мінскага завода «Пралетарый».

Павышэнню вытворчасці працы і ўстанаўленню сяброўскіх адносін паміж народамі садзейнічаў і ўзаемны абмен паездкамі рабочых БССР і іншых рэспублік. З мэтай абмену вопытам работы працоўныя Мінска, Гомеля, Віцебска наведвалі сваіх калег па прафесіі на заводах і фабрыках Расійскай Федэрацыі і Украінскай ССР.

Новыя ўзаемаадносіны паміж народамі Савецкага Саюза праяўляліся і ў тым, што савецкія рэспублікі па неабходнасці прыходзілі на дапамогу адна другой. Тэмпы і аб'ём будаўніцтва ў першую пяцігодку патрабавалі значнай колькасці кадраў. Але іх у рэспубліцы не хапала. Тады РСФСР, УССР і іншыя саюзныя рэспублікі накіравалі ў Беларусь у 1930 годзе 3 800 кваліфікаваных рабочых. Практычную дапамогу ў падрыхтоўцы і правядзенні сяўбы 1931 года аказалі беларускім хлебаробам 300 ударнікаў перадавых гаспадарак Крамянчугскай, Палтаўскай і Лубянскай акруг Украіны.

Поспехі ў развіцці народнай гаспадаркі Беларусі дазволілі ёй выканаць свой інтэрнацыянальны абавязак перад іншымі саюзнымі рэспублікамі. Беларускі лес у вялікай колькасці вывозіўся на шахты Данбаса, на будаўніцтва Дняпроўскай гідраэлектрастанцыі і Харкаўскага трактарнага завода. Хлебаробы рэспублікі накіроўвалі эшалоны з бульбай у Ленінград, Данбас і Маскву. Прадукцыя запалкавай, папяровай, дрожджавай, дрэваапрацоўчай, шкляной, металаапрацоўчай прамысловасці адпраўлялася ў Ленінград, на Украіну, Урал, Закаўказзе.

На шахты Данбаса і Магнітабуд па камсамольскіх пуцёўках было накіравана звыш 22 тысяч беларускіх рабочых і калгаснікаў. На будаўніцтве Сталінградскага трактарнага — гіганта пяцігодкі — працавала больш 1 200 юнакоў і дзяўчат з БССР.

Усе гэтыя прыклады гавораць пра развіццё новых узаемаадносін народаў на аснове дружбы, супрацоўніцтва і ўзаемадапамогі, паказваюць, што толькі сумеснымі намаганнямі ўсіх рэспублік пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі можна пераадолець эканамічную і культурную няроўнасць паміж народамі. Гэта палітыка партыі праводзілася і ў далейшым. Таму паскораны ўздым нацыянальных рэспублік працягваўся і ў наступныя пяцігодкі. Калі ў 1970 годзе ў параўнанні з 1913 годам аб'ём прамысловай прадукцыі па Савецкім Саюзе павялічыўся ў 92 разы, то па Беларусі — у 101, Казахстане — 146, Кіргізіі — 188, Башкірыі — 477, Кабардзіна-Балкарскай АССР — у 2 435 разоў. Высокага ўзроўню развіцця дасягнула агульнасаюзная эканоміка. Нацыянальны даход Саюза ССР у параўнанні з 1921 годам павялічыўся больш чым у сто разоў.

XXIV з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза вызначыў новыя гарызонты развіцця народнай гаспадаркі як асобных саюзных рэспублік, так і ўсяго Саюза ССР на шляху да камунізму. Калі вытворчасць прамысловай прадукцыі ў бягучай пяцігодцы ў цэлым па краіне было запланавана павялічыць на 42—46 працэнтаў, то ў Беларусі — на 53—56 працэнтаў, Узбекскай ССР — на 46—49, Казахскай ССР — на 57—60, Малдаўскай ССР — на 56—59, Армянскай ССР — на 60—63, Туркменскай ССР — на 55—58 працэнтаў.

Дзякуючы ленінскай нацыянальнай палітыцы КПСС народы нашай краіны за 50 гадоў знаходжання ў складзе СССР і 55 гадоў Савецкай улады прайшлі ў сваім развіцці такі шлях, на які ва ўмовах капіталізму спатрэбіліся б стагоддзі. Толькі ў братнім яднанні, у супольнай адзінай працы на шляху да адзінай мэты — камунізму з незвычайнай паўнатой раскрыліся стваральная энергія, творчыя здольнасці, таленты ўсіх нацый і народнасцяў нашай Радзімы.

Праводзячы палітыку ўсебаковага развіцця кожнай з братніх савецкіх рэспублік, далейшага паступовага збліжэння нацый і народнасцяў нашай краіны, Камуністычная партыя зыходзіць з пастаяннага ўліку як агульных інтарэсаў усяго Саюза ССР, так і інтарэсаў кожнай з утвараючых яго савецкіх рэспублік. У гэтым сутнасць палітыкі нашай партыі ў нацыянальным пытанні.

**Іван САРАКАВІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**

● Ілья ФАНЯКОЎ



# СІБІР—ЗАЎСЕДЫ АДКРЫЦЦЁ

Неяк у адным з гарадоў Сібіры мне давялося ўдзельнічаць у літаратурным вечары сумесна з пісьменнікамі розных рэспублік нашай краіны. Многія госці пачыналі свае выступленні так:

— Я ў Сібіры—упершыню!..

І гаварылі пра тое, якое радаснае здзіўленне прынесла ім «адкрыццё Сібіры».

Слухаў я, слухаў выступаючых—і раптам падумалася: і я ж у Сібіры, па сутнасці, таксама ўпершыню, хоць маё першае знаёмства з Сібірру расцягнулася не на тыдні, не на месяцы, а на пятнаццаць гадоў.

Праўда, калі ўжо быць да канца дакладным, Сібір кранalася майго лёсу і раней. Пачаць з таго, што яна пакінула свой «аўтограф» у маёй метрыцы: «месца нараджэння—горад Бадайба». Але толькі ў сталасці, зусім нядаўна, мне давялося ўпершыню ўбачыць, што з сябе ўяўляе гэты горад. Дзяўчына ў мясцовым ЗАГСе на здзіўленне хутка знайшла ў адной з тоўстых кніг запіс аб маім нараджэнні. Нават сэрца здрыганулася: столькі гадоў мінула, даўно няма майго бацькі, які некалі страляў у неба з паляўнічага ружжа ў гонар нараджэння нашчадка, адгула над светам вайна, у мяне самога падрос сын—а тут нават не выцвіла фіялетавае канцылярскае чарніла! Тады, пасля нараджэння, мяне амаль адразу ж павезлі ў Ленінград—мае бацькі былі ленінградцы. Горад Бадайба быў месцам працы бацькі, інжынера-геолага, і ён зусім не збіраўся заставацца тут на ўсё жыццё. Я рос у Ленінградзе, там сустрэў вайну, пасля—блакада, эвакуацыя цераз Ладажскае возера на поўнач Расіі за Урал, у Курганскую вобласць. Гэта была, можна сказаць, другая сібірская метка ў маім лёсе. Але Сібір была адноснаа—Зауралле, ды і ўзрост пакуль яшчэ не той...

Дык, значыць, я не крыўлю душой, гаворачы, што першая сапраўдная сустрэча з Сібірру адбылася тады, калі я, выпускнік Ленінградскага ўніверсітэта, малады журналіст, прыехаў сюды на працу—«у распараджэнне Новасібірскага абкома КПСС», як было сказана ў накіраванні. Адбылася сустрэча—і расцягнулася, як я ўжо напісаў, на пятнаццаць гадоў. Пакуль—на пятнаццаць...

Я ні ад нічога не зарака́юся ў будучым, як не зарака́ўся, не даваў ніякіх клятваў і тады, калі выбіраў «сібірскае» накіраванне. Больш таго: думаў спачатку, што, маўляў, адпрацую сумленна неабходныя маладому спецыялісту тры гады—і вярнуся на берагі Нявы.

Але сталася—не вярнуўся. Па ўласным жаданні. Бываю ў Ленінградзе часта, а то і па некалькі разоў у год, слухаю пытанні радні: «Калі ж?» А сам ужо думаю пра тое, як бы не спазніцца дадому да прызначанага часу. «Дадому»—гэта ў Сібір.

Чаму так?

Пастараюся растлумачыць, бо гэта мне здаецца важна. Тыя, хто едзе і паедзе ў Сібір, павінны дакладна ведаць, чаго шукаць, чаго чакаць ад яе.

У чым «сібірскі магніт»?

Пачынаюць звычайна з прасторы і багацця Сібіры, з велічы і прыгажосці яе прыроды. Але жывеш, шчыра кажучы, не з прыродай, не з багаццямі, надзівіўся імі ў першыя два тыдні, а потым прывыкаеш, як прывыкаюць ленінградцы да свайго Адміралцейства. І хоць прыгажосць і веліч неўпрыкметку ўздзейнічаюць на душу і сэрца, думаеш усё ж такі болей пра работу, якую трэба выканаць своечасова, пра новае паліто для сына, пра іншыя будзённыя справы.

Прастора?

Яе сапраўды хапае.

Але для асобнага чалавека ад яе, бадай, больш нязручнасцяў, чым пэўнай радасці. Хоць і харобрацца сібіракі, што для іх «сто градусаў не мароз, сто кіламетраў не адлегласць», але, вядома, праблема адлегласцяў існуе. Прытым не столькі нават «глабальных» адлегласцяў (далёка ад Масквы, далёка ад чарнаморскіх курортаў), колькі «мясцовых». Ад горада да горада. Ад райцэнтра да райцэнтра. Нават—уявіце сабе—у вялікім горадзе ад аднаго раёна да другога: сібірскія гарады развінуліся шырока, праекціроўшчыкам—раздолле, зручна «садзіць» новыя прамысловыя прадпрыемствы і жыллёвыя масівы на пустках, дзе нішто не перашкаджае,—а ў выніку расцягненасць камунікацый, транспартныя складанасці.

Да таго ж—калі гаварыць аб прыродзе—пасяліўся я зусім не ў самым «выйгрышным» у гэтым сэнсе раёне Сібіры: не каля енісейскіх скал, не каля хрыбтоў Забайкалля, не каля быстрай Ангары. Наша Заходняя Сібір—гэта Кулундзінскія і Барабінскія стэпы, роўныя і гладкія, з бярозавымі пералесками, якія тут называюць «колкамі». У нізкіх зялёных берагах нетаропка цячэ спакойная, раўнінная Об. Ёсць, вядома, над ёю прыгожыя бары, ды і «колкі» нашы прывабныя, асабліва вясной і ранняй восенню, але нічога такога асаблівага, шчыра скажам, няма...

Што ж усё-ткі ёсць?

Пачну з простага прыкладу.

Адно з першых заданняў, якое атрымаў я, зусім яшчэ жаўтароты рэпарцёр, на пяты ці шосты дзень працы ў абласной газеце «Савецкая Сібір», было такім:

— Едзьце на раз'езд Сеяцель, дайце рэпартаж з месца будаўніцтва будучага навукоўвага горада Акадэміі навук СССР.

Цяпер усе ведаюць наш Акадэмгарадок. А тады яшчэ самі новасібірцы толкам не ведалі, што і як будзе. На асеннім ветры трапятаўся сцяжок над санным домікам—«рэзідэнцыяй» прараба. Забівалі першыя калкі. Рабочыя капалі катлаван пад фундамент—не, яшчэ не інстытуцкага будынка, а драўлянай трэстаўскай канторы. Усё было надзвычай будзённа.

А цяпер я заўсёды, знарок ці міжволі, успамінаю гэты дзень, хвалюся перад прыезджымі, суайчыннікамі ці людзьмі з-за мяжы.

— А я помню, тут першыя калкі забівалі! Першы рэпартаж пісаў пра гэта!

І такое пачуццё, нібы сам штосьці тут пабудаваў.

Вось гэтае адчуванне ўдзелу ў жыцці, прытым нейкага маштабнага ўдзелу, бадай і ёсць тое галоўнае, што дае Сібір.

Як бы растлумачыць больш пераканаўча?

Прыгадваецца старая французская прытча пра будаўнікоў славутага Шартрскага сабора.

Падарожны ўбачыў трох рабочых, занятых адной справай. Здаецца, яны мясілі гліну.

— Што вы робіце?—спытаўся падарожны.

— Не бачыш, у гразі топчамся,—хмура азваўся адзін.

— Гліну месім, каб у справу пайшла,—сказаў другі.

— Будую Шартрскі сабор,—горда выпраміўся трэці.

Мне здаецца, сібірская «атмасфера» вельмі садзейнічае выпрацоўцы ў чалавеку светаадчування трэцяга рабочага: што б ты ні рабіў—ты спадарожнік вялікага. Агульнасаюзнага. Сусветнага. А з такім пачуццём цікавей жыць.

Цікавей—гэта не значыць лягчэй.

За пятнаццаць гадоў былі ў мяне ў Сібіры і цяжкасці, і нягоды, і непапраўныя страты.

Не так даўно, летам, мне прыйшлося тэрмінова выехаць у Цюмень. Прычына была самая сумная. Пахаванне таварыша, равесніка, геолага-нафтавіка, які загінуў у аўтамабільнай катастрофе. Калісьці мы разам былі ў экспедыцыі—я хадзіў у яго рабочым. Тады ён жыў у нас, у Новасібірску. У Цюмень перабраўся, бліжэй да «вялікай нафты», «адкрыцця стагоддзя», у якое і ён унёс пэўны ўклад. У жыцці ён быў шумным, дзейным, заўсёды ўладкоўваў нечыя справы, заўсёды быў нечым незадаволены...

Недзе паміж Новасібірскам і Цюменню ён паспеў пажыць на Поўначы, у Дудзінцы. Працаваў у мясцовай геалагічнай службе і заканчваў кандыдацкую дысертацыю, вывучаў перспектывы нафтагазаноснасці Енісейскай Поўначы.

Не так даўно я пабыў на Енісейскай Поўначы, у Нарыльску. У другі раз. І звярнуў увагу на адну дэталь: знік вялізны плакат на цэнтральнай вуліцы горада: «За святло і цяпло дзякуй, шахцёр Запаляр'я!» Знік не таму, што людзі поўначы сталі горш адносіцца да шахцёраў. Не. Проста здабыча вугалю пад Нарыльскам зараз паступова скарачаецца. На прамысловыя прадпрыемствы і ў дамы прыйшло больш таннае, больш гігіенічнае, больш выгаднае ва ўсіх адносі-

нах паліва—газ. Таймырскія геолагі адшукалі прамысловыя месцанараджэнні прыроднага газу. Яны рухаліся ў тым напрамку, што вызначыў у сваіх працах мой сябар—нябожчык Грыша Вострыў. Так аўтарытэтна зазначыў мне ў гутарцы буйны савецкі нафтавік—акадэмік Андрэй Аляксеевіч Трафімук. Вядома, нельга заяўляць катэгарычна, што, маўляў, вось адзін чалавек «усё перавярнуў». Так у наш час амаль не бывае. Але ўсё ж намаганні нават аднаго чалавека, вынік нават аднаго, няхай кароткага жыцця, якое заўчасна абарвалася, у Сібіры больш рэальна бачны, чым дзе.

Тут хутчэй давяраюць маладому працаўніку самастойны і адказны ўчастак.

Тут хутчэй навічок адчувае сябе «старажылам», таму што—«калі я прыехаў сюды, вось гэтага яшчэ не было», «вось гэта пры мне пабудавана»...

Газета паведамляе: пасёлак нафтавікоў Ніжневартаўск у Цюменскай вобласці атрымаў статус горада. Ніжневартаўск вырастае на каласальным нафтавым месцанараджэнні Саматлор, якое завуць «жамчужынай Сібіры».

Я міжволі «адзначаю» для сябе гэтае паведамленне, вылучаю яго з патоку іншых. А як жа, з адным з кіраўнікоў будаўніцтва гэтага маладога горада мы знаёмыя доўгі час і зусім не таму, што ён вядомы архітэктар. Ён пісаў вершы, займаўся ў мяне ў літаратурным аб'яднанні, выдаў нават дзве кнігі, адну з іх—у Маскве. Яго лаялі і хвалілі на занятках, а ён—тады яшчэ зусім малады—апраўдваўся, калі ўжо занадта крытыкавалі:

— Няма калі адшліфоўваць радкі, спраў—завал.

— Ва ўсіх праца,—пярэчылі яму.

А ягонай працай ужо тады быў Ніжневартаўск, назву якога гэтак сама, як і слова «Саматлор», пішуць цяпер на ўсіх мовах свету—і славянскай кірыліцай, і лацініцай, і арабскай вяззю, і японскімі іерогліфамі...

Вельмі блізка ў Сібіры ад будзённых спраў да сусветных праблем.

Нельга меркаваць, што на сібірскіх прасторах, маўляў, раздолле толькі геолагу, тапографу, будаўніку. Сібір—гэта не толькі тайга. Я, напрыклад, у сапраўдную тайгу трапіў не раней, як на трэцім ці чацвёртым годзе жыцця ў Сібіры. Сібір—гэта і гарады, вялікія і малыя, і новенькія пасёлкі, і старыя сёлы, і людзі, людзі, людзі...

Тут любая прафесія набывае асаблівае адценне.

Гісторык, архівіст?

Адна з самых вострасучасных прафесій для сённяшняй Сібіры!

Здаецца, мінуў, дзякуй богу, той час, калі мы сустракалі навасёлаў Сібіры самазадаволенай бадзёрай песенькай:

Здесь ничего бы не стояло,
Когда бы не было меня!

Якія б слаўныя ні былі справы нашых суайчыннікаў, не з нас пачынаецца гісторыя Сібіры. Была ў яе гісторыя і да нас—і слаўная. Маўклівымі сведкамі гэтай гісторыі ўзвышаюцца на крутым абрыве белакаменныя сцены Крамля ў старажытным горадзе Табольску. Цяпер гэты горад невялікі, але ў мінулым яго—была свая слава. Першая драўляная крэпасць была ўзведзена тут паплечнікамі Ермака з разабраных суднаў—так і называлі матэрыял, які пайшоў на будаўніцтва, «ладзейным». Пасля на працягу многіх гадоў горад быў сталіцай Сібіры, цэнтрам губерні, хоць і занепадаў паступова, бо застаўся ў баку ад Транссібірскай чыгункі. У Табольскім Крамлі прыцягваюць увагу будынкі Шведскай палаты (так названай таму, што будавалі яе шведы, узятыя ў палон пад Палтавай) і Менавага двара, узведзенага тут у першыя гады XVIII стагоддзя. У гэтых будынках размешчаны сховішчы славутага Табольскага архіва—у значнай ступені яшчэ не разабраныя. І хто ведае, якія сакрэты яшчэ тоіць ён!

Нядаўна адзін омскі даследчык натрапіў там на дакументы, якія датычаць гісторыі стварэння сусветна вядомага рамана Дастаеўскага «Браты Карамазавы»... Але самае галоўнае—для горада наступае зараз новая гістарычная паласа. Воляй лёсу ён аказаўся «ўнутры» гіганцкага нафтагазаноснага раёна і ў будучым стане прамысловым цэнтрам. Гэта і радуе і... палохае: не заўсёды ўдаецца спалучаць гарманічна імклівы тэхнічны прагрэс і каштоўную даўніну. Як павінен развівацца ўнікальны горад, каб, не адстаючы ад часу, застацца самім сабой? Што менавіта патрэбна захаваць? Тут патрэбна вока гісторыка, археолага, архітэктара, журналіста... Так гісторыя сутыкаецца ўшчыльную з самымі актуальнымі пытаннямі сённяшняга дня.

А пра Об-Енісейскую водную сістэму, пра канал Кець-Кас—чулі? Не праходзілі ў школе? Дык вось, існуе такі канал, які злучае басейны двух сібірскіх волатаў, яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя пабудаваны. Самы сапраўдны канал, з сістэмай плацін і шлюзаў. Яго збудаванні былі разбураны белымі ў час грамадзянскай вайны і з таго часу не аднаўляліся. Але ж і цяпер па ім можна пры жаданні праплысці на лодцы. Я ведаю людзей, якія адолелі гэты шлях. Ведаю, напрыклад, Барыса Іванова, шафёра з будаўніцтва самай паўночнай у свеце Хантайскай ГЭС, які адзін на маторнай лодцы праплыў са сваёй Хантайкі (прыток Енісея) да Куйбышава на Волзе. Адным з этапаў яго шляху быў канал Кець-Кас. Зараз ставіцца пытанне: ці не варта ў сувязі з цяперашнім развіццём Сібіры адрадзіць гэтую занядбаную водную сістэму? Зноў гісторыя сутыкаецца з сучаснасцю, рамантыка—з цвярозым эканамічным разлікам. І можна пры жаданні прыняць самы прамы ўдзел у вырашэнні гэтай праблемы.

Вы—выкладчык замежнай мовы, працаўнік гандлю, эканаміст, бухгалтар? *Любая прафесія, паўтараю, можа «засвяціцца» тут нечаканым святлом.* Памятаю, з якім натхненнем гаварыў мне пра сваю лепшую і самую патрэбную на свеце прафесію малады бухгалтар у маладым пасёлку каля гор Палярнага Урала!

Я не «зазываю» ў Сібір. Справа зазывалы ніколі не здавалася мне цікавай. Я проста расказваю ўсё, як ёсць, пра зямлю, якая стала часткай майго лёсу, спрабую растлумачыць іншым і сабе, чым яна прываражыла маю душу,—хоць, здавалася б, цяжка палюбіць які-небудзь горад пасля Ленінграда, аднаго з цудоўных гарадоў свету.

*Вядома, колькі людзей, асабліва маладых, прыязджае ў Сібір:* пасля заканчэння вышэйшых навучальных устаноў, з камсамольскімі пуцёўкамі і без іх.

Пра тое, колькі людзей з Сібіры выязджае, пішуць у спецыяльных—сацыялагічных, эканамічных—артыкулах. Гэта таксама даволі вялікая лічба. «Цякучка кадраў» тут пакуль вялікая. Не ўсе вытрымліваюць «выпрабаванне Сібірру». Дарэчы, найменшае значэнне (пра гэта трэба сказаць з усёй дакладнасцю) мае клімат. Меркаванне пра Сібір, як пра месца, дзе «вельмі холадна», цяпер даравальна толькі людзям з-за мяжы. У звычайнай Сібіры (калі не браць Крайнюю Поўнач)—*нармальны кантынентальны клімат сярэдняй паласы,* з даволі працяглым летам, за час якога можна ўдосталь накупацца і загарэць. Зіму тут пераносіць, бадай, лягчэй, чым у тым жа Ленінградзе. Пакідаюць Сібір значна часцей з-за недахопу камфорту ў гарадах, больш нізкім у параўнанні з заходнімі раёнамі краіны, развіццём сферы абслугоўвання і з-за іншых бытавых прычын. А больш за ўсё, я мяркую, менавіта таму, што людзі, якія едуць у Сібір, не заўсёды дакладна ўяўляюць, чаго ад яе можна чакаць, чаго патрабаваць. Адным здаецца, што таежныя сцежкі вымашчаны срэбранымі манетамі. Іншым здаецца, што сібірскае жыццё—*гэта бясконцыя песні ля кастроў пад гітару.* І першае, і другое—у аднолькавай ступені наіўнасць.

Але калі вы ўмееце гатаваць, скажам, боршч у рабочай сталоўцы і пры тым дзесьці ў глыбіні душы ўсведамляеце, што вы будуеце Саяна-Шушанскую ГЭС, і ўсведамленне гэтае адбіваецца не толькі на вашым самаадчуванні, але і на якасці баршча,—тады вы ў Сібіры спатрэбіцеся...

Дарэчы прыгадалася Саяна-Шушанская!

Мы стаялі каля плаціны, якую пачалі ўзводзіць, і глядзелі ўгору.

— *Вунь там, высока-высока—бачыце шчыт, а на ім трохвугольнік?* Гэта—паметка, да якой дасягне ўзровень будучага вадасховішча!

Не верылася.

Але праз некалькі дзён мы былі гасцямі ў «старэйшай сястры» Саяна-Шушанскай—Краснаярскай ГЭС—і плавалі па яе вадасховішчы, кантрольная паметка якога таксама здавалася калісьці неверагоднай, неажыццявімай, завоблачнай...

г. Новасібірск.



**Іван КОЛАС**

# ...І СТАЎ СІБІРАК ПАРТЫЗАНАМ

Амаль кожны дзень можна бачыць, як па старым тракце з Мінска ў бок Лагойска праязджае на мапедзе пажылы чалавек. На дарозе ён часам спыняецца, аглядае лінію сувязі, зноў сядае на мапед. Ледзь не ўсе жыхары вёсак, якія расцягнуліся ўздоўж тракта, яго ведаюць. І калі хто-небудзь сустрэне яго на дарозе, то абавязкова спытае:

— Як здароўе, Мікалай Рыгоравіч?

— Дзякуй, добра!..

Гэта Мікалай Рыгоравіч Аляксееў, сібірак, ветэран вайны, былы салдат, бясстрашны партызанскі камандзір, а цяпер участковы манцёр кабельнага ўчастка Мінскага эксплуатацыйна-тэхнічнага вузла сувязі. 20 гадоў ён на гэтай пасадзе. У восеньскую ці зімовую слоту загляне да каго-небудзь у хату, каб сагрэцца, перачакаць непагадзь, а калі разгаворыцца, то абавязкова ўспомніць вайну, раскажа пра сваіх сяброў-партызанаў.

Не так даўно я атрымаў ад Мікалая Рыгоравіча ліст. «Дарагі Іван Андрэевіч! — піша ён.— Ад сваіх баявых таварышаў я даведаўся, што вы жывяце ў Маскве. Я гэтай вестцы вельмі ўзрадаваўся. Вы ж, як і я,— ветэран вайны. Адзін час, у красавіку 1944 года, у тыле ворага я з вамі як з ваенным разведчыкам страчаўся. Памятаеце сустрэчу на аэрадроме, у Налібоцкай пушчы? Напэўна, памятаеце і адважную партызанку з групы падрыўнікоў Жэню Кірсанаву. Дык яна мая жонка. Жывём у Мінску. Трэба сказаць, што Беларусь я палюбіў, як сваю родную Сібір. Я быў двойчы паранены, трапіў у цяжкім стане ў палон, потым уцёк з палону. Тут, у Беларусі, мяне прытулілі, лячылі, ахоўвалі ад гітлераўскай нечысці.

Увогуле, ёсць што ўспомніць. Карацей — прыязджайце да нас у Мінск, пройдзем па старых партызанскіх мясцінах, сустрэнемся з баявымі сябрамі».

Пасля атрымання гэтага ліста я некалькі разоў сустракаўся з Мікалаем Рыгоравічам і яго жонкай Яўгеніяй Міхайлаўнай. Праехалі мы і па старых партызанскіх дарогах...

Улетку 1941 года заканчвалася служба радавога Мікалая Аляксеева ў пяхотным палку пад Магілёвам. Ён збіраўся ехаць у сваю родную сібірскую вёсачку Жураўку.

У ноч на 22 чэрвеня салдацкі сон перанёс яго ў Новасібірск. У сне Мікалай ехаў на спадарожным грузавіку па знаёмай дарозе, дыхаў водарам тайгі, пільна ўглядаўся ў знаёмыя палі, лясы... Вось і родны дом, на ганку бабуля Уліта, якая замяніла яму маці... А вось і сястрычка... Мікалай зухавата саскоквае з кузава і накіроўваецца да ганку...

— Трывога. Рота ў ружжо!

У першыя секунды Мікалай ніяк не мог зразумець, дзе ён: расплюшчыў вочы і ўбачыў, як спалохана саскокваюць з ложкаў яго таварышы і таропка апранаюцца... «Трывога!» «Трывога!» — зноў пачуў Мікалай і толькі зараз пазнаў голас днявальнага...

Была палова пятай. Каля казармы выстраіўся полк. Бегалі камандзіры, паспешліва аддавалі загады. Праз гадзіну полк у поўнай баявой гатоўнасці выйшаў у паход.

Каля вёскі Пятровічы, на ўсход ад Мінска, у бярозавым гаі ля невялічкай рачулкі Волма зрабілі прывал. На досвітку полк з ходу ўступіў у бой. Мікалай не бачыў саміх гітлераўцаў, але добра запомніў сталёвыя страшыдлы — танкі з крыжамі. Яны нахабна паўзлі на акопы. Кулямётная і вінтовачная траскатня змяшалася з выбухамі бомбаў, выццём матора і скрыгатам металу...

Амаль суткі полк трымаў занятыя ім пазіцыі, затым давялося з баямі адступаць... Пад Оршай зноў уступілі ў бой. Немцы дзесяць разоў узнімаліся ў атаку і кожны раз адкочваліся назад, пакідаючы на полі забітых і параненых. Нечакана злева паявіліся цяжкія нямецкія танкі. Яны на імгненне быццам замерлі, а затым пасунуліся на нашых з шалёнай сілай...

...Апрытомнеў Мікалай ад нясцерпнага болю. Са здзіўленнем убачыў, што ляжыць на саломе, побач з ім — такія, як ён сам, параненыя.

— Браточкі! Дзе мы знаходзімся? — гукнуў ён, падняўшыся.

— Куды ты! Жыць надакучыла?— пачуў ён чыйсьці голас. У гэты момант паласнула кулямётная чарга, зазвінелі разбітыя шыбы. Мікалай цяжка апусціўся на падлогу.

— Што гэта, браточкі? Дзе мы знаходзімся? — зноў здзіўлена паўтарыў ён.

Салдат з забінтаванай нагой, які адштурхнуў Мікалая ад акна, злосна крыкнуў:

— Не бачыш,— там ахова!

— Што ты сказаў, браток? — наблізіўся да салдата Мікалай.

— Ды ты глухі ці што?..

— Гавары, браток, гучней. Я амаль нічога не чую.

— Немцы нас вартуюць! Зразумеў? Мікалай здзіўлена паглядзеў на салдата і зразумеў, што яны ў палоне.

Жнівень канчаўся, але сонца паліла горача.

— Вы не ёсць хворы,— аб'явіў афіцэр на ломанай рускай мове,— вы ёсць ваеннапалонны. Зразумела? Мы вас павязём у лагер. Хто зробіць крок у бок, будзе забіты. Не размаўляць, рукі насат!..

Дваццаць пяць эсэсаўцаў акружылі калону, і ваеннапалонныя рушылі па дарозе.

Куды іх вялі, ніхто не ведаў. Ішлі моўчкі, кожны думаў пра сваё. Шэры пыл хмарай стаяў над калонай, шчыпаў вочы; шалёна пякло сонца, вярэдзіла раны, сушыла ў роце. Нясцерпна хацелася піць.

Праходзілі вёску. Каля калодзежа стаяла дзяўчына, разгублена глядзела то на немцаў, то на палонных. Затым яна набрала вядро вады, падхапіла яго і падбегла да палонных.

— Піце, родныя, піце!

Калона варухнулася, і натоўп хлынуў да вядра. Афіцэр штосьці крычаў, але палонныя як бы яго не чулі. Тады ён выхапіў пісталет і ва ўпор застрэліў двух бліжэйшых да яго палонных.

Палонныя адхіснуліся ад вядра. Але дзяўчына схапіла яго, набрала вады і зноў паднесла да калоны.

— Піце, родныя!

Да дзяўчыны паспяшаўся афіцэр. Ён штурхануў яе ў грудзі і хацеў штосьці сказаць. Але дзяўчына ўскочыла на ногі, з нянавісцю паглядзела на афіцэра: здавалася, вось-вось яна кінецца на яго.

— Гэта ж людзі!..

Яна з усяе сілы пляснула афіцэра па твары. Эсэсавец на імгненне разгубіўся, затым паволі падняў пісталет, пачаў цэліцца... Але нечакана да афіцэра падскочыў Мікалай, выбіў з рукі пісталет і амаль на ляту схапіў яго здаровай левай рукой, наставіў на афіцэра.

Ахоўнікі, убачыўшы такое, кінуліся на дапамогу, але былі тут жа схоплены палоннымі. Раздаліся адзіночныя стрэлы. Ахова была знішчана. Амаль шэсцьсот чырвонаармейцаў апынулася на волі.

Да Мікалая падбегла дзяўчына, з удзячнасцю паглядзела яму ў вочы і, абхапіўшы гарачымі рукамі шыю, пацалавала яго.

— Дзякуй табе, родны. І ўцякайце. Уцякайце, любыя!..

— А як цябе завуць?

— Аня.

Яны разышліся. Мікалай з групай у пяць чалавек рэзка звярнуў управа. Перабегшы невялікае поле, яны рушылі ў лес. Двое сутак блукалі па лесе, а на трэція рашылі зайсці ў вёску — падсілкавацца. Пераступіўшы парог крайняй хаты, убачылі там толькі старога. Ён сядзеў за вялікім сталом і снедаў. Ля чыгунка з бульбай стаяла міска капусты.

— Мы палонныя,— прамовіў ціха Мікалай.— Пакарміце нас, калі ласка.

Стары вылез з-за стала, падазрона паглядзеў на Мікалая, затым сказаў:

— Як жа вы мяне напалохалі, даражэнькія! Вы ж параненыя...

— Так, бацька, на жаль...

— Сядайце, сядайце. Бульбачка ёсць...

Агародамі яны выйшлі да лесу. Дарога вяла на Шклоў. Быў поўдзень. Нізка плылі набрынялыя вадой, цёмныя хмары. Моцна балела галава. Пякла рана. Мікалай крочыў наперадзе, падтрымліваючы параненую руку.

— Хальт! — раптам, як абухом, ударыў вокліч. Іх адразу ж акружылі пяць гітлераўцаў з аўтаматамі. Доўга дапытвалі параненых, потым пасадзілі ў машыну і прывезлі ў лагер ваеннапалонных — пад Магілёвам...

Неяк раніцай Мікалай, як і іншыя палонныя, стаяў ля драцяной агароджы, уздоўж якой тоўпіліся жанчыны з клуначкамі і кагосьці выглядалі.

Раптам адна кінула позірк на яго і моўчкі падала яму праз агароджу, проста ў рукі, поўны чыгунок гарачай варанай бульбы. Мікалая абступілі з усіх бакоў палонныя. Дзесяткі рук пацягнуліся да чыгунка. Імгнен-

на той апусцеў. На дне бялела толькі адна бульбіна. Мікалай хацеў быў узяць яе, ды раптам узняў галаву і убачыў знаёмы твар.

— Аляксееў? Мікалай! Жывы. Не пазнаеш? Ды гэта ж я, Сяргей Арцёменкаў. Памятаеш? У палкавой шавецкай майстэрні боты табе перашываў. Са мной тут Пётр Васільеў, кравец, ты павінен ведаць яго. Мы тут пятыя суткі ўжо...

Мікалай паставіў на дол чыгунок, левай рукой дастаў бульбіну і падаў яе Сяргею.

— Бяры, братка, з'еш. Ну, як сябе адчуваеш?

— Справы дрэнь,— уздыхнуў Сяргей.— Трэба неяк драла даваць. Інакш нам усім тут будуць капцы...

Падышоў Васільеў. Ён доўга глядзеў на Мікалая. Затым сумна ўсміхнуўся і паціснуў яму руку.

Калі падышлі да барака, Пётр Васільеў прызнаўся, што збіраецца ўцячы з лагера. Мікалай адразу ж падтрымаў яго. Хоць сам сумняваўся, што сябры стануць з ім, параненым, важдацца.

— Вы, хлопцы, здаровыя, дык і дзейнічайце. Я ж вам буду замінаць...

Сяргей і Пётр з дакорам паглядзелі на Мікалая.

— Добра, хлопцы, іду з вамі!..

...Палонных прывезлі ў Магілёў на чыгуначную станцыю. Пагрузілі ў вагоны. Мікалай са сваімі сябрамі трапіў у шосты вагон. Загрукалі завалы, і неўзабаве эшалон рушыў.

Змерклася. Трэба было неяк адчыніць дзверы і ўцякаць. Пётр і Сяргей пачалі важдацца з дзвярыма. У гэты момант эшалон спыніўся. Усім загадалі выйсці. Да эшалона пад'ехала некалькі грузавых аўтамашын, якія асвятлілі фарамі калону. Светла стала, хоць іголкі збірай.

І адразу ж каманда рухацца. Прайшлі міма нейкіх будынкаў. Затым гітлераўцы павялі калону полем. Пры яркім святле аўтамабільных фар палонных загналі ў лагер, абнесены калючым дротам. Вакол — вартавыя вышкі. Тырчаць рулі кулямётаў. Ходзяць узброеныя да зубоў салдаты. «Значыць, зноў лагер»,— падумаў Мікалай.

На адкрытай пляцоўцы эсэсаўцы спынілі палонных, пералічылі і загадалі да раніцы нікуды з месца не рухацца. Пётр, Сяргей і Мікалай выбралі дзе сушэй, ляглі ўпобачкі. Прыціскаючыся адзін да аднаго, яны грэліся. Ноччу пайшоў дождж...

Раніцай з'явіўся перакладчык, аб'явіў, што наступіла каманда строіцца па шэсць чалавек. Палонных вывелі з лагера і зноў паўпіхалі ў грузавікі, крытыя брызентам.

Зараўлі маторы. Цяжка крануліся грузавікі. Пад вартай некалькіх бронемашын, узброеных кулямётамі, палонных везлі амаль увесь дзень. Куды? Ніхто не ведаў. Нарэшце, машыны спыніліся. Загергеталі немцы, расшпілілі рамяні брызентаў і загадалі разгружацца.

Калі Мікалай і яго таварышы вылезлі з кузава, Сяргей паглядзеў па баках і шэптам сказаў:

— Мы ў Мінску. На Грушаўцы...

Палонных завялі ў двор, дзе былі размешчаны бульбасховішчы, і загадалі перабіраць бульбу. Нікому не гаворачы, Мікалай тут жа рашыў зрабіць разведку: якія магчымасці для ўцёкаў. Ён падышоў да выхаду са склепа. Тут стаяў вартавы — пажылы немец з аўтаматам.

— Пан, пусці мяне вунь туды,— і ён паказаў рукой у бок туалета, які быў тут у двары, недалёка ад склепа.

У гэты час з варот насустрач яму гітлераўцы вялі да сховішча групу жанчын. Мікалай на імгненне спыніўся і нечакана заўважыў знаёмы твар. «Няўжо Жэня?»

— Жэнечка! Гэта ты? — выкрыкнуў ён.

Жанчына падазрона паглядзела на аброслага ў лахманах старога, а потым падышла бліжэй, прыгледзелася.

— Мікалай!

— Я, Жэнечка!

Жэня кінулася яму на шыю.

— Божа! Жывы ты?

— Жывы, Жэнечка! У лагеры. На работу нас, палонных, прывезлі...

— Мяне таксама схапілі ў горадзе і прывезлі сюды,— растлумачыла Жэня.

— А ты дзе зараз жывеш?

— У Мінску,— адказала Жэня і дадала: — Табе, Мікалай, трэба ўцякаць, абавязкова ўцякаць да партызанаў...

Жэня паведаміла Мікалаю адрас, куды ён павінен з'явіцца на сустрэчу з ёю, і яны разышліся.

Не пакідала Мікалая ўсё тая ж думка: «Уцячы, уцячы і толькі ўцячы...»

Неяк ён сказаў пра гэта Івану Гармашу.

— Ты павінен спачатку паправіцца,— адказаў Гармаш.— А ўцёкі мы рыхтуем. Калі будзе ўсё гатова, табе шапнём...

Мінулі чатыры дні.

З вечара церушыў дождж, узняўся вецер. Ноч выдалася цёмная. Гэта Гармаша і яго таварышаў радавала. Было каля поўначы. Мікалай задрамаў. І раптам хтосьці моцна штурхануў яго ў бок. Мікалай прачнуўся і ўбачыў побач Івана Гармаша.

— Ну, Коля, выходзім...

Калі яны выбраліся, Мікалай заўважыў, што група людзей ужо стаяла за баракам.







Мікалай Рыгоравіч Аляксееў, яго дачка Тамара і жонка Яўгенія Міхайлаўна.

— За мной! — скамандаваў Гармаш.

Непрыкметна, прыгнуўшыся, трынаццаць чалавек палонных мінулі яшчэ адзін барак і наблізіліся да неглыбокага рова, зарослага бур'янам. Заляглі. Нечакана слізгануў прамень пражэктара. Па спіне Мікалая прабег халадок: хоць бы не заўважылі. Настаў рашучы момант: жыццё ці смерць. Гармаш з фінкай у руцэ, Біндзюк, Васільеў і Арцёменкаў з каменнямі папаўзлі да грыбка, дзе стаялі гітлераўскія патрулі, астатнія заляглі недалёка ў бур'яне.

...Гітлераўскія патрулі былі зняты без шуму. Палонныя кінуліся да драцяной агароджы. Там Гармашам быў загадзя зроблены праход. Узмацніўся дождж, гудзеў у правадах вецер. Ноч цёмная, хоць вока выкалі.

Калі група ўжо была за дзвесце метраў ад лагера, у неба ўзляцела асвятляльная ракета, за ёю другая, трэцяя... Завылі сірэны, фашысты ўзнялі трывогу. Застракаталі кулямёты з вышак.

— Хутчэй, хлопцы, як мага далей адсюль! — амаль закрычаў Іван Гармаш.

Мікалай поўз з усіх сіл. Займала дыханне. Сэрца білася так, што здавалася вось-вось выскачыць з грудзей. На імгненне спыніўся, агледзеўся — нікога. І ўжо ўгнуўшыся, бег усё далей і далей ад лагера.

Праз якога паўкіламетра ён спыніўся, каб перавесці дух, і ўбачыў побач з сабой Івана Біндзюка. Той таксама цяжка дыхаў і не мог прамовіць ні слова.

— Жывы, Іван?

— Жывы, Коля.

— А дзе астатнія?

— Відаць, у кусты пабеглі. А Гармаш загінуў, напэўна.

— Не можа быць!..

— Ага. Па-мойму, я бачыў, як Гармаш усіх прапусціў праз агароджу, а сам хацеў прайсці апошнім. Відаць, яго паранілі з кулямёта і ён павіснуў на дроце.

Стрэлы раздаваліся ўсё бліжэй. Іван Біндзюк і Мікалай Аляксееў рэзка звярнулі на захад. Па дарозе да іх далучыўся Мікалай Куцэнка. На досвітку яны падышлі да вёскі Дворышча, асцярожна прабраліся па агародах да крайняй хаты, у страсе хлява зрабілі лаз і залезлі на сенавал.

— Ну, хлопцы, на гэты раз уцяклі мы шчасліва,— шэптам вымавіў Мікалай.— Тут, мне здаецца, спакойна...

Пах свежага сена дурманіў, моцна браў сон. Днела. Раптам зарыпелі вароты. У хлеў зайшла маладая жанчына з вядром у руках. Падышла да каровы, каб падаіць яе. Мікалай зразумеў, што гэта гаспадыня, і, каб не аказацца ў няёмкім становішчы, калі яна раптам убачыць уцекачоў, рашыў першым абазвацца.

— Гаспадынька! — спакойна аклікнуў ён.

Пачуўшы нечы голас, жанчына аж выпусціла з рук вядро.

— Не бойцеся. Свае — уцякаем з палону...

Жанчына паглядзела на незнаёмцаў і трывожна прамовіла:

— Як жа з вамі быць? Вас могуць схапіць...

Яна выбегла з хлява, зачыніла за сабой вароты і кудысьці знікла. Усе саскочылі з сенавала і кінуліся да варот. Карова спалохана паднялася, падышла да вядра, панюхала яго і замычэла.

— Уцякаць трэба,— затурбаваўся Куцэнка.

— Ды памаўчы ты,— цыкнуў на яго Мікалай.— Чуеш?

Дзесьці застракаталі матацыклы. Па дарозе недалёка ад хлява пранесліся грузавікі. У суседнім двары забрахаў сабака. Грымнуў стрэл. Яшчэ адзін. Сабака заскавытаў, потым зноў пачаў брахаць. Раздаліся яшчэ два стрэлы запар, і сабака заціх.

Усе знямела маўчалі. Першым азваўся Іван Біндзюк:

— Не можа быць, каб гаспадыня пайшла да іх. Свая ж, беларуска...

— Ідзе, ідзе,— раптам паведаміў Мікалай.— Во яна. Адна...

Усе прыціхлі. Шчоўкнула завала, адчыніліся вароты. Увайшла гаспадыня з вялікім скруткам у руках.

— Відаць, даражэнькія, хваляваліся,— сказала яна і працягнула Мікалаю скрутак.— Вось усё, што знайшла з мужчынскага адзення. Пераапранайцеся. Да вечара пабудзьце ў хляве, можа, і пранясе. А ўвечары я вас выведу...

— Вялікае вам дзякуй.

— Ды няма за што, даражэнькія. А адкуль жа вы будзеце?

— Далёкія. Адзін з Кубані, другі з Украіны, а я далей за ўсіх — з Сібіры...

— Ох, божачка! Можа, і мой блукае дзесьці вось так!..

І гаспадыня выйшла з хлява. Неўзабаве яна вярнулася і прынесла гладыш сырадою, бохан хлеба і тварагу. А калі сцямнела, яна агародамі вывела іх за вёску ў бяспечнае месца і паказала дарогу, што вяла ў лясную вёсачку — Багатырова.

— Тут усюды немцы,— сказала яна,— а па гэтай дарозе іх няма. Але глядзіце, будзьце асцярожныя, даражэнькія...

Развітаўшыся з жанчынай, а гэта была Любоў Васільеўна Якутовіч, Іван Біндзюк, Мікалай Куцэнка, Мікалай Аляксееў апоўначы прыйшлі ў вёску Дварыцкая Слабада. У доме Ананкавых яны пераначавалі, а перад світаннем, падзякаваўшы гаспадарам, накіраваліся ў Багатырэўскі лес. У густым сасонніку зрабілі прывал. Трэба было выпрацаваць план на далейшае. Мікалай Аляксееў прапанаваў:

— Трэба шукаць партызанаў. Яны недзе павінны быць.

— А мо, хлопцы, лучшэ пішлі до менэ, на Чэрнігаўшчыну,— выказаўся Куцэнка.— У мяне толькі бацько і маты. Арганізуемося і — у партызаны.

— Не,— адказаў Аляксееў.— Вы — як хочаце, а я застануся...

— Я таксама застаюся з табой, Коля,— заявіў Біндзюк.

— А я пійду на Чэрнігаўшчыну. Калі шо, не памінайце ліхом.

І Куцэнка пайшоў.

Яны ж пайшлі на захад, разлічваючы на тое, што там немцаў будзе менш, там вялікія лясы, у якіх павінны быць партызаны.

Аляксееў і Біндзюк прайшлі шмат вёсак і пад канец лютага 1942 года вярнуліся зноў пад Мінск.

Апошнія дні лютага былі марозныя, дзьмуў халодны паўночны вецер, было шмат снегу, цяжка было ісці. Яны прыйшлі на хутар Антонішкі да свайго знаёмага, у якога ўжо аднойчы начавалі, Антона Тарановіча. Гаспадар і гаспадыня пазналі іх.

— Куды ж зараз кіруецеся? — спытаў Тарановіч.

— Думаем падацца ў бок фронту, на ўсход,— растлумачыў Мікалай.— А сёння думаем у вас паначаваць.

— Калі ласка,— адказаў гаспадар.

— Не, Коля, ты тут застанешся адзін, а я пайду ў Слабаду, там ёсць знаёмыя, павінны пусціць мяне...

Іван закурыў, развітаўся з Аляксеевым, з гаспадарамі і сказаў:

— Вы тут, гаспадар, глядзіце. Мікалай хворы, паранены. Беражыце майго сябра.

І пайшоў. Гаспадыня пачала завіхацца ля печы, а мужу сказала:

— Прынясі дроў. Чалавеку трэба памыцца, пераапрануцца ў чыстае...

На другі дзень Мікалай пайшоў у Слабаду ў надзеі сустрэцца з Іванам. Там ён даведаўся, што Іван загінуў. Гэта вестка моцна ўзрушыла Мікалая. Ён доўга сядзеў знясілены на снезе, на марозе і проста не ведаў, што далей рабіць, як быць і як жыць аднаму. Яму здавалася, што ўжо ўсё страчана. У Іване ён бачыў сябра, таварыша і абаронцу, які шмат разоў ратаваў яго ад смерці. А цяпер ён застаўся адзін.

Ноччу Мікалай Аляксееў перайшоў у вёску Дворышча. Спачатку яго хаваў ад немцаў, лячыў і карміў Антон Рыгоравіч Якутовіч і яго жонка Любоў Васільеўна, затым, калі ў іх доме знаходзіцца стала небяспечна, Мікалая пераправілі да Ганны Радзько, потым





Міхаіл і Антон Стрыжэўскія перавезлі яго ў вёску Капеевічы да 78-гадовай Адэлі Ваўчок.

Там яго пачалі наведваць хлопцы-падлеткі. Неўзабаве Мікалай даведаўся, што ўсе яны камсамольцы. Набралася баявая падпольная група. Па заданню Мікалая хлопцы збіралі зброю: аўтаматы, гранаты, вінтоўкі і пісталеты. Нават сабралі ручны кулямёт і здабылі да яго чатыры дыскі.

Аднойчы, пасля ўдала праведзенай разведкі, Мікалай загадаў членам групы сабрацца вечарам на явачнай кватэры са зброяй. Ля варот быў пастаўлены вартавы. Юнакі па адным, каб не прыцягнуць да сябе ўвагі, заходзілі ў дом Ганны Мазуркевіч. Прыйшлі Іван Карась, Альфонс Мазуркевіч, Стась Мазуркевіч, Мікалай Савіч, Іван Каспяровіч, Стась Каспяровіч, Міхаіл Хмыль, Іван Хмыль, Аляксандр Тарасевіч, Іван Тарасевіч, Эдзік Мазуркевіч, Антон Якутовіч, Міхаіл Мілеўскі, Антон Стрыжэўскі. Усяго дваццаць чалавек. Мікалай адкрыў сход, растлумачыў абстаноўку і прапанаваў усім пайсці ў лес.

Дзень адыходу ён не назваў наўмысна, на ўсякі выпадак, але планаваў выбрацца на наступны дзень. Позна ноччу разышліся юнакі па хатах. Але раніцай у Капеевічы ўварваліся карнікі. Яны акружылі вёску, шнырылі па дварах і хатах. Шукалі партызанаў. Людзі былі ў паніцы. Нікога не выявіўшы, гітлераўцы пакацілі ў вёску Самахвалавічы.

Марудзіць нельга было. Трэба было адыходзіць, выводзіць людзей у лес. Але ж Мікалай нічога не ведае пра партызанскае жыццё. Як быць?

І Мікалай прымае рашэнне пайсці самому на пошукі партызан. Пра гэта ён паведаміў членам сваёй групы.

Як пайсці з дому, дзе добрыя людзі кармілі і лячылі цябе? Што сказаць гаспадыні Адэлі Юльеўне?

Раніцай Мікалай пайшоў у хлеў, узяў бярэма дроў, прынёс у хату і звярнуўся да старой:

— Вось што, маці, дайце мне апрануць што-небудзь лепшае. Пайду ў Мінск, пашпарт вазьму.

— Дзіцятка мае! Куды ж ты пойдзеш? — залементавала старая.— Ды яны ж цябе там схопяць і застрэляць.

— Не застрэляць. Усюды аб'явы вісяць, што ўсе, хто не мае пашпартоў, павінны з'явіцца ў камендатуру.

Старая, заўсёды ласкавая да Мікалая, сярдзіта паглядзела на яго, моўчкі падышла да скрыні, адчыніла яе і дастала навенькі касцюм дачкынага мужа, ялавыя боты, шэры плашч і кінула ўсё пад ногі Мікалаю. А калі ён пераапранаўся, моўчкі назірала за ім. Вочы яе гарэлі нянавісцю і пагардай.

— Мне губляць няма чаго,— раптам загаварыла старая.— Аджыла сваё. Але я табе, хлопча, скажу: калі б ведала, што прыгрэла не свайго чалавека, я б тады яшчэ, калі ты ў нас ляжаў непрытомны ў гарачцы, не ведаю, што зрабіла б з табой!..

Мікалай маўчаў. Няёмка было хлусіць старой, але нельга было і сказаць праўду.

Мікалай выйшаў з хаты, зайшоў у свіран, выцягнуў з сена аўтамат, павесіў яго на плячо пад плашчом, прычапіў да пояса запасныя дыскі з патронамі, паклаў у кішэні дзве гранаты і сунуў за пазуху пісталет. Агледзеўся, каб з-пад плашча нічога не было відаць, выйшаў на двор і пакрочыў па хліпкай веснавой сцежцы ў бок вёскі Дворышча. Рашыў спачатку сустрэцца там са сваім старым знаёмым Алесем Стрыжэўскім, у якога адзін час хаваўся ад гітлераўцаў і лячыўся. Калі Аляксееў апоўдні зайшоў у хату Стрыжэўскіх, у пакоі была гаспадыня Сцепаніда Феліцыянаўна. Убачыўшы Мікалая, яна ад радасці пляснула рукамі, падбегла да яго і абняла, прыгаворваючы:

— Жывы, Коля, жывы! Паправіўся ўсё ж?

— Так, паправіўся, дзякуй.

— Ну, і дзякуй богу. Распранайся.

— А дзе Аляксандр Вікенцьевіч?

— Ён у хляве дровы сячэ.

Праз мінут дзесяць у хату зайшоў Алесь Стрыжэўскі. Спыніўся ля парога, пільна паглядзеў на незнаёмага.

— Мікалай? — здзіўлена спытаў ён.

— Я, дзядзька Алесь!..

— Ну, здарова, салдат!

— Дзень добры, дзядзька Алесь!..

Мікалай тады адразу ў Новы Двор не пайшоў. Паводле вестак, якія паведаміў яму Стрыжэўскі, туды павінны былі наляцець днём для аблавы гітлераўцы з паліцаямі. Ён прабраўся па агародзе да кустоў, абагнуў невялікі яр і залёг ля дарогі. Да вечара прасядзеў у кустах, чакаючы гітлераўцаў, але іх не было. Тады ён увечары зайшоў да сваіх знаёмых Рыбіцкіх і там сустрэўся з партызанамі-коннікамі атрада імя Будзённага. І ўжо разам з узводам, якім камандаваў Дзмітрый Садоўскі, Мікалай прыбыў у Скірмунтаўскі лес, на базу партызанскага атрада, якім камандаваў Сямён Рыгоравіч Ганзенка.

У той час партызанскія атрады рабілі дзёрзкія вылазкі, знішчалі здраднікаў і гітлераўцаў, займаліся гаспадарчымі справамі: нарыхтоўвалі хлеб, мяса, бульбу. Ва ўсіх гэтых аперацыях удзельнічаў і Мікалай Аляксееў.

Аднойчы ўвечары Мікалая выклі-

калі да камандзіра атрада Ганзенкі. Ён і да гэтага сустракаўся з камандзірам. Але калі ішоў у штаб, на душы ў яго было неспакойна. Аб чым ён будзе гаварыць з камандзірам атрада? Пераступіўшы парог штабной зямлянкі, няспрытна казырнуў параненай рукой.

Ганзенка заўважыў яго хваляванне і сказаў:

— Вольна, таварыш Аляксееў. Прысаджвайцеся, Мікалай Рыгоравіч.

Мікалай сеў на дубовы кругляк, які служыў тут замест табурэткі. Камандзір пачаў распытваць: адкуль ён родам, у якіх войсках служыў, якое званне меў, як трапіў у палон і ўцёк з палону, у якіх месцах жыў пасля ўцёкаў.

Пагутарыўшы, яны выбраліся са штабной зямлянкі і пайшлі ўздоўж партызанскага лагера.

— Мікалай Рыгоравіч, трэба было б зрабіць вылазку на «жалезку», пусціць пад адхон эшалон. Куды, на тваю думку, лепш пайсці: пад Фаніпаль ці да Дзяржынска?

— Я думаю, таварыш камандзір, трэба адразу дзейнічаць у двух пунктах. Я асабіста мог бы пад Мінск пайсці. Месцы ведаю добра!..

— Разумееш, Коля, я б паслаў падрыўнікоў адразу ва ўсе напрамкі, але вось глядзі...

Камандзір разгарнуў на павозцы салому і сказаў:

— Усё наша багацце...

Там ляжала кілаграмаў дваццаць узрыўчаткі і артылерыйскі снарад.

— Я магу адзін пайсці і ўзарваць эшалон.

— Аднаму нельга,— адказаў камандзір.— Пойдзеце групай. Жывіца! Пакліч Захара Бойку,— крыкнуў Ганзенка маладому партызану.

— Ёсць паклікаць...

Праз хвілін пяць да іх падбег мажны партызан у чорным кажусе.

— Захар, сёння ж збірайцеся пад Мінск, павядзе вас Аляксееў. Будзь знаёмы,— сказаў Ганзенка.— Старшым будзеш ты, Захар. Глядзі, без узарванага эшалона не вяртайся!..

Мікалай зразумеў: заданне вельмі адказнае.

Ён ехаў верхам на кані. Астатнія— на фурманцы. Вечарам яны прыбылі ў вёску Новы Двор. Мікалай па старой памяці забег да Рыбіцкіх. Там паведамілі яму, што падвечар у Багатырова прыбыло чалавек дваццаць немцаў. Відаць, зрабілі там засаду.

Высветліўшы абстаноўку, Мікалай павёў групу ноччу ў абход, лявей Багатырова, праз хутар Антонішкі. Апоўначы група прыбыла ў вёску Дворышча, недалёка ад Мінска. Коней і фурманку пакінулі ў былога знаёмага — Алеся Стрыжэўскага, забралі снарад і адправіліся ў бок вёскі Малінаўка да чыгункі.

Снарад неслі папераменна, бо ісці было цяжка. Поле мокрае, гразкае. Недалёка ад шашы група спынілася. Мікалай прапанаваў зрабіць разведку. З гэтым згадзіўся і камандзір групы Захар Бойка.

— Абавязкова,—ціха прамовіў ён.— Толькі ісці, Мікалай, давядзецца табе аднаму. Ты тут усе хады ведаеш. А мы будзем цябе прыкрываць...

Прыціснуўшыся да мокрай зямлі, Мікалай папоўз да шашы Мінск — Дзяржынск. З кустоў запоўз у кювет, прыўзняў галаву, прыслухаўся: як быццам нікога няма, ціха. Ноч цёмная. І толькі ён наважыўся перамахнуць за шашу, як раптам выразна пачуліся крокі. Мікалай затаіў дыханне. Міма яго прайшлі некалькі аўтаматчыкаў. Паставіўшы на баявы ўзвод аўтамат, Мікалай прыціснуў яго да грудзей і падумаў: «Як шкада, што нельга адкрыць агонь!»

Калі гітлераўцы адышліся, Мікалай падняўся ва ўвесь рост, перамахнуў цераз шашу, агледзеўся: нікога няма. Ціха. Тады ён павярнуўся да сваіх, крыкнуў:

— Пайшлі, хутчэй!

Узваліўшы на плячо цяжкі снарад, ён пайшоў наперадзе. За метраў сто ад дарогі спыніўся і растлумачыў хлопцам абстаноўку, куды адыходзіць у выпадку бою і дзе трэба будзе сустрэцца.

Наматаўшы на руку як мага больш шнура, Мікалай асцярожна падняў снарад і, прыгнуўшыся, пайшоў у бок чыгункі. Затым спыніўся, прыслухаўся, агледзеўся. І раптам у цемры заўважыў маленькую іскарку. «Хтосьці курыць». Шчыльней прыпаў да сырой зямлі і заўважыў два чорныя сілуэты з аўтаматамі напагатове: гітлераўцы!

Паставіўшы аўтамат на баявы ўзвод, Мікалай прыцэліўся, ды так і праводзіў гэтыя сілуэты, узяўшы іх на мушку. Гітлераўцы прайшлі міма. Калі заціхлі іх крокі, ён ускочыў, падняў снарад і ўзбег на насып чыгуначнага палатна, выкапаў у пяску рукамі ямку, паклаў снарад, прывязаў за чаку ўзрывальніка канец шнура і працягнуў яго пад рэйку.

У гэты момант з боку станцыі Памыслішча хутка набліжаўся эшалон. Вось ужо чуваць, як пастукваюць колы на стыках рэек. Падумалася: «А раптам Захар тузане за шнур заўчасна?»

Нечакана прамень разрэзаў начную цемру. Гэта машыніст уключыў пражэктар. Мікалай заўважыў, што наперадзе паравоза каціліся тры платформы з пяском. Моцна закалацілася сэрца. Калі паравоз накаціўся на снарад, ён тузануў за шнур. Успыхнула неба. Скаланулася зямля. Заскрыгатала жалеза. Выбухам Мікалая моцна аглушыла, закідала зямлёю. У неба ўзляцелі асвятляльныя ракеты: гітлераўцы пачалі страляніну.

Аглушаны выбухам, Мікалай кінуўся бегчы. А калі перайшоў на крок, каб аддыхацца, перад ім, як з-пад зямлі, вырас вялікі цёмны будынак.

— Хальт! — нечакана пачуў ён каманду па-нямецку.

Імгненна ў той бок, дзе стаяў гітлеравец, Мікалай даў доўгую чаргу.

...У вёску Дворышча, дзе пакінулі коней партызаны, Мікалай Аляксееў прыйшоў на світанні. Людзі не спалі, прыслухоўваліся да страляніны, гадалі, што вось-вось у вёску ўварвуцца гітлераўцы.

Не спаў і стары Алесь Стрыжэўскі. Убачыўшы каля хаты Мікалая, ён падбег да яго, радасна прамовіў:

— Ну і вухнула!. Думаў, што і хата мая развваліцца!..

— Піць, вельмі хачу піць, дзядзька Алесь,— прамовіў Мікалай.

— Зараз прынясу, а ты прысядзь во на бервяно, адпачні...

І тут Мікалай убачыў, як па агародзе ішлі да хаты Захар Бойка і ўсе яго таварышы.

Праз суткі група Бойкі вярнулася ў размяшчэнне партызанскага атрада.

А раніцай наступнага дня камандзір атрада Ганзенка выклікаў Аляксеева ў штаб, падрабязна распытаў, як ажыццяўлялася аперацыя, падзякаваў за смеласць і знаходлівасць, а затым дадаў:

— Таварыш Аляксееў, параіліся з начальнікам штаба і рашылі прызначыць цябе камандзірам падрыўной групы.

— Дзякую за давер'е!

Надыходзіла першамайскае свята 1943 года. Партызаны рашылі падрыхтаваць добры «падарунак» гітлераўцам. У тыя дні часта бачылі Мікалая Аляксеева каля артылерыйскіх снарадаў. Ён старанна вывучаў механізмы ўзрывальнікаў боегаловак. Гэта неяк заўважыў камандзір атрада Ганзенка і запрасіў Мікалая ў штабную зямлянку.

— Вы з артылерыяй знаёмы? — спытаўся ён.

— Ды не, таварыш камандзір.

— Дык чаму ж вы так бестурботна абыходзіцеся са снарадамі?

— Задумаў я, таварыш камандзір, зрабіць фрыцам своеасаблівы «падарунак» у гонар нашага свята.

— Гэта што ж за падарунак, калі не сакрэт?

— Хачу вывесіць пад носам у фашыстаў чырвоныя сцягі і замініраваць іх. Вось і вывучаю механізмы ўзрывальнікаў, каб прыстасаваць іх для замініравання. Падрыўнікі ўсе згодны...

— Вунь яно што! — здзівіўся Ганзенка.— Задума неблагая, але вельмі небяспечная.

— Прабачце, але я не зразумеў вас, таварыш камандзір.

— Кажу, са снарадамі ты задумаў небяспечную справу. Так жа можна і ў паветра ўзляцець.

— Дык я адзін, таварыш камандзір, гэта зраблю.

— Карацей, Мікалай Рыгоравіч, я не супраць такой задумы. Але я, стары артылерыст, памагу табе і раскажу тое-сёе. Зразумеў?

— Зразумеў, таварыш камандзір.

— Ну, вось што, ідзі павячэрай, а потым заходзь да мяне. Прыхапі з сабой пару боегаловак...

Неўзабаве Мікалай узяў дзве боегалоўкі і прынёс у штабную зямлянку. Сямён Рыгоравіч пачаў разбіраць боегалоўку. Ён асцярожна разабраў механізм, выняў шарыкі, пакінуўшы іголку і спружыну, на якую варта злёгку націснуць, і адбудзецца выбух. Растлумачыўшы, як сабраць зноў боегалоўку, ён спытаў:

— Ну як, Коля, зразумеў?

— Так, зразумеў, добра зразумеў. Дазвольце мне цяпер адну выхаласціць...

— Ну, паспрабуй,— усміхаючыся, сказаў камандзір.— Толькі будзь асцярожны...

А падрыўнікі ўжо чакалі Мікалая. Падвечар яны накіраваліся спачатку на хутар Антонішкі, а адтуль ноччу ў вёску Дворышча да сувязнога Антона Якутовіча.

Антон Якутовіч добра ведаў Мікалая Аляксеева яшчэ з 1941 года. Адзін час хаваў яго, лячыў. Таму, калі Мікалай пастукаў у акно, Якутовіч адразу пазнаў яго, запрасіў партызанаў у хату, святла не запальваў.

— Немцы ёсць у вёсцы? — спытаў Мікалай у Антона.

— Учора былі і паехалі. Ноччу яны баяцца ездзіць.

— Ёсць, Антон, вельмі важнае заданне.

— Я заўсёды гатовы выканаць любое партызанскае заданне,— адказаў Антон Якутовіч.

— Патрэбны кавалкі тры чырвонай матэрыі. Падрыхтуй да раніцы.

— Дзе ж я табе, Коля, зараз дастану чырвоную матэрыю? Калі што-небудзь пафарбаваць...

Любоў Васільеўна — жонка Антона Якутовіча, якая слухала гэтую размову, раптам усміхнулася і сказала:

— Вы, Мікалай Рыгоравіч, не ведаеце, каму такія даручэнні даваць.

Вось паглядзіце, што ў мяне ёсць.

Яна запаліла газоўку. Затым дастала са скрыні некалькі парашкоў чырвонай фарбы і кавалак паркалю.

— Падыдзе такое, калі пафарбую?

— Вядома,— узрадаваўся Мікалай.— За першы гатунак сыдзе!..

За ноч Любоў Васільеўна пафарбавала матэрыю, падсушыла, а яе муж Антон выстругаў тры доўгія шасты. Усё гэта Мікалай забраў з сабой, і партызаны на досвітку непрыкметна пакінулі вёску. На днёўку спыніліся ў Багатырэўскім лесе. Тут распалілі касцёр, па чарзе гатавалі ежу, дзяжурылі, адпачывалі, а Мікалай усё майстраваў і прыладжваў да сцягоў міны. Увечары ўсе рушылі да вёскі Пятроўшчына, дзе стаяў гітлераўскі гарнізон.

А першай гадзіне ночы Мікалай Аляксееў і Іван Свірэпа паўзком прабраліся да агароджы і недалёка ад прапускнога пункта ўстанавілі тры замініраваныя чырвоныя сцягі.

Аляксееў і Свірэпа бачылі, як з варот выйшлі на патруляванне два паліцаі і два гітлераўцы. Адзін з паліцаяў гучна загаварыў:

— Ну і ночка, толькі для партызанаў!..

— Ды што ты гаворыш, які дурань пойдзе ў такую ноч,—адказаў другі.

Пачало світаць. Гітлераўцы адразу пасля пад'ёму ўбачылі сцягі і адкрылі з кулямётаў і аўтаматаў стральніну па дрэўках, спадзеючыся збіць сцягі. Але яны горда луналі на ветры. Тады па загаду афіцэраў некалькі салдат кінулася, каб зняць сцягі. І як толькі фашысты схапіліся за дрэўка — выбухі грымнулі адзін за другім.

...Мікалай Аляксееў дні і ночы са сваёй групай партызанаў-падрыўнікоў быў у дарозе, дзейнічаў у асноўным пад Мінскам. У лагер вяртаўся толькі для таго, каб пакінуць трафеі і як мага больш узяць з сабой узрыўчаткі. А яе вельмі цяжка было здабываць. Але выручалі знойдзеныя ў лясах артылерыйскія снарады.

Недалёка ад зямлянкі, на адкрытай паляне, гарэлі два кастры, а каля іх засяроджана «чараваў» Мікалай і падрыўнікі з яго групы: Міхаіл Казлоўскі, Сцяпан Кокуш, Іван Свірэпа, Васіль Назараў і іншыя. Яны спрытна бралі на рукі снарады, на належнай адлегласці падносілі іх да кастра і клалі на пясок. Камандзір групы падыходзіў да кастра, ставіў «на папа» снарад і спрытнымі рукамі адкручваў боегалоўку. Затым падрыўнікі бралі абясшкоджаны снарад, апускалі яго ў вядро з гарачай вадой. Праз некаторы час снарад моцна награваўся, і з яго выплаўляўся тол.

За дзень падрыўнікі апрацавалі каля дваццаці снарадаў і зрабілі пяць самаробных мін. А ўвечары Мікалай дакладваў аб гатоўнасці групы да баявога задання.

Па распрацаваным плане група павінна была спачатку трапіць у вёску Капеевічы, затым ужо адтуль накіравацца да чыгуначнай станцыі Памыслішча.

Да Капеевіч было кіламетраў пяцьдзесят. Шлях ляжаў па лясных і палявых дарогах, а амаль у кожнай вёсцы стаялі гітлераўскія гарнізоны. Двое сутак прабіраліся партызаны. Уехалі ў вёску позна ўвечары. Яна быццам вымерла — нідзе ні агеньчыку. Немцаў тут не аказалася. Мікалай рашыў зайсці ў хату сваёй былой гаспадыні Адэлі Юльеўны Ваўчок. Пастукаў у шыбу. Прыўзнялася фіранка, і ў цемры акна мільгануў твар жанчыны.

— Хто там?

Мікалай пазнаў голас Зоі Апанасевіч.

— Зоя, гэта я, Коля!

Было чуваць, як Зоя пабегла да дзвярэй і адчыніла. Мікалай зайшоў у хату, за ім Васіль Назараў, а Іван застаўся на варце ля ўваходу. Зоя хутка запаліла лямпу.

— Добры вечар, Зоя!

— Ой, мама! Глядзі, Коля прыйшоў,— і Зоя кінулася да Мікалая.

З печы асцярожна злезла старая гаспадыня, Адэля Юльеўна. Яна ўголас штосьці сярдзіта прамовіла, а калі ўбачыла Мікалая, абвешанага зброяй, павесялела, сказала:

— Глядзіце! Сказаў, што пойдзе ў Мінск!..

Адэля падвяла Мікалая да лямпы, агледзела, усміхнулася:

— Ну, здароў, герой. Напэўна, камандзірам ужо?

— Так, маці, Мікалай — камандзір наш,— пацвердзіў Васіль Назараў.

— Нездарма я цябе выхадзіла. Памажы вам бог!..

Тут і Зоя ўмяшалася ў размову:

— А хлопцы пайшлі твае! Вельмі крыўдзіліся на цябе: пайшоў — і ніякіх вестак.

— А хіба Стрыжэўскія не перадавалі вам нічога?

— Не, нічога не перадавалі. Толькі Алесь сказаў, што ты да іх заходзіў. А ўсе твае хлопцы накіраваліся ў бок Слуцка.

— Вось дык маеш! — здзівіўся Васіль.— Доўга ж мы збіраліся прыйсці па іх...

...Недалёка ад вёскі Малінаўка падрыўнікі спыніліся ў лесе. Наперадзе была станцыя Памыслішча. Мікалай выдзеліў у разведку Івана Свірэпу і Міхаіла Казлоўскага. Трэба было выявіць абстаноўку ў раёне вёскі Шчомысліца і станцыі.

Увесь дзень Свірэпа і Казлоўскі былі ў разведцы. Падвечар яны вярнуліся і далажылі: шмат нямецкіх войск у Шчомысліцы, у Малінаўцы і на станцыі. Падыходы да чыгункі ўзмоцнена ахоўваюцца.

Як быць? Абдумаўшы ўсе магчымыя варыянты, Мікалай прыняў рашэнне неадкладна ісці пад Мінск і там замініраваць чыгунку.

— Вы разумееце, хлопцы,— гаварыў ён,— вельмі цяжкі падыход да «жалезкі», а падысці трэба. Абавязкова! Паспрабуем падысці ля Рылаўшчыны. Немцаў, вядома, усюды поўна, але мне думаецца, што бліжэй да гарнізона яны нас ноччу не чакаюць, і падысці будзе лягчэй.

Падрыўнікі набліжаліся да шашы Мінск—Брэст. Побач праходзіла чыгунка. Ноч была цёмная. Церушыў дробны дожджык. Як толькі партызаны пачалі пераходзіць шашу, нечакана ў неба ўзляцела ракета, затым другая і праз мінут пяць трэцяя. Усчалася стральніна.

— Наперад! — крыкнуў Аляксееў.

Партызаны, перамахнуўшы цераз шашу, прыпалі да мокрай зямлі; папаўзлі. Да чыгункі заставалася метраў сто пяцьдзесят. Аляксееў спыніўся. Ён зразумеў, што іх не заўважылі.

— Вось што, хлопцы,— пачаў Мікалай.— Баброў з мінай пойдзе са мной. Ты, Вася, пойдзеш крыху правей, да пераезда. Будзеш назіраць за дарогай. Калі каго-небудзь заўважыш — адразу да нас. Астатнім заняць абарону і прыкрываць нас!..

І сам папоўз. За ім Барыс Баброў з дзесяцікілаграмовай мінай. Да іх неўзабаве падпоўз Назараў. Вось і насып чыгункі.

— Ну, як, Вася? — спытаў Мікалай.

— Усё ў парадку. Фрыцы пахаваліся. Давайце, браточкі, хутчэй...

Утрох яны пачалі разграбаць шчэбень і пясок для міны. Аляксееў уставіў узрывальнік.

Партызаны адышлі ад чыгункі, пачалі назіраць. Каля пятнаццаці гітлераўцаў набліжалася да міны. Рашэнне выспела імгненна: як толькі немцы падыдуць, ірвануць!.. Мікалай у думках лічыў метры, трымаючы шнур у руцэ. Дзесяць, пяць, тры... І—рывок! Успыхнула асляпляльнае зарыва, грымнуў аглушальны выбух. У неба ўзляцела ракета. На пераездзе і станцыі немцы ўзнялі трывогу.

Падбегшы да таварышаў, Аляксееў крыкнуў:

— Адыход! За шашу!

Справа і злева стралялі. Партызаны, прыціскаючыся да зямлі, паўзлі да шашы. Ля самай дарогі некалькі фашыстаў адкрылі па іх аўтаматны агонь, намагаючыся адрэзаць ім шлях. Мікалай зразумеў: калі не даць бой, то гітлераўцы могуць перастраляць усіх.

— Агонь! — скамандаваў ён.

Партызаны адкрылі аўтаматны агонь, і гітлераўцы змоўклі. Падрыўнікі ў адно імгненне перабеглі шашу і прыпыніліся толькі тады, калі адарваліся ад гітлераўцаў.

На прывале ў лесе папоўнілі дыскі патронамі, паелі, адпачылі. Мікалай завёў размову пра новы план выхаду на чыгунку.

— Мы не можам вяртацца ў атрад, пакуль не выканаем баявой задачы,— гаварыў ён сябрам.— Мы ж страцілі міну, можна сказаць, упустую. Вельмі шкада. Трэба абавязкова спусціць эшалон. Ноччу зробім яшчэ адну спробу...

А дванаццатай гадзіне падрыўнікі падышлі да чыгункі блізка ля Рылаўшчыны. Калі заставалася метраў пяцьдзесят да насыпу, Васіль Назараў зрабіў разведку. Пераканаўшыся, што на дарозе нікога няма, ён намацаў пад рукамі каменьчык і кінуў да сваіх. Гэта быў умоўны сігнал: можна дзейнічаць.

Мікалай Аляксееў і Міхаіл Казлоўскі з васьмікілаграмовай мінай кінуліся на чыгунку. Поспех аперацыі вырашалі літаральна мінуты.

Казлоўскі зняў з сябе плашч і разаслаў яго. Тут жа ўвесь шчэбень і пясок, што выбіралі з-пад шпалы, акуратна паклалі на плашч. Калі ямка была гатова, Мікалай засунуў міну пад шпалу, уставіў капсуль і старанна замаскіраваў пяском і шчэбенем.

Адбегшы метраў васемсот, падрыўнікі спыніліся ў густых кустах, рашылі дачакацца выбуху. Набліжаўся поезд. Усе насцярожана ўслухоўваліся...

— Ну, зараз вухне,— прашаптаў Іван Свірэпа.

— Не кажы гоп, пакуль не пераскочыш,— ціха сказаў Міхаіл Казлоўскі.

Аляксееў сядзеў на кукішках, прытуліўшыся да вольхі...

— Павінен ужо быць выбух,— прамовіў ён.

Але паравоз спыніўся, і ніякага выбуху не было. «У чым справа? — думаў Мікалай.— Няправільна паставіў капсуль? Не можа быць». Усе хваляваліся.

Неўзабаве зноў пачулі шум поезда. Ён, выпускаючы клубы пары, пыхкаючы, ішоў на невялікай хуткасці. Гітлераўцы ведалі, што дарогу часта мініруюць партызаны, і вялі эшалоны як бы вобмацкам.

Пакутліва цягнуліся мінуты. Яшчэ імгненне, і высока ў неба ўзляцеў вогненны смерч.

...У Багатырэўскі лес увайшлі раніцай. Над нізінамі яшчэ вісеў туман. Вакол стаяла цішыня. І толькі партызаны пачалі прабірацца скрозь нявялікія кусты, як убачылі дзве аўтамашыны: яны ішлі па дарозе. За імі цягнуўся густы шлейф пылу.

— Хлопцы, засаду! — скамандаваў Мікалай і жэстам рукі даў зразумець, каб ішлі за ім.

Заселі на ўзлеску і пачалі весці назіранне: машыны, адна з іх чорны фургон, пад'ехалі на ўзлесак і спыніліся. З грузавіка саскочылі дзесяткі два гітлераўцаў. Ва ўсіх напагатове аўтаматы. Выстраіліся паўкальцом, і афіцэр пачаў штосьці крычаць і ўзмоцнена махаць рукамі. Было зразумела: гітлераўцы спяшаліся зрабіць нейкую чорную справу. Мікалай перадаў па ланцужку загад: страляць толькі па яго сігналу.

Адчыніліся дзверы чорнага фургона, і адтуль спачатку вываліліся тры эсэсаўцы, затым яны выцягнулі двух жанчын у наручніках і з завязанымі вачыма. Іх падвялі да старога акопа. Падышоў афіцэр і крыкнуў:

— Ахтунг!

Наступная каманда павінна была быць «фойер», гэта значыць «агонь». Але эсэсавец не паспеў яе вымавіць.

Ціхую сонечную раніцу прарэзалі аўтаматныя чэргі.

— Міхаіл! — крыкнуў Аляксееў Казлоўскаму.— Абходзьце іх справа, а мы — злева...

Партызаны перабежкамі ад сасны да сасны пачалі набліжацца да машыны. І тут нечакана запрацаваў нямецкі ручны кулямёт. Гітлеравец схаваўся за аўтамашыну і зацята страчыў. Міхаіл Казлоўскі даў доўгую чаргу, і кулямёт змоўк. У гэты ж момант у паветра ўзляцеў фургон. Гэта Мікалай Аляксееў і Іван Свірэпа кінулі пад машыны гранаты. Страляніна спынілася. Знявечаны фургон гарэў.

Партызаны паглядзелі ў бок жанчын. Тыя так і стаялі ля акопа. Мікалай падбег да іх.

— Вы свабодныя! — крыкнуў ён.

Падышлі партызаны. Знялі наручнікі, развязалі ім вочы.

— Вады, хлопцы,— сказаў Мікалай.— Яны жывыя...

Ад машыны да іх бег увесь увешаны нямецкімі аўтаматамі Барыс Баброў і жэстам рукі паказваў у бок дарогі.

— Што, Барыс?—спытаў Аляксееў.

— Ідуць машыны. І многа.

— Адыходзім, таварышы, на хутар.

...Да хутара група падышла ўвечары, але там аказаліся немцы. Тады партызаны павярнулі да вёскі Багушова. Жанчын спачатку неслі на руках, затым яны апрытомнелі і сяк-так ішлі самі.

У вёску ўвайшлі апоўначы. Размясціліся ў хаце сувязной Лідзіі Пакляк.

А раніцай у хату ўбег вартавы Барыс Баброў:

— Таварыш камандзір! Нейкая дзяўчына хоча вас бачыць.

Мікалай нацягнуў боты, паправіў шырокі камандзірскі рамень, абцягнуў гімнасцёрку і выйшаў на двор.

— Жэня? Жэня, гэта ты?

— Я, Мікалай...

...Набліжалася вясна 1944 года. У тыя дні Мікалай Аляксееў ужо камандаваў партызанскім атрадам. У атрад прыйшла і Жэня Кірсанава, якая больш года знаходзілася ўжо ў групе падрыўнікоў атрада імя Будзённага.

■ ■ ■



● Радзівальт ЛІТВІНАЎ

# ДРУЖБА, НАРОДЖАНАЯ КАСТРЫЧНІКАМ

Беларуская літаратура для дзяцей і юнацтва... Яна мае свае традыцыі, свае імёны, якія вядомыя ўсесаюзнаму чытачу. Янка Купала і Якуб Колас, Змітрок Бядуля і Максім Танк, Янка Маўр і Міхась Лынькоў, Янка Брыль і Васіль Вітка — іх творы перакладаліся і перакладаюцца не толькі на рускую, але і на многія іншыя мовы народаў нашай краіны і заваявалі папулярнасць многанацыянальнага маладога чытача.

А ўспомнім, як яна пачыналася, наша беларуская дзіцячая літаратура, як расла, з чыёю дапамогаю станавілася на ногі? Такія ўспаміны карысныя і ў свята, і ў будзень.

Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя адкрыла шырокія магчымасці для развіцця нацыянальных дзіцячых літаратур. Аднак становішча беларускай літаратуры для падрастаючага пакалення яшчэ доўгі час заставалася незайздросным. Мала выдавалася кніг для дзяцей, нешматлікім быў атрад пісьменнікаў, здольных глыбока асэнсаваць і па-мастацку паказаць юнаму чытачу тое новае, што прынёс у жыццё Чырвоны Кастрычнік. Невыпадкова беларускія пісьменнікі, ствараючы кнігі для дзяцей на родным мове, звярнуліся да вопыту рускай літаратуры, наследуючы яе лепшыя традыцыі. Беларускія дзеці атрымалі магчымасць чытаць байкі Крылова, вершы і казкі Пушкіна, Яршова, Някрасава, апавяданні і аповесці Гогаля, Талстога, Чэхава, Караленкі, Гаршына, Маміна-Сібірака і інш.

Асабліва многа перакладалася твораў рускіх савецкіх пісьменнікаў. Гэта вершы і казкі С. Маршака, У. Маякоўскага, А. Барто, С. Міхалкова, папулярная сярод юных чытачоў аповесць аб перавыхаванні беспрытульнікаў «Рэспубліка Шкід» Р. Белых і Л Панцялеева, раман «Як гартавалася сталь» М. Астроўскага, «Кара-Бугаз» К. Паустоўскага, апавяданні і аповесці М. Горкага, В. Біянкі і інш. Дзякуючы перакладам з рускай мовы, адзначаў часопіс «Маладняк» у 1930 годзе, удалося да пэўнай ступені сцішыць голад на дзіцячую кнігу на роднай мове.

Значна ўзрасла колькасць і якасць перакладаў з рускай мовы ў пасляваенны час. Шырока прадстаўлена ў беларускіх перакладах руская дзіцячая Ленініяна: успаміны Н. К. Крупскай, А. І. Ульянавай, У. Д. Бонч-Бруевіча, аповесці З. Васкрасенскай, М. Прыляжаевай. Па-беларуску загучалі амаль усе творы А. Гайдара.

П. Броўка, М. Паслядовіч, М. Лужанін В. Вітка, А. Пальчэўскі, А. Бачыла, Э. Агняцвет, К. Кірэенка, С. Грахоўскі, А. Вялюгін, якія плённа працуюць у галіне перакладу, па-майстэрску перадалі багацце думак і паэтычную выразнасць твораў рускіх пісьменнікаў. Шмат перакладаў з рускай мовы адзін з заснавальнікаў беларускай дзіцячай літаратуры А. Якімовіч. Як прыклад творчага перакладу можна назваць казку К. Чукоўскага «Хвядорына гора». Якімовіч таленавіта данёс да маленькіх чытачоў не толькі змест гэтага цудоўнага твора, але і яго багатую эмацыянальна-вобразную сістэму: гукаперайманні, паўторы, дынамічны, «танцавальны» рытм. Твор загучаў па-беларуску гэтак жа натуральна, як і па-руску:

И помчалися по улице ножи:
«Эй, держи, держи, держи, держи, держи!»
И кастрюля на бегу
Закричала утюгу:
«Я бегу, бегу, бегу,
Удержаться не могу!»
Вот и чайник за кофейником бежит,
Тараторит, тараторит, дребезжит...

У перакладзе:

І памчаліся нажы ў зялёны гай:
«Гэй, трымай, трымай, трымай, трымай, трымай!»
А каструля, нібы куля, ляціць,
На ўвесь голас апалоніку крычыць:
«Я бягу, бягу, бягу,
Утрымацца не магу!»
Медны чайнік за кафейнікам бяжыць
І лапоча, і балбоча, і брынчыць...

З'яўленне лепшых кніг рускай літаратуры на беларускай мове — адзін са стымулаў развіцця нацыянальнай літаратуры для дзяцей. Так, пад уплывам твораў У. Маякоўскага «Конь-агонь» і «Што такое добра і што такое дрэнна» ўзніклі вершы А. Александровіча «Як цацкі дома зрабіць самому» і «Наш дзень». Падобна паэтычным азбукам С. Маршака і Сашы Чорнага В. Вітка і А. Вольскі стварылі свае самабытныя вершаваныя азбукі. Казка А. Якімовіча «Каваль Вярнідуб» і ў кампазіцыйным і ў стылёвым плане творча працягвае традыцыі «Канька-гарбунка» П. Яршова. Лепшыя творы В. Хомчанкі, адрасаваныя самым маленькім, нагадваюць, на думку Я. Брыля, «класічныя ўзоры — апавяданні Л. Талстога і М. Прышвіна, нагадваюць сваёю празрыстасцю, нешматслоўнасцю, сур'ёзнасцю думак і чысцінёю мовы, пазбаўленай лютага ворага дзіцячай літаратуры—сентыментальнасці».

Творы беларускіх пісьменнікаў пачалі перакладацца на рускую мову яшчэ ў даваенныя гады. Выдаюцца вершы і паэмы Я. Купалы, Я. Коласа, А. Александровіча, проза З. Бядулі, К. Чорнага, М. Лынькова. Аднак у даваенны час беларуская дзіцячая літаратура не паспела яшчэ шырока выйсці на ўсесаюзную арэну, яна пакуль што заваёўвала правa на такі адказны выхад. Толькі пасля Вялікай Айчыннай вайны беларускія творы для дзяцей і юнацтва сталі здабыткам масавага рускага чытача. У Маскве і Ленінградзе на рускай мове пачалі часта выходзіць кнігі А. Якімовіча, Я. Маўра, Я. Брыля, І. Шамякіна, В. Хомчанкі, М. Паслядовіча, В. Вольскага, А. Васілевіч, І. Навуменкі, Т. Хадкевіча, І. Сяркова, Ус. Краўчанкі, П. Рунца, М. Танка, А. Куляшова, П. Броўкі, Э. Агняцвет, У. Дубоўкі, В. Віткі, С. Шушкевіча.

Прыемна адзначыць, што большая частка перакладаў зроблена таленавіта, на высокім мастацкім узроўні. Асабліва вызначаюцца інтэрпрэтацыі такіх перакладчыкаў, як М. Ісакоўскі, А. Пракоф'еў, Я. Хелемскі, Я. Мазалькоў, М. Браун, Д. Кавалёў, Ус. Раждзественскі.

Вялікай папулярнасцю ў рускіх дзяцей і падлеткаў карыстаюцца вершы Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык», «А зязюлька кукавала...», «Песня і казка», «Мароз», «Кароль», «Сын і маці», «Арлянатам», «Камсамолу», «Наша моладзь» і інш. З імі рускіх хлопчыкаў і дзяўчынак пазнаёмілі М. Ісакоўскі, Э. Багрыцкі, М. Галодны, Я. Мазалькоў, М. Браун, Ус. Раждзественскі, Л. Гінзбург. З жартаўлівым, дасціпным вершам Купалы «Юрачка», напісаным у рытме шырока вядомай беларускай народнай песні, рускія чытачы знаёмяцца па цудоўным перакладзе А. Андрэева. Перакладчык дакладна перадаў не толькі ідэю твора, але і яго вясёлы настрой.

«Хлопчыка і лётчыка» на рускую мову ў розны час перакладалі М. Галодны, С. Гарадзецкі, М. Ісакоўскі, Л. Някрасава. Найбольш удалым уяўляецца мне пераклад М. Ісакоўскага. Вось як перакладае Ісакоўскі сродкамі сваёй роднай мовы першыя дзве страфы:

| | |
|---|---|
| — Мой мілы таварыш, мой лётчык, | Возьми меня, летчик отважный, |
| Вазьмі ты з сабою мяне! | В полет по Советской стране: |
| Я — ведай — вялікі ўжо хлопчык | Я смелый, и мне не однажды |
| І ўмею ўжо лётаць у сне. | Летать приходилось во сне. |
| Мне мама сягоння казала, | И осенью — мама сказала — |
| Што стукнула мне ўжо сем год. | Мне восемь исполнилось лет. |
| Табе гэта, можа, і мала, | По-твоему, может, и мало, |
| А мне ляцець толькі ў палёт. | Но только, по-моему, нет. |

Заслугоўвае ўвагі таленавіты пераклад Л. Някрасавай верша Я. Купалы «Бай» (на рускай мове—«Колыбельная»). Перакладчыца, услед за Я. Купалам, выкарыстала народна-паэтычныя паўторы і параўнанні, размоўныя інтанацыі, якія надаюць твору непаўторную свежасць і цеплыню. Яна ўлавіла і данесла да свайго чытача мілагучны рытміка-інтанацыйны малюнак верша, цёплы гумар, якім жыве і дыхае твор.

З вершам Я. Купалы «Алеся» рускага чытача пазнаёмілі С. Гарадзецкі, А. Благініна, М. Ісакоўскі.

Убачылі свет на рускай мове многія «дарослыя» паэмы Я. Купалы. Іх любяць чытаць дзеці і падлеткі, асабліва паэму «Курган» — сапраўдны шэдэўр нашай літаратуры. Над перакладам паэмы на рускую мову працавалі М. Галодны, М. Браун, В. Рагавіцкі і З. Падарэўскі.



Не абыходзіла сваёй увагай беларускую дзіцячую літаратуру і руская крытыка. Так, у 1941 годзе адзін з рэцэнзентаў часопіса «Дошкольное воспитание» адзначаў, што вершы Я. Купалы блізкія да народнай творчасці, паэтычныя, музычныя.

Пра «Хлопчыка і лётчыка» і «Алесю» ён пісаў, што «яны поўныя лірычных вобразаў, напісаны пявучымі вершамі...» Высокую ацэнку дала руская крытыка і паэме А. Александровіча «Шчаслівая дарога», выдадзенай у 1935 годзе асобнай кніжкай у перакладзе М. Ісакоўскага. У прыватнасці адзначалася, што твор напісаны звонкімі вершамі, чытаецца з вялікай цікавасцю.

Пра Я. Коласа, З. Бядулю, М. Лынькова, А. Якімовіча і іншых пісьменнікаў Беларусі пісала «Литературная газета», часопісы «Литература в школе», «Пионер». Праяўляе цікавасць да сучаснай беларускай літаратуры для дзяцей і часопіс «Детская литература». У апошнія гады ён расказаў пра творчасць Я. Маўра, М. Лынькова, У. Дубоўкі, Я. Брыля, В. Віткі, Э. Агняцвет, В. Хомчанкі.

Цікавы яшчэ такі момант. У беларускай і рускай дзіцячай літаратуры заўважаецца як бы творчая пераклічка: сюжэты, тэмы, вобразы беларускіх пісьменнікаў пераклікаюцца з сюжэтамі тэмамі і вобразамі пісьменнікаў рускіх. І наадварот. Так, пераклікаюцца паміж сабою казкі Бядулі «Панская хвароба», «Мурашка» і вершы С. Маршака «Кніжкі пра кніжкі», «Майстар-ламайстар», «Запаветны камень» І. Грамовіча і «Зорачка» І. Васіленкі. Праблемы, якія закрануў у сваёй кнізе «ТВТ» Янка Маўр, знайшлі сваё далейшае развіццё ў вядомай аповесці А. Гайдара «Цімур і яго каманда». Цудоўная паэма-быль М. Танка «Іван-дыМар'я» па сваёй філасофскай ідэі блізкая, як трапна заўважыў Г. Кукліс, да геніяльнай горкаўскай казкі «Дзяўчына і смерць». На глыбокую сувязь творчасці М. Лынькова і А. Гайдара яшчэ ў 1940 годзе ўказаў рускі крытык Б. Емяльянаў: «...у Лынькова многа агульнага з Гайдарам у адчуванні падзей, у пяшчотнасці, ва ўсмешцы, у тэме, нават у схільнасці да паэтычнай музычнай, рыфмаванай фразы».

І гэта не заўсёды так званы ўзаемаўплыў: тут хутчэй за ўсё праяўляецца блізкасць народаў-братоў, агульнасць іх гістарычнага лёсу, культуры, псіхічнага складу.

Высока цаніў майстэрства Я. Коласа і цёпла адазваўся пра яго паэму «Міхасёвы прыгоды» С. Маршак. Ён пісаў нашаму народнаму паэту ў 1935 годзе: «Ад усёй душы дзякую Вам за прысылку мне Вашай цудоўнай кнігі для дзяцей «Міхасёвы прыгоды». Віншую тую дзятву, якой трапіць у рукі кніга, напісаная вялікім майстрам і сапраўдным паэтам». У 1941 годзе, у сувязі з 35-годдзем літаратурнай дзейнасці Я. Купалы, К. Чукоўскі пісаў у віншавальнай тэлеграме: «Мы, дзіцячыя пісьменнікі, ганарымся, што ў нашым асяроддзі ёсць велічны і задушэўны Янка Купала...»

Пра беларуска-рускія літаратурныя і культурныя сувязі напісана нямала спецыяльных прац. Час даследаваць шырока і ўсебакова ўзаемасувязі і дзіцячых літаратур двух братніх народаў.



● *Аляксей* **ГАРДЗІЦКІ**

# РУКА СЯБРА

Сосны дацягваюцца галінамі амаль да самых шыбін. Бор за акном гудзе і здаецца жудасным у перадвячэрнім сляпучым бляску маланак. Лета выдалася на рэдкасць гарачае і грымотнае...

Я чакаю Івана Мележа ў яго кабінеце на дачы. Рабочы стол пісьменніка акуратна прыбраны, на ім усяго толькі адна папка з паперамі. З веранды ўрэшце данёсся голас гаспадара: ён толькі што вярнуўся з Мінска, дзе як старшыня Беларускага камітэта абароны міру ўдзельнічаў у міжнароднай сустрэчы барацьбітоў за мір. Хуткім крокам Іван Паўлавіч уваходзіць у кабінет і жаліцца мне, што вельмі мала ў яго застаецца часу для творчай працы. У яго сапраўды шмат грамадскіх клопатаў: дэпутат Вярхоўнага Савета рэспублікі, намеснік старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Беларускага аддзялення таварыства «СССР — Францыя», член Сусветнага Савета Міру...

— Спадзяюся, што гэтая апошняя акалічнасць будзе імпанаваць нашай гаворцы пра твор аб вайне, — спрабую адразу настроіць на патрэбную мне гутарку Івана Паўлавіча. — Нават сімвалічна тое, што зараз ліпень — месяц вызвалення Мінска, Беларусі. Раман «Мінскі напрамак» Вы напісалі амаль дваццаць гадоў таму назад. Для шасцітомнага збору твораў яго дараблялі, і, я ведаю, праца гэтая не скончана. Як Вы адносіцеся да праблемы дапрацоўкі, перапрацоўкі твора? Ёсць пісьменнікі, якія лічаць, што не варта вяртацца да напісанага раней, — хай твор застаецца дакументам часу, у які ствараўся.

— Мне таксама даводзілася чуць такое. Ды я лічу, што аўтар перад кожным новым выданнем не тое што можа, але і абавязан правіць твор — гэта як тая вопратка, якую чалавек кожны раз, перад выхадам у людзі, павінен нанова агледзець, праверыць, ці ўсё ў парадку, каб адчуваць сябе ў форме. Таму, калі аўтара ў чымсьці апошні варыянт ужо не задавальняе, ён павінен, наколькі гэта ў яго сілах, зрабіць твор дасканалым.

Каго-нікаго з літаратараў здзіўляе, што я зноў вярнуўся да рамана «Мінскі напрамак», што я не першы раз яго праўлю. Я ж бачу ў гэтым асабістую, аўтарскую адказнасць за літаратурны лёс свайго рамана.

— Я думаю, кожны робіць, як знае. Тое, што вяртанне да твора праз многія гады дае добрыя вынікі, пацвярджае практыка і савецкай, і сусветнай літаратуры. Швейцарскаму класіку дзевятнаццатага стагоддзя Готфрыду Келеру амаль трыццацігадовы прамежак часу, які аддзяляў мастака ад першага выдання рамана «Зялёны Генрых», дазволіў спакойна, з вышыні перажытага, асэнсаваць і цвяроза ацаніць заблуджэнні свайго героя і ўласны жыццёвы шлях. І задача, якую паставіў перад сабой некалі пісьменнік — стварыць эпічнае палатно і паказаць у ім «паўнату жыцця», была вырашана толькі пасля другога вяртання да твора, пасля значнай дапрацоўкі.

Праўда, пры складанай рабоце звычайна ўзнікаюць сумненні. Скажам, ці не адаб'ецца дапрацоўка на стылёвай цэласнасці твора?

— Я імкнуся гэта ўлічыць, хоць думаю, што ў вялікай рэчы гэта не так ужо і страшна. Пушкінскі «Яўгені Анегін» напісаны ў адным стылі, рытме, паэма «Дванаццаць» Блока рытмічнага і стылёвага адзінства не мае, а ўспрымаецца як адно цэлае.

Спрачацца з Іванам Паўлавічам нялёгка: шмат ім перадумана і прадумана, выверана творчай практыкай — сваёю і іншых пісьменнікаў. Гэта адчуваецца нават па самой гаворцы, звычайна павольнай і задуменна-разважлівай, а сёння — жвавай, энергічнай, упэўненай.

Прысуджэнне Ленінскай прэміі за раманы «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы» вельмі акрыліла мастака, надало яму яшчэ большай творчай смеласці, веры ў сябе, актывізавала яго працу.

Да работы над шматпланавым ваенна-гістарычным палатном падштурхоўвае пісьменніка і перажытае. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны Іван Мележ удзельнічаў у баях на Збручы, пад Уманню, Нікалаевам, Сінельнікавым, Растовам, Лазавой... У 1942 годзе быў цяжка паранены і пасля лячэння ў Тбіліскім шпіталі адпраўлены ў тыл. У Тбілісі ён і пачаў пісаць першыя апавяданні, якія пазней, у 1946 годзе, увайшлі ў зборнік «У завіруху». Ён, тады яшчэ малады празаік, жыў задумай вялікага эпічнага твора пра вайну.

Пісьменнік неяк прызнаваўся, што асобныя эпізоды, апісаныя ў рамане «Мінскі напрамак», перажыты ім самім. У вызвалены Мінск Іван Мележ прыехаў у 1944 годзе, будучы студэнтам Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Восенню 1947 года ён прыступіў да работы над «Мінскім напрамкам», над якім працаваў шэсць гадоў. Вядома, што ў 1955 годзе А. А. Фадзееў чытаў рускае выданне «Мінскага напрамку» з алоўкам у руках. Як пачыналася жыццё рамана, у якой ступені на далейшай працы над творам адбіўся ўплыў Фадзеева?

— Гэта быў першы мой раман. Амаль першая кніга, — прыгадвае Іван Паўлавіч. — Відаць, дзёрзкай маладосці я абавязаны тым, што замахнуўся на такую вялікую, складаную рэч. Зрэшты, у апраўданне сваё магу сказаць, што я не мог не пісаць яе...

Лёс рамана быў напачатку нялёгкім: першае з'яўленне ў «Полымі» скарочанага варыянта першай кнігі наш паважаны «ЛІМ» «прывітаў» двума разноснымі «падваламі». Тады ў модзе і сіле была «аглабельная» крытыка, і чарговая крытычная аглобля як бы чакала мяне. Крытык з дзіўнай зларадпасцю апусціў яе на галаву зялёнага яшчэ аўтара. І з таго часу на аўтара пасыпаліся не толькі папрокі ў мастацкай недасканаласці, але і палітычныя абвінавачванні. Павінен сказаць, што многія тады паставіліся да гэтай гісторыі больш чым спакойна, не варухнуліся, каб неяк падтрымаць аўтара рамана. Тым больш дарагой мне была неспадзяваная падтрымка ад чалавека, які, здавалася, быў далёкі асабіста ад мяне і нібыта абыякава глядзеў на літаратурнае жыццё. Ніколі не забуду той мудрай дасціпнасці, з'едлівай насмешкі ў адрас крытыка, той таварыскай дружалюбнасці, з якой заступіўся за мяне Янка Маўр у тым жа «ЛІМе». Моцна і ў час падтрымаў мяне гэты своеасаблівы, такі звонку насмешлівы чалавек.

Крытыка той пары нямала памагала мне заблытацца ў складанай працы. Наогул, трэба было багата веры ў сваю справу, упартасці, каб у абстаноўцы, якая тады складалася вакол рамана, давесці яго да канца. Пасля таго, што давялося зазнаць у Мінску, я з трывогай рыхтаваў выданне ў Маскве. Але тут мае справы пайшлі багата весялей. Я да гэтага часу з пачуццём вялікай удзячнасці прыгадваю тое, як падтрымалі выхад кнігі ў Маскве ў сваіх прыхільных і грунтоўных артыкулах Юры Лукін, Леў Нікулін, Іван Казлоў. Дасюль дарагія мне добры артыкул і сяброўскі ліст тады яшчэ малавядомага Сяргея Сяргеевіча Смірнова. Падбадзёрыла і ўзбагаціла гутарка аб рамане з Канстанцінам Сіманавым, чыя думка была мне важнай як думка буйнага спецыяліста ў галіне ваеннай прозы. Асабліва дорага мне, што раман прачытаў Аляксандр Фадзееў. Аляксандр Аляксандравіч у той час хварэў, ляжаў у бальніцы. Мяне ўразіла, што ў такім стане ён вельмі ўважліва, руплівa яго разгледзеў.

Праглядаючы запісы, зробленыя рукой Фадзеева на палях кнігі, добразычлівыя, разумныя, шматлікія, я нібы ўбачыў сваю працу вачыма вялікага майстра. Гэта было вельмі павучальнае, вельмі важнае для мяне, маладога аўтара, чытанне. Асабліва каштоўным было тое, што вучыў мяне майстар не агульнымі пажаданнямі, а канкрэтнымі заўвагамі, ацэнкамі, вучыў прадметна, пераканальна. І вучыў з надзвычайнай шчодрасцю і здзіўляючай прыязнасцю, дабратою. Усе гады свяціла мне і свеціць сёння гэтая фадзееўская дабрата.



Фадзееў дапамог мне больш крытычна настроіцца да свайго твора. Яго меркаванні былі свайго роду «ўзмацняльнікам», які развіваў мае затоеныя сумненні ў дасканаласці рамана.

«Адчуваецца, што Вы шмат працавалі над сваім раманам, уклалі многа любові ў вобразы людзей, пра якіх пісалі, але адбіўся недахоп вопыту»,— зазначыў у сваім пісьме Фадзееў. Сапраўды, я працаваў над раманам з поўнай аддачай сіл. Фізічна і творча я выдаў тое, што мог тады 29-гадовы аўтар. Фадзееў пісаў, што я проста абавязаны яшчэ і яшчэ папрацаваць над раманам, раіў: «Папрацуйце ж яшчэ над сваім раманам, каб яго мог чытаць і любіць шматмільённы чытач, а не дзесяткі тысяч. Раман гэтага варты». Ён як бы завяшчаў мне давесці да канца працу над раманам, паляпшаючы, удасканальваючы яго ад выдання да выдання.

Павінен сказаць, што вяртаўся і вяртаюся я да рамана не толькі таму, што гэта раіў Аляксандр Фадзееў. І ўсё ж фадзееўскае: «папрацуйце ж яшчэ», «раман гэтага варты» — былі для мяне надзвычай важныя і каштоўныя. У мастацтве вельмі важна ведаць: «Ці варта?» Мажа, няма больш важнага для аўтара, чым гэтае пераканаўчае: «Варта»!

Нашу гутарку з Іванам Мележам уважліва слухае даследчыца творчасці Аляксандра Фадзеева — Людміла Аганава. Яе, ды і мяне таксама, цікавіць, як Іван Мележ адносіцца да канкрэтных рэдактарскіх парад А. А. Фадзеева. Наогул, што сабой уяўляе сённяшняя праца пісьменніка над «Мінскім напрамкам»?

— Я згадзіўся не з усімі заўвагамі і парадамі Аляксандра Фадзеева,— гаворыць Іван Паўлавіч.— Думаю, што гэта натуральна.

Фадзееў даў станоўчую ацэнку вобраза Івана Данілавіча Чарняхоўскага, падкрэсліўшы, што «ён увогуле атрымаўся жывым і відаць, што гэта камандуючы, і гэта, увогуле, Ваша ўдача». Ён раіў пры дапрацоўцы зняць залішнюю падрабязнасць, дэталізацыю ў абмалёўцы Чарняхоўскага, якая, на яго думку, некалькі прыглушала фігуру палкаводца. Я ўлічыў заўвагі Фадзеева. Аднак і пасля дапрацоўкі мяне не пакідала пачуццё незадаволенасці вобразам Чарняхоўскага, вельмі важным для рамана. Асабліва незадаволены я быў тым, як быў раскрыты ў рамане характар мыслення і светапогляд Чарняхоўскага-палкаводца, гэта ж перш за ўсё рабіла яго выдатнай асобай. Была ў гэтым і мая віна, былі і прычыны, якія ад мяне не залежалі. Я быў малады, калі пачаў пісаць пра Чарняхоўскага. Мала тады сказала пра яго і ваенна-гістарычная навука. Вобраз, які патрабаваў дакладнага, гістарычнага асвятлення, прымусіў мяне зноў пераглядзець мноства часопісаў, кніг, звярнуцца да ўспамінаў паплечнікаў героя. Я нанова напісаў пра Чарняхоўскага некалькі раздзелаў. Матэрыял, на аснове якога яны напісаны, дакументальны. Я адношу гэтыя раздзелы да ліку найбольш складаных творчых задач, якія калі-небудзь вырашаў.

Акрамя новых раздзелаў пра Чарняхоўскага, дапрацаваў, дапоўніў сцэны і эпізоды ў рамане, якія былі сюжэтна звязаны з вобразам камандуючага. Гэта дапамагло шырэй паказаць асобу палкаводца, буйную, самабытную.

Вярнуўшыся да рамана, я імкнуўся дакладней і глыбей псіхалагічна распрацаваць батальныя сцэны. Шмат новага знойдзе чытач у вобразе камандзіра дывізіі генерала Шчарбацюка.

Першаму варыянту рамана была ўласціва нейкая нясмеласць, я нярэдка бываў недаравальна скупы ў паказе герояў, неаднойчы пераходзіў на скорагаворку. Цяпер гэта даводзіцца пераадольваць. Дзе-нідзе я развіў і ўвёў дыялогі, зняў няўдалыя і неістотныя. У выніку некалькі змяніліся ў рамане і галоўныя героі, і персанажы другога плану. Новымі рысамі ўзбагаціліся вобразы Лагуновіча, Ніны. Больш ясна, падрабязна праанелізавана лінія ўзаемаадносін Валі і Крайко. Дапрацоўка вялася ў плане ўдакладнення, паглыблення вобразаў, узбуйнення герояў як асоб.

Нямала прыйшлося папрацаваць над вобразамі немцаў. У першым варыянце немцы былі паказаны схематычна, а то і шаржыравана — прыкрая даніна тагачасным эстэтычным канонам. Відаць, гэта і меў на ўвазе Аляксандр Фадзееў, калі пісаў на палях кнігі: «Немцы ў рамане паказаны слаба». Па сутнасці, усе раздзелы давялося дапрацоўваць. У новым варыянце я імкнуўся дакладней паказаць нямецкую армію тых гадоў, якая сканцэнтравала ў сабе сацыяльна-грамадскі ўклад і ідэалогію розных пластоў насельніцтва Германіі, паказаць гэта без фальшы і спрошчанасці.

Разам з гэтым я захаваў цалкам усе сюжэтныя лініі, усю кампазіцыю рамана. Па сутнасці, я не мяняў яе, толькі перакампанаваў два-тры раздзелы. Я зрабіў тую работу, якую, як і раіў Фадзееў, рабіў і раней, «каб на больш ці менш працяглых адрэзках рамана дзеянне канцэнтравалася вакол тых ці іншых герояў».

Раман як бы нанова пераплаўлены. Хочацца спадзявацца, што працаваў недарма.

— Межалайціс неяк пісаў, што самае цяжкае для яго — гэта правіць сваю лірыку,— заўважаю я.

— Думаю, што яшчэ цяжэй дапрацоўваць твор эпічны, дзе амаль кожны раздзел можна разгарнуць у цэлую аповесць. Тым больш, калі трэба намаляваць вобраз народа ў такі адказны, вырашальны момант гісторыі. Тут пераплятаюцца батальныя, псіхалагічныя, бытавыя, любоўныя эпізоды і карціны.

— Іван Паўлавіч, як Вы ў цэлым ацэньваеце сяброўскую дапамогу Аляксандра Фадзеева для сваёй творчай дзейнасці? — не сунімаецца Людміла Мікалаеўна.

— Гаворачы пра тое добрае, што зрабіў Фадзееў для мяне, я не магу абмежавацца «Мінскім напрамкам». Парады Фадзеева — і гэта, можа быць, самае важнае — дапамаглі мне ў выбары далейшага шляху,— падкрэслівае мастак.— У «Мінскім напрамку» Фадзееву асабліва спадабаўся вобраз сялянкі Шабуніхі. Усе старонкі, звязаныя з гэтым вобразам, з народным жыццём, адзначаны Фадзеевым як найбольш удалыя. Майстар як бы падштурхоўваў мяне ў той свет, які мяне хваляваў ужо і які мне захацелся адрадзіць пазней у «Людзях на балоце», «Подыху навальніцы».

Сапраўды, калі для некаторых крытыкаў з'яўленне рамана «Людзі на балоце» было нечаканасцю, то Фадзееў, калі можна так сказаць, задоўга да напісання кнігі прадбачыў яе.

— Іван Паўлавіч, сёння, з далечыні часу, якой Вам уяўляецца асоба Фадзеева? — пытаюся я.

— Для мяне бясспрэчна адно — гэта быў шчыры, вельмі чысты чалавек,— адказвае празаік.— Чалавек вялікай сумленнасці, вялікай мужнасці.

і вялікі мастак. Мне глыбока імпанавалі яго разважанні пра літаратуру. Ён аддаваў усяго сябе людзям і жыў не для сябе, а для многіх.

Я двум чалавекам удзячны больш за ўсё: Фадзееву і Чорнаму. Да нашай завочнай сустрэчы я некалькі разоў блізка бачыў Фадзеева, але ні разу не падышоў, не загаварыў — не адважыўся... Аднак ён адыграў у маім літаратурным лёсе вялізную ролю. Два лісты і экземпляр рамана з яго паметкамі, якія так многа мне сказалі, я захоўваю як шчаслівы падарунак лёсу. Усё жыццё я адчуваю абаяльнасць гэтай цудоўнай асобы. Яго светлы, ветлівы позірк, яго добрыя, сяброўскія рукі...

Чорнага я бачыў у Маскве, калі вучыўся ва ўніверсітэце, і тут, у Мінску. Ён вельмі падтрымаў мае літаратурныя пачынанні...

У гутарцы высвятляецца, што Іван Мележ адначасова з беларускім працуе і над рускім варыянтам рамана. Заходзіць гаворка аб праблемах перакладу, у прыватнасці аб перакладзе з нацыянальнай на рускую мову.

— Пераклад твора з адной нацыянальнай мовы на іншую, — дзеліцца думкамі Іван Паўлавіч, — справа вельмі адказная. Якасць перакладу, па сутнасці, у немалой ступені вырашае лёс кнігі на іншай мове. Сапраўды, калі чытаеш твор і сустракаеш нейкую недакладнасць, невыразнасць, стылёвую памылку ці іншую недапрацоўку, цяжка вызначыць, хто ў гэтым вінаваты: аўтар ці перакладчык. Дарэчы, Фадзееў надзвычай уважліва сачыў за якасцю перакладу тэксту. Невыпадкова на палях кнігі ён адзначаў, што стыль не вытрыманы, і ён не ведае, мая гэта віна ці перакладчыка. Чытаючы другую частку, ён адзначыў, што раман з боку стылістыкі выраўняўся, і рэзюмаваў, што і ў мяне, і ў перакладчыка, і ў рэдактара «не хапіла цярпення і самакрытычнасці пачуцця, каб таксама выраўняць першую частку».

Вельмі шмат часу, сіл і нерваў давялося мне патраціць на аўтарызацыю першых перакладаў, а затым — і на іх перавыданні. Для мяне працэс аўтарызацыі перакладу — адзін з важных і цяжкіх этапаў, якія папярэднічаюць зносінам нацыянальнага пісьменніка з чытачом. І першы, і другі пераклады рамана запатрабавалі вялікай штодзённай, вельмі напружанай працы на працягу некалькіх месяцаў.

Можа здацца, што пераклад з беларускай мовы на рускую даецца лёгка. Аднак праца гэтая вельмі цяжкая, нягледзячы на блізкасць моў. Яна патрабуе тонкага і дакладнага ведання абедзвюх моў, вялікай уважлівасці і, вядома, таленту.

Думаю, што і для мяне, і для многіх маіх таварышаў па пяру ў саюзных рэспубліках, нягледзячы на першаступенную важнасць, пытанне аб кваліфікаваным, добрасумленным, нарэшце, таленавітым перакладчыку ўсё яшчэ з'яўляецца адкрытым.

Гэта не можа не засмучаць, бо выданне на рускай мове — выхад на ўсесаюзную трыбуну, на шматмільённага чытача. Акрамя гэтага, такое выданне — пуцёўка для кнігі і да іншых народаў, таму што пераклад на замежныя мовы часта ідзе з рускага выдання. Адсюль і выдаткі першага перакладу будуць у адных выпадках кананізаваны, у другіх — гіпертрафіраваны.

— Мецъ добрага перакладчыка — адно з вялікіх маіх жаданняў, — заключае пісьменнік.

Непрыкметна для нас скончыўся лівень. Толькі недзе далёка грымеў гром. Людміла Мікалаеўна заспяшалася на поезд.

Развітаўшыся з намі, гаспадар бярэцца за папку з паперамі... І мне ён так і бачыцца: за рабочым сталом, за працай заўзятай, упартай да апантанасці.

■ ■ ■

# «Полымю» — 50 гадоў




**Споўнілася 50 гадоў нашаму старэйшаму літаратурна-мастацкаму часопісу «Полымя» — органу Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Паўстагоддзя «Полымя» служыць для нашай літаратуры школай выхавання талентаў. Яно дало пуцёўку ў жыццё многім і пісьменнікам, чые імёны вядомы сёння ўсесаюзнаму і замежнаму чытачу, і моладзі, якая робіць першыя крокі ў літаратурным паднябессі.**

**Спадзяёмся, што на старонках «Полымя» і надалей будуць сустракацца сталыя майстры нашае літаратуры і яе маладняк, вучачыся адзін у другога, ствараючы мастацтва, вартае нашага гераічнага часу.**

**З юбілеем, «Полымя»!**

**Высокага творчага гарэння!**

# СЛОВА,
# АСЭНСАВАНАЕ СЭРЦАМ

Рахунак творчага года акцёра Анатоля Мазлоўскага — дыплом за лепшую артыстычную работу. Высокая ацэнка гаворыць пра многае.

А. Мазлоўскаму пашанцавала — выявіць свае магчымасці было як, было дзе. Не ўсе магчымасці, зразумела,— гэта ж толькі пачатак. Пашанцавала, як здаецца, і ў тым, што маладога акцёра абмінуў лёс многіх пачынаючых. Ён выканаў толькі адну невялікую ролю ў спектаклі, перапоўненым рэмінісцэнцыямі на тэмы хлапчукоў-«шукальнікаў»,—ролю Мішы ў «Гросмайстарскім бале» І. Штэмлера. Плынь такая, што вось ужо каторы год выносіць і выносіць на паверхню інфантыльных хлапчукоў ад 16 да 30 гадоў, у нейкай ступені не абышла і наш купалаўскі тэатр. Некалі, у першых п'есах Розава і аповесцях Аксёнава, гэтыя персанажы абуджалі цікавасць, а потым па сцэне і па старонках кніг пачалі гуляць маладыя скептыкі, якія паўтаралі тое, што сказалі іх папярэднікі. Стваралася нешта накшталт устойлівага амплуа — гэткі тыпаж маладога «шукальніка». І акцёры, не маючы змястоўнага матэрыялу, каб запоўніць пустату вобраза, мабілізоўвалі сваю асабістую абаяльнасць у чыстым выглядзе і часам на некалькі гадоў застывалі ў постацях гэтых «шукальнікаў», не спрабуючы пашыраць дыяпазон сваіх акцёрскіх магчымасцяў.

Мазлоўскаму не спатрэбілася вышукваць неіснуючы падтэкст за надакучлівымі сітуацыямі, не было патрэбы і ў голай эксплуатацыі таго, што даравана яму прыродай і маладосцю. Ролі, якія давялося яму іграць, іншага плану. Тут ёсць што іграць, ёсць аб чым падумаць самому, ёсць пра што сказаць гледачу. У першую чаргу гэта роля, што, безумоўна, стане вяхой у творчай біяграфіі артыста, як бы ні склаўся далейшы яго акцёрскі лёс. Гаворка ідзе пра ролю сына ў спектаклі па п'есе А. Макаёнка «Зацюканы апостал». Спектакль гэты ідзе ў фарватары творчых пошукаў тэатра ў апошнія гады. У ім спалучылася вострая сацыяльная праблематыка, вялікая грамадзянскасць, выразныя характары, як працяг традыцый купалаўцаў, і сапраўдная тэатральнасць, відовішчнасць, строгі адбор выяўленчых сродкаў.

«Зацюканы апостал» — злосная сатыра на буржуазную рэчаіснасць. І асвятленне адной з самых пякучых праблем сучаснасці на Захадзе — праблемы пакаленняў. Спазнанне свету, яго законаў маладымі. Бунт супраць непрывабнай спадчыны. І вынікі бунту.

П'еса Макаёнка не вырашае праблемы «ў лоб», сродкамі, што першыя трапілі пад руку. Драматург узрывае глыбокі гісторыка-літаратурны пласт і пераасэнсоўвае думкі мінулага і сённяшняга ў трапных, напорыстых, па-сучаснаму дынамічных дыялогах, выкрышталізоўваючы сацыяльна завостраныя ісціны. Лёгкае як быццам відовішча прымушае думаць, філасафічны змест не адпужвае патаемнай глыбінёй. На сцэне адбываецца высвятленне ісціны.

Звернемся непасрэдна да спектакля. Звініць трэці званок — і на сцэну выходзіць А. Мазлоўскі — «Ад аўтара». Сур'ёзны, разважлівы мужчына расказвае пра тое, як атрымалася п'еса. «Жыццё дае столькі фактаў і гатовых сітуацый...» І вось аб'ектыўна праўдзівы вобраз буржуазнага асяроддзя. Мазлоўскі — «Ад аўтара» ацэньвае тое, што павінна адбыцца ў п'есе, прадстаўляе дзеючых асоб. Ён ведае цану таму, што адбываецца ў спектаклі, і тым, каго ён прадстаўляе гледачам. Мазлоўскі не вядзе спектакль, а дае ключ да таго, што адбываецца на сцэне. Мала каменціруе, больш уводзіць у курс падзей. Сталы чалавек — шмат ведае, шмат бачыў, шмат думаў.

Але вось імгненна валасы яго падаюць на лоб, ён скідае куртку і акуляры. І разам скідае філасофска-ўраўнаважаныя адносіны да таго, што адбываецца ў п'есе. Саліднага, сталага мужчыны як не было — перад намі хлапчук. І Мазлоўскі-Сын пачынае ацэньваць усё, што адбываецца, па іншай ужо шкале: ён удзельнік дзеяння. Аб'ядноўвае ж гэтага хлопца ў джынсах, з бляхай на грудзях, і тую асобу, якой Мазлоўскі толькі што быў, імкненне да ісціны, да ацэнкі падзей. Нездарма ў спектаклі ён выконвае абедзве ролі, якія, дарэчы, даюць магчымасць за адзін вечар стварыць дзве зусім розныя па знешнім і ўнутраным малюнку ролі.

Пад гарэзлівы посвіст музыкі, прытанцоўваючы, Мазлоўскі-Сын пачынае прымаць удзел у высвятленні канфлікту, галоўная прычына якога — ён сам. Уважліва зірнуўшы на Тату і Маму, ён зразумеў, што абстаноўку можна выкарыстаць у сваіх мэтах. І пачынае камандаваць, дырыжыраваць. Улічыўшы абставіны.

Мама яўна супраць таго, каб ён біўся з дзецьмі. Тата ж, па ўсім відаць, не супраць, але з Мамай намераны спрачацца ў любым выпадку. Высвятленне абставін бойкі ідзе ў тэмпе хакейнага матча, словы адлятаюць ад бацькоў з хуткасцю шайбы, Мазлоўскі-Малыш красамоўнымі жэстамі вымагае ў Таты — Мілаванава выратавальныя адказы. Нарэшце выносіцца рашэнне: «Самаабарона». Тое, што трэба Сыну. Мама іншай думкі: «Гэта чорт ведае што творыцца. Ты дзе, сын, вырас?»

І тут Мазлоўскі паказвае свайго героя з зусім іншага і вельмі важнага боку. Да гэтай мінуты быў хітраваты, калючы хлапчук, забіяка і блазан. Цяпер гэта — дзіця свайго часу, асноўная персона праблемы пакаленняў. Падлетак, які хоча асэнсаваць сваё месца ў вялікім свеце і ў мікрасвеце — яго доме. «Дзе я вырас? Вырас, я, мама, якраз на мяжы, якраз на свежай баразне паміж мінулым і будучым. Плуг гісторыі хутка заарэ гэтую баразну. Але, мама, я яшчэ не вырас. Я толькі пасеяны. Я яшчэ вырасту. Я расту! Расту ў атмасферы вашых буйных скандалаў і дробных інтарэсаў. Мінуўшчына, увекавечаная ў кнігах, здаецца мне мешанінаю з гразі і крыві, несправядлівасці і крыўд...» Мазлоўскі-Сын становіцца сур'ёзным, ён адкрывае, галоўным чынам для сябе, ісціну, тое, што ён гаворыць, вельмі важна для яго. І ён не спяшаецца, узважвае кожнае слова. Пасля імклівага сямейнага квартэта гэтыя словы, павольна выгавараныя, набываюць асаблівую значнасць: «Так што я не толькі ваша дзіця, я — дзіця гісторыі, дзіця гэтых кніг...»

Так, і герой спектакля, і тыя, што кідаюць на зямлю ордэны, што ідуць супраць вайны,— яны не толькі дзеці сваіх бацькоў, яны дзеці свайго часу, часу хуткай і дапытлівай думкі, дзеці гісторыі, на памяці якой і дзве сусветныя вайны, і зверствы сярэдневякоўя, і бомба Хірасімы, і шматлікія кругі вялікай і малой хлусні. Мазлоўскі-Сын хоча, як і яго равеснікі, ведаць усяму сапраўдную цану.

І пачынае асвойваць законы жыцця.

Круг першы. Мазлоўскі-Сын пазнае, што супярэчнасці паміж аднымі могуць прынесці выгаду другім: «Калі вялікія спрачаюцца, малыя выйграюць». Што наогул хлусня — аснова ўсяго ў буржуазным свеце.

Круг другі. Мазлоўскі-Малыш высвятляе, што свет, у якім ён жыве, падзяляецца на ўладароў і падуладных. Малы абавязкова хоча сам «раздаваць партфелі». Для гэтага трэба быць жорсткім. І ён робіць удалыя спробы. Выкарыстоўвае сварку паміж бацькамі, іграе на зайздрасці сястры.

І круг трэці. Да нейкай пары Мазлоўскі-Сын усё робіць так, як патрабуюць правілы гульні, у якую ўсё жыццё гуляюць дарослыя: не гаворыць усёй праўды, не пасягае на сытае існаванне Таты і Мамы. І раптам абвяшчае шэфу (!) Таты па тэлефоне: «Паслухайце... Вы хам! Вам трэба браць урокі ветлівасці. Можаце ў мяне. Бясплатна». І Тата тут жа «выдае» асноўнае правіла: каб сыта есці, трэба хлусіць, і «хлусіць таленавіта». З вуснаў Сына зрываецца папрок: вось дзед збіраецца ў «пясочак», а ўнуку пакідае ў спадчыну атамную бомбу. Памруць бацькі, а на яго «плячах уся планета: у войнах, у крыві, у нястачы, у голадзе». Тата з дзедам бяруцца за самы «пераканаўчы аргумент» — папругу. Сын выкідваецца з акна. Не разбіваецца — становіцца паслухмяным ідыётам, цестам, з якога можна ляпіць усё, што спатрэбіцца: хоць прэзідэнта. Эстафету пратэсту прымае сястра — добрая, мяккая сястра Малыша.

Герой Мазлоўскага — спалучэнне самых, здавалася б, несумяшчальных рысаў, ён шукальнік праўды (як дзіця гісторыі), дэмагог (запазычыў у дарослых), гарэзлівы забіяка (ад узросту), добры і мяккі (ад прыроды, мусіць). І ўвесь час на першым плане—дапытлівы розум, то іранічны, з'едлівы, то разважлівы, то бунтоўны, то ў пакутах ад дзіўнай неўладкаванасці свету.

Мы ўжо бачылі многа настрояў Мазлоўскага-Сына. Спачатку ён жвава прыскакаў з вуліцы, потым удала і нахабна вёў партыю з Татам, падбухторваючы яго маляўнічымі жэстамі. Тут жа смуткаваў аб несправядлівасці свету, пакутліва здзіўляўся паводзінам сваіх блізкіх. Бачым мы Мазлоўскага-Сына і цалкам захопленага ідэяй улады: замест скіпетра ў руцэ, праўда, вуда, але рытуальныя рухі ён робіць натхнёна і сур'ёзна. Маленькі Банапарт.

Будучы «вялікі палітык» прымае рашэнне аб жорсткасці як асноўнай лініі паводзін, але часам не можа стрымаць цёплых нотак у голасе; да сястры, напрыклад: «Будзь такая, якая ты ёсць—мяккая, добрая, як папрок грубым людзям». Або прамільгне лёгкая туга па ўзаемаразуменні ці хаця б проста душэўнай размове з маці. Убачыўшы яе пасля таго, як яна гадзіны са дзве старанна стварала малады выгляд і яўна была занята сваімі планамі, ён заўважае ёй без кпінаў, спакойна, крыху нават просячы: «Мне здаецца, было б карысней, каб гэтыя дзве гадзіны пасядзела тут, побач са мной і з гэтымі разумнымі людзьмі (паказвае на кнігі)». Усё гэта без націску, без удару па эмацыянальных клавішах, бо Мазлоўскі вядзе ролю ў тым ключы, што прапануе пастановачная задума: эмоцыю гледача нара-

джае думка; пачуццё, што абудзіў спектакль, павінна прайсці праз дысцыплінуючую сферу рацыянальнага.

Анатоль Мазлоўскі мабілізоўвае ўсе вядомыя яму сродкі, каб яго персанаж не быў аднастайны і сумны. Перадаючы розныя адценні настрояў, перажыванняў і дзеянняў Малыша, ён смела і раскавана мадуліруе голасам, часам, можа, і рызыкоўна, але не пераходзячы за тую лінію, дзе пачынаецца фальш.

Фразу-лейтматыў многіх паводзін Малыша: «Калі вялікія спрачаюцца, малыя выйграюць» першы раз Мазлоўскі выгаворвае са здзіўленнем адкрыцця, другі раз упэўнена-звонка — вось яно як! — а трэці раз блазенскім фальцэтам, як бы дражнячы сястру, што не зразумела такога вялікага факта. Ласкавым голасам просіць прабачэння ў сястры, якую ў захапленні ад сваіх вострых выслоўяў абразіў: «Не крыўдуй!» І тут жа, як бы саромеючыся сваіх цёплых слоў, незалежным дыскантам выпявае: «Ку-ка-рэ-ку!» Такім жа дыскантам, яўна здзекуючыся з бацькі: «Мы ўжо пайшлі-і-і! Мы ўжо хапа-а-а-ем!» Ад нечаканасці, быццам спрабуе разабрацца, пра каго гэта яго мама: «Гэта агідна! Гэта подла! Нізка!»,— а калі высвятляецца, што ён быў сведкам яе размовы па тэлефоне, ён наўмысна спакойным у скандальнай сітуацыі тонам вымаўляе: «Ты пра каго? Пра мяне? Ці сама каешся?» Умовы міру і захавання тайны выстаўляе, ужо здзекліва крыўляючыся: «Кеды, дыпламатычны слоўнік і навушнікі». І голасам дыктатара фарсіруе цвёрда «р»: «Мама! Табе трэба на свежае паветр-ра!»

З бацькам размова кароткая, на роўных — той жа любіць падкрэсліць, што і ён і Сын маюць дачыненне да вялікіх шчадрот чалавечай думкі. Мазлоўскі-Сын спакойна, на роўных, парадзіруе ласага да прыгод Тату-Мілаванава: «Індульгенцыю, кі-і-і-са!», хрыплавата працягваючы «і». А маналог пра словы «амаль», якое само па сабе нічога не значыць, але можа знішчыць самае вялікае, Мазлоўскі вымаўляе строга, развакліва, з захаванай гарычччу. І як апошняе слова, як зварот да чалавечай літасці, працягла гучаць словы надзеі: «Дай свабоду, як звычайнаму звярушку!» А пасля няўдалай спробы самагубства — толькі машынна паслухмяны голас: «Так, тата. Так, мама».

Анатоль Мазлоўскі шукае і знаходзіць патэнцыяльныя магчымасці свайго голасу. І не толькі голасу. Міжволі прыгадваюцца тут словы з «Незнаёмай» А. Блока: «Няўжо цела, яго лініі, яго гарманічныя рухі самі па сабе не пяюць таксама, як гукі?» Жэсты, позы, маўчанне таксама ж вызначаюць узаемаадносіны людзей. І хоць у Мазлоўскага ў гэтай ролі няма выключна толькі пластычных рашэнняў, малюнак ролі прадуманы старанна. А рухацца яму даводзіцца ў спектаклі вельмі многа: герой Мазлоўскага рухавы і па-хлапечаму дынамічны наогул, статуарныя позы не ў яго стылі. Ён рухаецца лёгка, з відавочным задавальненнем, адным махам узлятаючы на лесачкі з кнігамі і кумільгом злятаючы з іх, робіць гарэзлівыя праходы ў першай дзеі так, што іграе кожны мускул, сядзіць у няёмкай для звычайнага смяротнага позе буды і трымае фігурку ідала на руках (калі хоча быць сведкам размовы маці), праводзіць не такую ўжо частую для драматычнага акцёра сцэну са шматлікімі балетнымі падтрымкамі: перакідвае надзіманую лялькў з адной рукі на другую, даючы ёй апляvухі: «Во так! Во так!», маўляў, так вядуць сябе дарослыя дзядзькі — жанчына ж на Захадзе перш за ўсё рэч, хай сабе часам і дарагая. І Мазлоўскі-Малыш, злуючыся на несправядлівасць, рэзка, парывіста, наўмысна груба дэманструе адносіны моцнага пола да «каханых» жанчын. Танец яго з надзіманай лялькай выкананы яўна гратэскава. І гэта, мусіць, апраўдана, бо ў «прыёмах гратэску тояцца элементы танца, толькі з дапамогай танца магчыма падпарадкаваць гратэскныя задумы дэкаратыўнай задачы» (В. Меерхольд).

Дэталёва прадумвае акцёр і «матэрыялізуе» ў эцюдна прадуманым малюнку рухаў і жэстаў рук свой маналог аб праўдзе-тайне і падмане-хлусні. Значыць, праўда — тайна. (Твар Мазлоўскага-Сына напружаны, валасы ён раскудлаціў ад нецярпення, сам сядзіць, падкурчыўшы пад сябе ногі, а на далонях як бы ўзважвае гэтую самую праўду і хлусню). Мазлоўскі-Сын — філосаф і палітык, але ён яшчэ малы, і абстрактныя ісціны яму лепш зразумець вось так, наглядна, як у арыфметыцы, з дапамогай рук. Вось тайна-праўда (ён прымерваецца, быццам тая ляжыць у яго ў руцэ), вось падман-хлусня (у другой руцэ). І тайну-праўду ахоўвае падман-хлусня (адна далонь накрывае другую). Але ж і заблыталі ўсё гэтыя дарослыя (рукі Мазлоўскага-Сына абхопліваюць галаву, і мы амаль фізічна адчуваем, як цяжар гэтых адкрыццяў навальваўся на яго).

«Зацюканы апостал». Малыш — Анатоль Мазлоўскі.



Жывы артыстычны тэмперамент, увага да думкі і слова, мабілізацыя прафесійных ведаў, тонкае разуменне стылістыкі і атмасферы спектакля, раскаваная сабранасць сцэнічных паводзін — усё гэта спрыяла стварэнню сацыяльна і чалавечна значнага вобраза, зрабіла ролю Мазлоўскага ў спектаклі «Зацюканы апостал» прыкметнай падзеяй года ў тэатры Янкі Купалы.

Прыкмеціў глядач і іншыя работы акцёра.

Лубачна аднафарбавы, без паўтонаў, як таго і вымагае п'еса (трагікамедыя-лубок), вобраз Валодзькі ў «Трыбунале» А. Макаёнка. Юнацкая прага подзвігу, нянавісць да фашыстаў, непрымірымасць, якая не ведае цвярозых сумненняў,— такую лінію вобраза прапануюць А. Мазлоўскі і пастаноўшчык В. Раеўскі. Акцёр вычэрпвае гэтую лінію ўпэўненым і ясным почыркам, не звяртаючы на сябе асаблівай увагі, але і не выпадаючы з агульнага рытму спектакля. Выкупіць цяжкі грэх бацькі (так здаецца не ўведзенаму ў курс справы Валодзю) — гэтая думка дыктуе паводзіны героя, і ён узрывае сябе разам з немцамі.

У «Без віны вінаватых» Мазлоўскі-Нязнамаў — нервовы, усхваляваны. Усхваляваны амаль апрыёрна, зададзена. Чамусьці гэтую ролю ён таксама вядзе на адной ноце, хоць тут патрэбна паліфанія. Нота, праўда, зусім іншай танальнасці — высокая, зламаная, як у патрывожанай птушкі. Але ў «Трыбунале» аднатанальнасць вырашэння ролі вымагалася самой сцэнічнай структурай спектакля, спосабам выяўлення рэжысёрскай і драматургічнай задумы, усёй стылістыкай пастаноўкі. А тут?

Нязнамаў хвалюецца, і хваляванне прымаецца, як яго звычайны стан. Мазлоўскі-Нязнамаў хвалюецца надрыўна, пакутуе ад няскладнага свайго лёсу (чалавек, які ніколі не ведаў сваіх бацькоў і які церпіць з-за гэтага кпіны ад усіх), пакутуе ад надзеі і недаверу (сустрэў ён сапраўднага чалавека ў асобе Кручынінай ці не), пакутуе, нарэшце, ад болю за тое, што параніў сваімі паводзінамі шчырае сэрца гэтай жанчыны. Нязнамаў Мазлоўскага тэатральна пакутуе, тэатральна выказвае свой боль, тэатральна высвятляе адносіны з людзьмі. Тэатральна — у сэнсе не лепшых традыцый правінцыяльных тэатраў якраз той пары, у якую адбываецца дзеянне спектакля,— шмат жэстаў, шмат дэкламацыі, «страсти в клочья».

Праўда, тут можна паспрабаваць знайсці тлумачэнне такой трактоўцы: Нязнамаў—правінцыяльны акцёр, з малых гадоў жыве і іграе на сцэне разам з пасрэднымі акцёрамі і фальшывымі людзьмі, усім гэтым Карынкінымі і Мілаўзоравымі — адсюль і прага да афектацыі, да меладрамы. А калі пра тэкст — адкуль Нязнамаву ведаць больш строгія і стрыманыя формы яго выяўлення? І ўсё ж — дзе адносіны самога акцёра да ўсяго гэтага, дзе тое неабходнае пачуццё меры? Яго няма. І ў гледача адчуванне: «Не, не так» Адчуванне гэтае ўзнікае не ў апошнюю чаргу і таму, што работа Мазлоўскага ў спектаклі «Без віны вінаватыя» была прапанавана гледачу пасля «Зацюканага апостала». Вось і патрабаванні да акцёра — ужо з улікам той яркай, дасканалай акцёрскай работы, якую ўсе бачылі ў папярэдняй прэм'еры.

Мяркуючы па гэтых двух буйных ролях, акцёру пакуль што менш удаецца «чыстая» сфера эмоцый, трагедыя асабістага характару. Націск пачуццяў у героя спектакля адразу абарочваецца афектацыяй, шквалам фартысіма, акцёр быццам забывае пра тое, што існуе і дымінуэнда. І вось парадокс — бура пачуццяў, шмат жэстаў, голас на самых высокіх нотах, а адчуваецца нейкі халадок, нешта «з галавы» ў гэтым знешне палымяным, экзальтаваным Нязнамаве.

У чым тут прычына? У схільнасці да пэўнага амплуа? Ці нешта яшчэ проста не зазнана, не адчута акцёрам? Не ўсвядомлена сцэнічная праўда пачуццяў, не вызначаны дакладны псіхалагічны партрэт Нязнамава? Ці роля Нязнамава не адпавядае ўнутранай прыродзе даравання акцёра?

Пакуль што можна канстатаваць, што ўдалася Мазлоўскаму трагедыя думкі, бо трагедыя хлапчука з «Зацюканага апостала» — трагедыя праніклівай, патрабавальнай думкі, трагедыя сацыяльная, усе асабістыя перажыванні Малыша ў спектаклі — толькі повад для вырашэння яго сумненняў і меркаванняў. Усе эмоцыі Малыша — ад інтэлекту, ён чакае прасвятлення духоўнага.

Які ж творчы дыяпазон акцёра? Якія ролі адпавядаюць яго прафесійнай індывідуальнасці? Адказ дасць далейшая праца Мазлоўскага.

У артыста вялікі козыр — маладосць, тая пара, калі ўсё наперадзе. Ды і тое, што зроблена, мае вагу, адзін спектакль з яго ўдзелам — у спісе лепшых у тэатры. А Нязнамаў... Тут варта ўспомніць словы Жана Вілара: «Я не згодны з тымі, хто лічыць, што лёгкасць і раскаванасць — заўсёды залог поспеху. Галоўнае — першае напружанне сіл, здольнасць пераадолець адчай, упартая работа, работа, работа...» Да адчаю, зразумела, Мазлоўскаму далёка — наадварот, першы промень прызнання можа і паказытаць самалюбства. А ўперадзе — праца...

**Ала СЯМЁНАВА.**




# 1973

**475**
гадоў назад (1498) Полацк атрымаў права на самакіраванне (Магдэбургскае права).

**350**
гадоў назад (1623) адбылося паўстанне гараджан Віцебска супраць уніяцкага засілля.

**340**
гадоў назад (1633) адбылося выступленне гараджан Полацка за далучэнне да Расіі.

**325**
гадоў (1648) з пачатку вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў. Закончылася ў 1654 г.

**240**
гадоў назад (1733) у Магілёве адбылося ўзброенае паўстанне гараджан супраць феадальнага дэспатызму.

**190**
гадоў назад (1783) упершыню складзены план забудовы Мінска.

**180**
гадоў з часу ўз'яднання (1793) Цэнтральнай часткі Беларусі з Расіяй.

**160**
гадоў назад (1813) нарадзіўся П. В. Багрым, беларускі сялянскі паэт. Памёр у 1891 г.

**110**
гадоў назад (1863) пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага.

**100**
гадоў з часу адкрыцця (1873) ў Віцебску публічнай бібліятэкі.

**70**
гадоў назад (1903) нарадзіўся Т. Т. Кляшторны, беларускі паэт. Памёр у 1938 г.

**70**
гадоў назад (1903) у радзе месцаў Беларусі (Мінску, Віцебску, Гомелі, Навазыбкаве, Бабруйску, вёсцы Гарадзец Рагачоўскага павета) утварыліся групы РСДРП.

**60**
гадоў з часу заснавання (1913) у Магілёве настаўніцкага інстытута (у 1918 г. на яго базе створаны педагагічны інстытут).

**50**
гадоў з часу заснавання (1923) Віцебскага мастацкага тэхнікума.

**50**
гадоў з часу стварэння (1923) літаратурнага аб'яднання маладых пісьменнікаў Савецкай Беларусі «Маладняк». Існавала да 1928 г.

**45**
гадоў назад (1928) у Ленінградзе створана кінастудыя «Савецкая Беларусь» (цяпер «Беларусьфільм»).

**20**
гадоў назад (1953) завершана будаўніцтва першай тралейбуснай лініі ў Мінску.



## СТУДЗЕНЬ

**1**

**54 гады з дня ўтварэння (1919 г.) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) В. А. Грамыкі, беларускага мастака-жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР, старшыні праўлення Саюза мастакоў БССР.

50 гадоў з дня нараджэння (1923) Ф. В. Баравіка, прафесара, рэктара Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава.


В. А. Грамыка.

**3**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) А. А. Шашкова, беларускага пісьменніка.

**4**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) М. М. Ваданосава, беларускага пісьменніка.

**5**

55 гадоў з дня адкрыцця (1918) III Надзвычайнай Паўночна-Заходняй канферэнцыі РСДРП(б).

**7**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) В. І. Сахненкі, беларускага мастака-жывапісца.


М. М. Ваданосаў.

**8**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) Г. К. Гаранскага, вучонага ў галіне машынабудавання і тэхнічнай кібернетыкі, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**18**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) А. В. Фурсенкі, вучонага-палеантолага, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**21**

55 гадоў назад (1918) адбылася грандыёзная дэманстрацыя Магілёўскага гарнізона ў падтрымку Савецкай улады.

50 гадоў з дня нараджэння (1923) А. А. Астрамецкага, цымбаліста, заслужанага артыста БССР.


В. І. Сахненка.



Л. І. Мазалеўская.

**25**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) Л. І. Мазалеўскай, рэжысёра, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР. Памерла ў 1964 г.

**25**

55 гадоў з дня зацвярджэння (1918) III Усерасійскім з'ездам Саветаў «Дэкларацыі правоў працоўнага і эксплуатуемага народа».



А. С. Казлоўскі.

**27**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) А. С. Казлоўскага, беларускага мастака-жывапісца.

**29**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) У. С. Камарова, вучонага-хіміка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**29**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) Б. Ф. Кавецкага, беларускага мастака кіно.

**30**

50 гадоў з дня прыняцця (1923) ЦБ КП(б)Б пастановы аб адкрыцці Дома-музея I з'езда РСДРП.

**СТУДЗЕНЬ**

325 гадоў назад (1648) у г. Слуцку адкрылася першая ў Беларусі грамадская аптэка.



Б. Ф. Кавецкі.



# ВІЦЕБСКАЯ ДАЎНІНА

Зробім падарожжа ў мінулае Віцебшчыны.

Спачатку пабудзем у старажытным Віцебску, які ў 1974 годзе мае святкаваць сваё 1000-годдзе; затым наш маршрут пройдзе па волаку вялікага воднага шляху «з варагаў у грэкі», праз Полацк да беларуска-латвійска-літоўскага прыгранічча. Тут нас чакае сустрэча са старымі крэпасцямі, якім ужо недзе па 900 гадоў, сядзібы памешчыкаў XVIII—XIX стагоддзяў, прамысловыя будынкі XVIII стагоддзя, старыя касцёлы і цэрквы XVIII—XIX стагоддзяў. Многія з гэтых выдатных помнікаў невядомыя і адкрыты намі ўпершыню; пра многія помнікі здабыты дадатковыя каштоўныя звесткі.

Што ўяўляла сабою Віцебшчына ў перыяд, калі ўзнік горад Віцебск, г. зн. тысячу гадоў назад?

Дзесятае—дванаццатае стагоддзі. Уся поўнач і захад Русі пакрыты дрымучымі лясамі, тут нават не ступала нага чалавека. На Волзе, верхнім Дняпры, Заходняй Дзвіне — глухая тайга з мядзведзямі, аленямі, ласямі, дзікімі кабанамі і козамі. Шляхі зносін — рэкі. Улетку па вадзе на лодках, зімой — па лёдзе. Хлебароб са сваёй беднай раллёю быў у поўнай залежнасці ад клімату, ад блізкасці рыбных угоддзяў і яшчэ ад багацея-баярына ці князя, якому трэба было аддаваць частку ўраджаю ці працаваць на яго. Уцячы не было куды.

Людзі вякамі жылі на адным месцы. Вякамі складвалася свая племянная культура, самабытная, са сваім лясным паўночным каларытам, прасякнутая старажытным язычаскім светапоглядам. Гэта і было тое самае — самае нацыянальнае, чаго не кранулі ні ўплыў абарыгенаў, тэрыторыю якіх славяне мірна асвойвалі, ні арыстакратычная гарадская культура Візантыі. Край быў поўны шатравых храмаў, якія стаялі на пагорках і абносіліся драўлянымі сценамі. У гэтых «святых месцах» сілы прыроды ўвасабляліся «бълванамі» і «куміра-мі» — драўлянымі і каменнымі чалавекападобнымі ідаламі. Ім пакланяліся, іх шанавалі, упрыгожваючы «ўбрусамі» (вышытымі ручнікамі), пазалочваючы валасы і вусы, прыносячы ім ў ахвяру жывёлу. Хіба не пра такія свяцілішчы гаворыцца ў старадаўніх беларускіх народных песнях, яны спяваліся яшчэ не так даўно ў гэтым краі:

**А на тых гарах да ляжаць брусься**
**Да ляжаць брусься цясовыя**
**А на том брусьсі да стаяць стаўбы**
**Да стаяць стаўбы малёваныя**
**А на тых стаўбах да вісяць катлы**
**Да вісяць катлы атліваныя**
**А пад катламі да гараць агні**
**А гараць агні ясьненькіе**
**Там сядзяць дзядкі старэнькіе**
**Вараць воскі жоўценькіе**
**Сучаць свечі двайчатные...**

Хіба не гэтыя свяцілішчы захаваліся на Віцебшчыне ў выглядзе каплічак на так званых «святых ручаях», і гэтыя капліčкі па даўняй традыцыі ўпрыгожваюцца ручнікамі!

Грэчаскія манахі-місіянеры, якія ў X стагоддзі прыбылі сюды з далёкага бязлеснага Пелапанеса, здзіўлена пазіралі на не бачаныя дагэтуль дзікія лясы, на людзей, якія мужна змагаліся з суровай прыродай...

Настаў 947 год. Кіеўская княгіня Вольга толькі што каварна адпомсці-



Так пачынаўся горад.

ла драўлянам, што жылі на поўдзень ад Прыпяці, за смерць свайго мужа Ігара. Цяпер яна прасоўвалася на поўнач у ноўгарадскія землі, каб падпарадкаваць іх Кіеву. Яе шлях ляжаў па Дняпры і далей па Заходняй Дзвіне і Лаваці, г. зн. па вядомым у старажытнасці шляху «з варагаў у грэкі». Згодна падання, якое захавалася ў познім летапісе Віцебска, яна начавала на гарах каля вусця Віцьбы і пабудавала там горад, назваўшы яго па імені гэтай ракі. Аднак летапісец зрабіў тут дзве недакладнасці. Паршае, ён апісаўся і замест 947 паставіў 974, што нарадзіла ў навуцы самыя розныя спрэчкі, бо ў 974 годзе Вольга ўжо не жыла, а, па-другое, лічыў, што яна сапраўды будавала горад зусім на голым месцы.

Археалагічныя раскопкі ў Віцебску Г. В. Штыхава паказалі, што горад узнік яшчэ да Вольгі, у IX стагоддзі, хаця магчыма не быў тады ўмацаваным пунктам, горадам ва ўласным сэнсе слова (гарадзіць, абгароджваць). Нам цяпер ясна, што, рухаючыся на поўнач, Вольга спынялася не на голым месцы, а ў невялікім паселішчы ў вусці Віцьбы. Пасёлак гэты размяшчаўся на зручных гандлёвых шляхах на Заходняй Дзвіне, на скрыжаванні Заходнедзвінскага шляху з кіеўска-ноўгарадскім, па якім з поўначы на поўдзень і з захаду на ўсход няспынна рухаліся купецкія ладдзі. Яго было зручна прыбраць сабе, і Вольга паспяшалася ўмацаваць невялікі пасёлак, пабудаваць «горад»-крэпасць, назвала яго «Віцьбеск». Так, можна меркаваць, сапраўды ўзнік першапачатковы горад.

Дзе ж цяпер можна бачыць яго рэшткі? Першапачатковы горад размяшчаўся, напэўна, на месцы так званага Верхняга замка, гэта значыць там, дзе месца сучаснага гарадскога тэатра, педінстытута і ўсёй плошчы між імі. Тут знаходзіўся княжацкі двор, вакол якога жылі прыбліжаныя да князя баяры і знаходзілася (напэўна, там, дзе педінстытут) царква Арханёла Міхаіла. Да Верхняга замка, ці «дзядзінца», прымыкаў так званы «Акольны горад» (горад, размешчаны «каля»), які ў больш позні час атрымаў назву «Ніжні замак». Цэнтрам гэтага «акольнага горада» была царква Благавешчання, рэшткі якой захаваліся. Яна пабудавана ў самым пачатку XII стагоддзя. Тут жылі баяры, купцы і больш заможныя гараджане. Тэрыторыя гэтай часткі старажытнага горада ахоплівала ўвесь усходні бок Ніжняга замка, аж да так званага Ручая (сучасная плошча Свабоды, тэрыторыя ўнівермага і г. д.). На поўнач ад Акольнага горада, ці Ніжняга замка, размяшчалася так званае Задунаўе з Задунаўскай вуліцай (вуліца Урыцкага). На ўсход ад замкаў размяшчалася так званае Заручаўе, а на захад, за Віцьбай, на гары знаходзіўся так званы Узгорскі горад, ці Узгор'е, а за Дзвіною — Задзвінне са слабодамі Ільіншчына з царквою святога Ільі і так званая «Русь».

Апрача названых частак горада, яшчэ зусім нядаўна захоўвалася яшчэ адна, так званая Замкавая гара, якая знаходзілася на двары педінстытута. Гэта рэшткі старажытнага гарадзішча крывічоў, таго самага слабаўмацаванага пасёлка, які вырашыла ўмацаваць Вольга ў 947 годзе. Помнік гэты не захаваўся...

Ніжні і Верхні замкі былі добра ўмацаваны. У часы князя Альгерда ў XIV стагоддзі яны мелі каменную сцяну (Верхні замак) і драўляную (Ніжні замак і Узгор'е). Захаваўся так званы чарцёж горада Віцебска 1654 года, па якім мы можам меркаваць, як быў умацаваны Віцебск у той час. На чарцяжы абазначаны не толькі месцы старажытных цэркваў, але і дамы асобных баяр: дом Горскага і г. д.

Апрача памянёнай царквы Благавешчання XII стагоддзя, у Віцебску захавалася яшчэ некалькі помнікаў, праўда, не такога ўжо далёкага ад нас часу. Да прыкладу, былая гарадская ратуша — цяпер абласны краязнаўчы музей,— пабудаваная ў 1775 годзе. Ратуша заўсёды была цэнтрам сярэдневяковага заходнерускага горада, прадстаўляла яго твар, і на ўзвядзенне яе гарадское самакіраўніцтва звяртала асаблівую ўвагу. Ратуша ў Віцебску будавалася доўга, апошнія работы адносяцца да 1775 года, а ў XX стагоддзі яе яшчэ надбудоўвалі. Калі ў думках зняць трэці паверх, надбудаваны ў апошнім стагоддзі, помнік прадстане ў выглядзе двухпавярховага п'едэстала з чатырохпавярховай, тыпова барочнай вежай у цэнтры. У яе верхніх ярусах адводзілася месца для гадзінніка (перадапошні ярус) і для звона (самы верхні ярус). Ратуша з'яўляецца прыгожай дамінантай гарадскога цэнтра і эфектна глядзіцца.

Своеасаблівым у мастацкіх адносінах з'яўляецца палац віцебскага генерал-губернатара. У 1811 годзе ў «сталіцу Беларускага краю» (як тады называлі Віцебск) прыбыў для кіравання абедзвюма беларускімі губернямі новы ваенны генерал-губернатар «яго каралеўская высокасць» герцаг Аляксандр Вюртэмбергскі. Для яго і быў пабудаваны лепшы ў горадзе будынак з садам на высокім беразе Заходняй Дзвіны. Тут спыняліся ўсе знакамітыя госці горада, не выключаючы цара. Пасля ўзяцця горада ў 1812 годзе ў доме некалькі дзён жыў Напалеон, абяцаў зрабіць Віцебск сталіцаю



Помнік героям вайны 1812 года.

завяяваных земляў. Тут ён меркаваў перазімаваць, але потым, захоплены поспехам, пайшоў на Маскву, што, як вядома, закончылася для яго пагібеллю. У 1831 годзе летам на ганку гэтага дома ўвечары доўга стаяў князь Канстанцін Паўлавіч — той самы, які шэсць гадоў перад гэтым адмовіўся ад царавання, замест яго на трон уступіў Мікалай I (з імем Канстанціна, мы ведаем, звязана і паўстанне дзекабрыстаў 14 снежня 1825 года). Канстанцін Паўлавіч доўга размаўляў тут з адным з прыдворных, а, увайшоўшы ў пакой, дрэнна сябе адчуў. Той жа ноччу ён памёр тут ад халеры. Сучаснікі апісваюць, як велічна хавалі вялікага князя...

Віцебскі палац быў і надалей прыстанішчам для цароў і членаў царскіх сем'яў, якія ездзілі з Пецярбурга на поўдзень. Толькі з узнікненнем чыгункі «высокія» госці перасталі наведвацца сюды.

Палац генерал-губернатара размяшчаўся на высокім беразе Заходняй Дзвіны, у зеляніне старых дрэў. Галоўны фасад з парадным уваходам — строгі, просты і афіцыйны. Да пярэдняй яго часткі прыстаўлены масіўныя паўкалоны, на ўзроўні другога паверха — цяжкі антамблемент з невялікай ажурнай верандаю на версе. Шкада, што на аконных праёмах не захаваліся тонкія пераплёты XVIII стагоддзя, вокны выдаюць цяпер шырокімі зяючымі адтулінамі, а фасад страціў маналітную цэласнасць, характэрную для сваёй эпохі. Цікавы бакавы фасад — з калонамі, якія паўтараюць паўкалонны ўваход, з рустоўкаю сцен ніжняга паверха, паўкалонамі верхняга, порцікам і г. д. У цэлым, калі разгледзець будынак уважліва, можна ўпэўніцца, што гэта добры ўзор эпохі класіцызму.

Пяройдзем на вуліцу імя Леніна. Тут звяртае на сябе ўвагу цудоўны ампірны дом, пабудаваны ў пачатку XIX стагоддзя на адной з галоўных вуліц горада. Ён прыемна ўражвае нестандартнасцю аблічча, нейкай унутранай цеплынёй і ўтульнасцю. Які архітэктар яго будаваў, засталося невядомым. Уся ўвага скіравана на вулічны фасад. Прыгожы порцік з калонамі (можа некалькі залішне масіўнымі); дэкаратыўныя высокія аркі, якія ахопліваюць вокны бэльпаверха — усё гэта характэрныя рысы класіцызму і самага ранняга ампіру. Першыя два дзесяцігоддзі — час, калі стваралася рэгулярная планіроўка гарадоў, калі публікаваліся «тыповыя» праекты жылой забудовы, якімі і карысталіся гарадскія архітэктары. Аднак сярод гэтых праектаў няма праекта, падобнага на віцебскі. Будынак быў распрацаваны мясцовымі дойлідамі.

Вельмі прыемнае ўражанне ад старых дамоў, што захаваліся па вуліцы Суворава. Ціхія і сціплыя, яны надаюць вуліцы асаблівы «гістарычны» каларыт, хаця, мажліва, у мастацкіх адносінах вялікага значэння не маюць. Гэтыя дамы адносяцца да XVIII стагоддзя.

Гаворачы пра помнікі мінулага, нельга прайсці міма некаторых будынкаў эпохі капіталізму. Тут перш за ўсё варта адзначыць будынак ветэрынарнага інстытута па вуліцы Даватара, пабудаваны ў модным тады стылі «мадэрн». Яго архітэктура ў скажоным і стылізаваным выглядзе скарыстоўвае матывы старажытнарускага стылю XVII стагоддзя.

А цяпер крыху пра ваколіцы Віцебска.

«Дарагі Аляксандр Уладзіміравіч!

...Я, вядома, вельмі ўзрадаваны з Вашага абяцання прыехаць сюды. А ехаць так: у Віцебск, з Віцебска ўзяць рамізніка (каштуе 2 рублі) і сказаць яму, што трэба ехаць у Слабаду, на Койтава і Здраўнёва, гэта і ёсць наша гняздо. Ад Віцебска 15 вёрст, ехаць цераз паром. Ці, калі вада будзе цяпер высокая, сесці Вам у Віцебску на параход і, калі пачнеце пад'язджаць

да Койтава, загадайце даць свісток і, пад'язджаючы да Здраўнёва, г. зн. да нас, дайце другі, мы вышлем па Вас лодку і здымем Вас (на параходзе каштуе 15 капеек)». Гэта пісаў 28 ліпеня 1892 года са свайго, толькі што купленага на грошы, выручаныя ад продажу цару карціны «Запарожцы», маёнтка Здраўнёва Ілья Рэпін свайму сябру А. Жаркевічу.

«Я купіў маёнтак. Вельмі сімпатычная мясціна Здраўнёва,— паведамляў мастак П. М. Траццякову на наступны год.— Яно дрэнна ўладкавана... і галоўная задача — умацаваць набярэжную З. Дзвіны, бо плытная рака з парогамі кожную паводку зносіць значную прастору ўрадлівай зямлі. У мяне цяпер 108 дзесяцін зямлі, з якіх дзесяцін 30 лесу, ёсць і прыстойны (яловы, будаўнічы), а ёсць хлам, лугі цудоўныя, зямля ўрадлівая. 40 штук рагатай жывёлы. Але дамок дрэнны і патрабуе рамонту».

Захоплены здраўнёўскай прыродай, Рэпін шмат і плённа працаваў, прымаў гасцей і займаўся гаспадарчымі справамі. Разам з мастаком тут жыў яго бацька Яфім Васільевіч, дзве дачкі (Вера і Надзя). Тут пад уражаннем апавядання А. Жаркевіча «У шпіталі» Рэпін намаляваў карціну «Дуэль», якая мела надзвычайны поспех на выстаўцы ў Венецыі (там яна была куплена і ў Расію не вярнулася). Зацікавіўшыся гісторыяй Віцебшчыны, Рэпін збіраўся нават напісаць карціну забойства ўніяцкага епіскапа Іасафата Кунцэвіча, які праславіўся сваімі зверствамі і быў забіты ў Віцебску ў 1623 годзе. Аднак далей эскізаў справа не пасунулася.

У Здраўнёве, праўда, дом мастака не ацалеў, але ёсць рэшткі парку, лесвіцы, якая вядзе да ракі. Тут мастак разам з Жаркевічам назіраў працу бурлакоў і зрабіў першыя замалёўкі да свайго славутага палатна. Тут ён напісаў шэраг партрэтаў — артыста Ге (пляменніка), дачок Веры і Надзі, карціну «Лодкі на Дзвіне» і інш.

Непадалёк ад Віцебска ёсць яшчэ адна сядзіба — Кахоўка. Яна належала вядомаму гісторыку Віцебска А. П. Сапунову. Аднак пад старыя гады Сапуноў прадаў яе памешчыку Аляеву. Між іншым, цяпер назва «Кахоўка» мясцовымі жыхарамі забытая. Мне ўсё ж удалося ўстанавіць, што яна знаходзіцца на тэрыторыі калгаса «Заклік» Віцебскага раёна, паблізу вёскі Сакольнікі.



Стары горад.

У Кахоўцы захаваліся рэшткі парку. Некаторыя старыя памятаюць Сапунова.

— Чалавек ён быў выдатны,— расказвае Фёдар Мікалаевіч Голідаў,— гаспадарлівы. У маёнтку многае рабіў сам. Удвух з садоўнікам пасадзілі во гэтыя дрэвы, тыя сосны, што на беразе Лужаснянкі, а гэтую таполю таксама сам пасадзіў. Жылі яны ўдваіх са сваёю жонкаю Дар'яй Пятроўнай. У яго было трое коней. Маёнтак меў невялікі, 30 дзесяцін. Дом у садзе стаяў драўляны, згарэў. Вельмі любіў дзетвару. Частаваў нас, малых, цукеркамі. Яшчэ ён любіў паляванне. Свой маёнтак потым ён прадаў акцызнаму Аляеву, а той Фаміну. Але ні Аляеў, ні Фамін нічога тут не будавалі — усё сапуноўскае...

Марыя Мацвееўна Балашова дадае некаторыя дэталі. Яна ведае, што Сапуноў нарадзіўся ва Усвятах (правільна! — думаю я), вучыўся ў Маскве (у Пецярбурзе,— у думках папраўляю я). Прадаў маёнтак Аляеву, а жыў у Віцебску, у Духаўскім завулку ў доме Цяпкіна. А сам быў высокі, з вялікімі вусамі (правільна, — прыгадваю я партрэт віцебскага гісторыка).

...З Кахоўкі калі паехаць па шашы Віцебск — Невель, то, рухаючыся да Езярышча, можна ўбачыць яшчэ некалькі помнікаў. На нашым шляху — Гарадок. Упершыню ён упамінаецца ў пісьмовых крыніцах пад 1650 годам у сувязі з перадачай уніяцкай Ільінскай царквы праваслаўным. Тут, значыць, ужо тады ішла жорсткая барацьба насельніцтва з апалячваннем і акаталічваннем яго ўладамі. У 1777 годзе Гарадок стаў нарэшце павятовым горадам (нагадаем, што ўся гэтая тэрыторыя па першым падзеле Польшчы ў 1772 годзе адышла да Расіі). Тут захавалася старое гарадзішча, а каля дарогі, якая вядзе ў горад, бачны рэшткі старадаўняй крапаснай сцяны XVII стагоддзя.



Будынак гарадской ратушы.

## Штрыхі гісторыі

...Пад'язджаючы да пасёлка Бычыха, звернем направа да маёнтка Бярозна. Гэта забытая сядзіба памешчыкаў Рэнгартэнаў. Захавалася старадаўняе гарадзішча, якое датуецца рубяжом нашай эры; на ім — фамільны могільнік Рэнгартэнаў з надмагільнымі помнікамі. Род Рэнгартэнаў — вядомы род дваран-вайскоўцаў. Аляксандр Іванавіч Рэнгартэн пахаваны тут пад вялізным каменем з надпісам: вядомы ў рускай гісторыі спадарожнік вядомага пакарыцеля Туркестана генерала фон-Каўфмана. Разам з Каўфманам ён прайшоў увесь так званы туркестанскі паход. Сын Аляксандра Іванавіча Георгі Рэнгартэн быў актыўным дзеячам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, удзельнічаў у вывучэнні даўніны Віцебшчыны. Ён быў ганаровым членам гэтай камісіі і ўваходзіў у так званы «Асобы камітэт па ўшанаванні юбілею вайны 1812 года» ў Віцебску (1912).

Маёнтак Бярозна надзвычай прыгожы: сасновы бор, пушчы, азёры... У лесе па дарозе да Бычыхі шмат курганоў XI—XII стагоддзяў.

...На паўночна-ўсходняй частцы Віцебшчыны, на мяжы са Смаленшчынай, знаходзіцца здзіўляючы па маляўнічасці край волакаў вялікага воднага шляху «з варагаў у грэкі» X—XI стагоддзяў. Пра яго вобразна гаворыць К. Паўстоўскі: «На поўнач ад Віцебска пачынаецца абшырны край лясоў і азёр. Я не ведаю, што ў Сярэдняй Расіі ёсць мясціны такой некранутай прыгажосці і такой маляўнічай разнастайнасці...»

Сапраўды, гэта край надзвычайнай прыгажосці — шматлікія ледніковыя азёры, старажытныя гарадзішчы і курганы, якія сведчаць аб інэнсіўнай заселенасці гэтых месцаў у глыбокай старажытнасці. Тут, на водападзеле, жылі «валачане» — людзі, якія займаліся перавозкай грузаў па волаку паміж рэкамі. У валачанаў былі каткі для выцягвання купецкіх лодак на бераг, канаты (можа, нават спецыяльны ворат), «колы» — фурманкі для транспарціроўкі суднаў па сушы (напэўна, два колы на восі з прыладай для мацавання судна), цягло — адным словам, усё тое, чаго праезджыя купцы мець не маглі. Тут набіраліся чэргі праезджых суднаў, ішлі спрэчкі, каго везці першым, спрачаліся і аб



**Сённяшні Віцебск. Вуліца Леніна.**

цане. На волаку жыў, мы ведаем, «волацкі цівун» — чыноўнік князя, які збіраў даніну за правоз па волаку. Тут жа ў купцоў можна было купіць заморскі тавар: візантыйскую парчу, упрыгожванні, паслухаць расказы пра далёкія краіны.

Каля Езярышча, на востраве Езярышчанскага возера захаваліся рэшткі крэпасці часоў Івана Грознага. Крэпасць пабудавана літоўцамі ў XVI стагоддзі на граніцы літоўскай дзяржавы для абароны ад рускіх. У 1565 годзе ваяводы Грознага — Пронскі, Сярэбраны і казанскі цар Сімеон «Озерышча ўзялі... лістапада ў 6 дзень і дзяржаву азерыцкага пана Мартына Астровіцкага з усімі каралеўскімі дваранамі і ляхаў драбаў (паўшых воінаў) і земскіх людзей многіх спаймалі.., пабілі на галаву, а каторыя зачыняліся ў стрэлнях і баштах (вежах) і ў харомах і тыя пагарэлі, а горад да звання згарэў... і ніякі чалавек з горада не ўцёк».

Езярышчанская крэпасць займае паўночны бераг вострава. Яна складаецца з вала, загнутага амаль пад прамым вуглом, на якім відаць рэшткі трох вежаў.

У жыхароў суседніх вёсак можна спытаць пра знаходкі на востраве. Яны яшчэ здараюцца і ў нашы дні.

...Цяпер нам трэба кіравацца на ўсход, да самых волака шляху «з варагаў у грэкі». Мінаем невялікія вёсачкі, бары, пушчы. На дарозе сустракаюцца гарадзішчы, старыя курганы (іх тут многа, і мясцовыя людзі па традыцыі лічаць, што курганы насыпаны падчас вайны з Напалеонам, хаця тады ніякіх курганоў не насыпалі).

На гэтым шляху прыгожае возера Задрачча. З яго выцякае старая «суднаходная» рака Ловаць. Каля вёскі Мяжа (Межна) Ловаць паварочвае пад прамым вуглом на паўночны ўсход і цячэ праз сістэму азёр — Межненскага, Сосненскага, Чарняста і Сесіць. Чыгунка адсюль далёка, гарадоў паблізу няма, і здаецца, што ты трапіў у царства некранутых лясоў і чаротавых зараснікаў...

Тут даўніна ўсюды. На ўскраіне вёскі Межна, на мысе між Сосненскім і Межненскім азёрамі, дрэмлюць курганы. Вакол узвышаюцца гарадзішчы. Самае цікавае з іх — за лесам, ля колішняй вёскі Загорцы. Яго пакінула вялікая сям'я фінскага племя на рубяжы нашай эры. Пры археалагічных даследаваннях гарадзішчамі (г. зн. рэшткамі старажытных паселішчаў) аказаліся толькі тыя помнікі, на якія нам паказалі і мясцовыя старыя. Значыць, з пакалення ў пакаленне перадаюцца звесткі пра гарадзішчы — старажытныя паселішчы.

Да гарадзішча Загорцы можна ехаць у бок вёскі Альгова. Сярод чыстага поля ўзвышаецца вялікая гара з роўнай пляцоўкай на ўзлобку. Гэта і ёсць Загорцы, адзін з цікавейшых помнікаў Віцебшчыны, пакінуты старадаўнім даславянскім насельніцтвам у апошнія стагоддзі да нашай эры.

А гэта другое гарадзішча, па суседстве — Жарабцы, якое датавана больш познім часам — пачаткам нашае эры. Тут жыло таксама даславянскае насельніцтва Віцебшчыны. Калі ў Загорцах жылі продкі нейкага фінскага племя, то тут, усяго за якія 5—6 кіламетраў ад іх, знаходзіліся старадаўнія балты. Да гарадзішча можна праехаць па правым беразе Ловаці, аднак куды лепш — папрасіць у мясцовых рыбакоў лодку і падплысці да яго па рэчцы. Калі плысці па возеры Чарняста, можна, мінуўшы зараснікі чароту і гарлачыкаў, увайсці ў вузкую і ціхую Ловаць. Праз які кіламетр на беразе справа відаць высокі пагорак. Гэта і ёсць Жарабцы. Адсюль адкрываецца цудоўнае відовішча — суседнія вёскі, лясы, палі, старадаўнія гарадзішчы...

Калі праплысці яшчэ ніжэй па Ловаці, то можна ўбачыць Сесіць — самае вялікае тутэйшае возера, у зялёных яго тонях мякка залаціцца сонца, свежы ветрык калыша мяцёлкі чароту, лёгка плешчацца-чэкае чыстая хваля... Можа гэтак яна пляскалася і тысячу гадоў назад, і пад гэтае «чэканне» заплывалі ў возера ладдзі, нагружаныя таварамі, і на адхонных берагах далёка разносілася песня на мовах таго часу.

**Леанід АЛЯКСЕЕЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

Малюнкі **Ю. ПУЧЫНСКАГА.**



| Снежань | НА КІНАЭКРАНАХ РЭСПУБЛІКІ |
| --- | --- |

## «Любіць чалавека»



Гэта новая двухсерыйная шырокаэкранная кінакарціна пастаўлена народным артыстам СССР рэжысёрам Сяргеем Герасімавым на маскоўскай кінастудыі імя М. Горкага па ўласным сцэнарыі.

Як і ранейшыя фільмы С. Герасімава, стужка прысвечана актуальным праблемам нашай сучаснасці, раскрыццю духоўнага свету савецкага чалавека, які будуе камуністычнае заўтра.

Дзеянне карціны разгортваецца ў паўночнаўсходніх раёнах нашай краіны, дзе кіпіць не бачаная па сваіх маштабах будоўля. Аўтарам фільма ўдалося перадаць радасць і натхненне ўсенароднай творчай працы, увабраўшай у сябе дапытлівую думку вучоных, самаадданасць, нястомнасць рабочых і інжынераў.

У галоўных ролях здымаліся Анатоль Саланіцын, Жана Болатава, Любоў Віралайнен, Тамара Макарава і іншыя.

## «Я — Цянь-Шань»



У аснову шырокаэкраннай мастацкай кінакарціны пакладзена аповесць выдатнага савецкага пісьменніка Чынгіза Айтматава «Тапалька мая ў чырвонай касынцы». Над ёй працавала здымачная група кінастудыі «Масфільм» на чале з рэжысёрам - пастаноўшчыкам Ірынай Паплаўскай. Гэта ўжо другая сумесная работа пісьменніка і рэжысёра. Не так даўно імі была створана карціна «Джаміля». У цэнтры новага фільма — паэтычная гісторыя кахання двух маладых людзей, складаны і паэтычны свет чалавечых адносін.

Вобраз Ілляса стварыў у карціне студэнт Дзяржаўнага інстытута тэатральнага мастацтва Дуйшэн Байтаветаў. У ролі Асель здымалася 16-гадовая студэнтка Фрунзенскага мастацкага вучылішча Дзінара Чачунбаева, у ролі Байтаміра — таленавіты кіргізскі мастак Сюймянкул Чакмароў, які стаў у апошнія гады вядомы і як кінаакцёр.



## «Чалавек з другога боку»



Сумесная вытворчасць кінастудый імя М. Горкага (СССР) і «Амега-фільм» (Швецыя). Аўтары сцэнарыя — Уладзімір Семічаў, Васіль Салаўёў, Эміль Брагінскі і Юры Ягораў, рэжысёр-пастаноўшчык — Юры Ягораў.

Падзеі гэтай шырокаэкраннай мастацкай кінакарціны пераносяць гледача ў трывожны 1920 год, калі ў краіне панавалі голад і разбурэнне. Яшчэ вяліся ваенныя дзеянні на франтах грамадзянскай вайны, а У. І. Ленін ужо намеціў канкрэтны план прарыву эканамічнай і палітычнай блакады. Па яго ініцыятыве быў зроблены шведскім прамыслоўцам заказ на выраб вялікай партыі паравозаў для нашай дзяржавы.

У Швецыю з золатам для куплі паравозаў быў накіраваны верны ленінец Крымаў. Нямала небяспек і трывог давялося пераадолець яму, пакуль ён выканаў даручаную місію.

У галоўных ролях заняты Вячаслаў Ціханаў, Бібі Андэрсан, Патрык Ваймарк, Валянцін Гафт, Ігар Ясуловіч.

## «Нявестка»



Вытворчасць кінастудыі «Туркменфільм». Сцэнарый Хаджакулі і Хаджадурды Нарліевых, рэжысёр-пастаноўшчык — Хаджакулі Нарліеў.

Даўно скончана вайна, якая абарвала мільёны жыццяў, разбурыла гарады, пакінула папялішчы там, дзе квітнелі сады. Краіна залячыла свае раны. Але ніколі не сціхне боль ран душэўных: маці страцілі сыноў, жонкі — мужоў, дзеці — бацькоў. І ніколі не сатруцца ў памяці народнай імёны тых, хто не вярнуўся з вайны... Пра высокае і чыстае каханне, якое вытрымала выпрабаванне разлукай, пра жаночы гонар і сілу, якія дапамаглі захаваць душэўную цэласнасць і шчодрасць, пра цудоўную і вечную трывогу і радасць жыцця і расказвае гэты фільм, задуманы як паэма аб веліччы Жанчыны.

У галоўных ролях здымаліся Мая Аймедава, Хаджам Авезгяленаў, Хаджаберды Нарліеў, Хамат Мулік.

Карціна адзначана прызам на II Міжнародным кінафестывалі краін Азіі і Афрыкі, а на V Усесаюзным кінафестывалі пастаноўшчыку Х. Нарліеву была ўручана прэмія за рэжысуру.

## «Слугі д'ябла на Чортавым млыне»

Гэта каляровая кінакамедыя, створаная рэжысёрам Аляксандрам Лейманісам на Рыжскай кінастудыі, з'яўляецца працягам добра знаёмай стужкі «Слугі д'ябла». У адрозненне ад першага фільма, сцэнарый яе, напісаны Янам Анераўдам і рэжысёрам Аляксандрам Лейманісам, уяўляе сабой самастойны драматургічны твор.

На экране дзейнічае тая ж тройка «слуг д'ябла» — Петэрыс, Андрыс і Эрманіс. Інтрыга звязана з ключамі Рыгі, якія гарадская вярхушка хоча перадаць пасланніку чужаземнага караля. Але мужныя «слугі д'ябла» пры падтрымцы ўсіх жыхароў горада зрываюць гэты здрадніцкі план.

Галоўныя ролі выконваюць Артур Экіс, Лаліта Цаука, Харальд Рытэнбергс, Вольга Дрэге.

## «Таварыш дзяржава»



Непарушнае адзінства савецкіх народаў—галоўная тэма новай кінастужкі, створанай рэжысёрамі А. Касачовым і С. Прошыным на Цэнтральнай студыі навукова-папулярных фільмаў па сцэнарыі В. Камісаржэўскага і А. Прохарава.

Перад гледачамі паўстае велічнае аблічча шматнацыянальнай савецкай дзяржавы, выдатныя дасягненні братніх рэспублік у эканоміцы, навуцы і культуры.

■ ■ ■



# КАМПАЗІЦЫІ

Шашкі па масавасці займаюць шостае месца сярод усіх відаў спорту. У нашай краіне ў шашкі гуляюць амаль усюды. Напярэдадні вялікага ўсенароднага свята — 50-годдзя Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік — пазнаёмцеся з творчасцю нашых сяброў. Іх кампазіцыі рашыце самастойна. Правільнасць сваіх рашэнняў вы зможаце праверыць у адным з наступных нумароў часопіса.

**Н. Піліпенка**
(Украіна)




**В. Пакальнішкіс**
(Літва)




**Д. Гаджыбабіраў**
(Азербайджан)




Ва ўсіх чатырох пазіцыях белыя пачынаюць і выйграюць.

**Р. Пракс**
(Эстонія)




**Э. Бучэль**
(Малдавія)
Белыя: дамкі 1, 4, 9, 47, простыя 36, 46, 48.
Чорныя: дамка 29, простыя 10, 15, 17, 24, 27, 31, 34, 37, 41, 44.
Заперці тры простых.

**Б. Шавярдзян**
(Грузія)
Белыя: простыя 26, 29, 36, 38, 41, 47.
Чорныя: простыя 8, 9, 15, 17, 27, 33.
Выйгрыш.

**М. Пустыннікаў**
(РСФСР)
Белыя: дамкі 36, 37, 39, простыя 7, 31, 38, 43, 46, 48, 50.
Чорныя: простыя 26, 35, 40.
Заперці дамку і 2 простыя.

**Я. Гобіньш**
(Латвія)
Белыя: простыя 28, 37, 38, 39, 40, 42, 44, 49, 50.
Чорныя: простыя 8, 9, 17, 20, 24, 26, 27, 29, 30.
Выйгрыш.

**Н. Бекбасараў**
(Казахстан)
Белыя: простыя 18, 25, 30, 37, 38, 41, 42, 43.
Чорныя: простыя 4, 8, 14, 17, 26, 29, 33, 36.
Выйгрыш.

Падрыхтаваў **Мікалай ГРУШЭЎСКІ**,
**майстар спорту СССР.**

# НАДРУКАВАНА Ў «МАЛАДОСЦІ» Ў 1972 ГОДЗЕ

## ПРОЗА

**АДАМОВІЧ Алесь.** Хатынская аповесць. VIII—10; IX—9.

**АЛЕКСАНДРОВІЧ Сцяпан.** Ад гоману бароў. Аповесць. XI—10.

**АЛЯХНОВІЧ Уладзімір.** Сад у Фаніпалі. Быль. IV—88.

**АРАБЕЙ Лідзія.** Ваўчкі. Аповесць. I—11; Да бацькі. Апавяданне. XII—47.

**АСІПЕНКА Алесь.** Пастка. Апавяданне. X—22.

**ВІТКА Васіль.** Дарогі песняра. Апавяданні. VII—8.

**ВЯРЫГА Ларыса.** Мініяцюры. V—63.

**ГАРАГЛЯД Ніна.** Маленькія апавяданні. III—72.

**ГАРЭЛІКАВА Таццяна.** Заўтра экзамен. Апавяданне. IX—92.

**ДАЛІДОВІЧ Генрых.** Сустрэча. Нарыс пра вёску. Дамашанская каралева. Апавяданні. I—71; Старая сасна. Апавяданне. X—10.

**ДАНІЛЕНКА Міхась.** Апанаска Лугавы. Аповесць. II—71; Бабіна лета. Апавяданне. X—70.

**КАВАЛЁЎ Павел.** След да акна. Апавяданне. XII—5.

**КАПЫЛОВІЧ Мікола.** Сяргей, сын Антолін. Апавяданне. IV—4.

**КАРПАЎ Уладзімір.** Страшная радасць. Пачуты стогн. Так трэба. Апавяданні. VII—25.

**КАРПЮК Аляксей.** Вяршалінскі рай. Раман-быль. III—7; IV—19.

**КУДРАВЕЦ Анатоль.** Другі варыянт. Апавяданне. VI—9.

**КУЗЬМЯНКОЎ Уладзімір.** Дзядзька Міхей і мы. Апавяданне. V—18.

**КУНЬКО Леў.** Чаму не прыходзіць сон. Апошні рэйс. Апавяданні. V—6.

**ЛЕВАНОВІЧ Леанід.** Антонава лазня. Апавяданне. VIII—79.

**МІСЬКО Павел.** Поезд ішоў на захад... Апавяданне. X—22.

**ПАРАХНЕВІЧ Міхась.** У дзень нараджэння. Макарышына вярба. Апавяданні. IX—76.

**ПУШКІН Яўген.** Раўбіцкі перавал. Апавяданне. IV—77.

**САЧАНКА Барыс.** Акопы. Вочы. Млын і сейбіт. Заўтра. Навелы. XII—25.

**СТРАЛЬЦОЎ Барыс.** Вячэрняя планета. Аповесць. II—8.

**ХАМЧУК Валянціна.** Грошы. Апавяданне. III—66.

**ЧАВУСКІ Міхась.** Фарбамі гневу. Дакументальная аповесць. V—29.

**ЯНКОЎСКІ Фёдар.** Абразкі. X—73.

**ЯРАШЭВІЧ Эдуард.** Дзень далёкі і блізкі. Аповесць. VI—36; VII—49.

### Пераклады

З КАРАЦКАЙ:

**КАЯНТА Уладзімір.** Родны вецер. Навела. XII—73.

З НІЎХСКАЙ:

**САНГІ Уладзімір.** Астатняя даніна звычаю. Апавяданне. XII—36.

З РУСКАЙ:

**БЯЛОЎ ВАСІЛЬ.** Бабрыны прыгорак. Апавяданне. XII—14.

**ЦЫБІН Уладзімір.** Пах дыму. Апавяданне. XII—63.

З УКРАІНСКАЙ:

**БОЙКА Уладзімір.** Слова пасля смерці. Дакументальная аповесць. V—69; VI—92; VII—95; VIII—90.

**СКАВАРАДА Грыгорый.** Афарызмы. XII—79.

З ЭСТОНСКАЙ:

**МААЗІК Эйнар.** Хвароба Хейна Лаанета. Апавяданне. III—78.

З НЯМЕЦКАЙ:

**ШТРЫТМАТАР Эрвін.** Лісткі з календара... Паэтычныя мініяцюры. XI—101.

З ПОЛЬСКАЙ:

**МАРЦІНАК Густаў.** Знойдзеныя скарбы. Аповесць. X—79.

## ПАЭЗІЯ

**АРАБЕЙКА Іван.** *** А месяц быў як сам не свой... Верш. V—60.

**АРОЧКА Мікола.** Балада пра няскошанае жыта. *** Сярод дня нахапілася ноч... Цень маста над Волхавам. *** Відаць, не дайсці мне да ўнутранай згоды... Зяльвянка. Вершы. I—66.



**БАЖКО Алесь.** Раса. У Ж'яры над Гронам. Падзяка. Сон старога збруйніка. Жывая памяць. Вершы. IX—72.

**БАРАВІК Марыя.** Павяду цябе. Іду сур'ёзная, іду дарослая... Вершы. III—65.

**БАРАВІКОВА Раіса.** Валіць снег. Вазьмі мяне ў свае сані... Вершы. III—64.

**БАРАДУЛІН Рыгор.** Вязынка. *** Яе Няўмольнасць Хімія... Прыпар. Клапоты па баку... Метэазвадам рад... Вершы. VII—4.

**БАСУМАТРАВА Святлана.** Лістапад. У дарозе. Дома. Мой лес, кірмаш мой каляровы... Асенняя песенька. Я выйду ў поле за сяло... Родная мова. III—4; Знаёмы матыў. Сярод палёў бяжыць мая дарога... Вершы. XII—61.

**БАТОРЫН Фелікс.** Восеньскае. За вокнамі памалу сціхлі крокі... Калі ў полі спалі ветры... Вершы. VIII—87.

**БЕЛІЖЭНКА Барыс.** На лодцы. Я клічу чацвёртага: «Дзе ты? Гукні і вярніся»... На ўлонні рэк цячэ маё жыццё... Вершы. IV—4.

**БОНДАР Таіса.** Вясновая ноч. Свет летуценняў, лёгкі, трапяткі... За вокнамі ад капяжоў звінелі... Усё часцей я сумую... VII—21.

**БРОЎКА Пятрусь.** Нязменны воін. Партызанская любоў. Маляр. А сонца тчэ свае валокны... Лепель. Сябру-крытыку. Прыкметы вясны. Кажу табе. Вершы. X—8; Адна нам зорка... XII—4.

**БЯЛЕВІЧ Антон.** Беларусь мая!.. Верш. XII—13.

**ВОЛЬСКІ Артур.** Калізей. Начны канцэрт. Футбол. Параненыя сосны. Даўняй славы адгалосак. Вершы. I—4.

**ГАЛІНОЎСКАЯ Ніна.** На роднай зямлі. Верш. VIII—78.

**ГОЛУБ Юрка.** Камсамолу. У жніво. Вершы. XII—77.

**ГРАЧАНІКАЎ Анатоль.** Школа танцаў. Верш. VIII—4.

**ГУБЕРНАТАРАЎ Міхась.** Ад першага светлага юнага рання... Вярста за вярстою кладзецца... На парозе расстання... Вершы. VI—4.

**ДАЙНЕКА Леанід.** Вуголле спаленых хацін... Магутны дуб. Духмяны бэз... Лясная шумлівая радасць... «Кацюша». Чым вы сталі? Плачце над вершамі, плачце... Вершы. II—67.

**ДЗЮБА Уладзімір.** Выток. Вянок санетаў. IV—14.

**ЗАКОННІКАЎ Сяргей.** Партызаны прыйшлі да магіл дарагіх... На небе, як сняжынкі, зоркі таюць... Мама пячэ дранікі. Вершы. VII—22.

**ЗУБРЫЦКІ Эдуард.** На пачатку восені. Абяцаў падарыць я табе неба сіняе... Вершы. X—69.

**КАМАРОЎСКІ Алесь.** За абедам нам ад бедаў... На цэменце. Вершы. V—17.

**КАРЖАНЕЎСКАЯ Галіна.** Бульба цвіце. Я не адна... У салаўя работа... Вяла задума да ракі... V—4; Не маем права драбнець душой... Будуюць дарогу... Вершы. XII—78.

**КІРЭЕНКА Кастусь.** Кавалачак сталі. О паэты! Вы апелі брадвейскія бліскаўкі... Радасць. У Ленінградзе. Ах, песні... Вы — мая уцеха... Вершы. XI—5.

**КОХАН Яўхім.** Аўтабіяграфія. Памяць. Праслаўляць сваё юнацтва... Паэт без прыкмет. Паэзія. Колер нашага сцяга. Будучыня. Я да грому прывык... Сябры. Спадчына. Вясна ў Карпатах. Вершы. III—74.

**КРУПЕНЬКА Яўген.** Удзячнасць. Вярталіся з выраю гусі. Курганы. II—95.

**КУНЦЭВІЧ Уладзімір.** Не бядую, што недзе блудзіў... Не, не забыты бераг глейкі... Вершы. IV—87.

**КУСЯНКОЎ Мікола.** Старая ў ваенным гарадку. Казалі маткі нам... Стажок на белым полі. Вершы. V—61.

**ЛОСЬ Еўдакія.** У галодным стэпе. Верш. XII—22.

**МАЛЬЧЭЎСКАЯ Яўгенія.** Адчуваю цябе, жыццё... Залатая мяцеліца. Мне заўсёды чагосьці... О, неспакойны сіні вецер... Вершы. XI—94.

**МАЛЯЎКА Мікола.** Не час перунам загрымець... Я ў свет выплываў... Рана на Івана. Зялёны шум. VII—47; Каласок. Вершы. XI—4.

**МАМОЙКА Вольга.** Клічу вас, ветразі радасці!.. Верш. I—69.

**МУРАШКІН Віктар.** Балада пра сланечнік. Пісалі тысячы паэтаў... У партызанскім шпіталі. Апошні дзень, запоўнены табою... X—39.

**НЯКЛЯЕЎ Уладзімір.** Нафтавікі. Ізноў я дома... Вершы. XII—45.

**ПАНІЗНІК Сяргей.** Маці мая. Хоць на імгненне... Прыходзіць вестка аб вясне. У зрэнках тваіх вачэй... Брунявая бярозавая рань... V—27.

**ПАНЧАНКА Пімен.** Беларускія шрыфты. Вопыт. Неспакой. Прырода на дзіва праўдзіва... Асеннімі дажджамі... У «Спідале» равела... Прысніўся сон... І мяне хвароба тузанула... Вершы. IX—4.

**ПРУДНІКАЎ Павел.** Чорнае мора. Верш. VI—35.

**РАЗАНАЎ Алесь.** Пачатак. Ліняе бярозавы гай... Сачу вясну. Жыву ў Міжбор'і... Вершы. II—4.

**РАКАЎ Віктар.** Навек удзячны буду я... Верш. IX—102.

**РАЛЬКО Іван.** Забыты сэнс вядомых слоў... Калі ў жыцці цябе спаткае... Давераныя дум маіх... Размоваю з былым і даўнім... Вершы. VIII—8.

**СВІРКА Юрась.** Гімн сонцу. Лазня. Земляку-кандыдату. У мяне такое хваляванне... Бываюць доўгія гадзіны... Вершы. VI—6.

**СЕМАШКЕВІЧ РЫГОР.** Полька ў вёсцы. Пяціхатка. Развітанне з садам. Летнія малюнкі. Вершы. I—8.

**СІПАКОЎ Янка.** Будоўля. Зброя. Розгі. Славянскія балады. VI—31.

**СКАРЫНКІН Уладзімір.** Дзяўчаты з інтэрната. Стары млын. Цяжкі дастаўся крыж... Вершы. VIII—85.

**СКУРКО Іосіф.** Радасць. Як дзіця, я шчыра ў казкі веру... Вершы. I—69.

**СТРЫГАЛЁЎ Міхась.** Перадранішняя балада. Перад бярозай схіляю калені... V—16.

**ТАРАСЮК Любоў.** Палотны. Жанчыны ў полі песні жалі... Я кожны раз душой мацней... Прызнанне. Вершы. II—6.

**ТАРМОЛА Раман.** Вянок. X—17.

**ФАМІН Уладзімір.** Школьны парк. Крывашы. Вершы. IV—75.

**ЦВІРКА Кастусь.** Я цябе, як песню, любіў... Закон вады. Вершы. X—90.

**ШАБАН Яўген.** Чэрвень. А я сумую кожны вечар. Вершы II—69.

**ШЫХАНЦОЎ Валеры.** Усё, што маю я сягоння... Верш. VIII—89.

**ЯНІШЧЫЦ Яўгенія.** Ля пераправы. Хай прыйдзе ноч... Вершы. IX—89.

**ЯРАЦ Віктар.** Цвіце міндаль. Верш. XII—46.

### Пераклады

З АРМЯНСКАЙ:

**СААКЯН Арамаіс.** Заўсёды са мной. Верш. XII—70.

З БАЛГАРСКАЙ:
**ГАНЧАЎ Марка.** Вязы. Верш. V—66.
**ГЕРМАНАЎ Андрэй.** Паход крыжаносцаў. Верш. V—68.
**КАНСТАНЦІНАЎ Георгі.** Касмічная балада. Верш. V—67.
**ЛЕЎЧАЎ Любамір.** Стрэхі. Верш. V—65.
**МЯТОДЗІЕЎ Дзімітр.** Рэкі. Верш. V—65.
З КАЗАХСКАЙ:
**МАЛДАГАЛІЕЎ Туманбай.** Па сцежках гор... Верш. XII—34.
З КІРГІЗСКАЙ:
**СУЛТАНАЎ Амар.** Заўсёды са мной. Верш. XII—70.
З ЛАТЫШСКАЙ:
**ВАГАН Юлі.** Саласпілс. Верш. I—91.
З ЛІТОЎСКАЙ:
**ПАЛЬЧЫНСКАЙТЭ Віялета.** Мой свет. Верш. XII—35.
З МАЛДАЎСКАЙ:
**КОДРУ Анатол.** Пралог да вялікага вытоку. Верш. XII—71.
З НЯМЕЦКАЙ:
**ШЫЛЕР Фрыдрых.** Кубак. Балада. IV—91.
З РУСКАЙ:
**АДРЫЯНАЎ Юры.** Верш пра ветразі. XII—44.
**ШАСЦІНСКІ Алег.** Мой Кастрычнік. Верш. XII—11.
**ЯСЕНІН Сяргей.** Адыходзім, нібы ў падарожжа... Адгаварыла восень залатая... Кожнай працы я жадаю ўдачы!.. Я іду далінай. Набак збіта кепі... Невыказнае, сіняе, усцешнае... Вершы. III—90.
З ТАТАРСКАЙ:
**НУРЫ Закі.** Маё багацце. Мне часта сніцца родны дом... Не трэба. Вера. Падснежнік. Чайка. Я дома рэдка.... Прыкметы вясны. Вершы. VI—88.
З УКРАІНСКАЙ:
**СЫНГАЕЎСКІ Мікола.** Камуністы. Верш. XII—24.
З ЭСТОНСКАЙ:
**ТРААТ Матс.** Сын зямлі. Верш III—88.
**СІЙГ Арві.** Лес. Верш. III—89.
З ЯЎРЭЙСКАЙ:
**МАЛЬЦІНСКІ Хаім.** На мінулай вайне... Я перасеяў глупстваў капшукі... Калі я быў бяздумна маладым... Спакойна іду між высокіх сасён... Мой санаторый—келля, што ў бары... Нібыта ў сне, з'явіцца клічу... Ноччу, калі пачынаюць сціхаць... Бяссонная ноч... Вершы. VII—92.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

## НАРЫСЫ, АРТЫКУЛЫ, ФОТАРЭПАРТАЖЫ

**АБРАМАВА Земфіра.** Бацькі і дзеці. II—112.
**АНЦІПАЎ Генадзь.** Стваральны почырк маладосці. XII—82.
**АСТРЭЙКА Анатоль.** Мы—будаўнікі. V—88.
**БАЙЧАРОЎ Аляксандр.** Новыя левыя. Хто яны? V—148.
**ВІСАК Сільвія.** Горад студэнтаў, горад вучоных. III—110.
**ГАРДЗІЦКІ Аляксей.** Дзе сінеюць Карпаты... X—109.
**ГРАХОЎСКІ Сяргей.** Сонца Расіі. XI—137.
**ГРАЧАНАВА Жана.** Ідзе пошук. V—104.
**ГРОДНЕЎ Мікола.** У Кіргізіі. VII—128.
**ДАПКЮНАС Вадзім.** У пошуку кантактаў. II—109.
**ДУБІНКА Вячаслаў.** У краіне гор. VII—146; Палескае руно. VIII—105.
**ЖДАНОВІЧ Валянцін.** Бег з бар'ерамі. IV—108; Палацы радасці. V—100; Лета сейбіта. IX—104; А на рэчцы на Арэсе... VII—106; Магутны поступ зубра. XII—89.
**ЕЛІСЕЕЎ Уладзімір.** Ёсць такая вёска—Верцялішкі. I—98.
**КАБУШ Уладзімір.** Свята чырвонага гальштука. V—96.
**КІРЫЛАЎ Герман.** Вытокі. XI—148.
**ЛАЎРЫНАЙЦІС Стасіс.** Ранак Літвы. IX—111.
**ЛІПСКІ Уладзімір.** Дні, якія запомніліся... (З дзённіка). VIII—108.
**НІКАЛАЙЧАНКА Алесь.** Ямальскае ззянне. (З паўночнага блакнота.) V—106.
**НУЖКОВА Галіна.** У краіне белага дня. IX—147.
**ПАЛТАРАН Вера.** Малдавія ўчора і сёння. I—111.
**ПАТАПАЎ Іван.** Хлопец прыйшоў на завод. VI—114.
**ПЛЕШАВЕНЯ Віктар.** Сэрца Радзімы маёй. XI—142.
**ПЯТРОВА Антаніна.** На варце здароўя. VIII—133.
**ПЯТРУННІКАЎ Аляксандр.** Узмужненне. X—123; Піянерыя рапартуе. VII—140.
**РАБЦАЎ Уладзімір.** Сямейная эстафета. X—94.
**САКАЛОЎСКІ Аляксандр.** Наш сцяг, наша сіла. VI—122.
**САМУШЧОЎ Сяргей.** Школьныя будні. X—128.
**САРАКАВІК Іван.** Крылы еднасці і братэрства. XII—103.
**СІДАРАЎ Эрнест.** Тваё накіраванне. VII—145.
**ТАРАТЫНАВА Лідзія.** Нараджаюцца характары. II—116.
**ФАНЯКОЎ Ілья.** Сібір—заўсёды адкрыццё. XII—112.
**ХАЗАНСКІ Уладзімір.** Жыццёвы парог. IV—103.
**ЦЕЛЯКОЎ Віктар.** Шчаслівага палёту. VIII—125.
**ЧАПІЖНЫ Аляксандр.** Дынастыя. III—94.
**ЧЫЖЫК Аляксей.** Хлопец з Белай Дубровы. X—117.

## НАВУКА І ЖЫЦЦЁ

**БРАЛКА Іван.** Залаты пясок доктара Салдатава. I—106.
**БРУК Эдуард, КАЛПАШЧЫКАЎ Віктар.** Промні, якія гавораць... I—96.
**ПАСТАРНАК Барыс.** Што там, у будучым?.. IV—96.
**РЫСАЕЎ Эдуард.** Вясёлка ідзе ў цэх. VI—128.



**СВЯТЛОЎ Васіль.** Дазорцы пятага акіяна. III—100.
**ЮРКЕВІЧ Мікалай.** Праца і сямейнае шчасце. 1—128.

## КНІГІ — ПІСЬМЕННІК — ЧАС

**БРЫЛЬ Янка.** Першы прыпынак. IX—131.
**ВОРАН Дзіна.** Пошукі сюжэта. VI—146.
**ВЫЛЧАЎ Георгі.** Адно паэтычнае пакаленне. III—135.
**ГАРДЗІЦКІ Аляксей.** Рука сябра. XII—130.
**ЗВОНАК Алесь.** Маладосць таленту. III—117.
**ЗУЁНАК Васіль.** Лінія высокага напружання. V—129; Масты ў будучыню. IX—133.
**КАРАТКЕВІЧ У., БАГАТЫРОЎ А. В., ЦІТОВІЧ Г., МУХАРЫНСКАЯ Л. С., МАЖЭЙКА З. і інш.** Рыгору Раманавічу Шырме—сардэчныя словы любові. I—141.
**КАРОТКАЯ Ларыса.** Цеплыня дабраты. (Алег Лойка. «Калі ў дарозе ты».) IV—142.
**ЛАЎРОЎ Уладзімір.** Па маланку. (Янка Сіпакоў. «Па зялёную маланку».) VIII—149.
**ЛІТВІНАЎ Радзівальт.** Дружба, народжаная Кастрычнікам. XII—127.
**ЛОЙКА Алег.** Вее вецер часу. II—137.
**МАРЦІНОВІЧ Алесь.** Талент трэба развіваць. (Н. Шклярава «Мая вёска».) II—145; Дарога ў жыццё. (Уладзімір Кузьмянкоў. «Ішла вясна».) X—140.
**ПАСЛЯДОВІЧ Макар.** Слова пра сябра. II—129.
**РАГОЙША Вячаслаў.** Шляхамі Максіма. (Алесь Бачыла. «Дарогамі Максіма».) I—146.
**СЕМАШКЕВІЧ Рыгор.** Поспехі і цяжкасці паэтычнага адкрыцця. (Валянціна Коўтун. «Каляровыя вёслы».) III—133.
**СОДАЛЬ Уладзімір.** Дыяменты мовы. (Ф. Янкоўскі «Дыялектны слоўнік». Выпуск III.) I—148.
**ХАЗЯНІН Аляксандр.** Дзеля садружнасці літаратур. (В. П. Рагойша. «Пераклаў Якуб Колас».) X—138.
**ЧЫГРЫНАЎ Пятро.** Шлях барацьбы і перамог. (У. А. Сулемаў. «Саюз маладых барацьбітоў».) IX—138.
**ШКРАБА Рыгор.** Чалавек і народ. VIII—138.
**ШЫРМА Рыгор.** Ад роднай зямлі. IX—128.
**ЮРЭВІЧ Уладзімір.** Даследуюцца рукапісы Купалы. (Р. І. Гульман. «Тэксталогія твораў Янкі Купалы».) VI—141; Падобны грому, бліскавіцы. IX—125.
**ЯФІМАЎ Фёдар.** Вернасць сабе. (Сцяпан Гаўрусёў. «Кляновыя лісты».) V—142.

## У вянок песнярам

### ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Я. КУПАЛЫ

**АХУНЗЯНАЎ Ільдус.** Неўміручы, як народ. VII—112.
**БУЙЛО Канстанцыя.** Настаўнік. VII—116.
**ГІЛЕВІЧ Ніл.** Валадар роднага слова. VII—131.
**ДАПКЮНАС Жана, ДЭКОНСКАЯ Вольга.** У пошуках ведаў. VI—137.
**ЛІЯКУМОВІЧ Цімох.** Купала перакладае Някрасава. VII—128.
**ПРАКОПЧЫК Леанід.** Янкаў ясень. V—123.
**РАГОЙША Вячаслаў.** За радкамі аднаго пісьма. VII—129.
**РАМАНОВІЧ Яўген.** Ад «Паўлінкі»... VII—119.
**Словы любові і ўдзячнасці.** VII—137.

### ДА 90-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Я. КОЛАСА

**АГНЯЦВЕТ Эдзі.** Бацькоўскі запавет. X—135.
**АНДРАЮК Серафім.** Вялікае святло жыццесцвярджэння. XI—132.
**ЖЫГОЦКІ Мікола.** Якуб Колас на Мікалаеўшчыне. VIII—135.
**КУХАРАЎ Сцяпан.** Вобразы роднага краю. XI—114.

## У СВЕЦЕ МАСТАЦТВА

**ВАЛОШЫН Віктар.** Мінскі інтэр'ер. IV—129.
**ГОВАР Віктар.** Палескія ўзоры. II—129.
**ДРАЧОЎ Пятро.** Чарадзей з Бялыніч. VI—145.
**ЗУЁНАК Васіль.** За вышынёй — вышыня. II—127.
**КОЛАС Георгі.** Гнеў і пафас. III—124.
**КРУПЕНЯ Яўген.** Праз замочную шчыліну. I—152; II—149.
**КРЭПАК Барыс.** З маскоўскай мастацкай. VI—143.
**НІСНЕВІЧ Серафіма.** Генрыху Вагнеру—пяцьдзесят гадоў. VII—153.
**СЯМЁНАВА Ала.** Слова, асэнсаванае сэрцам. XII—136.
**ФІРСТАЎ Мікалай.** Народная творчасць і моладзь. IX—140.
**Чароўныя рукі.**

## ШТРЫХІ ГІСТОРЫІ

**АЛЯКСЕЕЎ Леанід.** Віцебская даўніна. XII—143.
**БОЛСУН Алесь.** Зорная карта Капіевіча. IV—151.
**ВАТКОВІЧ Генадзь.** Камуністычны друк Заходняй Беларусі. II—135.
**ГРЫЦКЕВІЧ Валянцін.** Чатыры факелы ў цемры. X—147.
**ЗЯНЕВІЧ Іван.** Першынец педагагічнай адукацыі. IX—143.

## УСПАМІНЫ, ДЗЁННІКІ, ДАКУМЕНТЫ

**БЯЛЯЕЎ А., СЫРАМЯТНІКАЎ Б., УГРЫНОВІЧ В.** Правал акцыі «Цэпелін». III—143; IV—145.

## ДЛЯ ВАС, ДЗЕСЯЦІКЛАСНІКІ



## СУР'ЁЗНАЕ І КУР'ЁЗНАЕ



## УСМЕШКІ МАЛАДОСЦІ



## СТАРТЫ І ФІНІШЫ





# нашы аўтары

●

**БРОЎКА Пятрусь** нарадзіўся ў вёсцы Пуцілкавічы Ушацкага раёна ў 1905 годзе. Быў на камсамольскай рабоце. Пасля стаў сакратаром акруговай газеты «Чырвоная Полаччына». Рэдагаваў часопіс «Полымя», а ў час вайны працаваў у газеце «За Савецкую Беларусь» і ў партызанскім друку. Доўгі час пасля вайны быў старшынёй Праўлення Саюза пісьменнікаў БССР. Цяпер—галоўны рэдактар Беларускай Савецкай Энцыклапедыі. Выдаў шмат паэтычных кніг, сярод якіх: «Паэзія», «Прыход героя», «Вясна Радзімы», «Шляхамі баравымі», «Сонечнымі днямі», «Пахне чабор», «Далёка ад дому», «А дні ідуць», «Высокія хвалі», «Трубі, мой бор», «Калі ласка».
Народны паэт БССР. Лаўрэат Ленінскай прэміі і двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа, Герой Сацыялістычнай Працы.

●

**КАВАЛЁЎ Павел** нарадзіўся ў 1912 годзе ў вёсцы Склімін Клімавіцкага раёна. Вучыўся на педагагічных курсах, скончыў Камуністычны інстытут журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, а ў час вайны—у Цэнтральным штабе партызанскага руху. Надрукаваў шэраг нарысаў і кніг прозы: «Каб шчасліва жыць», «Пісьмо ў два адрасы», «Сонца ў вокны», «Падзенне Хвядоса Струка» і шмат іншых.

●

**ШАСЦІНСКІ Алег**—ленінградскі паэт. Атрымаў адукацыю ў Сафійскім універсітэце. Філолаг-славіст. Першыя вершы напісаў у час вайны, яшчэ будучы школьнікам. Выдаў кнігі «Друзья навеки», «Ливнями сшитая весна», «Войди в мою жизнь», «Позиция», «Рукопожатье» і іншыя.

●

**БЯЛЕВІЧ Антон** нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Дуброўка Уздзенскага раёна. Вучыўся ў Магілёўскім тэхнікуме палітасветы, потым на факультэце масавай работы Палітасветінстытута. Працаваў у рэдакцыях рэспубліканскіх газет, а ў час вайны—у беларускім перыядычным друку і на радыё. Змагаўся ў варожым тыле. Выдадзены наступныя кніжкі: «Человек из Дубравы», «Мароз-партызан», «На бацькоўскіх сцежках», «Светач», «Жывая рака», «За салаўінымі гаямі», «Рэха навальніц», «Вінтоўка і плуг» і іншыя.

●

**БЯЛОЎ Васіль** родам з Валагодшчыны. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Пачынаў з вершаў. Цяпер піша прозу. Аўтар кніг «За тремя волоками», «Речные излуки» і іншых.

●

**ЛОСЬ Еўдакія** нарадзілася ў 1929 годзе ў вёсцы Старына Ушацкага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працавала ў рэдакцыях рэспубліканскіх газет і ў часопісе «Работніца і сялянка». Аўтар паэтычных зборнікаў «Сакавік», «Палачанка», «Характво», «Яснавокія мальвы», зборніка апавяданняў «Пацеркі» і іншых.

●

**СЫНГАЕЎСКІ Мікола** нарадзіўся ў 1936 годзе на Жытоміршчыне. Скончыў Львоўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Івана Франка. Працаваў у рэдакцыі газеты «Літературна Україна», намеснікам дырэктара Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Украіны. Цяпер загадвае аддзелам у часопісе «Ранак». Аўтар дваццаці кніг. Лаўрэат Рэспубліканскай камсамольскай прэміі імя Мікалая Астроўскага.

●

**САЧАНКА Барыс** нарадзіўся ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна. Скончыў журфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Полымя». Аўтар кніг прозы «Дарога ішла праз лес», «Барвы ранняй восені», «Зямля маіх продкаў», «Пакуль не развіднела», «Апошнія і першыя» і іншых.

●

**МАЛДАГАЛІЕЎ Туманбай**—казахскі паэт. Лаўрэат прэміі імя Ленінскага камсамола Казахстана. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў ауле Казатком Алма-Ацінскай вобласці. Скончыў Казахскі дзяржаўны ўніверсітэт. Аўтар пятнаццаці кніг. У перакладзе на рускую мову ў Маскве выйшаў яго зборнік вершаў «Первая встреча».

●

**ПАЛЬЧЫНСКАЙТЭ Віялета** нарадзілася ў 1944 годзе ў Каўнасе. Вучылася ў Вільнюскім дзяржаўным універсітэце. Выдала кнігі «Зямля падымала траву», «Камені цвітуць», «Плошчы» і іншыя.

●

**САНГІ Уладзімір**—ніўхскі пісьменнік. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў стойбішчы Набіль на Сахаліне. Скончыў Ленінградскі педагагічны інстытут імя А. І. Герцана. Працаваў выкладчыкам на Сахаліне. Выдаў кніжкі «Нивхские легенды», «Истоки», «Солёные брызги» (вершы), «Голубые горы», «Семиперая птица».

●

**АДРЫЯНАЎ Юры** нарадзіўся ў Горкім ў 1939 годзе. Вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Горкаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працуе рэдактарам маладзёжных перадач студыі тэлебачання. Аўтар зборнікаў вершаў «Считайте годы по вёснам» і «Меридианы».

●

**НЯКЛЯЕЎ Уладзімір** нарадзіўся ў Смаргоні ў 1946 годзе. Скончыў тэхнікум сувязі. Працаваў радыётэхнікам на Далёкім Усходзе. Цяпер журналіст. Завочна вучыцца ў Мінскім педінстытуце імя М. Горкага.

●

**ЯРАЦ Віктар** нарадзіўся ў 1948 годзе ў пасёлку Красны Мост Рэчыцкага раёна.

Працаваў у рэдакцыі рэчыцкай раённай газеты. Скончыў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт. Цяпер—аспірант.

●

**АРАБЕЙ Лідзія** родам з вёскі Нізок Уздзенскага раёна. Працавала ў рэдакцыях рэспубліканскіх газет і часопісаў, у выдавецтве «Беларусь». Цяпер—супрацоўнік рэдакцыі часопіса «Полымя». Кандыдат філалагічных навук. Выдала манаграфіі пра Цётку і Хв. Шынклера, аўтар празаічных кніг «Калібры», «Мера часу», «На струнах буры», «Сярод ночы» і інш.

●

**СААКЯН Арамаіс**—малады армянскі паэт. У перакладзе на рускую мову выдаў зборнік вершаў «Здравствуйте, люди!». Лаўрэат прэміі імя Ленінскага камсамола Арменіі.

●

**БАСУМАТРАВА Святлана** нарадзілася ў 1946 годзе ў Мазыры. Займаецца завочна ў Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. Працуе ў Бабруйску.

●

**ЦЫБІН Уладзімір** нарадзіўся ў станіцы Самсонаўскай ў 1932 годзе. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Выдаў кнігі паэзіі «Родительница степь», «Медовуха», «Бессонница века», «Избы», «Пульс» і іншыя.

●

**СУЛТАНАЎ Амар** нарадзіўся ў 1935 годзе. Скончыў Кіргізскі дзяржаўны ўніверсітэт. Працаваў у рэдакцыі часопіса «Ала-Тоо». Цяпер—сакратар Саюза пісьменнікаў Кіргізіі. Аўтар кніг паэзіі і прозы «Дні ў гарах», «Зорныя ночы», «Трыццатая станцыя», «Аэрапанарама», «Белая дарога, сіняе неба», «Вялікая рака».

●

**КОДРУ Анатол** нарадзіўся ў Малдавіі ў сяле Новае Малаватае ў 1937 годзе. Скончыў Кішынёўскі дзяржаўны ўніверсітэт. Працаваў рэдактарам у выдавецтве, цяпер — рэжысёр кінастудыі «Малдова-фільм». У перакладзе на рускую мову выйшлі два зборнікі вершаў.

●

**КАЯНТА (КАСЫГІН) Уладзімір** нарадзіўся на Камчатцы ў 1935 годзе. Скончыў педвучылішча. Працуе метадыстам Каракскага Дома культуры ў пасёлку Палана. Аўтар аповесці «Месяц молочных важенок», а таксама шматлікіх навел і вершаў.

●

**ГОЛУБ Юрка** родам з Зельвенскага раёна. Яму дваццаць пяць гадоў. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе на Гродзенскім тэлебачанні. Выдаў зборнік вершаў «Гром на зялёнае голле».

●

**КАРЖАНЕЎСКАЯ Галіна** нарадзілася ў 1950 годзе ў вёсцы Лясішча на Случчыне. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Настаўнічае на Лагойшчыне.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 12**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854—сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592—аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 15576. Здадзена ў набор 28/X-1972 г. Падпісана да друку 29/XI-72 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 15 150 экз. Зак. 1279. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Мінск, Ленінскі прасп., 79.**